


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**12** (1010)

*СНЕЖАНЬ*

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



**Віктар ШНІП**

# «У СВЯТЛЕ ДАЛЁКІХ ЗОРАК...»

* * *

Сёння змрокам затоплены вулкі мястэчка,
Ты па іх, нібы прывід, у белым ідзеш
І праходзіш праз вецер, нібыта праз рэчку,
Што не ведае стомы, не ведае меж.

Ты яшчэ маладая, яшчэ залатая
Для бацькоў і для ўсіх, хто знаёмы з табой,
Але ў вочы твае змрок ужо зацякае
І душу тваю поўніць адвечнай журбой

Па няздзейсненых марах бацькоўскага краю,
Па загубленых Храмах, і замках сівых,
І па песнях, якіх ужо больш не спяваюць,
Палюбіўшы мелодыі песень чужых.

І ляціць над табой матылёк, як анёлак,
Што маленькі яшчэ, але добры, як Бог,
І на крыльцах яго вечаровы спіць золак,
Прыцярушаны пылам нябёсных дарог.

---

*__Шніп Віктар Анатольевіч__ нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

І ты верыш, што добра ўсё будзе ў Айчыне,
І яшчэ прыйдзе новы і мудры прарок,
І ніколі, ніколі ён нас не пакіне,
І там будзе ў нас сонца, дзе сёння ў нас змрок…

* * *

Бацькоў сваіх не помню маладымі,
Нібыта маладымі не былі яны.
Няма і фотаздымкаў з маладымі імі —
Віселі на сцяне і зніклі са сцяны,
Што доўга нашаю была сцяною плачу
І гонару за наш негультаёўскі род.
На хвілю зажмуруся і адразу бачу
Бацькоў старых у іх апошні сумны год.
І часта мне здаецца, што амаль нічога
Мы не зрабілі, каб яны перажылі
Сваю нямогласць і пайшлі сваёй дарогай
Не па нябёсах над зямлёй, а па зямлі,
Дзе працавалі на калгас, які таксама
У вечнасць адышоў, пакінуўшы людзям
Кароўнік, клуб вялікі, з белай цэглы краму
І мару патаемную пра белы Храм…

* * *

Зноў яблыкаў нападала ў траву.
Над імі мухі з пчоламі гудуць.
Я ў роднай хаце болей не жыву,
Бо тут бацькі ўжо болей не жывуць.

Каса заіржавела пад страхой.
Іржа, як кроў сардэчная мая,
Якая стала без бацькоў іржой,
Хоць аніколькі не жалезны я.

Збіраю яблыкі. Яны, як лёд.
Не ведаю, што з імі мне рабіць.
Ляціць над вёскай белы самалёт,
А мне здаецца — гэта крыж ляціць.

І я малітву ўслед яму шапчу
І для сябе нічога не прашу.
Я толькі для бацькоў святла хачу,
Я толькі не хачу цяпер дажджу

Для хаты, у якой я не жыву,
Бо тут бацькі ўжо болей не жывуць.
Вазьму касу, скашу быльнёг-траву,
Хай восеньскія кветкі зацвітуць…

* * *

Бацька вершаў зусім не чытаў,
Хоць і ведаў, што я іх складаю,
Як і ён копы сена складаў
І глядзеў на буслоў, што лятаюць,
Апускаюцца на сенажаць.
І жыцця ён не ведаў другога,
Як расціць, як касіць, як складаць,
І людзей не баяцца, а Бога.
І цяпер, калі бацька спачыў,
Там, напэўна, ён кніг не чытае,
Ён ад бед беражэ Пугачы,
Дзе стаіць наша хата пустая,
Як Каўчэг, на якім мы плылі
Праз дажджы, праз снягі, праз спякоту
І шукалі хоць лапік зямлі,
Каб там нашу пакінуць самоту,
Праз якую я вершы складаў
І глядзеў на буслоў, што лятаюць
Сёння з крыжам, што з Храма упаў,
І куды крыж паставіць не знаюць.
Калі б жыў, бацька ім бы сказаў…

* * *

Кашу быльнёг, дзе шчэ нядаўна жыта,
Як бацька жыў, шумела і расло.
Быльнёг, як войска, што прыйшло з нябыту
Не проста так, а па мяне прыйшло,
Па хату і па ўсё, што засталося
Тут на зямлі ад бацькі і дзядоў.
Я на быльнёг іду, і следам восень
Ідзе за мной і шэпча мне ізноў
Пра тое, што не трэба мне баяцца
Сваёй самоты, бо ў самоце ёсць
Любоў, з якой будуюцца палацы
Для нашых продкаў, у якіх не госць,
А гаспадар мой бацька, а з ім маці
Таксама гаспадыня, як была,
Калі жылі ў сваёй вясковай хаце,
Дзе ўжо страха за лета працякла
І дзверы пакрывіліся, падлога
Гарбатай стала, болей не рыпіць
І на старой іконе вочы ў Бога
Слязяцца, бо душа ў Яго баліць…

Кашу быльнёг, дзе шчэ нядаўна жыта,
Як бацька жыў, шумела і расло.
Быльнёг, як войска, што прыйшло з нябыту
Не проста так, — з пагрозаю прыйшло…

* * *

…Я вярнуся дамоў, як з вайны,
І ніхто не сустрэне мяне.
Я гадзіннік здыму са сцяны,
Хай ікона вісіць на сцяне.
І лічыць я не буду гадзін,
Не змагу, як калісьці я мог,
Бо калі я застаўся адзін,
Мне патрэбен адзін толькі Бог,
У Якога нічога няма
І ўсё ёсць, як і ёсць у мяне
Толькі Бог, гэты дзень і зіма,
Як ікона на чорнай сцяне…

* * *

***Памяці бацькі***

Сорак дзён— сорак крокаў у неба
Ад зямлі, ад вады— гэтак трэба,
Каб да Бога прыйсці і прызнацца
У грахах, што, як пчолы, раяцца
Ля душы, як ля маткі пчалінай…
Цела стане травою і глінай,
У якую і нас закапаюць
Людзі тыя, што сёння не знаюць
Ні мяне, ні мой крыж, — знаюць Бога
І клады, дзе не хутка дарога
Утравее і згубіцца ў небе,
Нібы солі святло ў чорным хлебе…

## РАНІШНЯЯ ЭЛЕГІЯ

Туман і снег, вада, як волава,
Бялеецца ў канаўных берагах.
Тут родны кут, і жыць тут здорава,
І тут памерці мне зусім не страх
Пад белым небам, дзе бярозы белыя,
Дзе белыя, бо ўснежаны, крыжы
На могілках, дзе, як згарэлыя,
Чарнеюць дрэвы і блішчаць глыжы
З-пад снегу, не схаваныя за ноч,
Калі зіма прыйшла ў мой родны кут.
Гляджу на снег, і ноч знікае з воч,
І дзень мой нараджаецца зноў тут
З туману й снегу, дзе, як волава,
Вада бялее і не замярзае.
Тут родны кут, і жыць тут здорава,
Хоць часам вельмі сумна тут бывае…

* * *

Мастак намалюе нам неба,
І неба, як неба, жыве,
І снегу халоднае срэбра
Цячэ праз крыжы на царкве,
Нібыта праз рукі святога,
Якія падняў ён да Бога
З царквы, што стаіць, як малітва,
На ўзгорку, дзе снег і вятры
Вастручыя — рэжуць, як брытва,
Дзе кроплі крыві — снегіры…

Мастак намалюе, як скажа,
Каго ён тут любіць, чаму,
І ўсё, што вакол — гэта наша,
І ўсё тут належыць яму,
Бо ён намалюе нам сонца,
І сонца сагрэе ўсіх нас,
І снег, як нямая бясконцасць,
Растане, і спыніцца час,
Дзе будзе мастак і не будзе,
Як тое, што ёсць і было,
І святам напоўніцца будзень,
Нібы чорны келіх святлом
Віна, што на тайнай вячэры
Пілося, як сонца і кроў…

Мастак намалюе нам дзверы,
З якіх ён ідзе і прыйшоў,
Каб дзверы мы не зачынілі
У свет, у якім жыве Бог,
Якога не мы сатварылі,
А нас Ён стварыў так, як змог,
Са снегу, са смеху ды гліны
Бялюткай і цёплай, як сон,
З якога мы выйсці павінны
І ўбачыць з сябе, як з акон,
Усё, што мастак нам малюе,
А ён жа малюе нам так,
Нібыта анёлак цалуе.
Цалуе, калі ён мастак…

## ПЧАЛЯР

Пчаліны мёд становіцца агнём,
І ў слоіку, нібыта ў ліхтары,
Ён ноччу цёпла свеціцца і днём,
Нам асвятляючы твой дом стары,
Дзе ты жывеш, сумуючы, адзін

І пчолам кветак не шкадуеш ты,
Нібы пчалінай маткі блудны сын,
Што чалавекам стаў і назаўжды
Згубіў сваю сям’ю і вулей свой.
І ў слоіках, нібыта ў ліхтарах,
Агонь мядовы раздаеш зімой,
Каб да вясны ён асвятляў нам шлях.
А да вясны далёка, як заўжды,
І мы прыходзім часта да цябе,
І ты глядзіш на нас, нібы святы,
Што знае сэнс у мёдзе і ў журбе…

* * *

Восень. Аблезлая рыжая восень,
Нібы хварэе, сябе пахаваць
Болей ужо анікога не просіць,
Хоча пад небам да снегу ляжаць,
Каб мы глядзелі на мёртвыя далі
І не хацелі найгоршых пакут,
Як адзінота, якую шукалі,
Трацячы ў тлуме сябе й родны кут…

Восень. Прыгожая рыжая восень,
Нібы паненка, што хоча кахаць
І, заблудзіўшыся ў пошуме сосен,
Просіць яе найхутчэй адшукаць,
Бо ўжо зіма недалёка сівая,
Што ёй не дасць ні хвіліны пажыць…

Восень. Усякаю восень бывае,
І немагчыма любіць за дажджы
Восень, дзе ты ўжо сівы, адзінокі,
Доўга, спакойна на восень глядзіш,
Па-над якой над царквою аблокі
Мыюць стары заіржаўлены крыж…

* * *

Першы снег, як стагодні туман,
Ападае з нябёс на траву.
Як манах, адзінокі груган
Заляцеў у старую царкву,
Каб схавацца ад снегу густога,
Як ад смерці, якая прыйшла
І схавала пад снегам дарогу
І нябёсы, дзе мора святла,
Што зрабілася снегам і ўпала,
Быццам бы на цвікі, на траву…
І царква белым воблакам стала,
І ніхто больш не бачыў царкву…

* * *

Нібы вада хаваецца ў пяску,
Агонь жыве ў халодным сушняку,
Што пад нагамі, як ідзеш, трашчыць,
Нібыта кажа, што шчэ хоча жыць
У гэтым свеце, дзе ў пяску вада
Жыве, але нікому не відаць,
Што там вада, якую мы шукаем,
Якую мы душою адчуваем,
Бо і яна, як нашая душа,
Нябачная, якой наш свет — мяжа
Паміж мінулым і наступным днём,
І ўсё жыццё мы на мяжы жывём,
Нібы вада, што ў сонечным пяску,
Нібы агонь, што ў чорным сушняку…

* * *

У святле далёкіх зорак
Ёсць і нашае святло,
Што было шчэ намі ўчора
І што ўчора адышло
Незаўважна і самотна,
Як пражыты дзень і год.
Ты ідзеш па сцежцы роднай.
І каменне, нібы лёд,
У траве густой знікае,
Свеціцца расой з травы,
Што нас кожнага чакае
Покуль кожны з нас жывы
У святле далёкіх зорак,
Што аднойчы ападуць,
Як лісцё апала ўчора
На сцюдзёную ваду,
Што падобная на неба,
У якой сваё жыццё
І якое нам не трэба,
Як апалае лісцё…
Ты прыпынішся на сцежцы
І ў нябёсы паглядзіш,
І святло ў тваёй усмешцы
Будзе, як на Храме крыж…





Зінаіда ДУДЗЮК

# ГОНДЫ*

*Раман*

## 19

Па радыё штодня расказвалі пра стаханаўцаў, якія абжывалі цаліну, а заліхвацкая песня пра цаліннікаў гучала шмат разоў на дзень:

Ой ты, дорога длинная,
Здравствуй, земля целинная,
Здравствуй, простор широкий,
Весну и молодосць встречай мою.

Гэтая песня прымушала Таісіну душу хвалявацца і думаць пра тое, куды паехаць з гэтага гіблага месца. Але з двума дзецьмі не рынеш у свет абы-куды. Трэба мець хоць нейкую гарантыю, што там дадуць жытло і працу, за якую будуць плаціць. Інакш які сэнс мяняць шыла на мыла? З вёскі год таму паехаў Антось Самота з вялікаю сям'ёю: пяцёра дзяцей сваіх ды жончына сястра з двума дзецьмі. Дайшлі чуткі, што няблага яны ўладкаваліся, атрымалі калгасную хату, дарослыя працуюць, ядуць белыя булкі, на працадні атрымліваюць грошы, зерне і нават кавуны, якіх у Лядах ніхто не бачыў. Таіса знарок пайшла да Антосевага брата, распытала, як туды ехаць і пачала рыхтаваць мужа да перамены месца жыхарства. Але выпадкова Аўдзей сустрэў Прохара з Янавічаў, які хваліўся, што летам ездзіў у Данецкую вобласць і вельмі добра зарабіў у калгасе, назваў адрас. Таіса лёгка пагадзілася з меркаваннем Аўдзея, што трэба ехаць менавіта туды, дзе так пашанцавала Прохару. Калі Малаша пачула пра гэтую нявестчыну ідэю, толькі сказала пагардліва: «Так і будзеце ездзіць, бы цыганы».

Але ні Таіса, ні Аўдзей не збіраліся з ёю раіцца, у іх было ўласнае жыццё, якое яны мелі намер пражыць самастойна, без аглядкі на нечыя меркаванні. Знайшлася яшчэ адна сям’я, лёгкая на пад’ём, Колькі Смаленца. Яны перасяліліся ў Ляды адразу пасля вайны разам з бацькамі. Вялікага шчасця смаленцы тут не знайшлі, але ім далі хату нейкага гаспадара, якога выслалі як кулака. Старыя бацька і маці на чужыне не зажыліся, застаўся адзін сын. І хоць яму цяпер было ўжо недзе пад трыццаць, усе ў Лядах інакш, як Колькам, яго не клікалі. Каб не памерці з голаду, асірацелы хлопец ажаніўся са стараватаю ўдавою, якая мела дарослую дачку і сына падлетка, а потым яшчэ нарадзіла двое дзетак ад Колькі.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2013 г.

Настаў дзень, калі Аўдзей і Смаленец пагрузілі свае транты на Ленікаву машыну, самі з сямейнікамі селі ў кузаў. Развітацца прыйшлі суседзі. Баба Параска ўсунула ў рукі Таісы нейкі пакунак, сказала, што кавалак сала на дарогу. Калі яны яшчэ там заробяць! Баба Настуля таксама нешта дала Таісе. Сусед Клем назіраў з-за плота за гэтаю развітальнаю мітуснёю і думаў пра тое, як добра, што ён жыве ў сваёй хаце і нікуды яму не трэба ехаць. Нават тады, калі яго хацелі забраць на вайну, ён схаваўся ў клуні і некалькі месяцаў не паказваўся на людскія вочы. Але яго ўсё роўна знайшлі, мо хто са сваіх данёс? Яго выгналі са схованкі чырвонаармейцы, звязалі рукі за спінаю, правялі праз сяло. Але ніякае ганьбы Клем не адчуваў, толькі страх на той момант панаваў у ягонай душы. Яго патрымалі ў турме, але хутка адпусцілі, бо за тыя месяцы, пакуль ён хаваўся, яго ўзрост павялічыўся роўна на столькі, што Клем стаў непрыдатным для службы ў войску. Пасля і вайна скончылася. Клем вярнуўся. І лічыў, што яму пашанцавала больш, чым тым лядчукам, якія палеглі ў баях на тэрыторыі Заходняй Еўропы.

Ужо седзячы ў кузаве машыны, Аўдзей выпадкова сустрэўся са спачувальным Клемавым позіркам, згадаў, як той на пытанне Аўдзея пра жыццё, аднойчы адказаў, сёрбаючы зацірку з лустаю хлеба: «Нічога, жывём, хлеб з хлебам ем!» — «Мо і я цяпер буду есці хлеб з хлебам», — усміхнуўся сам сабе ў думках Аўдзей.

Малаша і Кандрат памахалі родным рукамі на развітанне. Машына паімчала па дарозе, абапал якой слалася пустое красавіцкае поле, а потым уехала ў лес. Сосны лапамі чапляліся за барты машыны, быццам прадбачылі нешта благое і хацелі затрымаць, але дарэмныя былі іхнія намаганні.

Да Данбаса перасяленцы дабіраліся цягніком з перасадкаю ў Харкаве. Рэчы адправілі багажом. У Харкаў прыехалі раніцай, цягніка ў напрамку Данецка трэба было чакаць да самага вечара. Час цягнуўся марудна. Мужчыны хадзілі глядзець горад, а жанчыны бавілі час пры дзецях. Лізе найбольш спадабалася хадзіць у прыбіральню, дзе невядома як і чаму раптам лілася вада ў чорную дзірку. Яна шмат разоў хадзіла туды і ніяк не магла зразумець, як уладкавана гэтае дзіва. Яе заўсёды цягнула да вады. Калі яны жылі ў Сібіры, хоць Ліза амаль нічога не помніла, але адзін малюнак застаўся ў памяці: яна сядзела на кладцы, звесіла ногі ў ваду і пялёхалася. На беразе пасвіліся коні, свяціла сонца, так ціха і спакойна навокал, што, здавалася, можна тут гуляць да самага вечара. Потым, калі жылі ў дзедавай вёсцы на Дняпры, магутная і прыгожая рака заўсёды была перад вачамі. Ды і ў Лядах яна знайшла прыгожую балотную ручаіну, зарослую лотаццю, і цагельню. Ёй цікава было, якая ж рака будзе ў тым новым месцы, куды яны едуць? Аднак сваю цікаўнасць дзяўчынцы задаволіць не ўдалося. Калі яны выйшлі раніцай на патрэбнай станцыі, адразу тата з дзядзькам Колькам пайшлі шукаць калгас, дзе яны маглі б уладкавацца на працу. Жанчыны зноў засталіся на вакзале. Малы Лізін брат ужо не прасіў «кука» — цукру, цяпер ён патрабаваў: «Дай цюпці», што на ягонай дзіцячай мове азначала «дай супу». Дзе было ўзяць той суп на вакзале і за якія грошы?

Таіса выйшла на прывакзальную плошчу, пашыбавала да першай хаты, пастукала ў вароты. З’явілася гаспадыня, нездаволена спытала:

— Што трэба?

— Можа, дасце дзіцяці трохі супу. Мы ўжо трэція суткі ў дарозе…

— Бог падасць, — адказала маладзіца і ляпнула веснiцамі.

— Тут зімою снегу не дапросішся, — сама сабе сказала Таіса, але накіравалася да другой хаты, спадзеючыся, што свет не без добрых людзей.

Сапраўды, у наступнай хаце стараватая цётка дала супу не толькі малому, але Лізе і Таісе, ды яшчэ распытала, куды яны едуць, паспачувала, што сям’я з такімі малымі дзецьмі мусіць вандраваць па свеце ў пошуках лепшае долі. Ад гэтае спагады і разумення ў Таісы адлягло ад сэрца, і яна пачала думаць, што ўсё ў іх будзе добра.

Мужчыны вярнуліся ўвечары з дрэннаю навіною. На працу нідзе не бяруць. Пабедавалі, параіліся і вырашылі ехаць да Антося Самоты. У крайнім выпадку хоць будзе дзе спыніцца на першым часе. Узнікла пытанне, як быць з багажом, заадрасаваным на гэтую станцыю.

— Пойдзем праверым, раптам багаж ужо тут, — прапанавала Таіса, якой не хапала ніякай цярплівасці жыць у невядомасці.

— Не мог ён так хутка прыйсці. Мы, як пасля вайны ехалі, дык багаж атрымалі толькі праз два тыдні, — сказаў Колька.

— Тое было даўно, цяпер іншы час…

Колькава жонка маўчала, яна ўпершыню ў жыцці выправілася ў далёкую дарогу і адчувала сябе надта няўпэўнена, бо добра ведала толькі сялянскую працу, а вандроўкі яе палохалі невядомасцю і стратамі. Аўдзей пагадзіўся, што сапраўды варта праверыць багаж, павінна ж хоць у нечым пашанцаваць. На агульную радасць, багаж аказаўся на месцы, яго неадкладна пераадрасавалі і ў той жа вечар рушылі ў Днепрапятроўскую вобласць. Ліза пачула назву і ўзрадавалася: мусіць, там таксама цячэ Дняпро, любімая рака. Зноў можна будзе глядзець на яе з гары, спускацца ўніз да берага, прадзіраючыся праз зараснікі лазы, ажыны, хмелю, каліны…

Раніцай яны былі ўжо ў райцэнтры Сафіеўка, усяго за тры кіламетры ад вёскі Зялёны Кут, дзе жыў Антось Самота. Зноў мужчыны пайшлі, як яны казалі, на разведку, а гадзіны праз дзве прыехалі на возе са сваім усмешлівым земляком. У Антося была надта прыгожая ўсмешка, як цяпер кажуць, — галівудская. Як яму ўдалося захаваць свае прыгожыя зубы, яго ж падлеткам вывозілі немцы на прымусовую працу ў Германію, дзе ён галадаў. Мабыць, парода такая нязводная ды прывабная. Усе вандроўнікі селі на воз і паехалі па шырокай вуліцы з белымі хатамі, крытымі саломаю, шыкоўна аздобленай бела-ружовымі абрыкосавымі дрэвамі, якіх беларусы засталі ў самую пару квітнення. Сюды вясна прыходзіла значна раней. Насустрач ехала вялізная арба. Вандроўнікі ўпершыню бачылі такі незвычайны воз з адкіднымі жалезнымі драбінамі.

— Салому на такіх возяць, — патлумачыў Антось. — Вельмі зручна, не трэба вяроўкамі абвязваць, як у нас.

Мужчыны пагадзіліся, прыкідваючы, што сапраўды вельмі зручная гэта рэч — арба. Але ў Беларусі ў ёй няма вялікай патрэбы, бо там такі воз спатрэбіцца мо раз на год: прывезці сена.

— Тут дроў няма, паляць у печах саломаю ды кукурузным бадыллем, — патлумачыў Антось.

— Вой, вой, дзе ж тае саломы набрацца, — схапілася за галаву Колькава жонка.

— Пшаніцы сеюць вельмі шмат. Саломы хапае ўсім, — з веданнем справы адказаў Антось. — А яшчэ топяць кізяком, наразаюць авечы гной, як у нас торф. А хаты ў іх з чаго вы думаеце? З саломы ды гліны! Наогул хахлы добра жывуць, ядуць толькі белы хлеб, на працадні атрымліваюць гародніну і садавіну, яшчэ і грашыма плацяць. Гэта ў нас галота і занядбанасць. Нічога, тут жыць можна.

Калі прамінулі высокі будынак з чырвонае цэглы, Антось сказаў, звяртаючыся да дзяцей:

— Гэта школа, будзеце тут вучыцца…

Самота падганяў каня, і хутка падарожнікі апынуліся ў вялікім неагароджаным двары, пачалі выгружаць з воза свае пажыткі. Вакол іх круціліся Антосевы дзеці. З цікавасцю лядчукі ўвайшлі ў хату і ўбачылі, што ля печы гаспадарылі дзве гаспадыні: Антосева жонка, Антоля, і яе сястра Маня. Падлога была засланая саломаю. А мэбля знаёмая: самаробны стол, лавы, запечак ды печ.

— Спім покатам на падлозе, — патлумачыў гаспадар. — Хата вялікая. Усім месца хопіць.

Пакуль жанчыны варылі бульбу, Антось прывёз з калгаснай каморы белага хлеба, кіслай капусты, яек. Паабедалі разам смачна. І зноў мужчыны паехалі з Антосем шукаць калгаснае начальства, а Ліза выправілася аглядаць наваколле, таемна спадзеючыся адшукаць Дняпро. Яна выйшла на вуліцу, агледзелася. З суседняга двара выехаў хлопчык на трохколавым веласіпедзе, такой цацкі Ліза ніколі не мела. Яшчэ калі яна была вельмі малая, ёй купілі ляльку, але пасля нараджэння брата мама аддала ляльку ўнучцы бабы Параскі Рачычанкі. Зноў кінуліся ў вочы квітнеючыя абрыкосы за агароджаю. У Самотаў саду не было і двор быў адкрыты, як душа гаспадара. Справа праз некалькі хат дзяўчынка ўбачыла доўгую няўклюдную будыніну, якая стаяла на ўзгорку, мусіць, свінарнік ці ферма. Ліза пайшла ў процілеглы бок. Яна мінула некалькі хат і апынулася насупраць канюшні. Коні тапталіся, прывязаныя да слупоў. Ліза паназірала за гэтымі прыгожымі і вялікімі жывёламі.

За канюшняю пачыналася нізінка, зарослая кустоўем. Дзяўчынка рушыла туды, каб паглядзець, што ж там расце. Пакуль ехалі ў вёску, дык толькі і бачылі бяскрайняе голае поле. Хоць бы дзе якое дрэўца парадавала душу, не кажучы пра лес. Тут яго спрадвеку не было. Калючыя галінкі кустоў пакрыліся першаю дробнаю лістотаю, а ў прагале былі бачны прыгожыя вялікія кветкі жоўтага і чырвонага колеру. Яны мелі далікатныя кубачкі, як у званочкаў, толькі значна большыя. Дзяўчынка з захапленнем пазірала на іх і ўсё спрабавала дазнацца, дзікія яны ці пасаджаныя чалавечай рукой. Занадта былі прыгожыя для таго, каб быць дзікімі. Вырашыла, што, мусіць, тут была некалі чыясьці сядзіба, а потым людзі пакінулі гэтае месца. Увогуле, у вёсцы, дзе жыў Лізін дзед, было шмат рэшткаў хат, якія згарэлі ў час вайны. Каля іх там-сям засталіся асобныя дрэвы ці кусты бэзу, а кветак не было. Асцярожна рассунула калючыя галінкі, пры гэтым балюча ўкалола пальцы, што нават войкнула ад болю, але наблізілася да кветак, прысела каля іх, кранала тонкія пялёсткі, любавалася, але рваць не стала. Няма сэнсу насіць кветкі ў чужую хату. Калі жылі ў бабы Малашы, Ліза часта прыносіла букеты, а маці ставіла іх на стол у слоік, цяпер толькі нацешылася, налюбавалася кветкамі, выйшла з кустоўя, убачыла трыснёг, здагадалася, што недзе паблізу ёсць вада. Можа, там рэчка, радасна падумалася ёй. Сапраўды, у нізінцы бегла жвавая ручаінка, пераціснутая з двух бакоў вялізнымі камянямі. Дзяўчынка села на цёплую плоць каменя, апусціла руку ў ваду, адчуваючы даланёю пругкасць струменя, пачула куванне зязюлі, спытала: «Зязюлька, зязюлька, колькі мне жыць?» І пачыла лічыць: «Адзін, два, тры… Восем. Вой, шмат!»— усцешылася малая і падумчыла, што тады ёй будзе ажно пятнаццаць гадоў.

Раптам вялізная рыбіна, як татаў чаравік, торкнулася ў яе далоні, праплываючы паміж камянямі. Ліза схапіла яе абедзвюма рукамі, але не здолела ўтрымаць. Рыбіна плёхнулася ў ваду і знікла. Дзяўчынка расчаравана ўздыхнула. А потым суцешылася тым, што, можа, гэтая рыбіна паплыве ў яе Дняпро. Яна помніла, што на беразе любімай ракі цякло шмат ручаінак, быц-

цам кожная з іх імкнулася падсілкаваць вялікую ваду, стаць хваляй, несціся ў агульным рэчышчы да нейкае агульнай мэты.

Яна сцішылася, слухаючы, як насцярожана шаргаціць трыснёг, як бруіцца ручаінка, узбуджана ціўкае нябачная птушка ў калючым кустоўі, аказваецца, і там можна жыць ды яшчэ спяваць. Нездарма вёска называецца Зялёны Кут, гэта такі прыемны астравок жыцця прыроды сярод голага стэпу. Пазірала ў блакітны паркаль неба, жмурылася ад яскравага сонца і думала, што, мабыць, днямі яна пойдзе ў тую цагляную школу, якую паказваў дзядзька Антось. Якія там будуць вучні? Які настаўнік? Яна згадала Вячаслава Уладзіміравіча, калі ён граў на балалайцы, і ўсміхнулася. У старой школе застаўся хлопчык Міша, які з пластыліну мог вылепіць што заўгодна: сабаку, ката, каня… Засталіся яе сяброўкі Маня Бузюмішына і Люба Партызанка, якую называлі так, бо яе бацька партызаніў у вайну. Цяпер яна пойдзе вучыцца не адна, а з Надзяю Смаленцаваю. Яны пасябравалі за тры дні, пакуль ехалі ў гэтую ўкраінскую вёску. А цяпер, нават няхай і часова, жывуць у адной хаце.

Дзяўчынка не заўважыла, колькі мінула часу, схамянулася недзе пад вечар і памалу патупала дамоў. Яшчэ раз пастаяла і паназірала за коньмі ля канавязі, як яны трасуць грывамі, прытупваюць капытамі, такія вялізныя і прыгожыя.

У хаце дзядзькі Антося было поўна людзей. Аказваецца, тут жылі яшчэ чатыры хлопцы з Лядаў, якія прыехалі на заробкі. Яны прынеслі вядро, напоўненае сукравіцаю і кавалкамі белага мяса, жартавалі.

— Хто гэтае ежы пакаштуе, будзе мужык вышэйшага гатунку, — сказаў адзін дзяцюк.

— Ад такой ежы наогул ашалець можна, — адказаў другі.

— Мусіць, на ўсіх жанчын кідацца пачнём, — падтакнуў першы.

— Мяса як мяса, — сказала Таіса, наварым і паямо. — Дзе вы ўзялі гэтае дабро?

— На ферме бычкоў лягчалі, нам прапанавалі забраць, мы адмаўляцца не сталі…

Ліза здагадалася, пра што ідзе гаворка, і падумала, што яна такую брыдоту есці не будзе. Пасля вячэры адзін з халасцякоў выйшаў на двор, сеў на прызбе і заспяваў:

Девушка в платье из ситца
Каждую ночь мне снится.
Не разрешает мама твоя
Мне на тебе жениться.

— Івана Банадысінага ўжо юр разабраў. — Каб тут зараз з'явілася Палая Сердзюкова, дык, мусіць, закіпеў бы, — сказаў нехта з хлопцаў, і ўсе зарагаталі.

— Каб ты яе лепш ведаў, дык мо сам згарэў бы ад захаплення, — адказаў Іван.

Дастаў з кішэні пачак махоркі, скруціў самакрутку з газеты, ахайна згорнутай, каб зручна было адрываць невялікія кавалкі паперы, прыкурыў, зацягнуўся і выпусціў пухнатае воблака дыму, якое засланіла ягоныя вочы, якія раптам зрабіліся сумныя.

## 20

Аўдзею далі хату на хутары, за пяць кіламетраў ад школы. Жытло гэтае было часовае, без даху, як некалі ў Каўбасюкоў, але да зімы абяцалі перасяліць у вёску. У хаце мелася толькі грубка, на якой уладкоўвалі спаць Лізу. З мэблі — нічога. Аўдзей раздабыў адзін ложак у калгаснай каморы, дзе

змог размясціцца з жонкаю і малым сынам. Са скрынак з-пад памідораў змайстраваў нейкае падабенства стала і пару зэдлікаў.

Хутар ляжаў пасярод стэпу, перарэзанага ярамі ды доўгімі ўзгоркамі, якія тут называліся балкамі, магчыма таму, што нагадвалі тубыльцам бэлькі на столі, якія тут дорага цаніліся, бо лесу навокал не было. Ужо ў канцы красавіка трава ўшчэнт выгарала, рыжай калючай шчэццю пакрывала зямлю, толькі там-сям, вецер, гуляючы, гнаў ажурныя шары бур'яну, які ўсё ж умудраўся вырастаць на гэтай хоць і тлустай, але беднай на ваду глебе.

Хутар складаўся з дзясятка беленькіх саманных хат, накрытых саломаю. Толькі ў старога Мірона хата красавалася пад чырвонаю чарапіцаю. Меўся тут таксама зялёны куточак каля калодзежа. Там выбівалася на паверхню рэдкая ў стэпе крынічка. Таму і пасяліліся тут некалі людзі. Раніцай Ліза паехала ў школу на возе разам з людзьмі, якія працавалі ў калгасе. Днямі мама занесла яе паперы ў школу. Ліза ўжо ведала, што Надзю Смаленцаву ў школу не прынялі, яна не ўмела рашаць прыклады, а таму з верасня пойдзе зноў у першы клас. Баялася, што і ёй не дазволяць вучыцца. Спадарожніцаю яе была рослая чацвёртакласніца Наталка, з ёю разам яны збіраліся вяртацца са школы. Трэба было ісці пешкі пяць кіламетраў, тым больш што Ліза яшчэ добра дарогі не ведала, магла і заблудзіцца. Наталка ехала побач на возе і драмала, дабірала недаспаны час.

Немаладая ўжо настаўніца, худая і знерваваная, выкладала адразу ў двух класах, першым і трэцім, пасадзіла Лізу за пустую апошнюю парту, паказала ў задачніку, якія прыклады ёй трэба рашыць, а сама пайшла да дошкі і пачала нешта тлумачыць трэцякласнікам. Ліза старанна перапісала прыклады, падрахавала і выканала заданне. У канцы ўрока настаўніца падышла да яе, праверыла працу, і сказала:

— Добрэ. Будэш вучытыся…

Ліза была радая, што яе прынялі ва ўкраінскую школу. На наступным уроку ўважліва слухала настаўніцу, але мова была нязвыклая, не ўсё разумела, што казала настаўніца. Міжвольна задумалася, згадваючы, як добра апавядаў на занятках Вячаслаў Уладзіміравіч, як хараша граў на балалайцы і спяваў! Каб яго сюды, адразу ўсё было б зразумела…

— Дывысь на мэнэ! — прагучаў незадаволены жаночы голас. — Ліза зразумела, што гэтая заўвага датычыцца яе, і перавяла позірк на настаўніцу. Але праз некалькі хвілін яна зноў згубіла ўважлівасць, згадваючы дняпроўскі бераг, дзедаву хату, цёцю Полю, па якой яна вельмі засумавала. Яе вярнуў да рэчаіснасці рэзкі голас настаўніцы, якая зноў загадала:

— Дывысь на мэнэ!

Ліза старалася да канца заняткаў больш не зводзіць вачэй з настаўніцы, хоць слухаць яе не мела сэнсу, Ліза не разумела мову, яе вуха яшчэ не прывыкла да чужой гаворкі. Дамоў яна вярталася з Наталкаю. Прайшлі вёскі Мар'янаўку і Зялёны Кут. Майскі дзень выдаўся па-летняму гарачы. За зіму Ліза падрасла, чаравікі зрабіліся малыя, абуць не было чаго, таму ў школу выправілася ў гумавых ботах, ад якіх ступакі ажно гарэлі ад спякоты. Дзяўчынка разулася і пайшла басанож па гарачай зямлі. Наталка завярнула ў бок да зялёнай ясеневай паласы, якія тут садзяць, каб абараніць зямлю ад ветравею і для затрымкі снегу зімою. Пад дрэвамі панавала прыемная прахалода. Далей дзяўчынкам належала перайсці шашу. Яны пастаялі, прапускаючы прыгожую светлую легкавушку. Машына спынілася, з яе выглянуў малады мужчына і паклікаў Наталку:

— Паедзем, дзяўчынка, з намі!

Наталка нічога не адказала яму, толькі падхапіла Лізу за руку і хуценька пашыбавала праз дарогу.

«Дзіўная гэтая Наталка, — падумала Ліза. — Калі б мне прапанавалі праехаць на такой прыгожай машыне, я не адмовілася б».

— Чаму ты з імі не паехала? — спытала Ліза.

— Як бы я тэбэ покінула? Заблукаеш одна, — засмяялася Наталка.

Ліза зразумела, што яе спадарожніца — добрая дзяўчынка, якая дбае не толькі пра сябе, а таму з ёю варта сябраваць, хоць яна і старэйшая ажно на тры класы.

Дома быў толькі тата, ён бавіўся з малым Міцькам, а як толькі з'явілася Ліза, адразу даручыў ёй займацца малодшым братам. Для яе гэта была справа звычная. Яна брала малога на рукі і ішла з ім куды-небудзь, дзе было ёй цікава самой. На хутары яе найбольш прываблівала месца каля калодзежа, там раслі дрэвы і кусты, панавала прахалода і пахла такою знаёмаю травою, якая расла ўнізе, каля самага Дняпра.

Ліза паставіла брата на зямлю, а сама найперш зазірнула ў калодзеж, потым агледзелася, шукаючы дзе якіх кветак. Убачыла рамонкі, сарвала колькі каліў, села ў цяньку, разглядвала белыя пялёсткі ды жоўтую сярэдзінку. Як дзіўна ўсё ўсталявана ў гэтым свеце. Кожная кветка прывабная па-свойму. Скуль яны бяруцца? Самі сеюцца, самі растуць. Лізе хацелася б сабраць і пабачыць усе кветкі на свеце. Які вялізны атрымаўся б букет! Але дзе ж ты аб'едзеш увесь свет? Хіба толькі на самалёце. І дзяўчынка міжвольна падумала, што аднойчы яна стане лётчыцай, будзе лётаць з краіны ў краіну і разглядваць, якія там растуць кветкі. Занятая сваімі марамі, яна зусім забылася пра малодшага брата, які на той час ужо з вялікім задавальненнем тупаў па лужыне. Сандалікі ягоныя зрабіліся чорныя ад мулу. Ён не ўтрымаўся на нагах, чарназём прысмактаўся да падэшваў. Міцька хлюпнуўся ў лужыну азадкам і захныкаў. Ліза падхапілася, узяла брата на рукі і панесла дамоў адмываць. Тата абчэсваў у двары нейкага калка. Калі ўбачыў вынікі Лізінай прагулянкі з братам, строга спытаў:

— Чаму не ўпільнавала?

— Не ведаю… Ён сам…

— Каб другі раз лепш брата даглядала, я табе зараз дам паска. Якіх табе лупсякоў, гарачых ці халодных?

Ліза маўчала, нічога не адказвала. Тата яе ніколі не біў, таму яна не надта верыла, што нешта нядобрае можа здарыцца з ёю цяпер.

— Ідзі, кладзіся на ўслона, чаго стаіш?

Ліза была занадта паслухмяная, для таго каб не выканаць загад. Яна пайшла ў хату, легла спінаю дагары.

— Пяць халодных, — сказаў тата, беручы паска, і пяць разоў сперазаў Лізу.

Ёй не балела, лупсякі былі халодныя, але яна перажыла момант прыніжэння і сораму. Не магла глядзець на тату, не адчувала сваёй віны, бо хто гэтага Міцьку ўпільнуе, калі ён заўсёды абы-куды лезе, нават мама часам не можа яго ўтаймаваць.

Яна выйшла на двор, села пад вялізным абрыкосам і сказала сабе: «Больш ніколі не дазволю біць сябе! Ніколі! Ён несправядлівы, не любіць мяне. За свайго Міцьку гатовы невядома што зрабіць. Таму што не родны тата, чужы… А дзе мой сапраўдны тата? Чаму ён не шукае мяне? « Яна згадала той час, калі была яшчэ зусім малая, жыла з цёцяю Поляю. Суседкі часам пыталіся, дзе яе тата. Ліза адказвала: «Сабакам сена косіць». Дарослыя смяяліся. А малая

ўяўляла зграю вялізных сабак, якім трэба вельмі шмат сена. Тата косіць і косіць ды ніяк не можа адарвацца ад гэтай справы. Цяпер Ліза разумела, што гэта быў толькі жарт. Няма сена і сабак. Тата ажаніўся з іншаю цёткаю, у яго, мусіць, нарадзіліся іншыя дзеці, і яму няма ніякае справы да Лізы. А каб і хацеў, дык дзе ён яе знойдзе? Скуль яму ведаць, што яна жыве ў стэпе. Зямля вялікая, вунь колькі гарадоў і вёсак. Не злічыць!

**21**

Аўдзею знайшлася праца на свінаферме. Далі яму каня, даручылі падвозіць камбікорм. Абяцалі плаціць натураю і грашыма. Праца яму падабалася, ён нават падумаў, што Харунжы, мусіць, не даверыў бы яму каня. А калі б і пусціў працаваць на свінарнік, дык толькі задарма гной выкідваць. Мо і нябла-га зрабілі, што прыехалі сюды. На працу прынялі, прапаноўваюць застацца назусім, абяцаюць у хуткім часе даць добрую хату. Прынамсі, да восені яны выселяцца з гэтае развалюхі без даху, столі, у якой у час дажджу цячэ, а таму даводзіцца расстаўляць па падлозе міскі.

На хутары жылі пераважна старыя людзі, але было некалькі незамужніх дзяўчат і халастых хлопцаў. Моладзь збіралася гуртам, хораша спявала. Таіса выходзіла на іхнія галасы ўжо прыцемкам, калі засыналі дзеці, і прасіла:

— Праспявайце «Падмаскоўныя вечары».

Дзяўчаты з задавальненнем і душэўнасцю выконвалі заяўку, бо гэтую песню ведалі ўсе. Недзе ў Маскве павінен быў адбыцца Міжнародны фестываль моладзі і студэнтаў, па радыё гэтая песня гучала па некалькі разоў на дзень. Словы ведалі амаль усе — ад малога да старога. Да калгаснага клуба было далёка, пяць кіламетраў туды ды пяць назад, адпрацаваўшы дзень на полі, не захочаш такіх прыгод, таму хутаранская нешматлікая моладзь бавіла час, як магла, дома на родных падворках.

Аўдзей вечарамі да пазна праседжваў з тутэйшымі дзецюкамі, гуляючы ў карты. Асабліва часта пачаў хадзіць да двух братоў, якія жылі ў хаце насупраць са старымі бацькамі і малодшай сястрой Аксанай. Дзяўчыне было гадоў дваццаць шэсць. Чарнявая смуглянка з цёмнымі, як ноч, вачамі, зацікаўлена паглядвала на Аўдзея. Ён лавіў на сабе цнатлівыя дзявочыя позіркі і разумеў, што гэтая дзяўчына не супраць прыгарнуцца да яго, свежага чалавека на хутары. Свае хутаранскія хлопцы ці ёй не падабаліся, ці яна іх не цікавіла. Ды і колькі іх тут? Выбар невялікі. Калі ніхто з братоў не бачыў, ён падміргваў дзяўчыне, а яна шчаслівa ўсміхалася. Так завязаўся іхні маўклівы і дужа прыязны дыялог. Доўжыўся ён тыдні два, за гэты час заінтрыгаваны Аўдзей так распаліўся, што не імкнуўся стрымліваць сваёй пажадлівасці. Хоць разумеў, што гэтая дзяўчына мо яшчэ ні з кім і не цалавалася, бо жыла пад пільным назіркам братоў і бацькоў. А з другога боку, думаў, калі нявольніцы даць волю, дык яна гатовая ляцець куды заўгодна, як насенне палявой травы. Хто ведае гэтых дзяўчат? У кожнай свае таямніцы. Мо яна ўжо даўно зведала смак забароненай насалоды і толькі шукае магчымасці, каб ухапіць ад жыцця яшчэ якую шчаслівую часінку няхай і з жанатым чалавекам, абы ён быў да сэрца?

Неяк перад самым развітаннем з яе братамі ў чарговы раз таемна падміргнуў Аўдзей Аксане і паказаў вачамі на дзверы, маўляў, выйдзі і пачакай мяне. Яна схавала шчаслівую ўсмешку і выслізнула з хаты. Аўдзей ад хваляваня ўжо нічога не цяміў, не сачыў за гульнёю і картамі, а таму атрымаў два «дурні» запар ды яшчэ «з пагонамі».

— Годзе, хлопцы, зусім вы мяне адурачылі, сёння буду спаць моцна, як дурны, — весела сказаў ён, паціскаючы братам рукі на развітанне.

На дварэ было цёмна, бязмесячна, ніводная зорка не свяціла, насунуліся невядома скуль хмары. Аўдзей нават разгубіўся, не ведаючы, дзе шукаць дзяўчыну. Аксана аклікнула яго ля весніц. Ён пайшоў на яе голас.

— Што ты, мая прыгажуня, у такім відным месцы схавалася. Пойдзем у садок, ці куды, — прашаптаў ён, абдымаючы гарачае падатлівае цела дзяўчыны.

Яна ўзяла яго за руку і павяла праз двор да дрэў, кроны якіх ледзьве праглядваліся ў цемры. Тыя два дзясяткі крокаў здаліся ім вечнасцю, бо баяліся, што выйдзе хто з братоў і жорстка і груба развядзе іх. Але вокны ў хаце свяціліся, ніхто дзвярыма не грукаў. Яны спыніліся пад высокім дрэвам. Аксана прыгарнулася да Аўдзея, і ён абшчаперыў яе так моцна, каб яна адразу адчула ягоную сілу. Дзяўчына ціхенька войкнула і абмякла, быццам страціла прытомнасць, аддаючыся жарсці. Ён знайшоў яе гарачыя вусны і доўга піў насалоду, задыхаючыся, няўтольна і сквапна, як п’юць самы салодкі нектар. Яна горача адказвала яму, пакрывала пацалункамі ягоны твар, вочы, быццам хацела ўвабраць у сябе ўсё яго мужчынскае хараство і непаўторнасць.

— Давай прысядзем на траву, — прапанаваў ён.

Яна згадзілася, выслізнула з ягоных рук, як вялізная рыбіна, і апусцілася на дол. Нешта шаптала няўцямна, трымаючы яго за рукі. Ён прымасціўся побач. Баючыся, што іх пачуюць, папрасіў:

— Ціха, маўчы…

Але яна не сунімалася, і ён, каб прымусіць яе замоўкнуць, упіўся сваімі вуснамі ў яе з усяе сілы, да болю. Яна прастагнала, але не адхіснулася, а наадварот горача абняла яго.

Ён і сам не разумеў, што з ім зараз адбывалася. Быццам нейкае вар’яцтва апанавала душу. Ён, жанаты чалавек, раптам захваляваўся, як хлапчук.

— Боюся тэбэ, Оўдійко! — сказала яна.

— Не трэба баяцца. Усё будзе цудоўна… Ты мне верыш? — спытаў ён.

— Хочу вірыты, хочу кохаты одного тэбэ, як нікого, — адказала яна, абвіваючы ягоную шыю рукамі. — Ты не покінэш мэнэ? Скажы, не покінэш, ні…

«Гэтага толькі не хапала. Давяла да гарачкі, а цяпер патрабуе паклясціся ў вернасці назаўсёды, — падумаў ён. — А яна не прасцячка, як мне спярша здавалася…»

— Маўчы, маўчы, нас могуць пачуць, — загадаў ён.

Яна сціхла, толькі цяжка дыхала, падуладная ягоным рукам, ён таксама соп, распранаючы яе і блытаючыся ў бялізне.

— А што гэта вы тут робіце? — раптам прагучаў над імі голас старэйшага Аксанінага брата.

Аўдзей падскочыў на ногі і адказаў:

— Шчасце шукаем…

— Я тобі зараз такэ шчасця ўвалю, шчо нэ понэсэш, — адказаў Аксанін брат і заляпіў залётніку аплявуху, ад якой той ледзьве ўстаяў на нагах.

Аўдзей, адчуваючы сваю віну, не стаў адбівацца і падаўся з двара, атрымаўшы яшчэ наўздагон пад азадак. Пачуў, як брат злосна закрычаў на Аксану:

— Чого лэжыш, як карова? Паспіла ўжэ підставытыся…

— Ні, ні, у нас нічого не було, мі тількі цілувалыся, — апраўдвалася дзяўчына…

Аўдзей прыбег у свой двор, спыніўся ля дзвярэй, прыслухаўся, ці хто не даганяе яго. Было ціха. Ад сэрца адлегла, пачаў супакойвацца. Сеў на прызбе, выцер даланёю ўзмакрэлы лоб, падумаў: «Папаўся, як дурань. Добра, што нічога не паспеў, бо невядома што было б... А з другога боку, шкада. Сарвалася рыбка з кручка… Цяпер і ў карты не будзе з кім пагуляць увечары. Ужо туды з сабачымі вачамі не пасунешся. Ды і Аксана гэтая, спакусніца, будзе касавурыцца, толькі аскому наганяць… Эх, хутчэй бы выбрацца з гэтага хутара… Абяцаюць хату даць… А калі? Дзе?»

Ён дастаў з кішэні распачаты пачак махоркі, адарваў шматок газеты, скруціў цыгарку, чыркнуў запалкаю, прыкурыў, зацягнуўся дымам і ад сэрца адлегла. «Вось дакуру і пайду з Таісай дабіраць тое, чаго з Аксанаю не ўдалося, — пасміхнуўся ён сам сабе. — А шкада… Нечапанай я так яшчэ і не зведаў… Усё траплялiся мне дзяўчаты распачатыя…»

Ён згадаў усіх жанчын, якімі яму давялося аднойчы авалодаць. Першаю была Стэпка Сабакорова ў Лядах, якая ні аднаму хлопцу не адмаўляла, хто хацеў упершыню выпрабаваць свае мужчынскія здольнасці. Потым, ужо пасля службы ў войску, калі жыў у Растове, сышоўся з маладзіцаю, якая пражыла з ім тры месяцы, украла грошы і ватоўку і некуды знікла. Пасля прыляпіўся да Таісы. Доўга прыглядаўся да яе. Заўважыў выпадкова. Ён з напарнікам ладзіў дах у бараку насупраць, а яна таўклася каля пліты, нешта варыла. Напарнік сказаў:

— Добрая гаспадыня некаму дастанецца. Увесь час нешта гатуе.

Аўдзей зірнуў уніз праз акно і ўбачыў сімпатычную дзяўчыну, зграбную, тоненькую, бялявую. Ён пазнаёміўся з яе суседкаю па пакоі і пачаў хадзіць туды. Сядзеў на ложку, маўчаў. Таіса часам кпіла з яго, але не крыўдна. Ён не звяртаў увагі. Неяк убачыў, што яна з дзяўчатамі стаіць ля барака, падышоў, прыкаціў нейкі камень, запрасіў пасядзець. З таго і пачалося іхняе знаёмства. Яна не спяшала звязваць свой лёс з ягоным. Казала, што ў яе дачка расце. Не хоча абяздоліць дзяўчынку новым сваім замужжам, натрывалася бяды з першым мужам. Але неяк так само сабою склалася, што захварэла яе дачка. Таіса адпрасілася з працы, пазычыла грошай у Аўдзея, нават пінжак у яго ўзяла, бо не мела плашча, а летам часам здараюцца пахаладанні. Вярнулася яна праз месяц, прывезла даведкі з паліклінікі, што дачка хварэла і сказала Аўдзею, што хоча вярнуцца дамоў. Вярбоўшчыкі падманулі яе, абяцалі прыстойнае жытло, месца ў дзіцячым садку для дачкі, а пасялілі ў былым турэмным бараку, пра садок і гаворкі няма, ды і заробкі мізэрныя. Адзін здзек з людзей. Пасля вяртання яна быццам паверыла Аўдзею, з удзячнасці ці што, з прыязнасцю і даверам пазірала. Нарэшце ён угаварыў яе зняць пакой, каб жыць разам. Яна не хацела больш заставацца тут. Напісала ліст з папрокамі быццам бы ад сястры, якая патрабавала, каб яна забрала дзіця, і пайшла з гэтым лістом да начальніка. Юрыдычна ён не меў права адпускаць яе, бо тэрмін вярбоўкі яшчэ не скончыўся, але чалавек аказаўся прыстойны, які разумеў, што не жаночая гэта справа будаваць масты, пашкадаваў яе і адпусціў. Калі яна звольнілася і сабралася ехаць на радзіму, Аўдзей сказаў, што не хоча з ёю разлучацца. Так яны разам прыехалі да яе бацькі. Там у хаце вісеў у рамцы вялікі фотаздымак, дзе яна была сфатаграфаваная з былым мужам. Аўдзей патрываў колькі дзён, а потым, калі нікога не было ў хаце, зняў са сцяны рамку, адрэзаў ад Таісы былога мужа і гэты кавалак фотаздымка спаліў на Дняпроўскай кручы, а попел закапаў, такім чынам быццам знішчыў яе мінулае.

**22**

Таіса сцялася ад жудасці. Страшны гвалтаўнік набліжаўся да яе, шчэрыў зубы і казаў:

— Не бойся, я нічога дрэннага табе не зраблю. Сама яшчэ будзеш удзячная мне…

Яна адразу пазнала яго. Гэты быў адзін з тых двух былых зэкаў, якія чапляліся да яе ў Растове, куды яна прыехала па вярбоўцы. Прыйшлі пад вечар, выклікалі на вуліцу і сказалі ісці з імі.

— Куды? — спытала яна.

— Не бойся. Па палцы кінем, і будзь здаровая…

— Я ж босая. Мне трэба хоць абуцца і апрануцца…

— Ну, ідзі, мы пачакаем…

Яна ўскочыла ў барак, абулася, расчыніла акно, выскачыла на двор і пабегла праз яр да жытла, якое здалёку свяцілася агнямі. Яе ўпусцілі ў хату чужыя людзі, дазволілі застацца да раніцы, чым выратавалі ад гвалту.

Зараз адзін з тых зэкаў, страшны, няголены, усё падыходзіў да яе з растапыранымі рукамі. А яна адступала да акна па доўгім пустым калідоры, думкі мітусіліся ў галаве: «Як ён здолеў мяне знайсці? Я ўжо на Украіне! Скуль ён узяўся?»

— Стой, бо заб'ю! — зароў ён дзікім голасам і выхапіў нож.

Яна з усяе сілы кінулася бегчы па доўгім калідоры да ратавальнага акна. Тупат ягоных ног і сапенне падганялі яе. Сэрца, здавалася, вылятала з грудзей. Яна пачала малаціць кулаком у раму акна, жадаючы расчыніць яго. Нарэшце рама падалася. Таіса з усяе сілы штурхнула яе і пад звон шкла выскачыла на вуліцу!

— Тая, Тая! Куды! Што з табою? — крычаў Аўдзей.

У ягонай руцэ застаўся толькі кавалак яе начной сарочкі, які ён выдраў, калі спрабаваў утрымаць жонку. У аконны праём шугануў начны вецер.

— Вось, дурніца, спрасоння вынесла раму. Трухлявая хата, акно на саплях трымалася. Дзе яна? Пабегла некуды…

Аўдзей хутка падняўся з ложка, выйшаў на двор. На вуліцы ўжо світала. Неба на ўсходзе паружавела. Таіса сядзела на прызбе і дрыжэла ад перажытага страху і начное прахалоды.

— Чаго ты тут сядзіш? Ці нічога не пашкодзіла? — агледзеў яе Аўдзей. — Ніводнай драпіны, толькі вось кавалак сарочкі выдраў. Трымай на памяць.

Таіса ўзяла латку, пакруціла ў руках, паглядзела на прыпол сарочкі.

— Што на цябе найшло? — спытаў ён.

— Прысніўся адзін з тых зэкаў растоўскіх, помніш, я табе расказвала, што чапляліся да мяне, — адказала яна скрозь зубы, якія ўсё яшчэ калаціліся ад напружання.

— З-за яго ты акно высадзіла?

— Праўда? Вынесла раму? — здзівілася Таіса.

— Пойдзем, сама паглядзіш…

Яны пайшлі да выбітага акна, паднялі раму, у якой ацалела толькі адна шыбіна.

— Што людзі падумаюць? — з дакукаю і горыччу спытала Таіса.

— Якая справа людзям да нас? Да рання трэба неяк дабыць… Заб'ём праём посцілкаю, а ўжо раніцаю ўставім акно ды зашклім, калі знойдзецца чым.

Аўдзей узяў посцілку і пайшоў на вуліцу, а Таіса легла на пасцель, якая стаяла якраз насупраць акна, і думала, што зараз пачне стукаць і пабудзіць

дзяцей і суседзяў. Але ён узяў маленькія цвічкі і стукаў вельмі асцярожна, што яна зусім супакоілася. І толькі зараз адчула, што ў яе страшэнна баліць галава. Гэты боль пачаў спадарожнічаць ёй яшчэ ў Лядах, а цяпер асабліва даймаў. Мусіць, з-за яго прысніўся жудасны сон. Трэба нарэшце схадзіць да дактароў, тут яны кіламетраў на дзесяць бліжэй, чым у Лядах. Далі ім гэтую хату без даху, без сяней, а тут яшчэ сама акно размалацiла. Вось ужо як не шанцуе, дык ва ўсім адразу.

Аўдзей прыйшоў з вуліцы, лёг побач, сцішыўся і хутка размерана засоп. А Таіса доўга ўсё не магла задрамаць. Згадалася ёй жыццё ў бандыцкім Растове. Калі вербавалі, абяцалі залатыя горы, а пасялілі ў барак за калючым дротам. Якраз тады пасля смерці Сталіна па амністыі выпусцілі мноства асуджаных. Былі сярод іх не толькі бязвінныя людзі. Мелася шмат паскуднай навалачы, цынічнай, злой, звераватай. Неяк яе сяброўка на дзень нараджэння вырашыла пачаставаць Таісу. Заробкі мізэрныя, праца цяжкая з ломам ды рыдлёўкаю і, як горка жартавалі будаўнікі, з машынаю асо — дзве ручкі і калясо. Грошай было мала, дык запрасіла ў вакзальны буфет павячэраць. Купіла дзве шклянкі разліўнога піва ды два курыныя кумпячкі. Толькі пачалі есці, як падышоў нейкі прышчавы хлюст, вырваў у сяброўкі курыную нагу і пачаў сам есці. Што скажаш мярзотніку? Ён жа з-за гэтага кавалачка мяса і нажом парнуць можа… Страшнае было жыццё. Адну дзяўчыну з яе барака два блатныя згвалцілі і пачалі спрачацца паміж сабою, забіць ці пакінуць жывою. Яна ўжо і з жыццём развіталася. А калі яны пачалі паміж сабою біцца, пабегла да шасейкі ратавацца. На шчасце, якраз вайскоўцы ехалі, узялі яе ў машыну, так і выжыла. Яшчэ адна сышлася з былым зэкам. Ён аказаўся садыстам, усю яе сцізорыкам історкаў за ноч.

Мімаволі вярнулася да свайго сну. Гэта ж праз колькі часу прыснілася некалі пражытае. Чаму? Што гэта за калідор? Што чакае наперадзе? Пасля таго выпадку яна вымушаная была пайсці з барака жыць з Аўдзеем на кватэру. Калі б не паехалі ў Ляды, дык мо ўсё добра было б. Хлопец ён быў прыгожы, добра апрануты, умеў зарабіць, не скупы, не піў, ад кухля піва хмялеў. А ёй хацелася мець сям'ю, мужа, мо і дзяцей яшчэ. Ці ж яна горшая за іншых? Гэта ў Лядах ён распіўся ды разгуляўся ад няма чаго рабіць. Цвярозы — залаты чалавек і да ўсялякай працы здатны. А варта выпіць — звер зверам, ніколі не ведаеш, што ад яго чакаць.

Да раніцы Таіса так і не заснула. Як толькі пасвятлела за акном, паднялася, згатавала кашу дзецям на сняданак, а таксама боршч і смажаную бульбу на абед, сказала Аўдзею, што збіраецца да доктара, паедзе тым жа возам, якім людзей вязуць на працу па брыгадах, Міцьку возьме з сабою. Вядома, Ліза пойдзе ў школу. Так што хату трэба падпіраць якім калком. Хоця каму што тут трэба…

Доктар памераў ціск, пахітаў галавою, паслухаў сэрца, выпісаў нейкія парашкі і сказаў Таісе:

— У вас высокі ціск, гіпертанія… Дзе працуеце?

— У калгасе…

— Вам нельга працаваць на полі. Я напішу даведку, аддасце яе свайму начальству. Няхай падбяруць якую лягчэйшую працу, на сонцы вам нельга знаходзіцца, салёнага і тлустага не есці.

— Дзякую, — сказала Таіса, ледзьве ўтрымліваючы на руках Міцьку, які цягнуўся рукамі да танометра, што вісеў на шыі ў доктара.

— Калі адчуеце сябе блага, звяртайцеся. Не варта трываць боль. І наогул, калі пап'яце тыя лекі, якія я вам выпісаў, дык прыходзьце, трэба паназіраць за вашым станам. А пакуль зайдзіце да медсястры, яна зробіць вам укол. Толькі

пасля ўкола пасядзіце з гадзінку ў двары ў цяньку. Вы ж па сонцы збіраецеся дамоў ісці?

— Нічога, я хустку завяжу.

— Добра, ачуньвайце, — адказаў доктар.

Таіса выйшла з кабінета доктара і адчула, што ёй палепшала ўжо ад яго-най чалавечай спагадлівасці і разумення.

**23**

У Лізы пачаліся канікулы, і цяпер ёй не трэба было спяшацца штораніцы ў школу за пяць кіламетраў. Апошні тыдзень быў асабліва гарачы. Абутку ў дзяўчынкі не было ніякага, акрамя гумавых ботаў, таму давялося хадзіць на заняткі басанож, чаго яна саромелася, бо ўсе дзеці былі абутыя. Іншыя нават паказвалі на яе пальцам і казалі:

— Дывіцця на цю пэрэсэленку!

Яна старалася на перапынках не выходзіць з класа, каб на яе лішні раз не звярталі ўвагі. Але ўсё гэта нарэшце скончылася. Па хутары можна колькі заўгодна бегаць босаю, ніхто табе лішняга слова не скажа. Па-ранейшаму Ліза прачыналася рана і не толькі з-за звычкі. У такі час малодшы брат яшчэ спаў, таму не трэба было пільнаваць яго. Ён такі пранырлівы, вечна з ім нешта здараецца. На мінулым тыдні запхаў у ноздру рамонак, які дарослыя ніяк не маглі дастаць. З носа пачала сачыцца сукравіца. Міцька плакаў, калупаў у носе ды ўсё далей запіхваў той рамонак. Мама страшэнна напалохалася, бягом кінулася за восем кіламетраў у раённую паліклініку. Доктар дзьмухнуў малому ў вольную ноздру паветрам з вялізнага шпрыца — той рамонак сам выскачыў. А пазаўчора Міцька зусім прапаў. Мама бегала вакол калодзежа, галасіла, думала, што ён утапіўся. Гаспадыня з суседняй хаты выйшла і супакоіла яе, сказала, што Міцька ў іхняй хаце загасцяваўся ды і заснуў. Цяпер, калі Лізе давяраюць няньчыць брата, яна ні на крок не адпускае яго ад сябе. Наогул стараецца насіць на руках, каб ён не ўпаў, не пашкодзіў сабе што-небудзь ці не запэцкаўся. Але пакуль ён спіць, дзяўчынцы — воля.

Ранкамі сярод дашчэнту выгаралай травы ў стэпе грэліся на сонцы яшчаркі, карычневыя, пад колер зямлі. Ліза спрабавала лавіць іх. Але маленькія стварэнні пакідалі ёй хвост, а самі знікалі. Дзяўчынка ніяк не магла спасцігнуць таямніцу яшчарак, якім чынам яны гэта робяць. Як яны могуць раптам адкінуць частку свайго цела без крыві і без раны. Днямі Ліза напаролася ступнёю на пабітую пляшку, парэзала нагу да крыві, сядзела на прызбе і заціскала рану, болю не адчувала. Мама выйшла з хаты, убачыла акрываўленую даччыну нагу, завойкала, прамыла рану, завязала кавалкам палатна. Праз некалькі дзён усё зажыло. Калі б людзі маглі, як яшчаркі, гэтак жа імгненна гоіць свае раны ці адкідаць гэткія хворыя рукі, як у бабы Малашы, а потым у іх выраслі б новыя прыгожыя і здаровыя рукі… Але гэтага няма і не будзе, пакуль не адкрыецца таямніца яшчарак.

У тую раніцу Ліза, як звычайна, выбегла ў стэп, пільна глядзела пад ногі, каб знайсці яшчарку і не заўважыла, скуль узяліся два дзядкі. Былі яны апрануты ў вышываныя сарочкі, у руках неслі па лазовым кошыку. Ліза спынілася і глядзела на іх, як зачараваная. Яна адразу зразумела, што гэта тыя самыя дзядкі, пра якіх расказвала баба Малаша, Палевічок і Рэха. Прыйшлі яны з Беларусі, каб паглядзець, як Ліза жыве, чым займаецца. А яна яшчарак ловіць. Як нядобра, як сорамна!

Дзядкі выглядалі здарожанымі і папрасілі Лізу прынесці ім вады. Дзяўчынка была радая хоць нечым дапамагчы ім. Хуценька пабегла дамоў і вярнулася з паўнюткім слоікам вады, несла яго асцярожна, каб не расплёскаўся. Дзядкі пілі ваду, пра нешта гутарылі паміж сабою, паглядвалі на дзяўчынку, а на яе найшло нейкае дзіўнае ачмурэнне, яна чула галасы, але не магла зразумець і запомніць ні слова. Падарожнікі выпілі ваду дарэшты, аддалі Лізе пусты слоік і сказалі:

— Ідзі.

Ліза паслухмяна накіравалася дамоў, прайшла колькі крокаў, азірнулася, і са здзіўленнем убачыла, што дзядкі зніклі сярод шырокага і пустога стэпу. Яна не паверыла сваім вачам, пачала вяртацца на тое месца, дзе яны толькі што стаялі. І раптам як з-пад зямлі з'явіўся маленькі руды сабачка, пачаў брахаць і кідацца на Лізу. Такога сабачкі не было на хутары, яна дакладна ведала. Дзяўчынка адышла ад таго зачараванага месца — сабачка зліўся з зямлёю, быццам прапаў. Варта ёй было наблізіцца, як ён зноў з'яўляўся і пачынаў злосна брахаць. Шмат разоў спрабавала Ліза падысці да таго месца, дзе размаўляла з дзядкамі, але так і не здолела. Яна вырашыла паклікаць Наталку, якая была за яе старэйшая і, мусіць, таго сабачкі не спалохалася б. Ліза занесла слоік дамоў і пабегла да сяброўкі, якая яшчэ спала. Пакуль ранняя госця раскатурхала Наталку, прайшло трохі часу.

— Хутчэй, хутчэй, — прыспешвала Ліза. — Там дзядкі пакінулі нейкага сабачку.

— Які дідкі?

— Незвычайныя, як з казкі. Я іх адразу пазнала… Адзін жыве ў полі, а другі — у лесе.

— Які ліс? Нэмае ў нас лісу, — недаверліва адказала сяброўка.

— З нашага лесу, з беларускага, — патлумачыла Ліза.

— Так ото воны і прыйшлы до тэбэ пішкі, — насмешліва скасавурыла Наталка вочы.

— Яны чароўныя, яны ўсё могуць… У лесе жыве дзядок Рэха, а ў полі — Палевічок…

За спрэчкаю яны хутка дайшлі да таго месца ў стэпе за хутарам, дзе Ліза сустрэлася з дзядкамі.

— Ну, показуй, дэ тут шчо? — спытала Наталка.

— Там стаялі дзядкі і пілі ваду, а потым зніклі, а замест іх з'явіўся сабачка, маленькі калмаценькі.

— Підэм, побачымо…

Дзяўчынкі рушылі на зачараванае месца, але там ужо ніякага сабачкі не было.

— Чы не прыснылыся тобі оті дідкы? — пасміхнулася Наталка.

— Як яны маглі мне прысніцца, я ж не спала? Вады слоік выпілі, нешта казалі. Толькі я нічога не запомніла.

— Чы мало хто по стэпі ходыть! Дядькы, дідкы, діткы… Пішлы відсыля. Сонцэ надто жагучэ…

Ліза расчаравана яшчэ раз азірнулася на тое месца, дзе яе душа нечакана сутыкнулася з невядомым цудам. Але цуд гэтак жа раптоўна знік, як з'явіўся, быццам тая вялізная рыбіна, што выплыла да яе з ручаіны, торкнулася рукі і сплыла. Хто паверыць, што Ліза яе бачыла? І цяпер гэтак прыкра атрымалася. Мусіць, Наталка будзе думаць, што Ліза зманіла, прыдумала, а яшчэ горш — прысніла. А навошта выдумляць і маніць? Хацела разгадаць таямніцу яшчарак, а займела сваю, хто растлумачыць, што гэта было на самой справе?..

Ліза з таго дня больш ніколі не лавіла яшчарак, але ў стэп выбягала з надзеяю пабачыць яшчэ калі-небудзь тых дзядкоў, каб распытаць, хто яны такія, адкуль і куды ідуць. Але дарма. Цуды не паўтараюцца.

**24**

Да верасня сем'ям перасяленцаў Аўдзея і Колькі Смаленца далі вялікую хату, якая складалася з дзвюх палавін. Большую занялі Смаленцы, бо ў іх было шэсць душ сям'і, на меншай гаспадарыла Таіса. Хата стаяла на беразе маленькай рэчкі, якая ўлетку так перасыхала, што нават дзеці пераходзілі яе. У першыя дні, калі Аўдзей з Таісай ужо абжыліся ў хаце, аднойчы выйшлі на бераг рачулкі з дзецьмі. Удалечыні, дзе рэчачка паварочвала ўлева і хавалася за зараснікамі кустоўя, нейкі рыбак раз-пораз закідваў «павука».

— Няўжо тут рыба водзіцца? — зацікаўлена спытаў у Таісы Аўдзей, які быў нераўнадушны да рыбалкі.

— Што за рэчка без рыбы? — адгукнулася жонка і раптам спахапілася. — Дзе Міцька?

Хлопчык ляжаў у вадзе зусім ля берага, нават чубок галавы быў відзён. Таіса падхапіла яго, расшчаміла рот, пачала трэсці, выліваць ваду. Праз хвіліну малы ачомаўся, заварушыўся, заплакаў.

— Божа літасцівы, ледзь дзіця не страцілі, — заплакала Таіса, радуючыся, што ўсё скончылася добра. Як жа мы яго не дагледзелі?..

З таго дня Лізе было загадана ні на хвіліну не адпускаць брата ад сябе. Яна выконвала абавязкі, ускладзеныя на яе, вельмі старанна. Але калі ўжо дазваляла мама пагуляць адной на вуліцы, Ліза бегла на рэчку і плёскалася дасхочу. Яна ўпарта вучылася плаваць, каб некалі смела ўвайсці ў Дняпро. Пераплысці любімую раку і не марыла. Дняпро — рака занадта вялікая. На той бераг толькі на чаўне можна перабрацца. Проста хацелася паплаваць, паляжаць на хвалях угору тварам, пазіраючы ў неба.

На хутары Ліза сябравала з Наталкаю. Але тая дзяўчынка была старэйшая за яе, сёлета яна пойдзе вучыцца ў пяты клас у гарадскую дзесяцігодку ў Сафіеўку. Мусіць, яны не будуць бачыцца. Затое цяпер у Лізы з'явілася новая сяброўка Смаленцава Надзя. Шкада, што ім не давядзецца вучыцца ў адным класе, Надзя пойдзе зноў у першы клас. Шмат часу дзяўчынкі бавілі разам, звычайна ля рэчачкі, бо не было тут больш прывабнага месца.

Летнія дні праляталі хутка, трэба было рыхтавацца да школы, купляць абутак, сукенку, падручнікі. Лізіна мама паехала ў вялікі горад, купіла цёмна-зялёнага штапелю на школьную форму дачцэ. Карычневай тканіны не знайшлося. Дзяўчынка паглядзела на гэтую тканіну і расчаравана падумала, што зноў яна будзе вылучацца. Усе школьніцы прыйдуць у карычневых сукеначках, а яна — у зялёнай. Ды хіба маме запярэчыш? Што купіла, тое і давядзецца насіць. Затое чаравічкі Ліза сама выбрала ў вясковай краме. Яны былі жаўтаватыя і такія прыгожыя, што дзяўчынка не магла адарваць ад іх вачэй. Хоць аказаліся яны трохі малаватыя, ціснулі палец, Ліза не сказала маме пра гэта. А потым напакутавалася з абуткам, мазалёў панацірала і колькі насіла, ціснулі яны, ажно паходку змянілі. Затое парадаваў Лізу сапраўдны партфель (да гэтага часу яна хадзіла з торбачкаю, пашытаю з маленькай навалачкі). Толькі з падручнікамі мама памылілася, купіла для рускай школы, а трэба было для ўкраінскай. Таму Лізе пасля давялося перапісваць хатнія заданні з падручнікаў аднакласніц, або раздражнёная і знерваваная настаўніца давала ёй асобныя заданні па яе

кніжках. З-за таго, што ў Лізы ўсё было не так, як ва ўсіх, ці яшчэ па якой прычыне, яна стала вучыцца на тройкі, хоць у беларускай школе была выдатніцай. Стамлялася слухаць настаўніцу, якая выкладала па-ўкраінску. Не ўсе словы чужой мовы разумела, губляла сэнс пачутага і наогул цікавасць да заняткаў. Сядзела ціха з адсутным позіркам і марыла, як яна паедзе да дзеда на Дняпро і там будзе ўсё добра: настаўнікі зычлівыя, мова родная, любімая цёця Поля і дваюрадны брат Віця. Найбольш ёй хацелася, каб яе настаўнікам быў Вячаслаў Уладзіміравіч, такі добры, усмешлівы і вясёлы. Гэтыя мроі і фантазіі настолькі захаплялі яе, што нават дома, перапісваючы нейкі тэкст, яна забывалася, што робіць. Ды не бачыла асаблівай карысці ў перапісванні гэтых практыкаванняў. Аднойчы настаўніца прыйшла да іх дамоў і паказала маме Лізін сшытак, дзе на першай жа старонцы было напісана смешнае слова «налапілала». Проста Ліза пра нешта задумалася і напісала не тое, што было ў практыкаванні. Яна схамянулася, узяла слова ў дужкі і працягнула працу. Ну і што такога, падумалася ёй. А настаўніцу гэта проста вывела з сябе. Яна занадта любіла парадак.

Ліза адчувала, што настаўніца яе не любіць, але дарэмна імкнулася зразумець, за што. Бачыла, як іншыя дзяўчынкі з класа перад заняткамі бягуць сустракаць настаўніцу, дапамагаюць ёй несці сумку са сшыткамі, нешта шчабечуць. Падумала, можы, і ёй трэба рабіць тое ж, і на наступны дзень кінулася насустрач, але ўбачыла, што настаўніца аддала сумку дзвюм дзяўчынкам, а выдатніцу Ганначку Яшчук павяла за руку. Ролі былі размеркаваны.

Яна не злюбіла школу. Асабліва стала цяжка восенню, калі пачаліся дажджы. Чарназём раскісаў, чапляўся за яе кірзавыя боцікі. У школу дзяжурныя вучні ў брудным абутку дзяцей не пускалі. Трэба было знайсці на полі вялізны шар бур'яну, каб выцерці ногі. Вучні, якія прыходзілі раней, збіралі бур'ян, ці ўмелі неяк праскочыць міма дзяжурных, а Ліза цягнулася далёка ў стэп, дзе на яе чобаты набіралася столькі бруду, што іх было не дачысціцца. Спазнялася на заняткі, яе ставілі ў кут. Яна зусім не адчувала сябе пакаранаю, наадварот, у куце можна было не слухаць настаўніцу, нічога не пісаць, а марыць пра штонебудзь добрае, якое абавязкова збудзецца.

Ліза цяпер наогул не хацела хадзіць у школу. Кожнай раніцы яна прыслухоўвалася, ці не баліць горла, каб пажаліцца маме і не пайсці на заняткі. Але горла не балела, і пачынаўся новы нецікавы і сумны дзень. Яшчэ адна бяда звалілася на Лізу. Штодня яе падпільноўваў рыжы Хвэдзько з трэцяга класа і распачынаў бойку. Яна адбівалася і баранілася партфелем, але біцца з хлопцам ёй зусім не хацелася. Кожны раз, выходзячы са школы, яна азіралася, не ведаючы, дзе яе падпільноўвае вораг, і выбірала новы шлях дамоў, часам у абыход патрэбнага напрамку праз пасадку акацый з вялізнымі карычневымі стручкамі, якія шаргацелі, быццам бляшаныя. Але да вясны неяк усё само сабою наладзілася. Хвэдзько адчапіўся. Ліза з Надзяю пачалі размаўляць памясцоваму. Нават мама, слухаючы іх, аднойчы засмяялася і сказала:

— Паглядзіце на іх, якія ў нас дзве хахлушкі завяліся.

Аднойчы да дзяўчынак на неабгароджаны двор прыйшлі два хлопчыкі з Лізінага класа Ораст і Вася. Павіталіся, перакінуліся словамі з Лізаю і Надзяю, а потым далі ім цыдулку і ніякавата сышлі. Дзяўчынкі разгарнулі паперку і прачыталі: «Ліза + Ораст = Любоў. Надзя + Вася = Любоў». Гэта было першае прызнанне ў каханні. Дзяўчынкі засмяяліся. Лізе не падабаўся таўставаты і кучаравы Ораст. Надзя Васю наогул не ведала. Аднак прыемна было чытаць напісанае на паперцы. Праўда, Лізе яшчэ некалі ў дзіцячым садзе падабаўся хлопчык Толя Балык. Было гэта даўно ў іншым горадзе, яна нават не помніла цяпер ягоны твар і ведала, што ніколі з ім больш не ўбачыцца. А пра Ораста

ўдзячна падумала, можа, гэта ён заступіўся за яе, таму задзірысты Хвэдзько перастаў чапляцца.

Другі клас Ліза скончыла з тройкамі. Мама кпіла з яе. Ліза трывала, старалася не крыўдаваць і звыкалася з рэпутацыяй троечніцы. Засмуціла яе тое, што яна страціла сяброўку Надзю, бацькі якой вырашылі ехаць у Растоўскую вобласць, дзе, казалі, калгасы былі больш заможныя і працаўнікам болей плацілі. Восенню Смаленцы, калі атрымалі разлік у калгасе, з’ехалі. Разам з імі паехала і сястра жонкі Антося Самоты Маня з дзецьмі. Мусіць, вырашыла пажыць самастойна, годзе чапляцца за чужое шчасце.

Цяпер другая палавіна хаты, дзе жыла Аўдзеева сям’я, апусцела, але туды пакуль нікога не засялялі. Смаленцы пакінулі свой стол і ўслоны. Часам у той палавіне хаты Ліза выконвала хатнія заданні і згадвала Надзю, як разам наведвалі калгасны сад, дзе расло шмат тутавых дрэваў, на іх даспявалі белыя і чырвоны салодкія ягады. Ніхто не забараняў збіраць дзецям ураджай, бо дрэвы гэтыя вырошчваліся для тутавых шаўкапрадаў. На корм ішло зялёнае голле. Дзяўчынкі разам хадзілі ў райцэнтр па хлеб. Бацькі дазвалялі ім выпіць па шклянцы газіроўкі за тры капейкі, прыпраўленай сіропам, гэты напой называўся «сітро». Тае шклянкі было мала, асабліва ў спякотны дзень, дома яны рабілі самі шыпучку, дадаючы ў ваду соду і воцат. Разам купаліся, а на Новы год з вясковымі дзецьмі хадзілі віншаваць суседзяў са святам. Рассыпалі ў хаце зерне і прыгаворвалі: «Сеем, веем, павяваем, з Новым годам паздраўляем!» Дзе цяпер жыве сяброўка? Як вучыцца? З кім сябруе?

Надзя не напісала ніводнага ліста. Ліза ўпершыню з сумам зразумела, што сябры могуць з’яўляцца і знікаць назаўсёды. Іх нельга нікім замяніць, таму што міжвольна размаўляеш з імі, раішся, хоць іх няма, але яны працягваюць жыць у тваёй яве і снах.

## 25

Пасля таго, як Аўдзей са сваім вывадкам з’ехаў ва Украіну, Кандрат нарэшце адчуў сябе гаспадаром у хаце. Зрэшты, так у палешукоў вялося спрадвеку: малодшы сын заставаўся пры бацьках, якія з ім дажывалі да старасці. Малаша шкадавала Аўдзея, што яму так не пашанцавала з жонкаю, натурыстаю і ўпартаю. Ды яшчэ з далёкіх краёў. Таму вымушаны ён вандраваць па свеце ў пошуках невядома якога шчасця. Але нічога не зробіш, мусіць, такі ягоны лёс. Як кажуць разумныя людзі, ад лёсу не ўцячэш. Яна спадзявалася, што Кандрат ажэніцца з тутэйшаю дзяўчынаю, і зажывуць яны ў міры ды згодзе. Праўда, малодшы сын у яе трохі баламутны і задзірысты, але ў Малашы знойдзецца вяроўка, каб адхвастаць неслуха ці звязаць, калі ўзбунтуецца. Характар яму перадаўся ад мужавай радні, казалі, што ягоны прадзед з-за нейкае бяды здурэў і пабег у палі, слабы аказаўся духам. Каб сын удаўся ў Малашу, іншы меў бы нораў. Неяк яна спытала ў Кандрата:

— Што рабіцьмеш, сынку, як збіраешся жыць далей?

— А што тут доўга думаць? Я застаўся адзін у хаце гаспадар. Паеду з хлопцамі ва Украіну, зараблю грошай, а вярнуся, дык жаніцца буду.

— А ці ёсць якая дзяўчына на прыкмеце?

— Дзяўчат шмат, ажно вочы разбягаюцца. Прыглядаюся. Пакуль тут быў Аўдзей, дык не было куды жонку весці, а цяпер можна на нешта адважыцца. Не бойся, не памылюся. Вазьму дзеўку бацькі разумнага, добрая табе будзе нявестка, не пашкадуеш.

— Дай божа нашаму цяляці ваўка паймаці, — пасміхнулася Малаша.

— Чаму ты так са мною? Ці я дурнейшы за іншых?

— Добры ты ў мяне хлопец, толькі як лішні кілішак вып'еш, дык надта дурны робішся, у свайго прадзеда ўдаўся.

— Ай, маці, гэта не ад дурноты, хочацца паказаць сілу на людзях, толькі і ўсяго…

— Сілу не кулакамі паказваюць, а працаю, гаспадаркаю, разумнымі дзецьмі. А ў нас гондэ падлога земляная, хата старая. Колькі ёй гадоў? Мо ўсе сто…

— Усё ў нас будзе добра… Пабачыш… Ажанюся, хату пабудую, унукі народзяцца… Каб толькі пляц атрымаць у гайку ці хоць на выгане, каб можна было развесці качак ды гусей, каб кароўку можна было ў пашу не ганяць, а прыпнуць каля плота.

— Твае словы ды богу ў вушы, сынок…

У траўні Кандрат паехаў з гуртам моладзі на заробкі. Прыняла іх хлебадайная Палтаўская зямля. Працавалі палешукі шчыра, ніякай работы не цураліся: ні самай бруднай, ні самай цяжкай. Праўленне калгаса паставілася да наймітаў больш-менш справядліва. Заплацілі няблага: далі грошай і па тоне пшаніцы. Там жа, у вялікім палтаўскім сяле, прыгледзеў сабе Кандрат паляшучку Ульяну, праўда, не з Лядаў, а з суседніх Янавічаў. Дзяўчына была мілая з твару, з пышнымі вуснамі, цёмнымі простымі валасамі, зачэсанамі на прабор па сярэдзіне лба, негаваркая, але прыязная і ўсмешлівая. На заробках не было калі заляцацца, бо працавалі нават у нядзелю і ў святочныя дні. Наперадзе была зіма, калі можна было адаспацца і адпачыць, а цяпер ніхто не шкадаваў сябе, шчыравалі на ўкраінскім калгасным полі, як на сваім. Хто быў памочнікам у камбайнёра, пражыўся цэлы дзень на спякоце, што пасля ні есці не мог, ні на нагах стаяць. Выпіваў літры два вады і падаў знясілены. Каму пашанцавала вазіць салому на вялізных арбах коньмі, тыя, лічы, адпачывалі. Гэта ж не праца, а задавальненне — ездзіць дзень пры дні на возе, даглядаць каня, запрагаць яго ды вадзіць купацца ў ставок. Кандрат аказаўся такім шчасліўцам. Даверылі яму добрага рахманага коніка, які слугаваў хлопцу ўсё лета і дазволіў зарабіць не менш за іншых лядчукоў. Ужо калі вярталіся дамоў цягніком, падсеў Кандрат да Ульяны на траскую вагонную лаўку і сказаў:

— Падабаешся ты мне, Ульянка. Вернемся дамоў, сватоў прышлю да цябе.

— Чаго гэта раптам надумаў? — спытала дзяўчына, не ведаючы, як успрыняць гэтыя словы, ці не жартуе хлопец?

— Не раптам, даўно да цябе прыглядаюся. Добрая ты дзяўчына. Не хачу шуры-муры разводзіць, заляцацца гадамі, думаць, сумнявацца. Скажу шчыра: мне не каханка патрэбная, а жонка, добрая, надзейная. Здаецца мне, што ты такая і будзеш.

— А ты які будзеш? — спытала яна, усё ж не верачы ў сур'ёзнасць ягоных намераў, усміхаючыся, пазіраючы з-пад ілба.

— Я таксама пастараюся быць добрым мужыком, хачу дзяцей, хачу шчасця…

— Пажывём — пабачым, што нам жыццё пакажа.

— Ці можна прыйсці да цябе дамоў, каб з бацькамі папярэдне пазнаёміцца? — спытаў ён, упэўненасць з яго зляцела, ён баяўся адмовы.

— Прыходзь… Чаго ж… Будзем знаёміцца, — яна заўсміхалася, — тут жа за працаю свету не бачылі. Толькі ў цягніку адпачылі ды выспаліся…

Кандрат праседзеў каля Ульяны цэлы дзень, нават хлопцы пачалі з яго кпіць, але ён не зважаў, а толькі спакойна адказаў:

— Не чапайце, у нас каханне…

Ульяна засаромелася, яе твар заліўся чырванню. Яна нават пакрыўдзілася, але Кандрат супакоіў яе:

— Не звяртай увагі на гэтых баламутаў, яны зайздросцяць нам.

Сапраўды, па вяртанні ў Ляды Кандрат прыйшоў неяк лістападаўскім надвячоркам да Ульяны, пазнаёміўся з яе бацькам, сказаў пра свае сур'ёзныя намеры. У Янавічах пра Кандрата ведалі мала. Ён з'явіўся добра апрануты, у новым паўпаліто, будучага цесця адразу стаў называць бацькам. Стары Каленік паслухаў хлопца і застаўся задаволены, думаючы пра яго, што хоць і сірата, а не разгубіўся, ездзіць на заробкі, не ветрагон, гаспадар у хаце, і сказаў:

— Няхай дачка сама вырашае, а я пярэчыць не буду.

Ульяна згадзілася. Так усё і вырашылася. Праз тыдзень Кандрат прыйшоў са сватамі, вяселле прызначылі на Каляды. Пасля гэтага штовечар малады хадзіў да сваёй Ульяны цалавацца ды мілавацца, а Малаша жыла ў шчаслівых турботах перад вяселлем сына. Планавала забіць парсюка, нагнаць самагонкі, трэба было дамовіцца з рыбакамі наконт рыбы, каб на стале было больш разнастайнай ежы. Прыкідвала, каго з родзічаў запрасіць, каму які пасад даць ды нікога не пакрыўдзіць. Была задаволеная сынавым выбарам, нарэшце яна займее разумную нявестку, здатную да ўсялякай сялянскай працы. Пра Ульянінага бацьку ведала, што чалавек ён майстравіты, добры гаспадар, на яго дапамогу ды параду заўсёды могуць спадзявацца маладыя, а ёй, Малашы, застаецца толькі дачакацца ўнукаў ды дапамагаць іх гадаваць. А пра большае шчасце яна і не марыла. У старэйшага сына дзяцей не было, мабыць, жонка трапілася няздатная, ды і сам ён, як і бацька, хварэў на сухоты. Аўдзеева Таіса таксама не разгонізца, каб шмат дзяцей нарадзіць, як вялося спрадвеку ў сялянскіх сем'ях. Была перакананая: у Кандрата ўсё будзе ладам.

Пасля вяселля маладая пераехала на сталае жыццё да Кандрата, узяла на сябе ўсю хатнюю працу. Малашы заставалася толькі хадзіць на вячоркі, прасці, жыць бесклапотна ды чакаць унукаў. Стары Каленік не мог дазволіць, каб яго Ульянка тупала па земляной падлозе. Таму дамовіўся з лесніком, нарэзаў з Кандратам дрэва, напілаваў дошак і разам з зяцем паклаў добрую падлогу. Малаша не магла нарадавацца на новых сваякоў, якія не пакідалі Ульяну без увагі, а дапамагалі харчамі, нават сена воз далі, калі не хапіла яго Малашынай карове. Яно, вядома, нявестцы патрэбна было добрае харчаванне, бо яна адразу зацяжарала. Ды восенню з'явіўся ў Малашы здаровенькі і прыгожанькі ўнучак Алег, вельмі падобны з твару на Кандрата, што асабліва ўсцешыла яе. Нікога яшчэ яна так не песціла і не любіла, як гэтае немаўля. Сваіх дзяцей гадаваць не было калі, хворы на сухоты муж заставаўся з дзецьмі, а яна працавала за сябе і за яго. Ён вельмі добра даглядаў дзяцей. Неяк Малаша і Дамінка, дзве маладыя гаспадыні, забыліся пакінуць у печы чыгун з цёплаю вадою. Яму спатрэбілася падмыць дзіця. Дык ён з крышаноў зліў вадкасць і выкарыстаў на гэтую патрэбу. Цяпер Малаша як бы адпрацоўвала і сваё страчанае маладое мацярынства, і абавязкі бабулі.

## 26

На лета Таісе прапанавалі працу ў калгасным дзіцячым садку, які абсталявалі ў вялікай хаце суседкі Марыі Тронь, высокай ладнай жанчыны. Яна ўзначальвала брыгаду агароднікаў, вырошчвала гуркі, памідоры, цыбулю, перац. Мела двух сыноў. Малодшы Мікола служыў у войску мараком. У тое лета ён

якраз прыехаў на пабыўку. Ліза, як і ўсе вясковыя дзеці, з захапленнем разглядвала ягонае марацкае адзенне: белую сарочку, бесказырку са стужкамі. Ёй хацелася паслухаць, пра што ж расказвае марак сваім сябрам, якія сабраліся ў ягонай хаце. Яна падбягала да акна, дзе тоўпіліся хлопчыкі, заглядвала ў яго і чула брыдкія словы, якімі Мікола перасыпаў свой аповед. Мацюкі быццам адкідвалі яе ад акна. Але цікаўнасць перамагала. Яна зноў падбягала да акна і зноў адлятала ад яго, як напалоханая птушка. У яе засталося адчуванне, што знешнасць маракоў вельмі падманлівая. Звонку яны прыгожыя і цікавыя, але калі пачынаюць гутарыць з некім, адразу губляюць прывабнасць.

Старэйшы Марыін сын Андрэй працаваў даяром у калгасе і славіўся вялікімі надоямі на ўвесь раён. Гэта была рэдкая з’ява, каб хлопец рабіў справедку жаночую справу. Але так ужо атрымалася, што муж Марыі загінуў на вайне, а яна мусіла працаваць у калгасе і гадаваць двух сыноў. Вось і дзяліла хатнія абавязкі са старэйшым сынам, які не цураўся ніякае працы, добры вырас хлопец.

Праца ў садку лічылася лёгкаю, Таісу ўзялі туды, бо яна мела даведку ад доктара, якая забараняла ёй працаваць на полі. У гэты ж садок уладкавалі і малога Міцьку. Ліза была школьніца, але ў садку і ёй знаходзілася дзе-якая справа: за малымі паназіраць ці памагчы чым на кухні. Цяпер у яе з’явілася шмат вольнага часу, які яна бавіла на рэчцы. У садок хадзіла дачка старшыні калгаса, Лізіна равесніца, Светка. Яе бацькі вельмі аберагалі, яна толькі збіралася ў першы клас. У святочныя дні, калі садок не працаваў, Ліза хадзіла ў госці да Светкі. Там яна чытала сяброўчыны кніжкі, але яны былі нецікавыя. І не падабаліся Лізе. Напрыклад, у адной каляровай кніжцы быў вершык пра жанчыну, якая любіла насіць капялюш, які ёй падыходзіць, як карове сядло. Гэты верш быў падобны на плётку, а пляткарыць, на Лізіну думку, брыдка. Іншы раз Свеціна мама пры Лізе спрабавала накарміць пульхную дачушку, а тая ўпарта адмаўлялася ад ежы. Жанчына пагражала дачцэ:

— Калі не будзеш есці, аддам Лізе…

Перакормленая Света пачынала есці мёд з булкаю ці яшчэ якія прысмакі, ад якіх яе вярнула. Ліза не ведала смаку мёду, але разумела, калі Света не хоча яго есці, дык, мусіць, той мёд ці што там яшчэ ёй даюць, вельмі нясмачнае. Ліза любіла цукеркі. Каштавала яна іх толькі на Новы год, калі ў школе давалі падарункі. Яна збірала паперкі, у якія былі загорнуты цукеркі, чытала надпісы. На адной абгортцы было напісана «Радій» (з націскам на другім складзе), што перакладалася з украінскай мовы, як «радуйся». Невядома скуль, мо чула па радыё, але Ліза ўжо ведала, што радзіем называецца нейкае шкоднае рэчыва.

Света збіралася ў першы клас грунтоўна. Ёй купілі карычневую сукню з прыгожым карункавым каўнерыкам, бліскучы партфель, а, галоўнае, чаму ўжо нават Ліза зайздросціла, сяброўцы абяцалі зрабіць да першага верасня вялізны і прыгожы букет з вяргіняў і маёраў. Адна вясковая цётка вырошчвала гэтыя кветкі і абяцала старшынёвай дачцэ падараваць іх на першы дзень вучобы. Ліза таксама хацела б прыйсці ў школу з такімі ж кветкамі, але дзе іх узяць? Яна помніла, як у першым класе ёй падаравалі прыгожы букет, а потым настаўнік аддаў яго іншай дзяўчынцы. З таго часу яна марыла, што аднойчы ўсё ж прыйдзе ў школу з вялізным букетам. Там будуць вяргіні і маёры і яшчэ мноства розных прыгожых кветак. Што яна збіралася рабіць з гэтым букетам, не ведала, толькі хацела яго абавязкова мець. Такім уяўлялася яе дзіцячае шчасце. Хаця шчасце магло быць зусім іншым, напрыклад, праехаць на кані.

Аднойчы ў абед яна ўбачыла цётку Марыю Тронь, якая прыехала ў двухколавай брычцы па нейкай патрэбе да сваёй хаты.

— Куды вы паедзеце? — спытала Ліза.

— На агарод, — адказала суседка. — Хочаш са мною?

Ці ж трэба было пытаць у Лізы? Яна проста засвяцілася ад радасці, што мае магчымасць праехацца ў брычцы праз усю вёску. А як цікава пабачыць той агарод!

— Ну, залазь у брычку, — сказала цётка Марыя, падсадзіла Лізу ў зручны драўляны вазок, лёгенька сцебанула каня, і той затрусіў па пыльнай дарозе.

Хоць на вуліцы было вельмі горача, у вазку ад хуткай язды Ліза пачувалася выдатна. Ветрык ахалоджваў твар, лашчыў нябачнымі далонямі, мусіць, радаваўся, што можна палётаць навыперадкі з канём. Сустрэчныя віталіся з цёткай Марыяй, а Лізіна душа перапаўнялася гонарам, што яна едзе на агарод па важнай справе побач з брыгадзіркай.

Агарод знаходзіўся ў нізінцы на другім беразе рачулкі, якая жывіла памідоры і гуркі з вялізным лісцем, бы ў лопухаў. Хлопцы і дзяўчаты выбіралі гародніну і складвалі ў скрынкі.

— Кого цэ ты прывэзла, тітко Марыя? — спытаў нейкі хлопец.

— Нарочону тобі, прыглядайся, Санько, — усмешліва адказала брыгадзірша.

Лізе зрабілася няёмка, быццам яе ўжо прасваталі. Яна саромелася размоў пра замужжа.

— Бач, якая гарна дзіўчынка, — нахвальвала Марыя сваю пасажырку, чым зусім збянтэжыла малую.

Брыгадзірка саскочыла з брычкі, дапамагла Лізе спусціцца на зямлю і павяла яе паміж памідорнымі і гурочнымі загонамі.

— Бачыш, які мы багаті, — сказвала цётка Марыя. — Ты тут побудь, а я піду і побачу, як моя брыгада працюе.

Ліза села на нейкую драўляную скрынку і доўга чакала, назіраючы за людзьмі. Толькі пад вечар цётка Марыя сабралася завезці Лізу дамоў. Дзяўчынка з'явілася перад мамай шчаслівая, гатовая расказаць, дзе была ды што бачыла. Маці сустрэла яе грозным воклічам:

— Куды прапала на цэлы дзень?

— Я з цёткай Марыяй ездзіла на агарод.

— Тата табе зараз пакажа такі агарод, што дзясятаму закажаш!

Ліза зразумела, што яе зараз будуць караць і на гэты раз, мусіць, балюча, гарачымі лупсякамі. Яна кінулася з хаты, нырнула ў бульбоўнік пад абрыкосінаю, прыпала да нагрэтай за дзень глебы і затаілася.

Ужо прыцемкам маці выйшла з хаты і пачала клікаць дачку. Ліза не адгукалася. Толькі калі пачула абяцанне, што біць не будуць, выйшла са свайго спрата і насцярожана пайшла дахаты.

## 27

Аўдзей ведаў, што з Лядаў прыехаў Хведар, па мянушцы Жаўнер, з маці і сястрою, спярша спыніўся таксама ў Антося Самоты, а потым і гэтым перасяленцам далі нейкую хату. Мянушку атрымаў зямляк з тае прычыны, што ў маленстве марыў стаць жаўнерам, бо там давалі бясплатна адзенне, абутак і зброю. Вясковаму хлапчуку, які рос без бацькі, здавалася вялікім шчасцем магчымасць жыць на дзяржаўны кошт. Аднак жаўнерам ён стаць не паспеў, таму што Саветы прагналі палякаў. Давялося Хведару стаць салдатам, але служба яму не спадабалася. Чамусьці жонку з дочкамі Жаўнер з сабою не ўзяў. Людзі казалі, што сумеснае жыццё ў іх не ладзілася.

Аўдзей пазбягаў сустрэч з Хведарам з-за даўняй сутычкі. Якраз у той час, калі пан мусіў уцякаць са свайго маёнтка, вяскоўцы кінуліся захопліваць сабе загоны на ягонай зямлі. Тады і счапіліся Хведарава маці Агатэля з Малашаю за кавалак поля. Аўдзей разгублена стаяў і не ведаў, што рабіць. Агатэля тым часам здзёрла з Малашынай галавы хустку, тузала за валасы, а Жаўнер дубасіў кулакамі.

— Сынку, тваю маці б'юць, а ты стаіш! — у адчаі крыкнула Малаша.

Аўдзей схапіў сучкаваты калок і з размаху апусціў на галаву Хведару, той заліўся крывёю і пабег уцякаць. Следам за ім падалася Агатэля. Свой кавалак поля Аўдзей з Малашай адваявалі, але гэта было дарэмнае змаганне. Прыйшлі Саветы і па-свойму падзялілі зямлю. У той час Хведар і Аўдзей былі падлеткамі, але хіба такое здарэнне забудзецца і даруецца? Прыхаваная варожасць засталася жыць у душах абодвух хлопцаў. І цяпер ва ўкраінскай вёсцы іх зноў звёў лёс. Як ні ўхіляўся Аўдзей ад сустрэчы з былым ворагам, жыццё прымусіла яго скарыцца і змірыцца. Жаўнера накіравалі працаваць на тую самую свінаферму, дзе працаваў Аўдзей. Хведар сам падышоў да яго, працягнуў руку для вітання. І хоць Аўдзею вельмі не хацелася, ён мусіў паціснуць руку Жаўнеру, але душа яго не прымала гэтага вітання, і першае, што зрабіў Аўдзей, пайшоў і памыў рукі.

З гэтага дня як ні стараўся Аўдзей размінуцца з Жаўнерам, той усё роўна знаходзіў магчымасць пабачыцца з ім. Дайшло да таго, што Аўдзей пачаў адчуваць нежаданне хадзіць на працу, бо там трэба вітацца з Хведарам, рабіць выгляд, што яны ледзьве не таварышуюць. Разважаў сам сабе, што нельга гэтак доўга насіць крыўду ў душы, але не мог змірыцца, не разумеў, чаму ён абавязаны штодня сутыкацца з чалавекам, якога не любіць, не паважае. Вялікая Жаўнерава галава, агромністыя ступакі і сам ён, непаваротлівы бамбіза, выклікалі ў Аўдзея агіду. Усё часцей яму прыходзіла ў галаву думка папрасіць начальства, каб далі яму якую іншую працу. Але быў ён з тых маўчуноў, якія на цвярозую галаву лішняга слова не скажуць. Так і трываў, пакуль пад восень не захварэў. Раптам стала балець нага, прастуджаная яшчэ ў маленстве, калі пасвіў статак. Пад каленам утварылася некалькі нарываў, скуль цякла сукравіца, нага распухла, як калода. Аўдзей ужо і на вуліцу не выходзіў, цэлымі днямі ляжаў у ложку. Найчасцей яго наведваў Антось Самота. Разам яны слухалі радыёпрыёмнік, разважалі пра падзеі ў свеце. А Ліза дзівілася, навошта яны слухаюць гэтыя размовы, лепш бы песні якія ўключылі. Скуль было ведаць малой, што ў канцы пяцідзясятых гадоў разгаралася халодная вайна паміж СССР і Амерыкай. Абедзве дзяржавы назапашвалі ядзерную зброю, спаборнічалі ў магутнасці сваіх войскаў. Сяляне Антось з Аўдзеем страшыліся новай вайны, адну яны ўжо перажылі падлеткамі, галадалі, існавалі ў жудасці. Антосю дасталося больш, бо яго вывозілі на прымусовую працу ў Германію, дзе ён напоўніцу хапіў ліха, працуючы на заводзе. Баяліся яны не толькі за сябе, але і за дзяцей. Што іх чакае, якая будучыня? Аднойчы Антось уважліва паглядзеў на Лізу і спытаў:

— Ты кім хочаш быць, як вырасцеш?

— Лётчыкам, — упэўнена адказала яна.

— Не, дзяўчат у лётчыкі не бяруць, — сказаў ён, а сам падумаў: «Калі і дзяўчаты пачнуць скідваць атамныя бомбы, дык жыццё на зямлі спыніцца».

— Чаму? — здзівілася і не зусім паверыла дзядзьку Ліза.

— Мужчынская гэта справа.

Тата таксама пацвердзіў, што лётчыка з Лізы ніколі не атрымаецца. Яна расчаравана зашылася ў куток і задумалася, калі нельга быць лётчыкам, дык

кім жа яна тады будзе? Адказу на гэтае пытанне яна яшчэ не ведала. Перабірала ў памяці розныя прафесіі, але ні адна не падабалася ёй.

Таіса, каб палепшыць прыгнечаны Аўдзееў стан, пачала браць кніжкі ў бібліятэцы і чытаць услых. Ён і сам чытаць умеў, дзве зімы хадзіў у польскую школу, але дадаўся яшчэ адзін удзячны слухач, Антось Самота, які быў непісьменны, і з вялікай цікавасцю далучыўся да таго сумеснага чытання. Не толькі раманы прываблівалі сюды Антося. З першай сустрэчы спадабалася яму Таіса, гаваркая, усмешлівая, жартаўлівая. Са сваёю Антоляю, непрыгожаю, з вуглаватаю мужчынскаю паставаю, ён пабраўся па разліку. Як вярнуўся з Германіі, не меў дзе жыць. Маці з сястрою і яшчэ дзве гаротніцы, Бабця з Луцяю, туліліся ў цесным хлеўчыку, прыстасаваным пад жытло, бо хаты іхнія пагарэлі. Тады і падаўся ён у прымы да Антолі, якая жыла з сястрою Маняю ў прасторнай хаце, пры якой быў даволі вялікі пляц зямлі. Жончын бацька за польскім часам працаваў вартаўніком у аканома Кубіцеля, таму сям'я лічылася даволі забяспечанай. Дочкі ў вартаўніка былі надта ж непрыгожыя, выпетраныя, з грубымі рысамі твару, але нязлосныя і добрыя. З-за гэтае жаніцьбы і празвалі Антося Юдэлям, бо толькі з хітрасці такі прыгожы хлопец мог узяць замуж непрыгожую Антолю. Але часцей называлі яго ласкава Юдэлька. Што і казаць, употай зайздросціў Антось Аўдзею, які ўзяў сабе прыгожую жонку без каровы і без хаты, і жывуць людзі ў такім жа калгасным жытле ў аднолькавых умовах. Не спатрэбілася Антосю ні Антоліна хата, ні карова. А цяпер жыві век з кабетаю, да якой ніякіх пачуццяў, акрамя абавязкаў. Бачылі вочы, што бралі, цяпер ешце, хоць павылазьце. Іншы раз Антось пытаў у Аўдзея:

— Колькі рэйсаў за ноч робіш? — уяўляючы, што такую жонку, як Таіса, трэба кахаць і кахаць.

Сябар адмоўчваўся, толькі загадкава ўсміхаўся.

За месяц, пакуль Аўдзей ляжаў у ложку, прачыталі «Яму» Купрына і «Ціхі Дон» Шолахава. Ліза іншы раз таксама слухала, як мама чытае кніжкі, але часцей яе выпраўлялі на другую палавіну хаты, бо гэта былі кніжкі для дарослых. Таму дачка папрасіла маму, каб яна ўзяла ёй якую дзіцячую кніжку.

У наступны раз яны пайшлі ў бібліятэку разам. Нарэшце бібліятэкарка завяла на дзяўчынку фармуляр і дала маленькую кніжачку, якая называлася «Жывы капялюш». Дома тую кніжку Ліза прачытала за дзесяць хвілін. Апавядалася там пра ката, на якога ўпаў капялюш, бедная жывёліна мусіла поўзаць па хаце. Бязглуздае апавяданне Лізе не спадабалася, на другі дзень яна зноў прыйшла ў бібліятэку і атрымала такую ж тоненькую і нецікавую кніжку. Яна перастала хадзіць у бібліятэку не толькі таму, што там не давалі ёй добрых кніжак, а з'явілася сапраўды цікавае чытанне. Цётка Марыя Тронь пачала запрашаць яе да сябе па святочных днях і нядзелях. У яе збіраліся суседкі, давалі Лізе ў рукі «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі, і яна чытала доўгія паэмы пра жаночую долю. Маладзіцы слухалі, выцiралі слёзы, блізка да сэрца прымалі пакуты прыгонных сялянак, бо і самі шмат чаго перажылі ў жыцці. А Ліза зразумела, што ёсць на свеце цікавыя кніжкі, толькі тая бібліятэкарка іх не ведае. Яна падумала, як вырасце, купіць у краме шмат кніжак, зробіць дома цэлую бібліятэку і будзе чытаць кожную вольную хвіліну. Можа, і дзядзьку Антося запросіць, ён жа чытаць не ўмее, а вельмі ўважліва слухае. А калі некалькі раздзелаў прачытаюць без яго, дык папросіць расказаць яму, што там здарылася яшчэ. Каб дзядзька Антось захацеў, дык Ліза навучыла б яго чытаць. Ён вельмі здольны, хоць і непісьменны, а пакуль быў у Германіі, вывучыў нямецкую мову. Мусіць, не мае часу, каб вучыцца, ці не хоча? А шкада…

## 28

Хоць трымаўся Аўдзей годна, нягледзячы на боль і пастаянную тэмпературу, іншы раз, пакуль Таіса была занятая хатнімі справамі, ляжаў і спяваў розныя песні. Перабіраў усе, якія толькі ведаў. Аднак гэты ўяўны аптымізм палёгкі не прыносіў. Мясцовая доктарка прыпісала Аўдзею ўколы. Медсястра цэлы месяц з дня ў дзень прыходзіла і выконвала прызначанае лячэнне, ды паляпшэння хворы так і не адчуў. Нагу скурчыла, яна ўжо не разгіналася. Дактары з райцэнтра прыйшлі да высновы, што пацыенту патрэбна тэрмінова аперацыя. Далі машыну хуткай дамамогі, каб завезці Аўдзея ў абласную бальніцу. Яго суправаджала Таіса. Прыехалі з накіраваннем у адну бальніцу, але хворага не прынялі, сказалі, што няма месцаў. У іншай бальніцы адмовілі таксама, спасылаючыся на тое, што хвораму патрэбна занадта складаная аперацыя, такую тут ніхто не возьмецца рабіць. Падказалі яшчэ адзін адрас, дзе працуе выдатны хірург Панамарчук, можа, той возьмецца. Дзень ужо хіліўся да вечара, начаваць няма дзе, дома засталіся адны дзеці. Паехалі ў тую бальніцу. Але і там адмовіліся браць Аўдзея на лячэнне. Таіса з адчаю сказала доктарцы:

— Дамоў яго не павязу! Пакіну на ганку! Памрэ, дык хоць нехта будзе адказваць.

Зрабіла выгляд, што пайшла з бальнічнага двара, а сама назірала з-за рога будынка. Па Аўдзея прыйшлі дзве медсястры, пасадзілі ў інвалідную каляску. Ён махнуў Таісе рукою, маўляў, ідзі, я застаюся. Толькі тады яна супакоілася і паехала дамоў. Праз тыдзень наведала яго. А ён ужо вясёлы, на мыліцах выйшаў да яе. Нага выпрасталася — удала прафесар Панамарчук зрабіў аперацыю. Пасядзелі, пагаманілі, на развітанне Аўдзей сказаў:

— Больш не прыязджай. Не трэба пакідаць дзяцей адных ды нервавацца. Дай мне грошай на дарогу. Як выпішуць, сам дабяруся.

Яна выйшла з бальнічнага двара, прайшлася па горадзе, раздумваючы, ці ехаць на вакзал, ці лепш пагаласаваць на ўзбочыне ды папрасіцца на якую-небудзь спадарожную машыну. Убачыла гаспадарчую краму, з цікавасці ўвайшла, нагледзела невялікі чыгунок, у якім добра будзе варыць бульбу і набыла яго. Зазірнула таксама ў гастраном ды купіла хлеба. Грошай засталося зусім мала, не хацелася траціць апошнія капейкі на аўтобусны білет. Яна накіравалася на ўскраіну горада, на магістраль. Ёй пашанцавала, бо хутка спынілася грузавая машына, і шафёр прыкладна яе ўзросту весела падміргнуў і спытаў:

— Куды табі, молодычка?

— Да Мар’янаўкі, гэта вёска перад Сафіеўкай кіламетры за тры.

— Знайдэмо…

— Вялікі дзякуй, бо ў мяне мужык у бальніцы, а дзеці адны дома.

— Звідкіля сама родом?

— З Беларусі.

— Знаемо і таку зэмлю, — пасміхнуўся шафёр.

Пакуль ехалі, дык ён усё хапаў Таісу за калена, ці імкнуўся абняць, яна адбівалася, сварылася, але ён не зважаў, а толькі смяяўся ды хітра паглядваў на яе. Калі пад’ехалі да Мар’янаўкі, шафёр не спыніў машыну, а сказаў, маўляў, даедзем вунь да той пасадкі і адпачнём. Таіса зірнула ў акно, убачыла аднавяскоўцаў, якія працавалі на полі, выхапіла з торбы чыгунок і закрычала:

— Спыніся, бо зараз вокны паб’ю!

Ён нічога не адказаў, толькі зацята ціснуў на газ і круціў руль. Таіса з размаху стукнула па лабавым шкле, яно звонка дзынькнула і трэснула. Шафёр

рэзка затармазіў, кінуў на жанчыну азвярэлы позірк, расчыніў дзверцы кабіны, штурхнуў яе, што яна паляцела потырч, выкінуў услед за ёю торбу і паімчаў па трасе. Таіса паднялася, атрэслася, памацала плячо, якое вельмі балела, патупала ўвярэджанай нагой, прамармытала сабе:

— Вось дык праехалася… Ледзьве шыю не зламала, але дзякаваць богу, быццам абышлося… Каб ты праваліўся, сабака! Скаціна бязрогая! — накульгваючы, патупала дамоў.

Яна больш не ездзіла ў горад, чакала Аўдзея дома. А яго ўсё не было і не было. Ужо не ведала, што і рабіць, мо зноў рынуцца ў адведкі. Але аднойчы лістападаўскім раннім надвячоркам расчыніліся дзверы — і на парозе ўзнік Аўдзей. На шыі ў яго вісела вязка абаранкаў — падарунак дзецям. Ён абапіраўся на мыліцы і ўсміхаўся. У хату вярнулася радасць.

Яшчэ месяц пабыў Аўдзей на бальнічным, раз у тры дні ездзіў з Антосем у райцэнтр на перавязкі, а потым вярнуўся на працу і з радасцю даведаўся, што Хведара перавялі на куратнік. «Самае найлепшае для яго месца: курэй шчупаць», — задаволена сам сабе пасміхнуўся Аўдзей. Пайшоў на стайню запрагаць свайго гнядога коніка, які, падобна было, узрадаваўся яму, пахітаў грываю, патупаў капытом ды спакойна падставіў шыю пад хамут.

— Ты ўжо на працы! Ачуняў! — пачуў за спінаю знаёмы голас Антося Самоты. — Ну, здароў!

— Як мае быць, — бадзёра адказаў Аўдзей, паціскаючы руку земляка.

— Мусіць, яшчэ баліць нага?

— Ці яна дурная балець? — адказаў пытаннем Аўдзей. — І весела дадаў. — Чуў, Жаўнера на куратнік накіравалі, курэй шчупаць.

— Яму не да курэй, ён Падалянку мацае…

— Ажаніўся, ці што…

— Сышоўся, жывуць разам, а жонцы і дочкам пасылкі шле. Ведаеш, у Лядах вялікія перамены наспяваюць.

— Якія?

— Электрастанцыю збіраюцца будаваць. Брат прыслаў ліст, піша, што тэхнікі рознай прыгналі, людзей на працу набіраюць, пачалі дарогу да Лядаў напрасткі праз лес пракладаць.

— Бач ты, усё-такі бяруцца будаваць. Гэта ж я калі з геолагамі працаваў, яны мне казалі, што будзе вялікае будаўніцтва, а я не надта верыў.

— Думаю, ці не вярнуцца дамоў, — заклапочана сказаў Антось. — Брат піша, што мой плот ужо нехта разабраў на дровы. Яшчэ трохі тут пажыву, дык і хату расцягнуць. Ведаеш, нешта замаркоціўся я, дамоў хочацца. Украінскія пшанічныя булкі смачныя, але наш чорны жытні хлеб мне мілейшы…

— Не ведаю, што табе параіць, Антось. Сам жыву, нібы на раздарожжы. Дактары кажуць, што Таісе клімат не падыходзіць. Ціск у яе высокі, галава часта баліць. Я таксама толькі што з хваробы выкараскаўся. Скуль яна ўзялася? Столькі гадоў мінула, і раптам выявілася, драмала з маленства, ад добрага жыцця ці што на нас хваробы нападаюць?

— Павінна ж нешта быць у чалавека кепска, — засмяяўся Антось. — Калі ўсё будзе добра, дык сапсее чалавек, сябе Богам уявіць. Ну, будзь здаровы, забягай калі…

— Цяпер забягу… Цяпер куды хочаш дабегчы магу…

Антось падаўся запрагаць свайго каня, а Аўдзей сеў на воз і паехаў у бок фермы, разважаючы пра тое, што і ў гэтым калгасе можна жыць, але ж дома лепш. Тут таксама не цукар. У багатай калгаснай каморы можна было ўзяць усё: крупы, гародніну, мяса, нават спечаны хлеб. Голад нікому не пагражаў.

Але ж за гэтыя харчы пасля давядзецца разлічвацца з заробку, калі вельмі шмат набіраць living рознае ежы, дык потым не будзе чаго атрымліваць. А без жывой капейкі што за жыццё. Два разы на год выплачваюць заробак, а грошы кожны дзень трэба. Дзеці падрастаюць, накарміць і апрануць мусіш. Добра, што Таіса ўмее прадаць на базары ў горадзе яйкі, зерне — усё што ўдаецца зарабіць ці падабраць у калгасе, што дрэнна ляжыць. А на радзіме ні кала, ні двара. Кандрат ажаніўся. У яго свая сям'я. Зноў у матчыну хату вяртацца, каб дзве нявесткі ля адной печы таўкліся? Зноў у калгас? Працаваць за пустыя працадні? Безумоўна, калі б дзе ў горадзе мець якое жытла і працу, дык неяк лягчэй было б зводзіць канцы з канцамі. Нічога, час пакажа…

На ферме сутыкнуўся са старшынёй калгаса, павітаўся.

— Аўдзей, даўно хотіў тобі сказаты, як надумаў зостатыся тут назоўсім, дамо тобі тую хату, у якій ты жывэш.

— Трэба падумаць, з жонкаю параіцца…

— Воно так… Думайтэ…

Старшыня ўзмахнуў рукою на развітанне, ускараскаўся ў брычку і пагнаў каня. Быў ён чалавек яшчэ малады, бадай, Аўдзееў равеснік, але ж вельмі тоўсты, здавалася, што аднойчы скура не вытрымае змесціва і паплыве тое, што пад ёю хаваецца, проста на зямлю. У вёсцы далі яму мянушку Люлька, ці таму, што люльку курыў, ці мо ў люльцы доўга залежаўся, ці мо з-за таго, што чэрава ў яго неяк асабліва калыхалася ў час хады. Хоць ён мала хадзіў пешкі, а звычайна ездзіў на двухколавай брычцы.

**29**

Паколькі Аўдзей так і не сабраўся адказаць старшыні, ці застанецца ён жыць у вёсцы, дык большую палавіну хаты вясною аддалі пад вырошчванне шаўкапрадаў. Паставілі стэлажы, на іх наслалі белую паперу, а па ёй рассыпалі маленькіх чорных чарвячкоў, даглядаць якіх прызначылі некалькі жанчын, у тым ліку і Таісу.

Ліза ад першага дня разам з мамай з вялікай цікавасцю назірала за шаўкапрадамі. Чарвячкі спачатку ляжалі непрыкметныя і бездапаможныя. Жанчыны прыносілі некалькі зялёных галінак шаўковіцы, раскладвалі на стэлажах, а гэтыя маленькія істоты прагна з'ядалі лісточкі і раслі. Хутка яны ператварыліся ў вялікіх тлустых белых вусеняў. І цяпер ужо цэлы воз галінак трэба было на дзень пражэрлівым стварэнням. Яны толькі і рабілі, што жавалі і жавалі. Аб'едзенае голле ніхто не прыбіраў. Яно ператварылася ў пасцель для чарвякоў, а зверху ўкладвалі ўсё новы галінкі. За ноч шаўкапрады моцна награвалі пакой сваім дыханнем. Але жанчыны вельмі асцярожна адчынялі форткі, каб не было скразнякоў, бо іхнія гадаванцы маглі прастудзіцца і захварэць. Тады ўся праца прападзе.

Ліза ездзіла ў сад разам з жанчынамі, якія ламалі тутавыя галіны і складвалі на воз, потым пешкі вярталіся назад. Абапал дарогі праз сухі, ушчэнт высмалены гарачым сонцам стэп, ляжалі жмуты сплеценых чырвоных сцёблаў. Жанчыны іх называлі «рак». У гэтым слове было нешта страшнае, якое асацыявалася з чалавечаю хваробаю. Ліза баялася браць у рукі гэты жмут, падобны да пераблытанага дроту. Дзівілася, што тут не растуць ніякія кветкі, толькі ў гародчыках у гаспадынь раскашуюць мальвы ды аксаміткі. У дзеда над Дняпром можна сустрэць пяшчотныя дробныя званочкі і рамонкі, духмяную мацярдушку і цыкорый, а ў затоцы дзівосна прыгожыя белыя лілеі і жоўтыя гарлачыкі. Ліза прыслухоўвалася да гаворак маладзіц,

рабіла нейкія свае дзіцячыя высновы. Праязджалі міма вялікай хаты, дзе ў двары немаладая кабета з кубка палівала на рукі хлопцу.

— Шчаслыва жінка, мужа з войны прычэкала, трох сыніў мае, — сказала адна жанчына, іншыя згодна паківалі галовамі.

Ліза зразумела, што жанчына, якая выгадавала трох сыноў, карыстаецца ў вёсцы павагаю. Да цёткі Марыі Тронь таксама добра ставяцца, у яе два сыны. І ўжо сваім наіўным дзіцячым розумам спасцігала, што трэба мець дзяцей, каб пра цябе гэтак жа хораша казалі.

Цэлае лета шчыравалі жанчыны ля тых шаўкапрадаў. Ажно Лізе трохі надакучыла за імі назіраць, яна пачала ўсё часцей збіраць ягады, якія даспелі на тутавых дрэвах. А потым і жанчыны перасталі вазіць голле чарвякам, бо тыя страцілі ўсялякую цікавасць да ежы, а пачалі звіваць коканы.

Аднойчы Ліза падслухала, што жанчыны збіраюцца наведаць Падалянку, якая нарадзіла дзіця ад Хведара Жаўнера. Сярод жанчын была мама, таму Ліза пайшла разам з імі, маючы на гэта ўсе падставы. Казалі, што Падалянка працавала настаўніцаю, была яна не тутэйшая, а з нейкага Падолля, дзе яно знаходзіцца, Ліза не ведала. З размоў жанчын яна зразумела, што Падалянцы вельмі не пашанцавала, бо яна нарадзіла без шлюбу, і радні тут няма ніякае, няшчасная жанчына, вартая жалю і спачування.

Хата ў Падалянкі была вялікая, але пустая. Злева стаяла печ, справа — стол з услонам, насупраць дзвярэй — ложак, на якім ляжала Падалянка, маладая зморaная жанчына. Побач з ёю папісквала дзіця. Няклікaныя госці паспачувалі гаспадыні, спыталі, мо ёй трэба чым дапамагчы. Яна адмовілася ад дапамогі, бо яе даглядала суседка. Ліза са шкадаваннем глядзела на дзіця і думала, што ў маленькага ніколі не будзе роднага бацькі, а мо толькі чужы айчым. Бездапаможна шукала адказ на пытанне, якое даўно даймала яе: «Чаму бацькі пакідаюць сваіх дзяцей?» Мусіць, каб хто з дарослых і паспрабаваў адказаць ёй, дык адказ быў бы вельмі разгорнуты і павучальны. Зрэшты, у той час дзеці не задавалі бацькам няёмкіх пытанняў.

Жанчыны развіталіся з парадзіхаю, выйшлі на двор і пачалі абгаворваць Жаўнера, які на радзіме пакінуў двое дзяцей, ды і тут яшчэ жанчыну падмануў і ўмыў рукі.

— Я чула, што ён наогул дамоў збіраецца, — сказала Таіса.

Гэта была чыстая праўда. Бо лядчукі паціху пачалі вяртацца дамоў. Першым паехаў Антось Самота са сваёй вялікай сям'ёй, цяпер і Жаўнер з маці і сястрою сабраўся ў дарогу. Смаленцы з'ехалі яшчэ раней. Толькі Таіса з Аўдзеем ніяк не маглі адважыцца на нешта канкрэтнае: заставацца ці ехаць.

Да восені шаўкапрады зніклі, Ліза нават не заўважыла, як гэта здарылася, а таму вельмі шкадавала. Яна ведала, як прадуцца ніткі на верацяно. Няўжо і шаўкапрады маюць свае маленькія потасі і верацёны? На сухіх галінках насцілу засталіся толькі белыя шарыкі кокaнаў, якія калгасніцы сабралі своечасова, пакуль не прачнуліся кукалкі і не пашкодзілі прадзіва, а таму няблага зарабілі за сваю клопатную працу.

Насціл з галінак Таіса папаліла ў печы, стэлажы вывезлі ў калгасную камору, вызвалілі другую палавіну хаты. І зноў паўстала пытанне: ехаць ці заставацца? Вырашылі ехаць. Аўдзея цягнула ў Ляды, бо там пачыналася будоўля, можна было знайсці працу. Таісе не хацелася, каб яе муж вярнуўся зноў у тое асяроддзе, дзе без меры п'юць самагонку, дзе свякроў спявае песню, каб муж счарніў жонку на чорную галку. Яна схіліла Аўдзея ехаць да яе бацькі. Яны зарабілі трохі грошай, за іх можна будзе купіць паблізу хату, перавезці бліжэй да радні.

Ліза ціха радавалася таму, што нарэшце вернецца ў дзедаву вёску, да свайго любімага Дняпра. Хацела нешта прывезці ў падарунак цёці Полі. Прыгледзела брошку — пластмасавую гронку чырвоных ягад з зялёнымі лісточкамі за тры рублі і ўпрасіла маму купіць яе. Калі заставалася адна, любавалася, як ёй здавалася, такой прыгожай рэччу, і была перакананая, што цёці Полі яна спадабаецца.

Старшыня не пярэчыў рашэнню Аўдзея, разумеў, кожнага чалавека цягне на радзіму, нават машыну даў, каб завезці былых калгаснікаў на вакзал у абласны цэнтр. А багажу ў іх набралася даволі шмат: па-першае, заробленая пшаніца і семкі, па-другое, ужо трохі рэчамі абжыліся, не кідаць жа гэтае гаспадарчае дабро, набытае з такою цяжкасцю.

Бацька Таісы і сястра Поля быццам з радасцю сустрэлі гасцей. Стары нават пайшоў у суседнюю вёску і дамовіўся купіць хату, якую можна было перавезці, перасыпаць ды падладзіць. Але заўпарцілася Поля, сказала, што спярша няхай бацька пабудуе сабе хату, а потым — Таісе. Усё паўтаралася. Некалі бабуля Аксіння не хацела, каб сын будаваў хату для жонкі, а распачала сваю будоўлю. Цяпер Поля думала пра сваю карысць. Яе можна было зразумець. У вайну аўдавела, сама гадавала сына. Калі бацька не пабудуе новую хату, з чым яна застанецца? А ў Таісы ёсць муж, грошай зарабілі, не прападуць. Калі хочуць, няхай самі будуюцца, як усе людзі. Бацька стары, яму з калгаса вязуць рознае начынне ладзіць, калі гэта ён паспее ўсё зрабіць пры слабым здароўі. Таіса з Аўдзеем зноў апынуліся на раздарожжы: што рабіць? Выйсця не было, вырашылі вяртацца ў Ляды.

Ліза не хацела нікуды ехаць. Найлепш ёй было б застацца тут. Хаця за тыя гады, пакуль яна не была ў дзедавай вёсцы, шмат што змянілася. Сын цёці Полі Віця вырас і вучыўся ў Магілёве. Дзед прыкметна пастарэў, маўчаў, на Лізу не звяртаў ніякае ўвагі. Яна помніла яго іншым, ласкавым і ўсмешлівым. Ды і цёця Поля быццам счужэла. Падораную брошку ні разу не надзела, нават не прымерала. Ліза з жалем зразумела, што час знішчае ўсё лепшае, і нельга вярнуць тое, што ты некалі пакінуў, помніў і любіў. Яна не стала прасіць цёцю Полю, каб дазволіла застацца ёй тут. Ведала — не пагодзіцца. Ды і мама, мусіць, не захоча пакідаць дачку. Дзеці — людзі паднявольныя, ва ўсім залежаць ад бацькоў, настаўнікаў і іншых дарослых людзей.

Ліза сумавала перад разлукай з любым куточкам, гадзінамі сядзела ў дзедавай лодцы на беразе ціхай затокі Дняпра, назірала за стракозамі з вялізнымі пукатымі вачамі і празрыстымі крыламі, за вадамеркамі, якія нястомна коўзаліся па паверхні вады, любавалася лілеямі і гарлачыкамі, сачыла за касякамі малькоў і вялізнымі шчупакамі, што падплывалі да самага берага. Нават не спрабавала іх лавіць, ведала, рыбу ў вадзе голымі рукамі не зловіш. Душой яна ўбірала кранальнае хараство бярозак і асінак на гары і спакой старой грушыдзічкі, удыхала духмяны водар хмелю, які прагна абвіваў гнуткую каліну, і асцерагалася калючак ажыны, хоць і любіла яе кіславатыя ягады, каб усё гэта панесці ў сваім сэрцы, сумаваць па ім і марыць пра вяртанне сюды зноў.

## 30

У Лядах зямля ўпарта супрацьстаяла людзям і машынам, калі яны распачалі будаўніцтва. Першы экскаватар адважна рушыў у пракаветную дрыгву, каб капаць катлаван пад падмурак электрастанцыі, але яго засмактала ў чорнае прадонне. Будаўнікі пачалі дзейнічаць больш асцярожна, перш асушылі пляцоўку, выбралі торф і толькі тады ўзяліся за справу.

Мясцовая моладзь кінулася наймацца на працу, бо на будаўніцтва патрабавалася мноства людзей. Справа знайшлася ўсім. Сабакарова Стэпка, Бабціна Луця і шмат іншых дзяўчат, якія былі зусім непісьменныя, пайшлі землякопамі. Барбарыны дочкі паспелі скончыць пачатковую школу, таму ўладкаваліся тынкоўшчыцамі. Каб авалодаць прафесіяй і здаць на разрад, трэба ўсё ж нешта пачытаць ды адказаць на пытанні. Мікола Ленінка хацеў працаваць шафёрам, але на той час такія спецыялісты не былі патрэбныя, таму ён падаўся ў электрыкі, прадбачыў перспектыву гэтай прафесіі, пэўна ж, на элетрастанцыі яны будуць галоўныя. Бузюмішын хлопец са сваімі аднагодкамі наняліся мулярамі. Падлеткі, што скончылі па восем класаў, імкнуліся паступіць у электратэхнічны тэхнікум, што ў Маладзечне. Толькі Малашын Кандрат нікуды не ішоў. Ён з пагардай пазіраў на здраднікаў, якія не хацелі працаваць на зямлі, а шукалі лёгкага хлеба, не верыў, што за тыя грошы, якія людзі зараблялі на будоўлі, можна неяк пракарміцца і апрануцца. Ягоная сялянская душа адчувала адно: без уласнай бульбы, жыта, гародніны чалавеку не пражыць. Ягоныя рукі, спрэс пакрытыя шэрымі барадаўкамі, быццам да іх прысталі камякі зямлі, прагнулі працы, напругі і задавальнення ад зробленага. Скура на ягоных далонях была такая тоўстая, што ніякія мазалі яе не бралі. Жыццё ў горадзе здавалася яму ненадзейным. Вунь як было з Аўдзеем, звольнілі з працы і куды хочаш ідзі, як хочаш жыві. А зямля заўсёды гатовая служыць чалавеку, абы ён толькі не шкадаваў сілы працаваць на ёй з любасцю і жаданнем.

На будаўніцтва, якое афіцыйна называлася Дзяржаўная раённая электрычная станцыя — ДРЭС, прыехала мноства чужых людзей, для іх будавалі трохпавярховікі, для начальства — катэджы, астатніх сялілі ў вагончыках, якіх тут было шмат, нават у палатках. Той-сёй з халасцякоў кватараваў у вясковых гаспадароў, каб заадно харчавацца няхітраю сялянскаю ежаю. Некаторыя паспешліва жаніліся на мясцовых дзяўчатах, свежых і цнатлівых. Падбіралі самых маладзенькіх. Бузюмішына Надзя, якой толькі споўнілася васямнаццаць, таксама выйшла замуж за прыезджага хлопца, на дзесяць гадоў старэйшага за яе. Вясковыя жанчыны нахвальвалі маладога, казалі, што хлопец добры, непітушчы і багаты, налічылі ў яго ажно васямнаццаць сарочак. У дадатак да ўсяго быў ён сірата, чым выклікаў у кабет яшчэ большае спачуванне.

Усіх прыезджых мужчын, незалежна ад таго, чым яны займаліся, называлі мантажнікамі. Сярод чужой моладзі было шмат буянаў. Яны па святочных днях і нядзелях напіваліся, прыходзілі ў вёску на танцы ці швэндаліся ад няма чаго рабіць, учынялі бойкі паміж сабою ці з тутэйшымі хлопцамі, якіх называлі гондамі. Біліся да крыві, так што ляжалі покатам, не здатныя нават варухнуцца, як на полі бою.

Вясковая моладзь пераймала лад жыцця прыезджых. Цяпер па вечарах толькі падлеткі ды няўдаліцы збіраліся на вячоркі ў навакольных сёлах. Моладзь хадзіла ў клуб, дзе паказвалі кіно і наладжвалі танцы. З гэтае нагоды нават склалі прыпеўку на матыў вядомай польскай песенькі: «Ціха вода бжэгі рве…»:

Ціха вода — чумергес,
Выпіў шклянку — і на ДРЭС.

Кандрат ненавідзеў гэтую чужую навалач. Адзін ваяваць з кампаніяй не адважваўся, але часам лавіў якого мантажніка і даваў яму кухталёў, каб не тантаў смурод чужую зямлю. Аднак неяк трапіўся яму такі адважны мантажнік, што не толькі надаваў Кандрату кухталёў, але брыдка аблаяў ды пагнаўся за ім у двор, крычучы:

— Стой, гонда недарэзаны!

— Маці! — крыкнуў Кандрат, баронячыся ад цяжкіх кулакоў. — Мяне мантажнік б'е!

Малаша схапіла ў сенях з лавы сякерку і кінулася на дапамогу сыну. Яна, разгневаная і ваяўнічая, быццам з-пад зямлі вырасла перад чужынцам, цюкнула яго сякеркаю ў лоб, той заліўся крывёю і пабег з двара.

— Чаго ты, дурню, бярэшся біцца з дужэйшым за сябе, — папракнула Кандрата маці.

— Скуль я мог ведаць, што ў яго кулакі, як бязмены…

— Мусіць, у цябе скура свярбіць, што чапляешся да абы-каго.

— Няхай не ходзяць тут! Гэта наша вуліца!

— Была наша, ды ўсё забралі. Якое поле мелі мы пад Янавічамі! Колькі я ў яго ўклала працы! Цяпер там Харунжы з хаўруснікамі сабе пляцы бяруць. У ваколіцах ведала я кожную лагчынку і балацянку, а цяпер нічога не пазнаць, перакапалі, бы свінні лычамі…

Кандрат уздыхнуў. Ён марыў пабудаваць новую хату не на старым котлішчы, а дзе-небудзь далей ад гэтага вэрхалу на скрыжаванні, на выгане ці ў гайку, каля Харунжага, каб глеба была ўрадлівая, не такая, як тут на ўзгорку. У Ленінкі ды ў Клема, якія жывуць насупраць, значна лепш родзяць капуста і гуркі ў нізінцы. На хату трэба мець грошы. А зарабіць Кандрат іх мог толькі адным спосабам, ездзячы на Украіну. Гэта ён і рабіў з году ў год, складаючы капейку да капейкі і не дазваляючы Ульяне ніякіх непатрэбных пакупак.

**31**

Калі Аўдзей вярнуўся ў родныя мясціны, дык не пазнаў іх. На былым полі стаяла каля дзясятка трохпавярховых будынкаў, вуліцы часткова пакрытыя бетонам. Прайшлі далей і ўбачылі прамтаварную краму.

— Ды тут заблудзіцца можна, — усміхнулася Таіса.

— Мусіць, мне тут праца знойдзецца, — сказаў Аўдзей, пазіраючы на высокі вежавы кран каля будынка, на якім працавалі муляры.

Прыйшлі ў Ляды, у двары іх сустрэў Кандрат і трое ягоных малалетніх сыноў. Кандрат абняў брата і задаволена сказаў, паказваючы на малых:

— Гондэ мае лётчыкі!

Адзін дзень патаўкліся госці разам з гаспадарамі ў хаце, разважаючы, дзе каму жыць, а потым Аўдзей з Таісай пачалі абжываць камору з адным акенцам, грубкаю і земляною падлогаю. Паміж сценамі якраз умясцілі два ложкі: адзін для сябе, другі для дзяцей. Праўда, каб паставіць дзіцячы ложак давялося трохі падчасаць сцяну, бо замінала грубка. Замест стала служыла Малашына скрыня, ля яе паставілі ўслон. Была тут яшчэ і шафа, паточаная шашалем і пафарбанаваная блакітнаю фарбаю, здабытая гаспадыняю ў той час, калі ў чарговы раз мянялася ўлада. На падлогу паклалі ліст фанеры.

Першым паглядзець, як яны ўладкаваліся, забег Антось Юдалька. Дома застаў толькі Таісу і Лізу, павітаўся, пахваліў каморку, якую яны няблага абставілі, даў па яблыку гаспадыні і дачцэ, спытаў пра жыццё-быццё. Таіса пачала скардзіцца на здароўе.

— Вой, Антаселя, зусім я занемагла. Усё ў мяне ў сярэдзіне баліць, а галава расколваецца. Мусіць, хутка памру. Ужо і на смерць усё падрыхтавала. Ці ты дапаможаш хоць яму выкапаць?

— Вой, Цімафееўна, пра што гаворка! Я табе такую яму выкапаю, што ўсе нябожчыкі на могілках пазайздросцяць! — засмяяўся госць.

— Люблю я тваю ўсмешку! Добры ты чалавек! Такія рэдка сустракаюцца, — шчыра сказала Таіса, пазіраючы Антосю ў вочы.

Гэты позірк працяў да сэрца. Так і карцела Антосю прыгарнуць мілую маладзіцу да грудзей, але стрымаўся і паспяшаў пакінуць чужое жытло далей ад граху.

Міцьку з Лядаў вывезлі зусім малым, у яго памяці не захавалася ніякіх успамінаў, таму ён з цікавасцю выйшаў з весніц, аглядаў вёску. Раптам да яго падбег Клемаў баран і тыцнуў рогамі ў грудзі. Малы зваліўся, а толькі падняўся на ногі, як баран зноў пхнуў яго. Міцька зароў з усяе сілы, бездапаможны перад гэтаю страшнаю рагатаю жывёлінаю. На дапамогу прыйшла Клемава сястра Вера, якая прагнала барана, падняла хлопчыка, выцерла запэцканыя рукі і апратку, пашкадавала і пацалавала. Праз акно ўбачыла іх Таіса, выбегла з хаты ратаваць сына. А Міцька ўжо ачомаўся на добрых Верыных руках і сказаў маці:

— Як вырасту, яе замуж вазьму.

Жанчыны засмяяліся: Таіса весела і замілавана, Вера — з прыхаваным сумам, бо і сама марыла некалі займець дзяцей ад свайго Аверкі, а яго ўсё трымалі ў турме.

Ліза пры першай жа нагодзе аббегла і агледзела наваколле. У канцы вёскі заўважыла нечыю новую клуню, а старой таполі на скрыжаванні, дзе некалі яна бавілася апалымі кутасікамі, ужо не было, нават пня не засталося. Затое поплаў быў на месцы, і сажалка сінела халоднаю вадою. Зірнула ў бок Янавічаў з надзеяю ўбачыць ветраны млын, але не знайшла яго і пашкадавала. Раней ён вельмі ўпрыгожваў прастору, навошта яго раскідалі? Ці не таму, што хлеба ўдосталь у краме? Няхай бы стаяў проста для прыгажосці. Хацелася яшчэ наведаць гаёк, але дзень выдаўся ветраны і дажджлівы, яна адклала тую вандроўку.

Так выпала, што ў той жа дзень Клем запрасіў Малашу і яе сямейнікаў на гадавіну па сваёй жонцы. Былі там яшчэ некалькі суседзяў ды родзічаў, якіх Таіса не ведала. Побач з гаспадаром, якому было гадоў шэсцьдзясят ці болей, сядзела маладжвая кабета і шчасліва ўсміхалася. Цёпла згадвалі Клемаву жонку Еву, хвалілі, што была добрая маці і гаспадыня. Таіса слухала і не верыла сваім вушам. Ведала, што ўсе суседзі лічылі Пеўніху ведзьмаю, баяліся і пазбягалі лішні раз мець з ёю стасункі. Смерць усіх прыбірае. Вось і ведзьма памерла раней за сваіх равесніц, не дапамаглі ёй яе чары. Аднак няўжо для таго, каб цябе ацанілі і палюбілі, трэба памерці?

Гэтая вячэра вельмі мала нагадвала памінкі. Пасля трэцяй чаркі гаспадар зацягнуў песню «Последній нонешній дзянёчак…», якую ён прывёз з Першай сусветнай вайны, дзе пораху панюхаў, у акопах пасядзеў, і паранены быў. Сваю мілую суседачку за сталом называў «драгацэннай жабушкай», таксама выраз прывезены з таго ліхалецця. Падслухаў тыя словы ад паручніка, які мілаваўся з медсястрою-каханкаю ў шпіталі.

Клемава знаёмая была з Вайцехаў і найраней сабралася дахаты. Гаспадар пакінуў гасцей на сястру Веру, а сам пайшоў праводзіць госцю. Даўгавата яго не было, а вярнуўся ён моцна запэцканы зямлёю.

— Ці ты, дзядзька Клем, зямлю носам араў, ці бабу кахаў? — засмяяўся Кандрат.

— А бадай яго… Спатыкнуўся, ледзь шыю не зламаў, — адказаў гаспадар, але ніхто яму не паверыў, усе зразумелі, што «жабушка» спакусіла Клема.

У той вечар гаворка найбольш круцілася вакол будоўлі ды вяскоўцаў, якія знайшлі там працу і добра зарабляюць. Адзначалі, што нават былы старшыня калгаса Рогаў пайшоў туды працаваць начальнікам аддзела кадраў.

— А я не пайду, — сказаў Кандрат. — Ці за тыя сто ці семдзесят рублёў у месяц я здолею пабудаваць новую хату? Ды разыдуцца тыя грошы абы-куды. А як паеду на Украіну, дык адразу некалькі тысяч прывязу, а яшчэ зерня тону. Тады і будзе з чаго падмурак закладаць.

— Цёмныя мы, не ведаем, дзе наша доля, а дзе бяда, — разважліва сказаў Клем. — Помніце, як некалі Банадысь утапіўся толькі з-за таго, што Нічыпар яго падмануў і сказаў, быццам уступіў у калгас, маўляў, і ты паспяшай, бо спознішся. Банадысь паверыў, пайшоў ды запісаўся і аказаўся першым калгаснікам у Лядах. А як даведаўся праўду, дык так набраў у галаву, так спалохаўся, што пабег у возера смерці шукаць. А мы вось ужо колькі год у гэтым калгасе — і нічога, жывыя! Цяпер мае сыны на будоўлі працуюць, зарабляюць. Я задаволены… Зрэшты, хто чаго варты, той тое мае, — падвёў рысу ў гутарцы гаспадар і зірнуў на гадзіннік, які цікаў на сцяне.

Госці зразумелі, што пара разыходзіцца, ноч на дварэ, і пачалі паціху ўставаць з-за стала, хто моўчкі, а хто і з песнямі.

Таіса доўга не магла заснуць у тую ноч, усё думала, што яно ёсць на самай справе тое каханне? Клем пражыў з Еваю ўсё жыццё, а не паспеў мінуць адзін год пасля яе смерці, як у яго ўжо завялася жаданая «жабушка». Ганя кляўся і бажыўся, што кахае яе, Таісу, а ягонага кахання і на тры гады не хапіла. Вось і Аўдзей быццам кахае, але п’яны жорсткасцю знішчае лепшыя пачуцці. Ды і бацька яе быццам і вельмі кахаў маці, а як аўдавеў, таксама хацеў прывесці новую жонку ў хату, ды Поля не дазволіла. Выходзіць, няма вечнага кахання. Як жа гэта наогул атрымліваецца, што чужы чалавек раптам становіцца найраднейшым, а потым раптам усё рушыцца, знікаюць прыязнасць і захапленне, а застаецца толькі расчараванне і нянавісць? Згадаўся ёй дваюрадны брат Кастусь, у якога яна малою пільнавала дачку Анютку, бо жонка сама не ўпраўлялася. Было гэта яшчэ да вайны. Няшчасная доля выпала брату, хоць быў ён хлопец відны, высокі і дужы. Ажаніла яго Гарпіна на сабе, як усе казалі, праз чараўніцтва. З твару яна была прыгожая, але нарадзілася калекаю, адна нага мела выгляд капыта. Людзі казалі, што яна чытала Чорную кнігу і займалася вядзьмарствам. Першы яе мужык пажыў з ёю колькі гадоў, а потым утапіўся ў Дняпры, другі наогул некуды згінуў.

Кастусь вярнуўся з войска, гуляў каля школы з хлопцамі ў футбол, шынель павесіў на плот. Прыйшла Гарпіна, спытала, чый гэта шынель, калі даведалася, што Кастусёў, узяла яго і пайшла, сказала толькі:

— Няхай прыйдзе і забярэ.

Як пайшоў Кастусь па сваю апратку, дык і застаўся ў Гарпіны. Маці яго, цётка Куліна, плакала і ўпрошвала сына пакінуць злую чараўніцу, але нічога не памагало. Праз год Гарпіна нарадзіла дачку. Ціха і мірна жыла сямейка, калі прыйшла да іх Таіса няньчыць немаўля. Гарпіна гаманкая, Кастусь маўклівы, задуменны, балела яму спіна, з вялікай сілы падарваўся на калгаснай працы, таму ў вольную часіну грэўся на печы ды гартаў тую саму Чорную кнігу, якая ляжала на комінку.

Аднойчы раніцаю сказаў, што пойдзе ў сельсавет па нейкай справе. Гарпіна таўклася каля печы, а Таіса калыхала Анютку. Раптам крук, на якім вісела калыска, абарваўся і калыска паляцела на падлогу. Дзіця зайшлося ад плачу. Гарпіна кінулася да малой, праклінаючы мужа, што ён такі няздара, нават калыску не мог прымацаваць як след, ледзь дзіця праз яго не забілася.

Малая хутка супакоілася, толькі спалохалася, нічога не пашкодзіла, а Гарпіна ўсё пасылала праклёны на мужаву галаву. Потым спахапілася, што трэба бялізну зняць, паслала няньку. Таіса залезла па драбіне на вышкі і ўбачыла, што Кастусь стаіць.

— Што ты тут робіш? — спытала яна.

Ён нічога не адказаў. Таіса кранула яго рукой — ён бязважка хітнуўся, узняла вочы ўгору — убачыла, што вісіць ён на дроце, прымацаваным да крок-вы. Ад жудасці закрычала, старчма паляцела з вышак, добра, што ўнізе быў гной, бо ў сенцах стаяла карова, дык дзяўчо не пакалечылася.

Потым прыйшлі родныя і суседзі, знялі Косцю. Ляжаў ён на ўсю кухню, здаецца, яшчэ даўжэйшы стаў, чым пры жыцці. Такое было ягонае каханне, што і жыць з Гарпінай не мог, і пакінуць яе не здолеў, выбраў смерць, каб вызваліцца ад нядолі.

Анютку забрала да сабе цётка Куліна. Вельмі ж бедавала маці, галавою аб сцяну білася, не магла змірыцца са стратаю сына. Тады прыставілі Таісу да цёткі сачыць, каб яна з сабою чаго благога не ўчыніла. Так і хадзіла малая за Кулінаю ўслед, ні на крок не адступала. Цётка карову доіць — Таіса пры ёй, грады поле — таксама. Кулінін муж, дзядзька Хведар, любіў Таісу як родную дачку. Сядуць абедаць, ён яе возьме на рукі і які кавалачак мяса знойдзе ў крышанах, ёй дае. У дзядзькі і цёткі таксама было дзіўнае каханне. Пасварац-ца яны за што-небудзь, Хведар складзе ў мех чыгунок, яшчэ якія мужчынскія прычындалы і пойдзе ў лес. Цётка Куліна з Таісаю сунуцца за ім следам і ўпрошваюць, каб вярнуўся дамоў. Урэшце лад і згода зноў вярталіся ў сям'ю.

Ужо наколькі Таісін бацька кахаў сваю Хрысціну, але аднойчы і яны нешта непаладзілі, дык ён так раз'ятрыўся, што ўсе гаршкі з вазонамі пакідаў у парог ды паразбіваў. Цяжка пражыць жыццё з чалавекам, папярэджваючы ўсе ягоныя жаданні, патураючы прыхамацям, бо пры гэтам трэба забыць на сябе, здрадзіць сваёй душы, памкненням і марам. Ці варта так жыць, ці спра-вядліва губляць сябе, раствараццa ў іншай асобе дашчэнту?

**32**

Аўдзею адразу знайшлася праца ў брыгадзе бетоншчыкаў, тым больш што ён меў пасведчанне, атрыманае на іншай будоўлі аб чацвёртым разрадзе. Такім чынам, якія б там заробкі ні былі, а ён будзе атрымліваць толькі трохі менш за брыгадзіра. Гэта яго цалкам задавальняла і надавала гонару.

Таісе прапанавалі капаць зямлю разам з Антолькаю Сабакароваю і Луцяю Бабцінаю. Яна адмовілася, ведала, што з яе ціскам там працаваць не здолее, таму пакуль гадавала Міцьку ды займалася хатняю гаспадаркаю, развяла курэй, трымала іх у хлеўчыку, збітым з дошак. На даху гэтага няхітрага збуда-вання пасадзіла цыбулю ў скрынцы, чым вельмі здзівіла лядчукоў. Яны кожны раз, праходзячы міма, тыцкалі пальцамі ў бок цыбулі і пасмейваліся. Гэтая маленькая Таісіна гаспадарка ўсё ж дапамагала выжываць сям'і на мізэрны Аўдзееў заробак.

Малаша вельмі злавала на Таісіных курэй, якія грэбліся ў двары, а іншы раз забягалі і на грады, нагою прытоптвала разгрэбеную зямлю і праклiна-ла нявестку і яе жыўнасць. Давялося адгарадзіць каля куратніка маленькую вальеру, каб куры не хадзілі на волі.

У Аўдзея, хоць ён і жыў пакуль у вёсцы, пачалося новае гарадское жыццё. Хата, гарод і двор цяпер належалі малодшаму брату, а Аўдзей тут быў толькі кватарантам. Калі надыходзіла нядзеля, Аўдзей сумаваў без працы і бурчаў сабе пад нос: «Што рабіць? Хоць у калкі галаву саджай…» Ішоў у краму, купляў пляшку гарэлкі і напіваўся. Але піць аднаму было нецікава. Кандрата дома не было, ён у чарговы раз з'ехаў на заробкі. Таму Аўдзей пачаў запра-

шаць да сябе дамоў халастога хлопца Гену з брыгады бетоншчыкаў, якому было выгодна ўзяць пляшку, прыйсці ў госці, паабедаць ды павячэраць. Калі гарэлка заканчвалася, Аўдзей з Генадзем ішлі гуляць на ДРЭС.

Таісу непакоіла і раздражняла, што зноў паўтараецца старое, як было з Ганем, які таксама хадзіў гуляць адзін і вяртаўся дамоў пад ранне. А потым, калі яна з'ехала, наогул пабраўся з былою палюбоўніцаю.

Таіса ўшчувала Аўдзея, калі ён прыходзіў позна з прагулянкі. Ён адказваў, што ў свой вольны ад працы час мае права павясяліцца і добра адпачыць, каб потым з новай сілай працаваць цэлы тыдзень. Гэтая размова патроху перарастала ў сварку, а часам і ў бойку, таму жонцы даводзілася ўцякаць з хаты і сярод ночы туляцца па суседзях. Ліза назірала за гэтаю калатнечаю ў сям'і і з адчаем думала: «Навошта так жыць? Навошта заводзіць дзяцей? Дзеля чаго яны сварацца і брыдкасловяць, б'юцца і мірацца? Як гэта можна забыць і дараваць?.. Я ніколі не пайду замуж… Мне будзе добра адной…»

Кандрат пасля вяртання з заробкаў паводзіў сябе ў двары як гаспадар, якому ўсе павінны падпарадкавацца. Калі яму здавалася, што Міцька спрабуе крыўдзіць ягоных дзяцей, хапаў, што трапляла пад руку, малаток ці кій, і бег разбірацца. Але Таіса пільна сачыла, каб нічога дрэннага не здарылася з сынам, і паўставала на шляху Кандрата. Ён ненавідзеў яе, лічыў, што яна прыкідваецца хворай, ухіляецца ад працы на будоўлі гэтак жа, як некалі ні дня не згадзілася працаваць у калгасе, і злосна пытаў:

— Хітрая, калі ўмірацьмеш?

— Пасля цябе, — адказвала яна.

На тым гаворка абрывалася, яны разыходзіліся, атручваючы ўласныя душы нянавісцю і пагардай. Але Кандрат быў перакананы, што брат з сям'ёю жыве тут часова і ніякіх правоў не мае на бацькаву хату. Толькі ён, малодшы сын, павінен дагледзець маці да смерці.

Ліза пайшла вучыцца ў школу, на гэты раз рускую. Паколькі на бабінай скрыні гатаваць хатнія заданні было нязручна, яна запісалася ў групу падоўжанага дня і з'яўлялася дамоў толькі пад вечар. У першых дзвюх чвэрцях у яе яшчэ былі тройкі па беларускай і рускай мовах, але да канца года яна выправілася і атрымала добры табель, у якім былі толькі дзве чацвёркі, а ўсе астатнія адзнакі толькі выдатныя.

Вясной баба Малаша дазволіла Лізе пасадзіць у гародчыку кветкі, дала нейкага насення, нешта дзяўчынка выпрасіла ў Бузюмішыных дачок. Летам пад вокнамі старой хаты закрасавалі аксаміткі, настуркі, астры і яшчэ нейкія кветкі, назвы якіх Ліза не ведала. У гайку яна накапала ландышаў і таксама пасадзіла ў гародчыку, цяпер любавалася кветкамі, старанна даглядала, палівала, палола і ведала, што нарэшце яна займела магчымасць з'явіцца першага верасня ў школу з букетам. Шкада толькі, што не было тут маёраў, пра якія яна марыла некалі, жывучы ва ўкраінскай вёсцы. Але спадзявалася, што калі-небудзь знойдзе насенне і тых кветак.

На лета школьнікам выдалі спіс літаратуры. Ліза набрала ў школьнай бібліятэцы кніжак і запоем чытала. Часам хадзіла па знаёмых мясцінах, на балотца, дзе па-ранейшаму плавалі галавастыя пранікі, якія потым ператвараліся ў жаб, звіваліся чорныя п'яўкі, а луг стракацеў мноствам кветак. Цяпер яна дабіралася ажно да гайка, дзе жыў Харунжы. Зялёны востраў акружалі равы, напоўненыя чорнай вадой, абсаджаныя з двух бакоў высокімі дрэвамі. Толькі ў адным месцы на востраў быў перакінуты мост з тоўстых бярвенняў. Сярод ліп, дубкоў, алешын сустракаліся і вішні, якія вабілі спелымі ягадамі. Унізе рос маліннік. У бабы Малашы не было ў агародзе ніводнае вішні, таму

Ліза аднойчы знарок пайшла ў гаёк, каб паласавацца там ягадамі. Залезла на дрэва, зрывала вішні, уяўляла, што іх зараз процьма ў дзедавым садзе. Знізу раптам пачуўся голас:

— Ці ты садзіла гэтыя вішні, што гондэ рвеш іх?

Гэта была Харунжыха, якая ледзь не ўвесь гаёк лічыла сваёй уласнасцю. Ліза злезла з вішні і пайшла, не азіраючыся. Зрабілася прыкра на душы, быццам учыніла нешта непрыстойнае. Было крыўдна, бо Харунжыха таксама не садзіла гэтыя дрэвы. Яе сядзіба ў іншым баку гайка.

Каб летам паесці ягад, трэба было або прыляпіцца да жынчын, якія ішлі ў лес у чарніцы, або пашукаць пакінуты хутар, дзе яшчэ не здзічэў і пладаносіў сад. Ліза хадзіла ў чарніцы, у грыбы, па шчаўе, калі толькі было з кім, але ў гэтым ёй не заўсёды шанцавала. У вёсцы былі жанчыны, якія добра ведалі тутэйшы лес, а таму не жадалі мець ніякіх кампаньёнаў, асабліва чужых дзяцей, за якіх, крый божа, яшчэ давядзецца адказваць. Аднойчы Ліза з мамаю і Міцькам увязаліся за Юстыніхаю. Спачатку ішлі поруч. А потым Юстыніха набрала такую хуткасць, што яе і на ровары, мусіць, ніхто не дагнаў бы. Ліза з мамаю мо подбегам угналіся б за гэтаю маленькаю, але надзвычай хуткаю на нogі жанчынаю, але ж тармазіў Міцька, які час ад часу прасіўся на рукі і не мог гэтак хутка хадзіць.

Адсталі яны ад Юстынхі, паціху дайшлі да лесу, ягады збіралі ўдоўж дарогі, не заглыбляліся ў нетры, каб не заблудзіцца, а пасля нечакана напаткалі пакінуты хутар, нарвалі там кошык вішань, папілі смачнай вады з яшчэ жывога калодзежа і шчаслівыя вярнуліся дамоў. Як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце памагло. Хаця ў кожнага свая памыснасць, толькі не ўсе гэта разумеюць і не заўсёды могуць належным чынам ацаніць тое, што ім пасылае лёс.

## 33

Праз год Аўдзею далі пакой у бараку, дзе на дзвюх кухнях варылі на прымусах абеды васямнаццаць гаспадынь, а па калідоры бегала мноства дзяцей рознага ўзросту. Тут жыў рабочы люд, размаіты па нацыянальнасці і светапоглядах, але аб'ядноўвала іх вялікая будоўля і аднолькавыя ўмовы жыцця, дзе прыбіральня і калонка з вадою былі на вуліцы. Паступовa Ліза пазнаёмілася з жыхарамі гэтага шумнага, як вулей, жытла.

Злева ад іхняга пакоя жыла сімпатычная і ладная пара з маленькаю дачушкаю. Гаспадар Максім меў дзядзьку ў Амерыцы, які прысылаў маладым прыгожыя рэчы. Дзяўчынку сваю яны апраналі, як лялечку, Ліза любіла з ёю гуляць.

Справа жыла прыгожая і высокая маладая жанчына Зося, да яе заляцаўся высачэнны, з вырачанымі вачамі Шамрай, страхапудны з выгляду. Ён ездзіў на грузавой машыне і часта некуды вазіў сяброўку, мусіць, да яе бацькоў у вёску.

Насупраць жыў Віктар з Волагды, жанаты на тутэйшай Мані, мелі яны дзве малыя дачкі. Гаспадар да капейкі аддаваў заробак жонцы, а потым кожную надзелю прасіў: «Дай рублішко на вінчышко». Яго інакш у бараку не называлі, як Вінчышка.

Далей жыла тоўстая рыжая мардоўка. Муж у яе быў худзенькі і маленькі чалавечак, абое працавалі на земснарадзе, як яны казалі, матросамі. Дачка Маруська ўдалася ў маму, такая ж рыжанькая і вясёлая. Мардоўка з захапленнем казала пра яе: «Мой Маруське хітры, як старый баб!» Мардоўка была на дзіва руплівая гаспадыня, яна наварвала варэння, запасалася на зіму салёнымі

гуркамі і квашанаю капустаю, як ніхто. Казалі, што яна з мужам разабрала падлогу і выкапала сабе склеп, каб захоўваць прыпасы. Таіса ўзялася няньчыць Маруську, бо для малой не было месца ў садку, але менавіта Ліза вазілася ўсё лета з дзяўчынкаю, а заадно ласавалася мардоўчыным варэннем.

За кухняю жыла сівая ленінградка Жэня Коршунава. Яна шмат курыла, хварэла на сухоты. У сорак выглядала на шэсцьдзясят. Але толькі адна яна ўлівалася ў мужчынскую кампанію, якая па нядзелях і святочных днях гуляла ў карты ці дружна піла гарэлку на кухні зімою, а летам — на вуліцы за драўляным сталом.

У левым канцы калідора заўсёды было асабліва тлумна. Там таўкліся чацвёра сыноў Тонькі-татаркі, няўрымслівай моцнай маладзічкі, якая ад няма чаго абуць бегала сярод лета па ваду ў валёнках. Мела яна адны туфлі на свята, але берагла іх. Сястра яе мужа жыла ў процілеглым канцы барака. Пашанцавала ім аказацца побач.

У правым канцы калідора было заўсёды ціха. Там жыў хваравіты малады гаспадар, Арцём Захаруша, які атруціўся нечым у войску і цяпер быў на інваліднасці, чытаў кніжку, у якой апісваліся розныя лекавыя расліны, але адчувалася, што ён надта слабы. Арцём сядзеў дома з маленькаю дачкою, а Ліза любіла заходзіць да іх у пакой, дзе заўсёды было вельмі чыста, а на сценах віселі плакаты з прыгожымі кітаянкамі. Іншы раз Ліза брала ў Арцёма пачытаць кніжку пра лекавыя расліны, бо ў яе сталі з’яўляцца на твары прышчы, і яна шукала лекаў. Вычытала, што серпарэзнік робіць скуру прыгожай і гладкай, але гэтая трава ёй не дапамагала.

Далей жыў халасцяк Галюк са старою маці. Ён быў шызафрэнік, аднойчы зімой у яго здарыўся чарговы прыступ хваробы. Галюк цэлы дзень насіў ваду з калонкі, цалаваў яе і хрысціў, вусны прыкіпалі да мёрзлага жалеза, крывавілі, а ён не адчуваў болю і ўсё насіў ваду, паліваў клямкі, зямлю вакол прыбіральні і вакол барака. Потым яго забрала хуткая дапамога, больш яго ніхто не бачыў, бо ягоная маці таксама некуды з’ехала.

Наогул людзі ў бараку мяняліся вельмі часта. Кожны з іх быў нечым адметны. Нарыклад, у аднаго чалавека было напісана на ступнях: «Ну, пайшлі». Ён часта хадзіў басанож, каб усе бачылі ягоную татуіроўку. Другі чалавек усё хваліўся сваёю маладою і прыгожаю жонкаю і спяваў прыпеўку:

У маёй мілахі ляхі
Сорак дзевяць дзесяцін,
Хоць я хлопец без рубахі,
Апрацоўваю адзін.

Жыхарамі барака былі рабочыя людзі, простыя і звыклыя да розных жыццёвых нязручнасцей. Толькі аднойчы на месяц пасялілася тут нейкая начальніцкая сям’я. Гаспадыня, худая і высокая, хадзіла ў атласным халаце па калідоры, як прывід, ні з кім не віталася і не размаўляла, а гаспадара ніхто толкам і не разгледзеў, бо яго рана забірала райкамаўская машына, а потым прывозіла позна ўвечары.

У бараку Аўдзей яшчэ больш запіў. Тут знайшлася яму кампанія. У нядзелю з самага ранку мужчыны ўжо дамаўляліся, як ім лепш бавіць час. Збіраліся за сталом, гуляючы ў карты, складваліся па колькі рублёў, пасылалі ганца ў гастраном, потым яшчэ і яшчэ. Аўдзей быў не гаваркі, але меў добры голас і хораша спяваў. Яго слухалі, яму падпявалі, і толькі тады, як лічыў, ён адчуваў сябе чалавекам самай высокай пробы. Пітва заўсёды было мала, мужчыны трэслі жонак, учынялі сваркі і бойкі. Дзень заканчваўся шумна, там і тут чуўся лямант, грукалі дзверы, плакалі дзеці.

Ужо напярэдадні нядзелі Таісу трэсла ад прадчування таго, што зноў у хаце будзе бязладдзе. Ні ўсчуванні, ні пагрозы — нішто не дапамагала. Так жылі ўсе навокал у кожным з дзясятка баракаў, пабудаваных на былым полі. Усе гэтыя здаровыя і маладыя мужчыны адарваліся ад зямлі і сялянскай працы, а тут, у горадзе, не знаходзілі сабе годнага занятку ў вольную часіну, акрамя як піць гарэлку. Гэта называлася ў іх адпачынкам, а другога яны не ўяўлялі, не маючы ніякіх іншых захапленняў і цікавасці.

Па абедзе Аўдзей прыйшоў да Таісы патрабаваць грошы. Тая дастала з-за рамкі спіс даўгоў, колькі і ў каго з суседзяў пазычыла. Грошай, якія зарабляў Аўдзей, не хапала на самае неабходнае: на самую простую ежу — бульбу з кефірам ды на мінімум адзення, каб не свіціць голымі азадкамі. Там, дзе ў сям'і працавалі муж і жонка, можна было яшчэ неяк абыходзіцца. Таму Таіса, жывучы ў бараку, прыстасавалася трымаць курэй і свінчо ў хлеўчыку за баракамі, дзе людзі нарабілі шмат такіх розных збудаванняў, хто на што быў здатны.

— Што ты мне тыцкаеш гэтую паперыну?

— Грошай няма. Ёсць толькі даўгі…

— Дык ідзі пазыч яшчэ…

— Ідзі сам і пазычай! У каго цяпер перад зарплатай ёсць грошы?

— Ты мне мазгі не кампасіруй, зараз як плясну!

Аўдзей замахнуўся, каб стукнуць Таісу — і тады паміж імі паўстала Ліза, каб абараніць маці. Ён адмахнуўся ад дзяўчынкі адным рухам далоні — тая паляцела ў кут і моцна стукнулася галавою, але не заплакала. У хаце раптам усталявалася дзіўна цішыня, быццам Аўдзей сам спрабаваў зразумець, што ён зараз зрабіў.

Ліза паднялася, апранула паліто, моўчкі выйшла з пакоя. Толькі на вуліцы дала волю слязам крыўды. Трыванне скончылася, яна зразумела, што больш не можа жыць у сям'і, назіраць сваркі і бойкі, яна наогул нікога больш не хоча бачыць. Пойдзе пешкі да цёці Полі, можа, тая ўсё ж не прагоніць яе з хаты, можа, і дзед пашкадуе? Колькі ж гэта ёй давядзецца ісці? Кіламетраў, можа, трыста ці болей? Калі ў дзень праходзіць па трыццаць кіламетраў, дык праз дзесяць дзён яна ўжо будзе ля свайго Дняпра. А можна і на таварным цягніку трохі пад'ехаць, тады будзе яшчэ хутчэй. Яна зараз не думала пра тое, дзе будзе начаваць, што будзе есці. Усё гэта не мела значэння. Галоўнае, што яна нарэшце адважылася вырвацца з гэтага пекла. Халодны кастрычніцкі вецер дзьмуў у твар і астуджаў злосць і нянавісць, якія кіпелі ў душы, высушваў слёзы. За горадам яна супакоілася і пайшла па бетонцы ў бок райцэнтра. Усё было вырашана. Яна ні пра што не думала, нічога не баялася, а проста ішла да першай чыгуначнай станцыі, якая была за васямнаццаць кіламетраў ад гарадка.

Ужо далёка за горадам яе дагнала мама, спытала:

— Куды ты ідзеш?

— Дамоў не вярнуся! — цвёрда адказала Ліза.

— Добра, але мне трэба ж ведаць, куды ты сабралася?

— Пайду да цёці Полі…

— А як жа я? Як Міця? Як мы будзем без цябе?

— Нашто я вам? Пакіньце мяне ў спакоі!

— Што суседзі скажуць! Як я жыць буду без цябе? — Таіса заплакала, яна ведала ўпартасць сваёй паслухмянай дачкі, калі ўжо тая нешта надумала, дык яе не пераканаеш.

Матчын плач разжалобіў дзяўчынку, яна пачала вагацца.

— Пойдзем, дачушка, дадому. Цябе ніхто больш ніколі не кране. Аўдзей сам спалохаўся, што зачапіў цябе! Ён разумее, што вінаваты. Пойдзем! Я ж памру без цябе! Пашкадуй мяне! Я і так хворая! Гэты вечны ціск! Міцька застанецца сіратою пасля маёй смерці. Хто ж яго выгадуе?

Маці плакала. Ліза спынілася і сказала:

— Добра, я вярнуся. Але паабяцай, што летам ты адпусціш мяне да цёці Полі. Я больш ніколі сюды не вярнуся!

— Добра, добра, я завязу цябе на канікулах сама. Толькі пойдзем дамоў! Прашу цябе!

Ліза вярнулася. Аўдзея ўжо дома не было. Яна распранулася, легла на ложак, адвярнулася да сцяны, заплюшчыла вочы і аціхла. З гэтага дня яна перастала называць айчыма татам.

**34**

Пакуль Ліза жыла ў хаце бабы Малашы, яна сябравала з Маняю Бузюмішынаю і Гэляю Юстынаваю. Але Маню ў шостым класе адправілі вучыцца ў школу-інтэрнат разам з малодшаю сястрою, бо іхняя маці ад нуды і гора пасля смерці мужа захварэла на сухоты і цэлы год лячылася, ляжала ў бальніцы, а потым у спецыяльным санаторыі. У хаце засталіся толькі старэйшы сын, які працаваў на будоўлі, ды сярэдняя дачка, якая заканчвала восьмы клас. Надзя была замужам і атрымала пакой у адным з баракаў. Нягледзячы на тое, што гаспадыні дома не было, дзеці і без яе прытрымліваліся ранейшых звычаяў: на Сёмуху каля іхняй хаты зелянелі прынесеныя з лесу бярозкі, а падлога высцілалася аерам, на Вялікдзень фарбавалі яйкі, наогул спраўлялі ўсе святы, як вялося спрадвеку.

Ліза часта згадвала той выпадак, калі ёй нарэшце замест зялёнай штапельнай сукенкі купілі сінюю школьную форму, а Маня з Бузюміхаю прыйшлі паглядзець. Сяброўка сказала маме, што і ёй трэба купіць абноўку да навучальнага года.

— Ты на Лізу не глядзі. У яе ёсць бацька, — строга сказала Бузюміха.

Маня змоўкла, а Бузюміха пахваліла сукенку. Ліза, ведаючы пра бязладнае жыццё сваіх бацькоў, падумала тады з крыўдаю і адчаем: «Хіба гэта бацька?»

Да Гэлі Юстынавай Ліза наведвалася часта. Найбольш з-за таго, што на вышках іхняй хаты было шмат кніжак, якія далі ў нагрузку да швейнай машыны, купленай Гэлінаю маці. Юстын на вайне быў паранены ў нагу, чамусьці тая рана ніяк не гоілася. Ліза некалькі разоў бачыла, як ён сам сабе рабіў перавязку. Яму як ветэрану плацілі пенсію, таму, у адрозненне ад іншых калгаснікаў, у гэтай сям'і вяліся грошы.

Ліза брала ў сяброўкі кніжкі дамоў. Сама Гэля чытаць не любіла, таму іншы раз прасіла Лізу пачытаць ёй што-небудзь. Яны залазілі на печ і гадзінамі Ліза чытала «Вечары на хутары» Гогаля, гэты пісьменнік сяброўцы асабліва падабаўся. Іншы раз яны хадзілі разам на Сіняе возера, якое было далекавата ад хаты бабы Малашы, таму раней Ліза там ніколі не была. Яно было прыгожае і такое вялізнае, што на тым беразе лес быў ледзьве бачны шызай палоскай. Гэля сказала, што раней возера было яшчэ прыгажэйшае, але земснарад спаскудзіў бераг, намыў гару жоўтага пяску з дна. А для чаго? Невядома…

Аднойчы разам дзяўчынкі хадзілі нават на балота ля возера ў журавіны. Там было цікава і страшнавата, бо мох пад нагамі калыхаўся, пагражаючы праваліцца і нечакана паглынуць хадака ў чорнае прадонне.

Пасля таго, як Лізіны бацькі перасяліліся ў барак, яна ўлілася ў гурт гарадскіх дзяцей. Сябравала з Лорай Піліпавай, якая прыехала аднекуль ажно з-пад Урала. Сям'я яе качавала з будоўлі на будоўлю, аднак Лора чамусьці ніколі не згадвала тыя мясціны, дзе жыла раней, мусіць, тут ёй больш падабалася. Бацька яе працаваў прарабам у электрыкаў, а строгая маці была хатняю гаспадыняю, пільна сачыла за Лорай і малодшаю дачкою Адай. Паколькі бацька быў начальнікам, дык усе ў іхняй сям'і былі даволі адкормленыя, нават дзеці. Лора, вясёлая, няўрымслівая і вельмі таварыская, выглядала амаль спелаю дзяўчынаю, з даволі пышнымі формамі, хаця была ўсяго на год старэйшая за Лізу. З ёю было прыемна сябраваць.

З хлопчыкаў Ліза найбольш вылучала Барыса Велясевіча, сына свайго першага настаўніка, які некалі ў Лядах запісаў яе ў першы клас. Ліза ведала, што Вячаслаў Уладзіміравіч больш не працаваў у школе, а служыў у міліцыі. Ёй вельмі хацелася пабачыць яго, які ён у міліцэйскай форме, але ні разу так і не пашанцавала сустрэцца. Затое з Барысам яны бачыліся амаль штовечар. Былі канікулы. Падлеткі па вечарах выходзілі, як яны казалі, штурмаваць стометроўку, гэта азначала шпацыраваць па галоўнай вуліцы Леніна. У гэты час амаль уся моладзь выходзіла на прагулянку. На рагу ля барака, дзе жылі халасцякі, штораз Ліза бачыла Стэпку Сабакарову, якая чакала, калі нехта з хлопцаў запросіць яе да сябе ў госці. Цяпер ёй было за трыццаць, непрыгожая, з грубымі рысамі твару, але акуратна апранутая, хударлявая, яна стаяла нерухомая і наструненая, як слуп, нават, не пераміналася з нагі на нагу. У яе душы жыла вялікая прага кахання. Яна была гатовая кахаць усялякага вечна, хто толькі пакліча. Але як у Лядах, так і ў горадзе яе выкарыстоўвалі раз ці два і праганялі. Сваім маладзенькім пляменніцам яна скардзілася, што нейкі Піня цалуе яе праз газету і наогул закрывае ёй твар, мусіць, саромеецца. Шкадавала таго сарамяжлівага хлопца і іншых, якія выпадкова трапляліся ёй, і не пераставала спадзявацца, што недзе сярод гэтага мноства мужчын ёсць яе адзіны, які ніяк не можа яе адшукаць.

Нават неразлучныя Бабця з Луцяю выпаўзалі надвячоркам на вуліцу. Дачка ж яшчэ была нестарая, ёй таксама хацелася пабыць сярод моладзі, але маці яе адну нікуды не пускала. Ім пашанцавала, прафсаюз выдзеліў аднапакаёвую кватэру, бо іхняя халупка патрапіла пад знос. Цяпер яны, былыя вяскоўцы, сталі паўнапраўнымі гараджанамі, па вечарах не мелі што рабіць, ні агарода, ніякай жыўнасці не трымалі, тэлевізара яшчэ не завялі, вось і выходзілі ўвечары на людзей паглядзець, на лаўцы ля пад'езда пасядзець ды трохі прайсціся. Былы рабочы пасёлак, які называлі проста ДРЭС, нарэшце быў прызнаны горадам і займеў назву Сіньгорад, утвораную ад Сіняга возера.

На гэтай жа вуліцы Ліза аднойчы бачыла, як яе настаўніца нямецкай мовы Шалапутава (даў жа Бог прозвішча) проста на вуліцы цалавалася з нейкім мужчынам і знелюбіла яе за гэта, а заадно і нямецкую мову. Пра Шэлю, так называлі гэтую настаўніцу вучні, і халастога Мяфодзьевіча, які вёў заняткі ў хлопчыкаў па вытворчым навучанні, у школе хадзілі розныя плёткі. Зрэшты, яны вельмі пасавалі адно аднаму: Шэля — фарбаваная бландзінка, а Мяфодзьевіч — чорны, як жук, нават на носе ў яго тапырыліся валасінкі. Цяжка сказаць хто распускаў пра іх розныя плёткі, але ў школе ўсе ведалі вершык наступнага зместу:

Мяфодзьевіч і Шэля
Паехалі ў Альшэва,
Аварыя случылась —
Ды кіндэр палучылась.

Звычайна Ліза ўважліва прыглядалася да мужчын, ці не сустрэне падобнага на сябе, раптам нейкім лёсам занясе ў гэты гарадок яе бацьку. Вунь колькі людзей наехала сюды з усяго Савецкага Саюза. Не магло ж так быць, каб яны больш ніколі не сустрэліся, гэта ёй здавалася вельмі несправядлівым

Падлеткі латашылі сады каля начальніцкіх катэджаў. Дзяўчаткі вартавалі, а хлопцы пералазілі цераз платы і рвалі запазуху яблыкі, потым разам елі ў маладым парку на лаўцы. Удзень хадзілі на закінутыя хутары, дзе таксама знаходзілі садавіну. У святочныя дні сноўдаліся па дамах, дзе вялося будаўніцтва. Аднойчы гуртам зайшлі ў пакой, а дзверы зашчоўкнуліся, каб выйсці з нечаканага палону, ім давялося скакаць з другога паверха, добра, што пад акном была вялізная гара пяску.

Ліза заўсёды трымалася каля Барыса, праўда, так яго ніхто не называў. Меў ён мянушку Вялес, ад свайго прозвішча Велясевіч. Гэты быў бялявы, худы, але даволі дужы падлетак, які, здавалася, нікога і нічога не баяўся. Мусіць, за гэта і падабаўся Лізе.

— Вялес, навучы мяне моцна свістаць на пальцах, — папрасіла яна аднойчы.

Барыс ахвотна згадзіўся, паказаў, як трэба класці пальцы ў рот, прыціскаць да іх язык, а потым моцна дзьмуць — і атрымаецца свіст. Ліза была стараннаю вучаніцаю, і ўжо праз некалькі вечароў яна пасвіствала, калі стаяла на варце.

Разам яны ездзілі навыперадкі на роварах. Ліза брала айчымаў ровар, калі ён прыязджаў з працы. Аднойчы на скрыжаванні ледзь не падляцела пад машыну, бо не ведала, што ў яе двухкалёснага каня ёсць тармазы.

— Ты парушаеш правілы дарожнага руху, — сказаў Лізе Вялес.

— А як яго спыніць?

Барыс засмяяўся і паказаў Лізе, як трэба тармазіць. Яна зразумела, што магла загінуць пад коламі машыны, каб не сяброва навука.

Аднойчы яна сказала, што вельмі хоча пабачыць ягонага бацьку Вячаслава Уладзіміравіча ў міліцэйскай форме. У адказ Барыс нядобра пасміхнуўся і адказаў:

— Я і сам хацеў бы яго бачыць.

Ліза не звярнула ўвагі на гэтыя словы, падумала, што сябар жартуе. Але раптам Вялес знік, а ў выніку распаўся і гурт падлеткаў, бо не было завадатара. Ліза крыўдавала на Барыса, яна лічыла яго сваім сябрам, а ён не папярэдзіў і некуды знік. Яна згадала, што ў апошнія дні ён быў нейкі злосны і раздражнёны. Падумала, што Барыс нечакана некуды паехаў з бацькамі, толькі праз месяц даведалася, што яго забралі ў турму за забойства дзяўчыны.

Барыс даведаўся, што ягоны бацька заляцаецца да нейкай жанчыны з той самай вёскі Альшэва, пра якую спявалі вучні ў прыпеўцы пра Шэлю і Мяфодзьевіча. З крыўды, нянавісці і злосці ён падпільнаваў дачку гэтай кабеты і застрэліў з бацькавай табельнай зброі. З-за таго, што сын скарыстаўся бацькавым пісталетам, арыштавалі і Вячаслава Уладзіміравіча.

Ліза шкадавала свайго першага настаўніка, думала, што дарма ён пайшоў працаваць у міліцыю. Каб у яго не было пісталета, Барыс не займеў бы зброі. Шкада было і тую невядомую дзяўчыну, якая так недарэчна загінула ў сямнаццаць гадоў. Усіх шкада, і нічога нельга паправіць. Цяпер Барыса пасадзяць на некалькі гадоў у турму, а Ліза паедзе да цёці Полі. І яны ніколі больш не сустрэнуцца. Яна ўжо ведала пра незваротнасць часу, бо шмат разоў даводзілася разам з бацькамі мяняць месца жыхарства, назаўсёды развітвацца

з мясцінамі і людзьмі, якія запалі ў душу, а потым насіць у сэрцы ўспаміны і смутак па назаўсёды страчаным часе, падзеях, адчуваннях і ведаць, што ніколі і нічога больш не вернецца. Пражытае бязлітасна, назаўсёды застаецца ў мінулым, ад гэтага балюча сціскаецца сэрца, нават іншы раз хочацца заплакаць.

## 35

Ліза заканчвала восьмы класс і спадзявалася, што будзе паступаць у будаўнічы тэхнікум, каб быць бліжэй да цёці Полі і дзеда. У іх жа ёсць вялікі сад і агарод, можна будзе хоць якой бульбы прывезці, ды неяк існаваць на стыпендыю. У школе яна вучылася старанна, спадзявалася, што чацвёрак у атэстаце будзе мала. Пераважна сядзела дома ды рыхтавала хатнія заданні. Сяброўкі яе ўсе былі занятыя кожная сабой. Гэля казала, што сустракаецца з нейкім мантажнікам, збіраецца за яго замуж. Яна ленавалася выконваць хатнія заданні, сядзела ў класе чырвоная і тоўстая, быццам распухла. Было відно, што дзяўчына цяжарная, але ніхто ёй нічога не адважваўся казаць. Настаўнікі, напэўна, таксама ведалі, што творыцца з гэтаю васьмікласніцаю, але хацелі найхутчэй выдаць ёй атэстат і выправіць са школы, каб факт цяжарнасці вучаніцы не лёг ганебнаю плямаю на педагогаў.

Гэля расказвала Лізе, што яна зусім не хоча хадзіць у школу, але каханы мантажнік прымушае яе скончыць восем класаў, вось і вымушана рабіць выгляд, што вучыцца, а на самай справе маладыя ўжо заручыны справілі, падалі заяву, засталося толькі аформіць шлюб. Гэля была перарастак, на два гады старэйшая за астатніх вучняў у класе, позна пайшла ў школу, шкадавалі бацькі, што ўдалося дзіця маленькае ростам. Яны не надта разумелі, для чаго наогул дзяўчынцы хадзіць у школу. Цяпер, калі Гэля сабралася замуж за нейкага прыезджага хлопца, яе маці, Юстыніха, засумнявалася, ці варта дачцэ звязваць лёс невядома з кім. У сяле заўсёды цікавіліся не толькі залётнікам, але яго бацькамі ды родам. Яна раіла дачцэ выходзіць замуж за суседскага Шуру Хроімавага, але Гэля і слухаць не хацела пра гэтага альбіноса, з валасамі і вейкамі белымі, як у парасяці, да таго ж быў ён таўставаты і лянівы. Нішто яго не цікавіла, акрамя кіно. Цэлымі днямі ён праседжваў у будцы кінамеханіка, перамотваў плёнкі і шмат разоў глядзеў адны і тыя ж фільмы. Гэта для яго было найвялікшае шчасце. Любіў, калі ў кінабудку заходзіла Люська Новікава, маці якой працавала прыбіральшчыцай у клубе. Тады яны разам глядзелі фільмы. Люська нешта расказвала, смяялася, а ён маўчаў і чырванеў. І гэта таксама было таемнае Шурава шчасце. Ён бачыў, якая прыгожая Люська, і ведаў, што яна пасмяецца і пойдзе, каб назаўсёды забыць яго. А твар у яе сапраўды быў занадта дасканалы і тонкі, такія малююць толькі на іконах. Люська і сама не здагадвалася, якая яна прыгожая, пасля восьмага класа паехала вучыцца на тры гады на тынкоўшчыцу, а Шура пайшоў працаваць на будоўлю. Так яны і разлучыліся, як пасля аказалася, назаўсёды.

Лора Пілiпава, якой Ліза прапанавала разам рыхтавацца да экзаменаў, адмахнулася і сказала, што ёй няма часу, бо яна крадком ад бацькоў сустракаецца з Севам.

— Які Сева? Я яго ведаю?

— Ведаеш, ён з Лядаў… Яго яшчэ ўсе стылягам называлі.

Ліза ўспомніла, калі яны жылі ў бабы Малашы, міма вокнаў часта хадзіў высокі хлопец у шэрым пінжаку, штанах-дудачках з высокім рыжаватым чубам. І гальштук у яго быў з пальмамі, дзе ён такі змог раздабыць, невядома.

— Успомніла… Дык ён жа дарослы…

— Так, ён працуе. З ім цікавей, чым з нашымі смаркачамі. Ведаеш, учора мама нешта пранюхала і не пусціла мяне на спатканне. Я ледзь на вушах не стаяла. Яна прывязала мяне да ложка, а сама пайшла на вуліцу, каб не чуць, як я раву.

— І што? Спатканне сарвалася?

— Не сарвалася. Як толькі бацькі паснулі, я вылезла праз акно і пабегла да яго ў вёску. Мы гулялі да самага світанку. Хадзілі ажно на возера… Там так прыгожа і ціха. Толькі пад ранне пачалі птушкі спяваць. Потым праз акно я вярнулася дамоў. У нядзелю пойдзем загараць на возера на цэлы дзень.

— А як жа экзамены.

— Ды гары яны гарам! Здам я іх! Мне ж медаль не трэба, — Лора бесклапотна засмяялася. — А ты ўсё зубрыш?

— Паступаць збіраюся…

— Куды?

— У будаўнічы, каб бліжэй да дзеда…

— Будаўнікі мала зарабляюць. У майго бацькі заробкі лепшыя. Як скончу школу, пайду да яго ў брыгаду. Электрык — прафесія вельмі перспектыўная.

— А мне падабаецца будаўніцтва. Ты нават не ўяўляеш, што тут, дзе стаіць наша школа, будынкі, клуб некалі было чыстае поле. Я помню яго. А цяпер — тут горад. Я хачу паехаць у Сібір, будаваць у тайзе новыя гарады, каб там было светла і ўтульна людзям. І ніякіх баракаў!

— Ведаеш, мы жылі трохі ў Сібіры, — пасміхнулася Лора. — Нічога там добрага няма. Стаяць баракі, іх да цябе там набудавалі, зімой холад сабачы, а летам камары кусаюцца, як сабакі. Мой бацька сказаў неяк, што там сабачае жыццё…

Ліза задумалася, узважваючы пачутае. Сваё адчуванне Сібіры яна вынесла з песні:

Снятся людям иногда
Голубые города,
У которых названия нет.

Так яна сабе і ўяўляла: тайга, блакітны на світанку горад, шмат ліхтароў, што і ноччу на вуліцах светла, як днём. А ў небе — яскравыя бухматыя зоркі. І шмат шчаслівых людзей, якія ніколі не сварацца паміж сабою, умеюць сябраваць, любіць, кахаць.

— Вы жылі ў нейкім старым горадзе, а я пабудую новы…

— Жадаю поспеху. А я не хачу больш у Сібір. Мне б куды-небудзь у Крым ці на Каўказ. Там цеплыня, мора, садавіна. Ты бачыла мора? Ты каштавала персікі і вінаград?

— Не, не бачыла. Каштавала толькі абрыкосы, кавуны і дыні…

— Калі б ты пабачыла мора, дык больш нікуды не захацела б стуль ехаць. Дарэчы, там таксама можна будаваць нешта…

— Каб ты пабачыла мой Дняпро, — летуценна прамовіла Ліза, — прыгажэйшай ракі няма на свеце. Ніякае мора з ім параўнаць нельга.

— Кожны кулік сваё балота хваліць. Няма ў нас ні мора, ні Дняпра, а ёсць возера, там мы і будзем адпачываць, загараць і трохі думаць пра экзамены. Я ўсё роўна траякоў за чвэрць нахапала, так што не варта мне тут асабліва высільвацца, а ты грызі граніт навукі. Табе трэба, бо давядзецца ісці ў бетоншчыцы, як твой бацька.

Гэтыя Лорыны словы Лізу пакрыўдзілі, яна адказала:

— Усялякая справа годная.

— Дык чаму ж ты ў прыбіральшчыцы не пайшла, як мы на грамадскіх пачатках размяркоўвалі шэфскую дапамогу клубу?

— Прыбіральшчыц там і без мяне хапае, — агрызнулася Ліза. — Не люблю грамадскую работу. Не падабаецца…

— Наш камсамольскі сакратар сказаў бы, што гэта крайні эгаізм і індывідуалізм, вельмі шкодная з'ява ў грамадстве…

— Мяне не цікавіць, што і хто скажа. Бывай…

— Бывай, не забывай…

Яны разышліся. Кожная з іх ужо прыкладна спланавала будучы шлях, але жыццё ўсё паламала і зрабіла па-свойму. Таіса ўзялася на лета няньчыць суседчына дзіця. Ёй было не да Лізіных выбрыкаў, калі заўсёды не хапае грошай. У сям'і два школьнікі, якіх трэба абуць і апрануць. Яна і думаць забылася, што абяцала дачцэ адпусціць яе да цёці Полі.

Пасля экзаменаў Ліза спытала ў маці:

— Калі мы паедзем да дзеда?

— Як мы можам паехаць? Бачыш, я дзіця няньчу. Трэба табе новую сукенку да школы купіць.

— Я ж паступаць хацела…

— На наступны год абавязкова паедзем. А цяпер зусім няма грошай. Ты ж бачыш, колькі ў мяне даўгоў. Ад аванаса не хапае да палучкі… Ледзьве канцы з канцамі зводзім. А тут кожны месяц дадаткова будзем атрымліваць па пятнаццаць рублёў! Як жа можна адмовіцца? Ды і суседку нельга падвесці. Куды яна падзенецца са сваёю малою?

Ліза ведала, што суседка нарадзіла без мужа, было ёй ужо гадоў пад сорак, і сапраўды, не было на каго разлічваць. Што ж, трэба людзям дапамагаць. А хто дапаможа Лізе? Як пратрываць яшчэ адзін год?

**36**

Лора Піліпава ў дзявяты клас не прыйшла. Хадзілі чуткі, што яна зацяжарыла, ездзіла некуды ў Расію да родзічаў і зрабіла там аборт. Ліза не хацела верыць гэтым плёткам. А калі ажно ў лістападзе выпадкова сустрэла сяброўку на вуліцы, дык здзівілася, як тая памажнела, стала падобная больш на дарослую маладую жанчыну, чым на юную дзяўчыну.

— Чаму ты не прыйшла ў школу? — здзівілася Ліза.

— Ты ж ведаеш, я вучыцца не люблю. Пайду ў вячэрнюю, неяк атрымаю атэстат.

— А цяпер, што будзеш рабіць?

— Працую ў татавай брыгадзе.

— Падабаецца?

— Цікавей, чым у школе. — А ты паступала? — у сваю чаргу пацікавілася Лора.

— Не атрымалася. — А як твой стыляга?

— У войску служыць…

— Заходзь калі, — запрасіла Ліза.

— А як там у класе?

— Няма нашага класа. Гэля выйшла замуж і некуды паехала са сваім мантажнікам. Шмат хто з вясковых дзяўчат падаліся вучыцца на ткачых у Іванава, што за Масквою. Некаторыя пайшлі няньчыць дзяцей да начальнікаў. Той-сёй

паехаў на новую будоўлю з бацькамі. Так што ў нас цяпер у большасці новыя вучні, што прыйшлі з вясковых васьмігодак, пераважна дзяўчаты.

— Сумота, відаць, там у вас?

— Якая розніца, кожны ж для сябе вучыцца…

— Пайшлі са мною ў вячэрнюю школу, — прапанавала Лора. — Я папрашу тату, ён і цябе возьме на працу.

— У мяне ж яшчэ пашпарта няма. Я ў школу пайшла ў шэсць гадоў.

— Ты такая малая? — здзівілася Лора. — Ну, тады расці яшчэ…

Яны развіталіся, але да вясны так ні разу і не сустрэліся, розныя ў іх былі заняткі і інтарэсы. Лора ўдзень працавала, увечары хадзіла ў вячэрнюю школу. У Лізы была іншая праблема. Яна якраз трапіла ў той выпуск, калі з адзінаццацігодкі зрабілі дзесяцігодку. За два гады новыя выпускнікі павінны былі засвоіць праграму, разлічаную на тры гады. Цяпер старшакласнікам настаўнікі проста чыталі лекцыі. Больш здольныя юнакі і дзяўчаты паспявалі засвоіць матэрыял, слабакі ледзьве цягнуліся на тройкі.

У наступны раз Ліза пабачылася з Лораю на могілках. Тутэйшых людзей хавалі пад крыжамі. На магілах памерлых гараджан ставілі жалезныя чырвоныя пірамідкі з зоркамі. Пакуль будавалася станцыя, пірамідак стала некалькі. Першым пахавалі шыбеніка, які засіліўся на вышках бальніцы яшчэ ў час яе будаўніцтва. Наступным стаў мантажнік, які зваліўся з вышыні і разбіўся. Ліза помніла, што ягоная труна стаяла ў клубе, і ўсе прыходзілі развітвацца з ім, а на могілках казалі жалобныя прамовы.

Была тут пахавана прыгожая дзяўчынка Галя з доўгімі косамі, якая ўтапілася. Ляжаў тут і муж Бузюмішынай Надзі, той самы багаты сірата, які раптам захварэў і памёр. Яго Ліза бачыла жывым толькі некалькі разоў. Быў ён невысокі, чарнявы, кідаўся ў вочы не тутэйшай, усходняй прыгажосцю.

Была тут і магіла Банадысінага Івана, яго Ліза трохі помніла. Гэта ён некалі на Украіне, калі ўсе жылі ў хаце Антося Самоты, спяваў пра дзяўчыну, з якою яе маці не дазваляе жаніцца. Яго ўтапіў у возеры айчымаў дваюрадны брат Якім. Ліза чула, як бацькі ціха абмяркоўвалі гэты страшны выпадак. Падслепаваты Якім ніяк не мог выбраць сабе дзяўчыну, усе яны яму былі на адзін твар. Банадысін Іван працаваў разам з ім на земснарадзе ды ўсё нахвальваў сваю Палаю Сердзюкову. Якім таксама паспрабаваў падступіцца да той прыгажуні, якую так упадабаў Іван, але дзяўчына не захацела з ім нават размаўляць. Казалі, што ён аднойчы пачаставаў Івана гарэлкаю, а потым стукнуў па галаве і спіхнуў у возера, калі дзяжурылі разам у начную змену. Івана пахавалі, вінаватых не знайшлі, а Якім праз колькі месяцаў ажаніўся з Палаяю, якая, мусіць, не надта кахала яго, бо нарадзіла толькі аднаго сына, такога ж падслепаватага, як ягоны бацька.

Ляжала тут пад маленькім крыжыкам немаўлятка. Гэта быў адзіны сын Антося Самоты, пра якога ён марыў. Шэсць дачок раслі і гадаваліся, а сёмы сын памёр, пражыў толькі два тыдні.

Сёння павінны былі хаваць Севу Стылягу, які загінуў у войску. Усяго і паспеў гэты хлопец у сваім жыцці, што пакрасавацца ў штанах-дудачках ды пакахаць Лору Піліпаву. Яго прывезлі на могілкі салдаты ў закрытай труне са шкельцам, за якім нічога нельга было разгледзець. Над труною плакалі маці, сястра, нейкія яшчэ жанчыны. Толькі Лора стаяла з сухімі вачамі і нікога не заўважала навокал. Ліза не адважылася падысці да яе і вывесці з цяжкога одуму.

## 37

Кандрат дарэмна спадзяваўся атрымаць пляц пад хату ў гайку або на выгане. Калі ён прыйшоў да начальства, дык аказалася, што ўся зямля ўжо даўно падзеленая. Кандрату зноў прапанавалі нейкую выспу за вёскаю. Што і казаць, ён тады пакрыўдзіўся на ўсіх. Як жа можна трываць такую несправядлівасць? Усе, хто даўно працуе на будоўлі і да калгаса не мае ніякіх адносін, атрымалі лепшыя пляцы! Клем размясціўся ў самым гайку на востраве, ужо і зруб паставіў! А хто ён такі? Што зрабіў для калгаса? Ды ён заўсёды працаваў толькі на сябе! Узяў замуж дачку заможнага чалавека, які ездзіў на заробкі ў Амерыку і прывёз грошай. У яго і старая сядзіба вялікая, з садам, канец агарода ўпіраўся ў лужок, дзе была воля качкам ды гусям. Ля хаты ў Клема расла асінка, якая трапятала кожным лістком, а ў двары — тры вялізныя яліны, на якіх прыжыліся вавёркі. Гэта хто ж мог сабе дазволіць елкі ў двары вырошчваць. У Малашы адна яблынька, ды і на той горкія яблыкі, есці немагчыма.

Кандрат помніў, як напрыканцы вайны, калі Ляды вызвалілі ад немцаў, у войска пачалі браць мужчын, чый узрост падпадаў пад мабілізацыю. Прыйшла позва і Клему. Ён выправіўся разам з усімі ў райваенкамат, а па дарозе ўцёк і ўпотай вярнуўся дамоў, доўга хаваўся. Клеміха папрасіла Кандрата з Аўдзеем дапамагчы абмалаціць жыта. Аднойчы хлопцы згледзелі Клема на вышках у клуні, зарослага барадою, ажно не пазналі яго, спалохаліся. Клем схаваўся не адзін. Да ягонай сястры Веры заляцаўся Аверка, малады і прыгожы хлопец. Яго таксама прызвалі ў войска. Прыйшоў Аверка перад самай мабілізацыяй да Клема, каб дазволіў ажаніцца з каханаю дзяўчынаю. Той запярэчыў, маўляў, не аддам сястру, ты на вайне згінеш, а яна ўдавою застанецца. Калі хочаш, схавайся пакуль, а пасля, як усё сціхне, пажэніцеся.

Аверка схаваўся дрэнна, у хуткім часе яго арыштавалі і пасадзілі ў турму на дваццаць пяць гадоў. Ён яшчэ і да гэтага часу ўсё даседжваў свой тэрмін, нават смерць Сталіна не дазволіла яму атрымаць жаданую волю. Калі вайна скончылася, Клем вылез са сваёй схованкі, і па яго прыйшлі вайскоўцы. Кандрат помніў, як вялі суседа праз вёску да сельсавета, старога, страшнага, зарослага барадою. Але Клем неяк адкруціўся, мо таму, што быў ужо стараваты, не годны для таго, каб ваяваць, дык яго мо праз які год ці два адпусцілі. І гэтаму баязліўцу далі найлепшы пляц! За што? Мо за хабар? Вядома. Тры ягоныя сыны працуюць на будоўлі, грошай куры не клююць. Цётка Дамінка як удава, муж якой загінуў на вайне, таксама збіралася будавацца каля Харунжага. Як загінуў дзядзька Саўка, сорамна каму прызнацца! Людзі казалі, што рабаваў у Берліне нейкую кватэру, а немец-гаспадар яго за гэта застрэліў. У Дамінкі зусім новая хата, пастаўленая перад самай вайной. Яна ў калгас на працу не ходзіць, яе дзеці, Якім і Алеся, на будоўлі працуюць, толькі Алёша ў войску служыць! Што і казаць, няма справядлівасці на свеце!

Пабедаваў Кандрат, падумаў, з жонкаю і маці параіўся ды і вырашыў ставіць новую хату на старым котлішчы, толькі адсунуць яе трохі ад скрыжавання, а то ж было, што ўсялякая навалач па шыбе рукамі шкрабала. Хацелася зрабіць будыніну прасторную, каб дзецям было вольна, як-ніяк трох сыноў і дачку нарадзіла яму Ульяна. Выхоўваў ён дзяцей у строгасці, але з любоўю. Не дазваляў, каб нехта чужы іх крыўдзіў, сярод нашчадкаў нікога не выдзяляў, ставіўся да ўсіх аднолькава добра. Старая маці падтрымлівала такі спосаб выхавання. Калі куплялі цукеркі, дык на ўсіх дзялілі пароўну. Толькі гарэлку налівалі па ўзросце. Старэйшым трохі ў чарачкі, а малодшым у коркі ад пляшак. Малаша лічыла, што гарэлка — найлепшыя лекі ад усялякай хваробы

цела, а яшчэ весяліць душу, разнявольвае, нават у будзённы дзень прыносіць адчуванне свята. Таму кожны раз, калі гналі самагонку, яна абавязкова частавала ўнукаў, каб застрахаваць іх ад магчымай немачы.

Як ні раўняў Кандрат сваіх дзяцей, а яны атрымаліся розныя. Першы Алег быў здаровы і кемлівы хлопец. А вось наступныя Сяргей і Ала аказаліся хворыя ад нараджэння. Дактары называлі іх п'янымі дзецьмі і папярэдзілі Ульяну, каб з п'яным мужыком не спала, калі не хоча мець яшчэ аднаго калеку. Жонка крыўдавала з-за дзяцей на Кандрата, пачала раздражнёна пакрыкваць на яго, называла Бурсам і курваю. А малы Сяргей пераймаў і паўтараў пачутае ад маці, заганяючы карову: «Пайшла, Бульса кульва!»

Сяргея адразу прызналі інвалідам ад нараджэння, быў ён дурнаваты, з ягонай тоўстай ніжняй губы заўсёды сцякала сліна. Па Але спачатку не было відно ніякіх адхіленняў ад нормы, але калі пайшла ў першы клас, тут і выявілася, што яна няздатная засвойваць школьную праграму, таму яе, як і Сяргея, накіравалі ў спецыяльны інтэрнат.

Чацвёрты сын нарадзіўся здаровенькі, назвалі яго Віталем. Жонка знарок вышуквала нейкія рэдкія і прыгожыя імёны дзецям, якіх раней ніхто не ведаў у вёсцы. Як усялякія бацькі, Ульяна і Кандрат спадзяваліся, што Бог не абдзеліць іхніх дзяцей шчасцем. Безумоўна, муж быў максімалістам, хацеў, каб ягоныя хлопцы лёталі высока, называў іх лётчыкамі. Прынамсі, будучае іхняе жыццё ніяк з вёскаю і зямлёю не звязваў. Ульяна не хацела адпускаць далёка ад сябе дзяцей, але ж Ала і Сяргей змалку вымушаны былі жыць не дома. Нічога, сын вернецца дахаты. І за дачку Ульяна была спакойная. Дзяўчыну ўсё роўна трэба аднойчы выпраўляць замуж да чужых людзей. Няхай прывыкае.

Малаша таксама думала, што дзеці павінны жыць як мага даўжэй пры бацьках, каб меней няшчасцяў выпадала на іх. У гэтай вялікай сям'і яна пачувалася ўжо часам лішняю, але ж, пакуль Кандрат ездзіў на заробкі, яе яшчэ часта бачылі з касою і вялізнаю ношкаю сена (як дужаму мужыку падняць) за плячыма. Яна выкошвала дзе якая была трава ў гарадскім парку, па ўзбочынах дарог, на той тэрыторыі, якая была адведзена пад будоўлю, але пакуль пуставала. Сама назапашвала сена карове на цэлую зіму, бо калгас сенакос іхняй сям'і не даваў з-за таго, што гаспадар быў на заробках. Наогул яна па старой звычцы прыберагала плуг, барану і розныя сельскагаспадарчыя прылады, бо ведала, раптам можа ўсё памяняцца, тады гэтыя рэчы спатрэбяцца. Як і шмат хто са старых людзей, баялася перамен. За савецкім часам так і не навучылася хадзіць у краму і нешта купляць, не ўмела лічыць грошы.

Ульяна працавала ў паляводчай брыгадзе, каб восенню атрымаць буракі і зерне, дадаткова брала дзялку, якую палола разам са свякрухаю. На гаспадарцы працы заўсёды шмат, не паварушышся, дык зімою не мецьмеш што на зуб пакласці.

Кандрат штогод ездзіў на заробкі, а Ульяна з Малашаю цягнулі мужчынскую і жаночую працу, наколькі ў каго хапала моцы. Маючы чацвёра дзяцей, нявестка не заўсёды ўпраўлялася прыбраць у хаце ды своечасова памыць бялізну, усё спасылалася на цеснату. Казала, маўляў, каб была хата падзеленая на кухню і чыстую палавіну, дык лягчэй было б парадкаваць, а ў гэтым катушку, што пяць крокаў ад парога да покуці, немагчыма сачыць за чысцінёй. Малаша таксама спадзявалася пажыць яшчэ ў новай хаце і паглядзець, якая там будзе прыгажосць.

У канцы восені вяртаўся Кандрат, тады працы было менш. Доўгімі зімовымі вечарамі кожны сабе знаходзіў нейкі занятак: гаспадар плёў кош, ці проста сядзеў ля грубкі, падкладваў паленцы і смаліў махорку, старэйшы ўнук Алег

рабіў хатнія заданні, а малодшы Віталь падсаджваўся да маці ці да бабулі, каб прылашчылі яго, пашкадавалі, вельмі ж ласкавае дзіця ўдалося.

У адзін з такіх вечароў Малаша папрасіла сына:

— Запісаў бы ты, Кандраце, мае песні. Памру і панясу з сабою, што ведаю. А ў мяне песень тых, не злічыць!

— Каму трэба твае песні? Вунь па радыё штодня іх столькі спяваюць, што Божа літасцівы, невядома скуль яны бяруцца. А за гэта ж, мусіць, і грошы некаму плацяць.

— Ай, спяваюць яны абы-што. Гондэ ў мяне песні дык песні. Ты запішы, я табе таксма заплачу.

— Колькі? — зацікаўлена спытаў Кандрат.

— Па рублю за песню…

— Дамовіліся… Алег, дай чысты сшытак і адсунь трохі свае падручнікі, — сказаў бацька сыну, які якраз рашаў задачы.

Малаша села бліжэй да стала, пачакала, пакуль Кандрат заточыць аловак і пачала напяваць першую песню:

Ой, стары, стары,
Што нам Бог дае,
Што ў нашым садку
Зязюля куе…

У песні апавядалася пра гаротную долю маладой замужняй жанчыны, якая засумавала па бацьках, абярнулася зязюляю і прыляцела дамоў.

— Не спяшайся, маці, я не паспяваю…

Малаша паўтарыла словы больш марудна, а Кандрат старанна запісваў.

Пасля трэцяй песні ён спыніўся і сказаў:

— Плаці грошы.

— Заплачу, ты пішы, пішы…

— Я хачу бачыць свой заробак, — заўпарціўся сын.

Малаша палезла на печ, дастала са сваёй схованкі тры рублі і аддала сыну.

— Выдатна, — задаволена адказаў Кандрат, кладучы паперку ў кішэню. — Заўтра святая нядзелька, куплю сабе пляшку і выпью за тваё здароўе. А зараз працаваць ужо нельга, бо сонейка зайшло.

— Хітры ты, Кандрат…

— Не бядуй, маці, яшчэ ўся зіма наперадзе. Запішам твае песні…

Яшчэ колькі разоў зарабляў Кандрат у маці па траяку, так непрыкметна і вясна настала, а там ужо было не да спеваў. Ды і не ведала Малаша, што з тымі запісамі рабіць, каму іх аддаць, каб не прапалі. Аднак летам ёй пашчасціла, прыехаў у вёску нейкі малады мужчына, па ўсім было відаць, што разумны чалавек, бо ўжо з залысінамі, а з ім дзве маладзенькія дзяўчыны і запісалі на магнітафон (яны тады толькі з’явіліся) Малашыны скарбы. Амаль цэлы дзень яна спявала ім і жніўныя, і вясельныя, і валачобныя песні. Моладзь стамілася, а яна — ніколечкі. Песні спяваць — даваць роздых душы і адпачынак целу. Потым часткова праслухалі запіс — Малаша ад радасці ажно засмяялася і ціха сказала:

— Вялікі дзякуй вам, дзеткі, што паслухалі. Перадала я вам маю спадчыну, спадзяюся, што не прападзе, мо які спявак і па радыё праспявае, а я паслухаю. А не, дык самі спявайце. А мне пасля гэтага ўжо і паміраць не страшна…

— Што вы, бабуля, жывіце сто гадоў, — сказаў малады навуковец.

— Пажыву яшчэ, сынок, пажыву, мне няма куды спяшацца, — зноў засмяялася Малаша незвычайна маладым смехам.

## 38

Ліза заканчвала дзявяты клас і марыла, што нарэшце яна паедзе паступаць у тэхнікум, і, калі пашанцуе, дык мо і застанецца ў горадзе, бліжэй да дзеда і цёці Полі. Насталі канікулы, але паездка ўсё адкладвалася, найперш з-за таго, што Ліза павінна была адпрацаваць вытворчую практыку на бетонным вузле. Цэлы месяц яна вымушана была хадзіць на працу, аднастайную і нецікавую. Разам з рабочымі сачыла за прапарачнымі камерамі, даставала з формы бардзюры, прыступкі, перамычкі, а найчасцей сноўдалася без справы па тэрыторыі вузла, смажылася на сонцы ды чакала канца змены.

Нарэшце мама сабралася ехаць да дзеда разам з Міцькам і Лізаю, якая вельмі радавалася, што яе надзея патроху збываецца. Цягніком прыехалі ранiцай на вакзал, а стуль аўтобусам. Пакуль дабіраліся да дзедавай вёскі, Ліза з радасцю прыслухоўвалася да гамонкі жанчын, ажно сэрца яе заходзілася ад задавальнення, калі яна слухала такі знаёмы ёй з маленства дыялект.

Раней аўтамабільная траса праходзіла праз дзедаву вёску. Цяпер дарогу праклалі сярод поля кіламетры за тры ад селішчаў, таму падарожнікі выйшлі з аўтобуса насупраць дзедавай хаты, але да яе трэба было яшчэ доўга ісці. Аднак гэта быў прыемны шлях, абапал якога цягнулася жытнёвае поле. Удалечыні за ім відналіся высокія таполі, якія раслі ля дзедавага агарода. Ліза ўяўляла, як яна выбежыць на высокі бераг Дняпра і будзе доўга любавацца ракою, памяць пра якую насіла ў сэрцы, як найвялікшую каштоўнасць.

У Таісы былі іншыя ўспаміны. На гэтым полі ў час вайны немцы расстралялі яе дваюрадную сястру Арыну з сынам і дачкою, а родныя нават не змаглі пахаваць яе, ноччу прыпаўзлі і так-сяк прысыпалі зямлёю. Бо на гэтым беразе Дняпра былі немцы, чырвонаармейцы — на тым. Пахавалі Арыну толькі пасля вызвалення. Адкапалі і на саначках завезлі дамоў. Саначкі былі кароткія, ногі нябожчыцы ў самаробных панчошках з воўны валакліся па зямлі. Пры жыцці Арына была вельмі прыгожая. А цяпер твар яе расплюскала цяжарам зямля, зрабіла не падобным на ранейшы. Нябожчыцу абмылі, апранулі ў чыстае. Новых панчох не было, дык ногі абгарнулі палатнянымі анучамі. Дзяцей паклалі ў адну труну, Арыну — у другую, так і пахавалі.

Горкія ўспаміны даймалі Таісу па дарозе. Вунь там, злева, стаяла нямецкая зенітная кропка, а немцы-зенітчыкі прыходзілі ў вёску патрабаваць масла, сала ды яек. Адзін толькі чамусьці прасіў малака, мусіць, быў хворы. Часам якой ежы прынясе, каб толькі на малако памяняць. Потым бачыла яго Таіса мёртвым на полі, а вясною, пасля вызвалення, школьнікі звозілі забітых немцаў у акопы і засыпалі тут жа на гэтым полі.

Шмат людзей забрала вайна з вёскі, ды яшчэ і пасля вайны падлеткі падрываліся на мінах. А пасля — тыф, голад, і зноў страты, страты... А колькі ахвяр забрала вайна ва ўсім свеце і ўявіць цяжка…

У дзедавым двары першым сустрэў гасцей калматы чорны сабачка Жучок, спачатку пачаў брахаць, а потым быццам прызнаў сваіх і завіляў хвастом. На ганак выйшла цёця Поля, абдымала ўсіх ды цалавала. Выйшаў дзед з-пад павеці, дзе ён займаўся сваёю адвечнаю працаю, — ладзіў нейкае калгаснае начынне, стрымана павітаўся, паўсміхаўся ў рыжаватыя вусы.

Ліза найперш пабегла да Дняпра, спынілася над стромаю і доўга глядзела на спакойную роўнядзь вады. Насупраць дзедавага агарода Дняпро адступаў, а паміж ім і старыцаю быў зялёны востраў. У разводдзе ўся гэтая прастора залівалася вадою, а потым, калі ўзровень вады апускаўся, зноў узнікаў востраў. Ліза пабегла ўніз да вады. Проста з-пад ног скочыла вялізная жаба і плюхну-

лася ў ваду. Бераг быў мокры і гразкі. Каля яго прымкнутыя тры лодкі, адна з іх — дзедава. Ліза села ў лодку, разглядвала белыя лілеі, жоўтыя гарлачыкі, сачыла за вадамеркамі, якія снавалі па вадзе. Вялізныя стракозы з пукатымі вачамі кружыліся над вадою. Нічога тут не змянілася за той час, пакуль Ліза жыла ў іншай мясціне. Ёй так хацелася адвязаць лодку, узяцца за вёслы і паплысці далёка-далёка. З гары мама паклікала абедаць. Ліза сама сабе сказала, што яна яшчэ сюды прыйдзе і заспяшалася ў хату.

Цёця Поля была ўзбуджаная і вясёлая, радавалася гасцям. Так ужо вядзецца ў вясковых жыхароў, што радыя яны кожнай новай сустрэчы, бо жывуць адасоблена, у межах свайго селішча. Нават дзед сам сабе ўсміхаўся ў вусы і падміргваў Міцьку. Па абедзе кожны заняўся сваёю справаю. Таіса з Поляю пайшлі аглядаць агарод, Міцька падаўся да дзеда пад павець разглядаць ягоны багаты цяслярскі арсенал. А Ліза засела за падручнікі. Чвэрць яна скончыла добра, толькі дзве чацвёркі было ў атэстаце: па нямецкай мове, якую яна недалюблівала з-за настаўніцы Шэлі і па фізкультуры, бо часам прапускала заняткі. Да таго ж не здала адзін нарматыў, не здолела прабегчы пяцьсот метраў, моцна закалола ў баку, таму сышла з дыстанцыі. Наогул не любіла яна бегаць і скакаць па камандзе. Іншая справа, калі гуляць, напрыклад, у баскетбол ці валейбол, там хоць нейкі вынік ёсць і задавальненне ад перамогі. Ліза больш любіла баскетбол, дзе можна было шмат рухацца, гуляла добра, яе нават уключылі ў зборную каманду школы.

Два тыдні праляцелі хутка. Ліза сядзела за падручнікамі, паўтарыла ўсё, што хоць ноччу разбудзі, магла адказваць на ўсялякае пытанне з праграмы за восем класаў па матэматыцы, мове і літаратуры. Калі да прыёмных экзаменаў засталося зусім мала часу, аднойчы па абедзе Ліза сказала маці, што пара везці дакументы ў тэхнікум. Таіса нездаволена паглядзела на яе і адказала:

— Адкладзі сваё паступленне яшчэ на год. Няма ў мяне грошай.

— Як адкласці? А для чаго я валакла падручнікі?

— Так атрымалася. Трохі не разлічыла я…

Гэтую гаворку чулі дзед і цёця Поля, але ніхто Лізу не падтрымаў. Дзяўчына зразумела, што яны не хочуць, каб яна была тут. Што ж, яна больш не будзе паступаць у той тэхнікум, знойдзе іншае месца. Ёй няма на каго разлічваць, толькі на сябе. Трэба выбіраць завочную або вячэрнюю форму навучання. А цяпер зноў давядзецца вяртацца дамоў. Як ёй не хацелася слухаць кожную нядзелю лаянку, перажываць за маці, якая мусіла ўцякаць сярод ночы невядома куды, каб не быць пабітай.

Ліза адчула, што зараз заплача ад крыўды, таму імкліва выйшла з пакоя. Спусцілася да дзедавай лодкі, адвязала, узялася за вёслы. Слёзы засцілалі вочы, яна, як сляпая, нічога не бачыла перад сабою, не заўважала, што на гары трывожна шумелі дрэвы, хвалі плёскаліся ў бакі лодкі, а вёслы дрэнна слухаліся яе слабых рук.

Неба нечакана завалаклося хмарамі, як звычайна бывае перад навальніцай. Ліза правяла лодку праз вузкую пратоку ў Дняпро, і яе панесла на імклівых і высокіх хвалях. Гэта была не тая знаёмая з маленства лагодная і спакойная рака. Зараз яна віравала, злавала, кідалася на лодку высокімі хвалямі. Ліза ўжо нават і не грэбла, таму што не хапала сілы падымаць вёслы і змагацца з ветрам. Спалохана пачала клікаць на дапамогу, але на беразе нікога не было. Высокая хваля пераскочыла праз борт і напалову напоўніла лодку, дзве наступныя перавярнулі яе. Галавою Ліза моцна стукнулася аб борт і больш нічога не помніла і не ведала.

Знайшлі яе на другі дзень у суседняй вёсцы, куды вынесла тапельніцу цячэннем, сукенка зачапілася за куст і затрымала Лізу, не занесла далёка. Пахавалі дзяўчынку на высокім беразе Дняпра, побач з бабуляю і іншымі продкамі і назаўсёды пакінулі з любаю ракою. Дзед пасадзіў на магіле стромкую таполю, якая вельмі хутка ўзялася расці, быццам набіралася маладой нерастрачанай сілы ў нябожчыцы.

**39**

Пасля смерці Лізы ўсю сваю любоў і пяшчоту Таіса аддавала сыну. А ён, каб вызваліцца з-пад яе апекі, усё часцей знікаў з дамоўкі, пачаў наведваць секцыю байдарачнікаў, што страшэнна палохала маці, у якой вада ўжо забрала адно дзіця. Калі Міця затрымліваўся, Таіса хадзіла яго шукаць на канал, што злучаў возера з электрастанцыяй. Ён крыўдаваў і злаваў, сварыўся з маці, пагражаў, што ўцячэ з дому. Тады яна плакала ад бездапаможнасці, не ведаючы, як паладзіць з сынам. Аднойчы ён доўга не вяртаўся з трэніроўкі. Таіса занепакоілася, пайшла на канал, але на байдарачнай станцыі сустрэла толькі вартаўніка, які сказаў, што трэнер і спартсмены даўно разышліся па хатах. Яна спытала пра Міцю. Вартаўнік запэўніў яе, што ўсе хлопчыкі жывыя і здаровыя, паздавалі байдаркі і пайшлі дамоў.

Таіса ледзь не подбегам кінулася ў горад, але Міці дома не было. Пайшла да трэнера. Той запэўніў, што Міця быў у гурце хлопцаў, якія вярталіся з канала. Абышла ўсіх ягоных сяброў, але ніхто нічога пэўнага не мог сказаць. Яна зразумела: з сынам здарылася нешта дрэннае. Не мог жа ён прапасці невядома дзе. Пачала абыходзіць гаражы і хлеўчыкі, якіх людзі набудавалі без ніякага дазволу. Клікала і прыслухоўвалася, ці не пачуе сынаў голас. Падалася да вагончыка, што самотна чарнеў у вечаровым паўзмроку на стадыёне: вагончык, у якім распраналіся спартсмены перад гульнямі і трэніроўкамі. Увайшла ўсярэдзіну, заўважыла скрыню, клямка якой была зачынена на калочак. Адкінула века і ўбачыла Міцю, ён ужо быў амаль непрытомны ад недахопу кіслароду, выцягнула яго на паветра, пачакала пакуль аддыхаецца, спытала:

— Хто цябе тут зачыніў?

— Браты Харытончыкі…

— Я ж у іх была. Яны сказалі, што нічога не ведаюць.

— А хто ж прызнаецца…

— За што?

— Пабіўся я з малодшым. Яны на мяне наваліліся і загналі сюды…

— Сынок, сынок, ты ж мог загінуць… Навошта табе гэтыя бойкі, ці ты хочаш быць падобным на свайго бацьку?

Міця маўчаў, ён яшчэ не ведаў, на каго яму належыць быць падобным, ці на бацьку, ці на трэнера, ці, можа, на якога героя, які здзейсніў подзвіг і загінуў маладым. Пра такіх часта расказвала піянерважатая. Часам Міця забягаў у яе кабінет. Гэта была жанчына гадоў трыццаці, маленькая, круглая, як яблык, мела сваіх дзяцей, мусіць, таму характар у яе быў добры і памяркоўны. Яна дазваляла хлапчукам пастукаць палачкамі ў барабан, патрубіць у горн. Сярод цікаўных падлеткаў выбірала найбольш здольных гарністаў і барабаншчыкаў, каб на ўсялякі выпадак было іх некалькі ў запас.

Да дзясятага класа Міця канчаткова вызначыўся, што пойдзе ў падводнікі. Як Таіса яго не адгаворвала, нічога зрабіць не магла. Ён лёгка паступіў у вучылішча, хоць не быў выдатнікам з-за ляноты і абыякавасці да школы.

Класная кіраўніца выдала яму дрэнную характарыстыку, якую ён выкінуў, а ў ваенкамаце сказаў, што згубіў. Там яму напісалі новую паперыну, і сухапутны паляшук пайшоў вучыцца плаваць па моры. Ён выбраў свой лёс самастойна, хоць часам і страшыўся абранага шляху, але стараўся адкідаць дрэнныя думкі, а цешыўся толькі добрымі.

У той дзень, калі Міця ад'язджаў на вучобу, Таіса двойчы пабыла ў райцэнтры і ўсё ж заспела сына на вакзале. Ён саромеўся яе прысутнасці, усё выпраўляў дахаты, а яна стаяла, пакуль будучых курсантаў не пагрузілі ў вагон, і цягнік ціха не адплыў ад перона. Дамоў вярнулася з адзеннем сына, згарнула яго, паклала пад падушку, так і спала цэлы месяц, пакуль не прыйшоў ад яго ліст, што ён залічаны курсантам у вучылішча.

З ад'ездам сына нічога не змянілася ў адносінах Аўдзея і Таісы. Ён цвярозы быў паслухмяным і добрым чалавекам, а калі напіваўся, зарываўся і шукаў зачэпку, каб набіць жонку. Гэтаму было сваё тлумачэнне. Толькі добра выпіўшы, ён адчуваў сябе чалавекам. Тады ён хораша спяваў на людзях, нікога не саромеўся і не баяўся. Мог пасварыцца і пабіцца з усялякім, адстойваючы сваю думку ці інтарэсы, наогул адчуваў сябе ўладаром свету. Цвярозы пачуваўся неадукаваным і коснаязыкім. Акрамя таго, што гарэлка разнявольвала душу і развязвала язык, яна давала вялікую сілу. Прынамсі, так яму здавалася. І нічога, што на другі дзень балела галава. Ён разумеў: арганізм патрабуе падмацаваць вынік. Цяпер ён піў не толькі па нядзелях, але знаходзіў мноства прычын, каб выпіць шклянку і пасля працы, для гэтага прыберагаў сабе грошы, не ўсе аддаваў Таісе. Яны засталіся ўдваіх, можна было ўжо не надта эканоміць, не трэсціся над кожнаю капейкаю. Тым больш, што да гэтага часу Аўдзей ужо атрымаў кватэру, абставіў яе. Цяпер Малаша прыходзіла да яго мыцца ў ванну і нахвальвала гэтую вялікую зручнасць.

Таіса ўладкавалася на працу гардэробшчыцаю ў клуб. Дзвюх зарплат хапала на малую сям'ю. Ён нават іншы раз пасмейваўся з жонкі і прапаноўваў жыць кожнаму на свае заробкі, ведаючы, што Таіса атрымлівае ледзь не ўдвая менш. Яна сварылася, называла яго крывасмокам і іншымі непрыемнымі словамі. Аўдзей спачатку аджартоўваўся, маўляў, пана клянуць, а ён таўсцее, а потым і сам заводзіўся. Так пачыналася чарговая сварка, якая пагражала скончыцца бойкаю.

Таіса, кожны раз чакаючы мужа з працы, нервавалася, спрабуючы адгадаць, які ён сёння прыйдзе, цвярозы ці п'яны, і загадзя рыхтавалася да сустрэчы. Іншы раз казала яму:

— Сына мы выгадавалі, давай разыдземся па-добраму. Бяры сабе, што хочаш з хаты, толькі дай мне спакой, я стамілася ад гэтай калатнечы.

— Я табе разыдуся, — пагражаў ён, — цябе заб'ю і сам павешуся!

І яна разумела, што кахае ён яе, а дурноту дае яму гарэлка, не цяміць, што робіць, як нап'ецца. Аднойчы вырашыла напалохаць яго ды і праверыць ягонае каханне…

Аўдзей увайшоў у кватэру, дзверы былі незамкнёныя. Ён здзівіўся, што ні ў двары, ні дома жонкі не застаў. Убачыў адчыненую кладоўку, міжвольна падумаў, мо якія злодзеі пагаспадарылі. Зазірнуў туды і ўбачыў, што Таіса павесілася, па барадзе цякла сліна, галава схілілася на бок. Ён нема закрычаў і кінуўся да дзвярэй.

— Я жывая! Жывая! — закрычала Таіса. — Куды ты. Я падманула цябе…

Аўдзей ашалела глядзеў на яе, хапаў паветра ротам, як рыба, і не мог прамовіць ні слова. «Кахае», — заспакоена падумала яна.

**40**

Амаль дзесяць гадоў будаваў Кандрат хату. Наймаў людзей, прасіў дапамогі ў цесця і Аўдзея. Нават Таісін брат Рыгор, чалавек майстравіты і кампанейскі, прыязджаў і два тыдні дапамагаў пакласці падлогу. Наогул Рыгор лёгка адклікаўся на просьбы сястры, бо адчуваў ускосную віну перад ёю. Яшчэ ў маладосці ён пасля таго, як вярнуўся з войска, прыехаў да яе. Час тады быў цяжкі і галодны. Таіса працавала афіцыянткаю ў рэстаране, зарабляла мала, на той час ужо разышлася з першым мужам. Грошай ёй самой ледзь хапала, каб здымаць кватэру ды ўтрымліваць сябе і дачку. А тут брат зваліўся, трэба ж было нечым карміць хлопца. Яна ўзяла без дазволу кухара кавалак мяса з лядоўні, за гэта яе звольнілі з працы. Тады яна вымушана была завербавацца ў Растоў, а Рыгора наогул лёс закінуў ажно ў Казахстан. Дасталося ёй у той вярбоўцы, але стуль вярнулася з новым мужам, дык, пэўна, такі быў яе лёс. Рыгор вельмі хацеў, каб сястра пераехала да яго бліжэй на Магілёўшчыну, казаў, што дапамог бы хату паставіць, але сястра адмаўлялася, маўляў, ад дабра дабра не шукаюць. Мае яна двухпакаёвую кватэру, дык і хопіць. Нашто ёй тыя мітрэнгі з будаўніцтвам новае хаты? Рыгор не згаджаўся. Хіба можна параўнаць уласны дом са шпакоўняю на трэцім паверсе?

Кандрат сяк-так здабываў будаўнічыя матэрыялы, але нарэшце справа была зроблена. Хата атрымалася прасторная, на два пакоі, з верандаю. Белая печ красавалася ў правым куце, жоўценькая падлога з сасновых дошак цешыла вока.

У кастрычніку перанеслі рэчы, зварыла Ульяна абед, паелі ўсёй сямейкай. Хораша ў хаце, як на свята. Кандрат з палёгкаю ўздыхнуў. Цяпер ніхто не скажа, што мае правы на гэтае жытло. Калі Аўдзей хоча, няхай засяляецца ў старую бацькаву хату.

— Цяпер і памерці не страшна, — задаволена сказаў ён Ульяне.

— Цяпер сама пажыць, — з усмешкаю азвалася жонка. — Мы трохі вызваліліся ад працы, дык мо наведаем маю сястру ды запросім на ўлазіны. З самае вясны яе не бачыла, усё справы ды справы…

— Яна не такая занятая, магла б і сама наведаць нас.

— Не хацелася мне ў старую хату нікога запрашаць, цяпер жа не сорамна людзям паказаць, што мы з табою пабудавалі…

— Добра, сходзім у нядзелю, — паабяцаў Кандрат.

З дзяцей дома заставаліся Віталік і Сярожка, які вярнуўся дамоў са спецінтэрната. Дачка Ала вучылася на швачку ў Гродне, старэйшы Алег служыў у войску. У нядзелю Малаша з Сярожкам засталася дома, а Кандрат з Ульянаю і Віталікам выправіліся ў госці. Добра там пасядзелі і пагаманілі. Кандрат не ўтрымаўся, каб не выпіць лішнюю чарку. Ішоў па дарозе, хістаючыся з боку ў бок, як матрос па палубе. Міма праносіліся машыны, асляпляючы фарамі. Ён злаваў і лаяўся:

— Ух, навалач! Скуль вас столькі ўзялося на нашу галаву! Ненавіджу іх! — сказаў ён Ульяне. — Забралі наша поле, наша жыццё! Усё лепшае забралі! Я колькі гадоў ездзіў, зарабляў, потым будаваўся, недаядаў, капейку да капейкі складаў. А яны муруюць сабе будынак за будынкам і раздаюць за так кватэры чорт ведама каму! Донер ветэр!

Кандрат з маладых гадоў вынес гэтую нямецкую лаянку і ўжываў яе значна часцей, чым звычайны мат, бо яна была больш мудрагелістай.

— Аўдзей кватэру атрымаў! Вада халодная, вада гарачая, газ, калі ласка! А я да смерці буду насіць ваду з калодзежа! Не, я не зайздрошчу! Наадварот, ганаруся, што ўсё зрабіў сваімі рукамі, сваімі мазалямі! Мае дзеці будуць мець

у спадчыну хату ад бацькі, яшчэ і садок пасаджу! Усё ў мяне будзе! — ён прамаўляў са злосцю, шырокія ноздры раздзімаліся.

Міма пранеслася машына. Кандрат памахаў ёй кулаком услед і крыкнуў:

— Гэй вы, набрыдзь смярдзючая, вы нам усю зямлю спаганілі сваёю атрутаю! Гэтая станцыя штодня ў дзве трубы пыхкае дымам, яшчэ і машыны тудысюды шнуруюць! Слухайце, а чаму гэта яны ездзяць, а мы пешкі сунемся! Ды яны павінны нас на руках насіць, што мы такую зямлю ім падаравалі! Кандрат азірнуўся, убачыў, што іх даганяе машына і кінуўся ёй наперарэз, махаючы рукамі і крычучы:

— Стой, паскуднік! Стой, кажу!

Завішчалі тармазы, машыну развярнула на месцы і недзе там пад машынаю апынуўся Кандрат. Ульяна загаласіла, кінулася да мужа. У святле фараў убачыла ягоную скрываўленую галаву. Ён быў непрытомны.

Кандрат так і не прыйшоў да памяці. Тры дні яго патрымалі ў рэанімацыі. А потым душа ягоная адляцела на вечны спачын. Над яго труною Ульяна галасіла на ўсе могілкі, называла словамі, якіх ён ад яе жывы ніколі не чуў, сakолікам ды ясным месячыкам. Малаша плакала ціха, нешта прамаўляла сама сабе і ніяк не магла ўзяць да розуму, чаму Бог забраў у яе некалі маленькую дачку, потым маладога мужа і сярэдняга сына, а цяпер і самы малодшы Кандрат выправіўся за імі. Чым яна ўгнявіла Бога, што столькі стратаў выпала на яе долю, ці ж можна гэта перажыць, не звар’яцець, не акалець самой? Нельга, каб дзеці паміралі раней за маці!

Пасля пахавання ў хаце ўсталявалася гнятлівая цішыня. Малаша крыўдавала на Ульяну і ўнука, што не ўтрымалі Кандрата. Ужо ж яны ведалі, які ён нястрыманы, калі п’яны. Але нічога нельга было паправіць. Бог забраў сына, а з Богам не паспрачаешся.

Каб суцешыць маці, па вечарах пачаў заходзіць Аўдзей, сядзелі з Ульянаю за сталом, вячэралі, выпівалі пляшку самагонкі, згадвалі Кандрата. Малаша дрэнна адчувала сябе, ляжала на печы, маўчала, не мела сілы гаварыць. Удзень яна яшчэ трохі варушылася, а пад вечар знемагалася, старасць паступова падбіралася да яе. Глядзела яна на Аўдзея і Ульяну, думала, няхай бы ён кінуў жонку з чужыны, а прыйшоў да нас, дык і зажылі б мы няблага. Ульяне ж яшчэ дзяцей трэба падгадаваць.

Калі Аўдзей заседжваўся дапазна, па яго прыходзіла Таіса, сціпла прымошчвалася на ўслоне, каля парога, маўчала, слухала гаворку, пасля лагодна пачынала ўгаворваць мужа вярнуцца дамоў. Ульяна моўчкі ціснула Аўдзею на нагу пантофлем пад сталом, як ён разумеў, прапаноўвала застацца. Але ён шкадаваў Таісу і сыходзіў разам з ёю. Аднойчы жонка сказала Аўдзею:

— Калі табе падабаецца Ульяна, дык бяры з хаты, што хочаш, і ідзі да яе, я табе слова супраць не скажу.

— А чаго гэта я да яе пайду? — абурыўся Аўдзей. — У мяне ёсць свая хата і жонка…

Ён перастаў хадзіць у новую Кандратаву хату. А потым дазнаўся, што занемагла маці, паклалі яе ў бальніцу і сказалі, што позна старая звярнулася, нават аперацыю не ўзяліся рабіць. Малаша згарэла хутка, за нейкія тры тыдні. Перад смерцю яшчэ пабачылася з Аўдзеем і незадаволена сказала:

— А ты, дурань, купі на мае памінкі тры пляшкі гарэлкі.

Ён ведаў, чым была незадаволена маці: не тую жонку сабе выбраў у маладосці і цяпер адмовіўся ад Ульяны. Хвалявалася Малаша за лёс унукаў, хацела, каб Аўдзей стаў ім бацькам. А ён не мог пакінуць Таісу, хоць сварыўся з

ёю, часам біў яе, але лічыў самаю прыгожаю і разумнаю жанчынаю. А Ульяна была яму чужая і не патрэбная.

— Даруй, маці, калі што не так, — толькі і сказаў ён у адказ.

Ён выканаў яе запавет, купіў на памінкі тры пляшкі гарэлкі і выпіў з нейкім выпадковым чужым чалавекам на верандзе за вечар. Недзе апоўначы прыйшла па яго Таіса і амаль непрытомнага прывяла дамоў.

## 41

Пасля смерці Кандрата і Малашы Ульяніна хата зусім апусцела, пуста было і ў каліце. Якія заробкі ў калгасе? Хіба дадуць сена карове, салому на падсціл ды кармавых буракоў свінням. Але нядоўга заставалася Ульяна толькі з малодшымі сынамі Віталем і Сярожкам. Прыйшоў з войска Алег, адразу ўладкаваўся на працу, дык у хаце з'явіліся такія-сякія грошы. Ульяніна душа пачала адтаваць. Яна чакала, што хутка павінна вярнуцца з вучэльні Ала, дык і будуць зноў усе разам. Але дачка прыслала ліст, што збіраецца замуж за нейкага хлопца з Казахстана, а таму, як толькі яго дэмабілізуюць, паедзе знаёміцца з ягонымі бацькамі. Ульяна напісала дачцэ, што таксама хацела б пазнаёміцца з будучым зяцем, але адказ прыйшоў з Казахстана. Ала была ўжо там. Ульяне нічога не заставалася, як павіншаваць дачку ды выслаць пасылкаю загадзя назапашаны пасаг: настольнікі, ручнікі, коўдру ды іншую розную дробязь, неабходную ў гаспадарцы, каб не казалі пра дзяўчыну, што прыехала на ўсё гатовае да свякроўкі, а мела ўласныя рэчы ды часцей згадвала маці.

Ульяна зусім супакоілася, зрэшты, яна не адна ўдава на вёску. Рана цяпер адыходзяць на той свет мужчыны. Што зробіш, трэба змірыцца. Яна была шчаслівая і тым, што трое яе сыноў пры ёй, а большага шчасця ёй і не трэба. Ды Ульянін спакой нечакана забрала Палкоўнічыха, нахабная маладзіца, якая мела траіх малалетніх дзяцей. Невядома дзе пазнаёмілася яна з Алегам, які пачаў да яе хадзіць ды прапіваць з ёю грошы. Дайшло да таго, што аднойчы Алег аддаў ёй увесь заробак за месяц. Ульяна не вытрымала і надвячоркам пайшла сварыцца. Палкоўнічыха адчыніла дзверы з цыгарэтаю ў руцэ і спытала:

— Што табе трэба, цётка?

— Хачу пра Алега з табою пагутарыць…

— Ах, пра яго? Ну, заходзь! А ты хто яму будзеш? Маці? А я думала бабуля, — зарагатала Палкоўнічыха. — Паслухай, Танька, што робіцца, да нас Алегава маці прыйшла.

У калідор высунулася кудлатая жаночая галава з п'янымі вачамі, якая прамовіла:

— Давай яе сюды, за стол.

Палкоўнічыха падштурхнула Ульяну, скіроўваючы яе на брудную кухню, дзе на стале стаяла пустая пляшка гарэлкі і толькі распачатая з «чарнілам».

— Заходзь, заходзь, я Алега люблю. Ён добры хлопец, не скупы. Выпі з намі чарку…

— Не буду я з вамі піць! — заўпарцілася Ульяна, з агідаю пазіраючы на брудную кухню. — Я прыйшла сказаць, каб ты пакінула майго сына ў спакоі.

— Нашто табе твой сын? Мо ты сама будзеш з ім спаць? — зарагатала Палкоўнічыха.

— Як у цябе язык павярнуўся такое сказаць? Яму трэба добрая дзяўчына, каб ажаніцца ды сям'ю стварыць, а не такая гуляка, як ты.

— Гэта я гуляка? Ды ў мяне муж палкоўнік быў, у Афгане загінуў! — выпучыла магутныя грудзі гаспадыня.

— Увесь горад ведае, што твае дзеці ад розных бацькоў, а ты й сама не ведаеш ад каго! Палкоўнічыха задрыпаная знайшлася!

— Паслухай, Танька, яна мяне ў маёй хаце з граззю змяшала! Што мы з ёю зробім?

— Намылім шыю, расквасім нос і размажам суку па сцяне, — адказала хаўрусніца і, хістаючыся, паднялася з-за стала.

Абедзве п'яныя жанчыны наваліліся на Ульяну, пачалі малаціць кулакамі па чым папала. Толькі тое, што яны дрэнна трымаліся на нагах, выратавала госцю. Яна адштурхнула іх і рынулася да дзвярэй. Ужо на лесвічнай пляцоўцы Палкоўнічыха ўхапіла Ульяну за крысо паліто і не выпускала, валаклася следам. На двары іх дагнала Танька. Яны наваліліся на Ульяну, кінулі на лаўку, не адпускалі.

— Што зробім з ёю? — спытала Палкоўнічыха.

— Халера яе ведае… Мо каменем галаву расквасім?

— Алег пакрыўдзіцца…

— Давай прывяжам да дрэва, няхай пастаіць і падумае, на што яна замахнулася! Захацела ўласнага сына пазбавіць кахання! Ты чуеш, старая, мяне твой Алег кахае без памяці! — сказала Палкоўнічыха. — Не чапай ні мяне, ні яго, бо я цябе прыдушу!

Зняможаная Ульяна маўчала і ўсё тузалася, каб як вырвацца з агідных абдымкаў. Пакуль мажная Палкоўнічыха трымала Ульяну, хаўрусніца адвязала вяроўку, што была прымацаваная паміж слупамі для сушкі бялізны. Праз нейкіх пяць хвілін Ульяна ўжо стаяла прывязаная да дрэва і плакала ад безвыходнасці. Чакала, мо нейкі чалавек дапаможа ёй. Але ўжо сцямнела і чамусьці, як на злосць, на вуліцу ніхто не выходзіў. Недзе праз паўгадзіны яна нарэшце ўбачыла Алега, які кіраваўся да Палкоўнічыхі, паклікала яго:

— Сынок, дапамажы мне…

Алег пра ўсё здагадаўся, не стаў нават нічога пытаць, бо дома Віталь яму сказаў, што маці пайшла сварыцца да Палкоўнічыхі. Ён разрэзаў вяроўку сцізорыкам і сказаў Ульяне:

— Не чапай яе, мама. Яна адчайная, я сам не ведаю іншы раз, што ад яе можна чакаць. Кахаю яе, не замінай нам.

— Калі кахаеш, дык жаніся, чаго швэндаешся, — ні дома, ні ў дарозе.

— Не хоча яна… Волю любіць…

— Самадайка яна! Галаву табе тлуміць! Не будзе ў цябе жыцця з ёю, сынок.

— Без яе мне таксама не жыць…

— Божа літасцівы, зусім хлопец розум страціў, — заплакала Ульяна. — Яны мяне там ледзь не забілі, а ты зноў пойдзеш туды? Ды ці мала дзяўчат навокал?!

— Пайду, — упарта адказаў Алег, але працягваў весці маці пад руку.

Так яны і прыйшлі разам дахаты, але сын дома не затрымаўся. Ульяна толькі з дакорам і крыўдаю паглядзела яму ўслед. Старэйшага сына яна лічыла самым разумным і прыгожым. А выйшла — памылілася.

— Як ты можаш ісці туды! Яна ж ледзь не забіла мяне! — крыкнула яна сыну ў спіну, ён нават не азірнуўся. — Дык і не прыходзь! Заставайся з тою самадайкаю!

Думала сын у сенцах не пачуе. Аднак памылілася і шмат разоў пашкадавала, бо Алег пасля гэтага застаўся жыць у Палкоўнічыхі.

**42**

Шкада было Ульяне Алега, але нічога не зробіш, мусіць, такі ягоны лёс. Дома заставаліся яшчэ два сыны, Сярожка і Віталь, з якімі таксама хапала клопатаў. Малодшы так-сяк заканчваў дзясяты клас, а сярэдні швэндаўся без усялякай справы ці на дварэ, ці ішоў у Сіньгорад. Дома зімой асаблівай працы не было, хіба што накалоць дроў ды прынесці вады. Карову Ульяна не трымала пасля таго, як памерла Малаша. Малако можна і ў краме купіць, праўда, не такое смачнае, як сваё, аднак і турботы ніякае не ведаеш, заплаціў грошы — і пі на здароўе. Дарэчы, яе хлопцы больш любілі гарэлку, чым малако. Такія ўжо ўдаліся, мусіць, у бацьку. Усяго гаспадаркі было ў Ульяны, што куры. Планавала вясной пры нагодзе купіць парасятка, каб да каляд мець скварку.

Менавіта тады ў вясновую пару раптам вярнулася дамоў Ала з малою дачушкаю. Сказала маці, што муж яе прыраўнаваў да некага, яна пакрыўдзілася і паехала дамоў.

— Навошта ты пасняшалася? Ці мала што ў жыцці бывае! Можна ж было разабрацца ды і жыць.

— Пра што ты, мама, кажаш? Як разабрацца? Я наогул нічога не разумела, што яны кажуць на сваёй мове. Завёз мяне ў нейкі кішлак, дзе ўсяго дзесяць гліняных хатак. Мне іхняе жыццё не спадабалася. Там усё не так, як у нас.

Голас у Алы быў гнусавы, але ад абурэння і нянавісці нават з'явіліся ў ім нейкія металічныя ноткі. Ульяна глядзела на дачку і не пазнавала, іншая яна стала, пасталела, узмужнела.

— Прыехала, дык і добра, я хоць на ўнучку сваю пагляджу, палашчу яе, папешчу. А каб жыла ў тых казахаў, дык, мусіць, і не сабралася б дахаты наведацца.

Ульяна ўзяла на рукі дзяўчынку з вузкімі чорнымі вочкамі і пляскаценькім тварыкам, ды ўсё ж вельмі прыгожанькую, прытуліла да грудзей, пацалавала ў лоб, потым узняла высока, усміхнулася малой, і тая адказала радаснаю ўсмешкаю, прызнаючы сваю бабулю.

— Анжэлка! Анжэлка! Якая прыгожанькая ты ў нас расцеш! Шкада, што дзед Кандрат яе не бачыць, вось быў бы задаволены. Алегава Палкоўнічыха нам унука не народзіць, у яе сваіх ужо трое. Цяпер шмат дзяцей ніхто не заводзіць. Алег да нас не прыходзіць. Яна яго, мабыць, не пускае. Не інакш, як прычаравала хлопца…

— Мне вельмі хацелася прыехаць цяпер, напярэдадні майго дня нараджэння. Каб мы сабраліся ўсе разам. Трэба і Алега паклікаць. Даўно не бачыліся. Я помню, як ён мяне малую няньчыў і на руках насіў, — сказала Ала.

— Што і казаць, добры быў наш Алег, пакуль з гэтаю выдраю не звязаўся. Пашлём Сярожку, мо ўгаворыць яго, — сказала Ульяна.

Праз дзень Ульяна прыгатавала добрую вячэру, купіла пляшку гарэлкі. Без Малашы перастала гнаць самагонку, не тое, што ленавалася, а не хацела лішні раз уводзіць сыноў у спакусу. Паселі за стол, чакалі Алега. Не прыйшоў, мабыць, Палкоўнічыха не дазволіла. Выпілі па чарцы за здароўе імянінніцы, а таксама за малую пляменніцу, і пляшка апусцела.

— Дай, маці, яшчэ гарэлкі. Мы ж толькі вусны памачылі! — папрасіў Віталік.

— І хопіць. Бач на яго, яшчэ вусы не выраслі, а ўжо давай яму гарэлку!

Сярожка таксама нешта патрабавальна прабурчаў, па барадзе ў яго цякла сліна, выглядаў агідна, але сямейнікі ўжо звыклі да ягонага твару і не звярталі ўвагі.

Ульяна ўстала з-за стала і сказала:

— Пабалявалі і годзе! Буду посуд прыбіраць.

— Маці, дай грошай, я пайду яшчэ хоць «чарніла» пляшку куплю, — папрасіў Віталь.

— Адчапіся, няма ў мяне грошай.

— Гондэ, у кішэні, я ж бачыў, — Віталь пацягнуўся да матчынай кішэні.

Яна адхіснулася. Ён незнарок штурхнуў яе. Ульяна зачапілася за паморшчаны ходнік і звалілася на падлогу. Бразнулі дзверцы грубкі.

— Дурань ты! — крыкнула Ала на Віталіка і памкнулася, каб падняць маці, але тая ляжала на баку нерухома.

Дачка прыпала да яе грудзей, каб паслухаць, ці б'ецца сэрца і ў жаху адхіснулася.

— Ты забіў яе! — закрычала яна.

— Я не хацеў! Ты ж бачыла! Я не вінаваты! Яна сама крутнулася, упала і стукнулася аб зашчапку грубкі.

— Сярожка, паглядзі за малой, — крыкнула Ала. — Я пабягу па хуткую.

— Можа, патэлефанаваць ад Ленінкі? — прапанаваў Віталь.

— Я сама хутчэй дабягу, тут нейкіх трыста метраў.

Сапраўды, бальніца была блізка, Сіньгорад не паспеў разрасціся і стаяў побач з вёскаю. Ала выбегла з хаты, а Віталь нахіліўся над маці, тузаў яе за рукаў, спадзяваўся разбудзіць нерухомае цела і знямелыя вусны. Ён плакаў, седзячы на падлозе. Сярожка сеў побач і таксама завыў неяк ненатуральна, па-звярынаму. Заплакала малая на ложку. На яе ніхто не звяртаў увагі.

Віталю здалося, што мінула цэлая вечнасць, пакуль вярнулася Ала з дзяўчатамі ў белых халатах. Доктарка канстатавала, што Ульяна мёртвая.

— Я ў міліцыю, — сказаў Віталік і выйшаў з хаты ў адной белай расцягнутай майцы.

— Апраніся! — крыкнула яму Ала наўздагон, але ён нічога не пачуў, адна жудасная думка свідравала ягоны мозг: «Я забіў сваю маці!»

Гэтая думка паўтаралася бясконца, быццам ён сам сабе выносіў прысуд, бо разумеў, што пасля гэтага не мае права жыць, вяртацца дамоў, глядзець у вочы братам і сястры. Адначасова ўзнікала слабое апраўданне: «Яна сама… Я не вінаваты… Гэта няшчасны выпадак…»

Пасля блытанага прызнання і тлумачэння, пасля званка дзяжурнага міліцыянера на станцыю хуткай дапамогі, Віталя пасадзілі ў асобны пакой, дзе ён скурчыўся ў кутку і спрабаваў сагрэцца. Яго калаціла так, што зуб не трапляў на зуб, сутарга зводзіла ногі. Ён сціскаў сківіцы, каб не закрычаць. Потым раптам яму зрабілася горача. Галава і ўсё цела палалі ў пякельным агні. Ён разадраў майку і скінуў яе з плячэй. А потым ужо і не помніў, як рваў яе на кавалачкі і жаваў, быццам сам сябе хацеў знішчыць, раструшчыць, каб і следу не засталося. Калі раніцай міліцыянер прыйшоў па яго, каб яшчэ раз дапытаць, ад майкі нават ніткі не засталося.

## 43

З Віталем у міліцыі разабраліся хутка, ён узяў усю віну на сябе. Меліся сведкі. За ненаўмыснае забойства маці суд прысудзіў яму кару — восем гадоў зняволення. Яго завезлі адбываць тэрмін у турму. Некалькі разоў Ала наведвала брата, а найчасцей пасылала няхітрыя пасылкі: сала, тлушч, цыбулю,

цыгарэты, нешта з бялізны. Асабліва раскашаваць не даводзілася, працавала на будоўлі, зарабляла мала, а трэба ж было і за малую ў садку плаціць і дровамі запасацца ды і Сярожку ўтрымліваць за свой кошт, бо якая ў яго тая пенсія. А яго ж абуць ды апрануць трэба.

Віталік пазнаёміў Алу з нейкім сваім хаўруснікам па турме Ігарам. Вязень і дзяўчына пачалі перапісвацца. Ігар пісаў прыемныя лісты, расказаў пра сябе, што сядзіць з-за ўласнага маладога глупства, у час бойкі на танцах стукнуў аднаго хлопца пад дых, а ён аказаўся слабаком, там на месцы і памёр, мусіць, не столькі ад болю, колькі ад страху. Рос Ігар без бацькі, маці колькі гадоў таму пакінула гэты свет, яму засталася хата ў прыгарадзе Магілёва, туды ён і збіраўся вярнуцца пасля вызвалення. Папрасіў Алін фотаздымак, а калі атрымаў, дык напісаў, што дзяўчына яму вельмі спадабалася. Хутка ён вызваляецца і прапаноўвае ёй руку і сэрца.

Ала звыкла да ягоных лістоў, нецярпліва чакала іх. Незаўважна Ігар завалодаў яе душою і думкамі. Была перакананая, што з ягоным вызваленнем яна распачне новае жыццё. Праўда, хвалявалася за Сярожку: хто яго дагледзіць? Ды Алег паабяцаў узяць гэты клопат на сябе.

У Магілёў Ала паехала з Анжэлкаю. Ігар сустрэў іх на вакзале, прыехаў з нейкім сваім прыяцелем на машыне. Абняў і пацалаваў каханую, пагладзіў па галоўцы Анжэлку, пахваліў, што прыгожая дзяўчынка. Прывёз дамоў, завёў у брудны пакой з абадранымі шпалерамі і старою замусоленаю мэбляю. «Нічога — падумала Ала, — адмыю, адшарую». Гаспадар накарміў гасцей, і вельмі рана паклаў адпачываць з дарогі. Ала зразумела, што яму хацелася палюбіцца з ёю. А ёй Ігар знешне здаўся зусім не прывабным: нізкарослы, на кароткіх нагах, лысаваты, звычайны, на такога ў натоўпе ўвагі не звернеш. Не хацелася ёй спяшацца, пачынаць жыццё адразу з пасцелі, думала проста пагасцяваць, агледзецца, але не атрымалася. Ужо ў тую першую ноч яна адчула, які ён жорсткі і непрадказальны, але падумала, што засумаваў чалавек у турме па жаночай ласцы, вось і не трываецца яму атрымаць усё і адразу.

Так пачалося іхняе сумеснае жыццё і доўжылася гады тры. Ала зноў падалася на будоўлю, Анжэлка пайшла ў першы клас. Ігар уладкоўвацца на сталую працу не спяшаўся, а штодня некуды ездзіў са сваімі хаўруснікамі, якія, як ён казаў, танна куплялі ў сялян свіней, бульбу, гуркі, памідоры, чарніцы, парэчкі, а потым усё гэта перапрадавалі на рынку па значна больш высокай цане. Прынамсі, такія-сякія грошы ў яго вадзіліся. З першага дня ён папярэдзіў Алу, каб на яго заробкі не разлічвала. Яна прэтэнзій не мела. Зарабляла не шмат, але на сябе і Анжэлку хапала. Ды ў хуткім часе Ігар пасварыўся, прынамсі, ён так тлумачыў, з былымі хаўруснікамі. З'явіліся нейкія новыя сябры, якія нічога не зараблялі, а найчасцей прыходзілі да Ігара, каб выпіць.

У адзін з восеньскіх вечароў Ала вярнулася з працы з пакункамі, прынесла харчы і застала дома вясёлую кампанію. Хлопцы ўжо ўсё, што мелі, павыпівалі і з надзеяй пазіралі на маладзіцу.

— Мо ты якую пляшку прынесла? — спытаў Ігар.

— Яшчэ чаго не хапала, выпіўку табе насіць! — адказала яна раздражнёна.

— Дык зрабі нам што паесці, — прапанаваў гаспадар.

— Ага, зараз, разагналася! Мала што цябе кармлю, дык яшчэ і алкаголікаў сваіх хочаш мне на шыю павесіць! Пайшлі прэч адсюль, расселіся, як на імянінах! — пачала яна выганяць мужавых хаўруснікаў.

— Не чапай маіх сяброў! Я за іх горла ўсялякаму перагрызу! — закрычаў Ігар.

Але мужчыны, адчуваючы, што ім нічога добрага не перападзе, панура ўсталі з-за стала і папляліся да выхаду. Ігар пайшоў іх праводзіць. Ала спытала ў Анжэлкі, як яе справы ў школе. Малая адказала, што ўсё добра, толькі Максім Малюк чамусьці да яе чапляецца і тузае за касу.

— Патрывай, я ў суботу прыйду ў школу, пагутару з гэтым паскуднікам, — паабяцала маці і звыкла прынялася варыць вячэру.

Анжэлка ўмасцілася на канапе, гартала кніжку. Ігар уварваўся ў пакой злосны, як раз’ятраны бык.

— Хто ты такая, каб тут распараджацца?

— Здаецца, яшчэ сёння была тваёю жонкаю, — спакойна адказала Ала.

— Ты жонка? — з пагардаю спытаў Ігар і брыдка вылаяўся. — Ды такіх жонак у мяне — хоць гаць гаці.

— Не лайся, тут дзяўчынка!

— Што? Мо я яшчэ павінен у вас прабачэння прасіць за нецэнзурныя словы? Вымятайся з маёй хаты са сваёй...

Ён не дагаварыў, схапіў Анжэлку і шпурнуў на падлогу, а сам лёг на канапу. Ала дапамагла падняцца дачцэ, спытала, што ёй баліць?

— Каленам моцна выцялася і локцем, — паскардзілася дзяўчынка.

Ала агледзела даччыны болькі, на калене і локці красавалася па сіняку, пацалавала, падзьмухала, каб хутчэй зажывала.

— Ты навошта дзіця крыўдзіш? Што яна табе зрабіла? — спытала разгневаная жонка.

— Маўчы, бо зараз абедзвюх прыкончу і ў агародзе закапаю, ніхто слядоў не знойдзе. Мне не першы раз! — адказаў Ігар, пыхкаючы толькі што прыкуранай цыгаркаю.

— Ты — забойца! Яшчэ і выхваляешся гэтым! Божа мой, з кім я звязала свой лёс!

— Маўчы! Задушу! — зароў Ігар, устаючы з канапы і накіроўваючыся да Алы.

«Зараз зноў будзе біцца», — з адчаем падумала яна. У яе душы ў гэты момант прачнулася натура бабы Малашы, якая ўмела бараніць сябе і сваіх дзяцей! Ала схапіла са стала вялікі кухонны нож, якім толькі што крышыла капусту на салату, ступіла першай да яго, усадзіла ў пукаты жывот і адскочыла ўбок. Сама здзівілася, як лёгка ўвайшоў нож у цела, быццам у масла. Ігар сагнуўся папалам, цяжка выдыхнуў і ўпаў на падлогу. Вакол яго расцяклася лужына крыві і яшчэ нечага смярдзючага.

Ала абняла дачку і сказала:

— Не бойся, Анжэлка, ён нас больш і пальцам не кране.

— Мама, там кроў!

— Гэта віно, чуеш, як смярдзіць! Пойдзем адсюль…

Ала завяла дачку да суседзяў, выклікала міліцыю і хуткую дапамогу, выйшла на вуліцу, застыла каля весніц у чаканні. Усё жыццё прамільгнула перад ёю за тыя дваццаць хвілін, пакуль з’явіліся міліцыянеры і дактары. Яна не разумела, чаму ёй пры жывых бацьках не шанцавала з маленства. Мусіла вучыцца восем гадоў у спецінтэрнаце на казённых харчах, ад якіх заўсёды хацелася есці. Насіла казённае адзенне, а потым яшчэ тры гады гэтак жа існавала ў вучэльні. Жыццё замужам за казахам не дадало радасці. А што датычыцца Ігара — дык гэта наогул не жыццё было, а кара Божая невядома за што… Самая страшнае, што пакутавала не толькі яна, але і дачка. Дзяўчынка расла вельмі ўражлівая і знерваваная, адмаўлялася называць айчыма бацькам, хоць ён упарта гэтага дамагаўся. Навошта? Невядома… Мо хацеў іншы раз казырнуць перад сябрамі, маўляў, глядзіце, які я шчаслівы, усё ў мяне, як у людзей…

## 44

За наўмыснае забойства Ала была асуджана на дванаццаць гадоў турмы. Дачку яе забралі ў дзіцячы дом. Яна пісала лісты Анжэлцы так часта, як толькі дазваляла турэмнае начальства, гэта падтрымлівала ў расстанні абедзвюх. Яны апантана марылі пра сустрэчу. Ала рабіла ўсё для таго, каб нічым не правініцца, не парушыць турэмны парадак. З жанчынамі, якія адбывалі пакаранне разам з ёю, не задзіралася, засяроджаная на сваім клопаце пра дачку. Ніхто Але пасылак не прысылаў, ніхто не падтрымліваў, яна выжывала толькі вялікім жаданнем зноў сустрэцца з Анжэлкаю.

Пашчасціла з амністыяй, ёй удвая скарацілі тэрмін, і яна раптам апынулася на волі. Найперш паехала да Анжэлкі ў дзіцячы дом і забрала яе адтуль. Абедзве былі такія шчаслівыя, што трымалі адна адну за руку, не жадаючы нават на момант разлучацца. Маці не магла налюбавацца на сваю чарнявенькую, па-ўсходняму прыгожую дачку. Дзяўчынка вырасла, пятнаццаць гадоў — той пераходны ўзрост, калі ўжо страчваецца падлеткавая вуглаватасць, і праступаюць абрысы будучага дзявочага хараства.

Ала вырашыла ехаць спачатку ў Ляды, бо даўно не атрымлівала стуль ніякіх вестак, ніхто ёй не адказваў на лісты: ні Алег, ні Віталь. Крыўдавала на іх, няўжо цяжка тры словы сястры напісаць?

Плот каля хаты ляжаў покатам, вокны выбітыя, дзверы расчыненыя. Мэблі ніякай, толькі пасярод хаты валялася нейкае бруднае рыззё. Ала зразумела, што з братамі здарылася нешта нядобрае. Пайшла пытаць да суседзяў. Цётка Вольга, жонка Міколы Ленінкі, запрасіла яе ў хату, пасадзіла за стол, пачала частаваць абедам.

— Ды скажыце, нарэшце, дзе мае ўсе?

— Паабедайце спачатку, а потым пагутарым. Усё раскажу… Якая ў цябе дачушка прыгожая, проста лялечка!

Ала хуценька пасёрбала боршч, закусіла прасяною кашаю, ад узвару адмовілася і падрыхтавалася слухаць. Цётка Вольга ўздыхнула і сказла:

— Мацуйся, Алачка, горка казаць, але тваіх братоў нікога ўжо няма на гэтым свеце…

— Як? Чаму? — спытала Ала, не даючы веры цётчыным словам.

— Пэўна, такі лёс…

Анжэлка, якая дапівала ўзвар, адставіла шклянку, насцярожылася.

— Кажыце ўжо, кажыце, як ёсць, — папрасіла Ала.

— А дзяўчынка?

— Няхай слухае, яна і не такое бачыла, беднае маё дзіця, — Ала абняла дачку. — Яна ў мяне мужная, уся ў бабу Малашу. Кажыце…

— Пачалося ўсё з таго, што Палкоўнічыха аддала Алега лячыцца ад алкагалізму на сорак дзён. Якраз у гэты час выпусцілі Віталіка з турмы, не ведаю, як там і што было, але злыгаўся ён з Палкоўнічыхаю. Алег вярнуўся з лячэння і заспеў іх тут разам у ложку голых і п’яных, паглядзеў на іх, пабудзіў, павітаўся, сказаў, маўляў, рады быў пабачыцца. Пайшоў да Палкоўнічыхі на кватэру і засіліўся на яе калготках. Так ужо Віталік плакаў на ягоным пахаванні. Але што цяпер зробіш? Мёртвага слязамі не падымеш. Застаўся Віталік жыць з Сярожкам удвох. Ні працы, ні грошай няма. Сяргеевай інвалідскай пенсіі толькі на тры дні на гарэлку хапала. Звязаўся Віталік з валацугамі, укралі ў чалавека свінню, за гэта твайго брата зноў у турму пасадзілі на два гады. Сярожка застаўся адзін…

Ала ўсхліпнула, не маючы сілы стрымліваць слёзы і ўяўляючы, як яе хворы брат бедаваў тут адзін.

— Не плач, Алачка, — сказала цётка Вольга, — мы іх аплакалі за цябе і за ўсю радню.

— Кажыце, кажыце…

— Сярожка хадзіў у пякарню хлеба прасіць, на рынку дзе якога гурка ці памідора хто-небудзь даваў. Да Палкоўнічыхі наведваўся па старой памяці. Каля яе дома і знайшлі яго мёртвага. Людзі казалі, што, мусіць, яна яго з акна выкінула, вельмі ж пабіты быў. Але ніхто ў суд не падаваў і вінаватых не шукаў. Пахавалі і яго…

— Дзе тая Палкоўнічыха? Невядома, што з ёю зраблю! — ускрыкнула госця.

— Няма яе. Памерла, згарэла ад гарэлкі…

— Што з Віталікам? — спытала Ала, не маючы сілы стрымліваць слёзы, дачка таксама плакала.

Цётка Вольга выцерла вочы ражком хусткі і працягвала аповед:

— Віталік вярнуўся з турмы і пачаў жыць з Тумбаю Мікітаваю.

— А хто гэта? — спытала Ала.

— Гэта з Янавічаў маладзіца такая, п’яніца. Гналі яны самагонку ды прадавалі. Тым і зараблялі сабе на жыццё. Але аднойчы прыйшлі да іх нейкія людзі, нешта яны не паладзілі паміж сабою, усчалася бойка. Тумба памерла адразу, а Віталік яшчэ тры дні пажыў і сканаў. Усе твае браты цяпер на кладах, толькі магілы іхнія ў розных месцах раскіданыя.

— Наведаю іх, — сама сабе сказала Ала.

— А што ты будзеш далей рабіць?

— Прадам хату і паеду ў Магілёў. Я пісала на ранейшае месца працы, мяне абяцалі ўзяць і ў маласямейцы дадуць пакой. Там не хапае тынкоўшчыкаў-маляраў, а ў мяне трэці разрад, — не без гонару сказала Ала.

— Дай божа, каб усё ў цябе атрымалася.

Ала развіталася з суседкаю, вярнулася ў бацькаву хату, знайшла ў каморы лісты фанеры, заставіла вокны, памыла падлогу.

— А дзе ж мы спаць будзем? — спытала Анжэлка.

— На печы, — адказала з усмешкаю Ала. — Печ накорміць, напоіць і спаць пакладзе. Яна галоўная гаспадыня ў хаце. Пойдзем у горад, павесім аб’яву, што хата прадаецца, а заадно наведаем майго дзядзьку Аўдзея. Некалі я хадзіла да яго ў ванну мыцца з бабаю Малашаю.

Старая цётка Таіса сустрэла гасцей прыязна, дзядзька таксама ўсміхаўся, праўда, прамаўляў ён марудна і неразборліва, быў паралізаваны. Правая рука з пакручанымі пальцамі вісела, як нежывая, і нага адна таксама дрэнна слухалася, ён з цяжкасцю перамяшчаўся з кульбакаю па кватэры, засланай дыванам. Усё тут было, хоць і небагата, але добра абстаўлена і чысценька прыбрана.

Гаспадыня прысунала нізкі столік да канапы, паставіла няхітрыя пачастункі: бульбу, гуркі, каўбасу, запрасіла гасцей павячэраць, пацікавілася Аліным жыццём, спачувальна згадвала яе братоў ды бацькоў.

— Гарэлка вінаватая, — сказаў дзядзька Аўдзей. — Каб я не піў ды не курыў, дык мо яшчэ і здаровы быў бы. А так во сяджу, як пень трухлявы.

— Добра разважаеш, а каб сто грамаў паднесла, дык не адмовіўся б! — папракнула цётка Таіса.

— А што, успомніў бы маладосць! Колькі я тае гары перапіў, мо цыстэрну ці дзве…

— Гарбатага магіла выпрастае.

— А як жыве ваш Міця? — спытала Ала.

— У Мурманску ён служыў на падводнай лодцы, цяпер на пенсіі. Там і кватэру атрымаў. Дзяцей у яго няма, а жонка любіць ездзіць толькі на цёплае паўднёвае мора. Бывае ён у нас гады ў рады. Як паўміраем, дык мо і на пахаванне не паспее, — з горыччу сказала цётка.

На развітанне яна падаравала Анжэлцы прыгожую кофтачку, што прыпасла невядома калі і для каго, мо для нявесткі, а Але квяцістую хустачку, абняла, пацалавала і сказала:

— Добра, што хоць вы выжылі. Без вайны, без пошасці ледзь не ўвесь род звёўся. Будзьце здаровыя, дзеткі, няхай вам Бог памагае.

Ала з Анжэлкаю выйшлі прыцемкам з пад'езда, узяліся за рукі і спыніліся.

— Куды цяпер? — спытала дачка.

— Паабедалі мы і павячэралі, цяпер зойдзем у гастраном, купім штонебудзь на сняданак. Заўтра наведаем тваіх дзядзькоў на могілках, а потым, як хату прадамо, паедзем пачынаць з табою новае шчаслівае жыццё. І нікому не дазволім яго сапсаваць…

Ала ішла і думала, што занадта моцна яе бацька прырос да зямлі, вось і выкарчавала яго віхура часу разам з карэннем. А дзяцей, як бязроднае насенне, разнесла па свеце, закружыла, але не здолелі яны без бацькоўскай падтрымкі пусціць карані на гэтай зямлі, а таму без пары пайшлі ўглыб яе прарастаць травою.

Ля гастранома дзве бабулі сварыліся з-за пляшкі са сметніцы. Адна была худзенькая і прыгорбленая, другая — мажная з выпучаным наперад жыватом і белымі кудзеркамі вакол ілба, як у маладосці.

— Гондэ мае пляшкі! — даводзіла тоўсценькая. — Ты каля свайго гастранома збірай!

— А мо ты купіла гэты гастраном, што камандуеш тут? — абуралася хударлявая.

Ала адразу пазнала іх: гэта былі Бабціна Луця і Сабакарова Стэпка, усміхнулася сама сабе радасна, што пабачыла дзвюх старых жыхарак Лядаў, якія даўно сталі гараджанкамі, капаючы рыдлёўкамі пад траншэі родную зямлю. Не павіталася з імі, ведала, што яны яе не помняць, вельмі мала жыла яна ў вёсцы. Здзівілася толькі, што жанчыны хоць і пастарэлі, але знешне мала змяніліся. Пэўна, не рабілі зла, таму і не сказіліся іхнія твары. Іншага чалавека сустрэнеш праз дзесяць гадоў і не пазнаеш.

Пашчасціла Але хутка, хоць і танна, прадаць бацькаву хату нейкаму чалавеку пад дачу. Апошні раз яна пераступіла родны парог з горкім і цяжкім разуменнем, што больш ніколі не вернецца сюды. Азірнулася ад весніц, агледзела пусты двор. Вочы засланіся слязьмі. На нейкі момант яна нібы аслепла, добра, што Анжэлка вяла яе за руку.

## ЭПІЛОГ

Прамінула паўсотні гадоў з таго часу, як пачалося будаўніцтва электрастанцыі. Гарадок вакол яе вырас кампактны, прыгожы і не вельмі вялікі. З усходу ён шчыльна падступіў да Лядаў. На поўдзень ад вёскі расцягнуліся цёплы і халодны каналы ад станцыі да Сіняга возера. З захаду і поўначы вёску акаляюць прыватныя катэджы работнікаў электрастанцыі, пабудаваныя на былых паплавах ды балотцах, яны дадаюць сваім гаспадарам шмат турбот з-за высокага ўзроўню вады ў глебе. Вёска паціху памірае. Большасць хат пусту-

юць. Карэнных жыхароў засталося мала. Іхнія нашчадкі рассеяліся па неабсяжнай тэрыторыі былога СССР і нават далёкага замежжа. Прынамсі, унучка Антося Самоты выйшла замуж за амерыканца і забрала з сабою аўдавелую на той час маці. Некаторыя прыжыліся ў прыватызаваных кватэрах гарадка.

На пахаванне Міколы Ленінкі сабраліся маладзейшыя яго суседзі, бо сярод мужчын ён у вёсцы быў на той час найстарэйшы, пражыў болей за восемдзесят гадоў. Праўда, Харунжы дацягнуў амаль да дзевяноста, але памёр ён раней. Прычынаю стала тое, што раптам сярод белага дня загарэлася сынава хата, дзе бездапаможны стары жыў апошнім часам. Казалі, быццам была няспраўная электраправодка. Хату патушылі. Харунжага гэтая падзея так узрушыла, што ён увесь час паўтараў: «Ой, бяда! Бяда! Бяда!» Мусіць, згадалася яму, як некалі праз яго выгарала з дзясятак хат у вёсцы і падумалася, што гэта кара за той наўмысны падпал яму на старасці апынуцца без даху над галавою. Пасля таго перапалоху ён у хуткім часе сканаў.

Ленінка памёр не сваёю смерцю. На той час ён пахаваў сваіх лепшых сяброў маленства Антося Самоту, Аўдзея Селіча, Сеню Голубава і разумеў, што вось-вось настане ягоная чарга. Хвароба навалілася нечакана і так даймала, што ад болю ён скрыгатаў зубамі. Выпрошваць абязбольваючыя пілюлі ў дактароў не ўмеў і не хацеў, скардзіцца таксама не жадаў. Патрымалі яго трохі ў бальніцы, абследавалі і выпісалі дахаты паміраць. Жонка не адыходзіла ад яго ні на крок, назаляла ўвагаю і спагадаю. Аднойчы, не маючы магчымасці трываць боль, Ленінка наўмысна спыніў гадзіннік і сказаў жонцы, каб ішла ў майстэрню ды паладзіла механізм.

Калі яна вярнулася, дык застала мужа ў пятлі. Вольга пасля ягонай смерці пражыла толькі паўгода і пайшла ўслед за Ленінкам. Яшчэ адна хата апусцела ў Лядах.

Цяпер самы старэйшы мужчына ў вёсцы Якім, дваюрадны Аўдзееў брат, яму таксама ўжо за восемдзесят. Ён цяжка хварэе. Нядаўна з-за гангрэны ампутавалі нагу, якую ён загадаў закапаць у магіле маці. Спадзяецца, што там яна будзе пад надзейнаю аховаю, аднак ведае: нагу забраў Іван Банадысін, якога ён некалі ўтапіў, каб ажаніцца з ягонай дзяўчынаю. Ці быў Якім шчаслівы з жонкаю, не ведае, не меў з чым параўноўваць, пражылі неяк абыякава. Яна таемна шкадавала Івана, што загінуў без пары, і кахала толькі яго. Якім усё жыццё сумняваўся, ці тую дзяўчыну ўзяў за жонку, вельмі ж халодная і злосная аказалася яна. Увесь час шукаў, чым падсаладзіць жыццё, еў шмат цукру, у выніку — дыябет, ад якога немагчыма вылечыцца, застаецца толькі пажыццёва калоць уколы: ужо ўсе сцёгны, як ён кажа, на дзірках, а іншага выйсця няма.

Клемава Вера дачакалася ўсё ж свайго Аверку з турмы праз трыццаць гадоў. Праўда, вярнуўся ён з жонкаю і сынам. Але аднойчы ўбачыў Веру, пачуў яе голас і не здолеў больш трываць. Развёўся з жонкаю, падаўся да каханай. Пражылі разам нядоўга. Замаркоцілася Вера, што чужую долю паламала, ды і памерла.

Антось Самота адышоў у лепшы свет на кані, з-за высокага ціску зваліў яго інсульт. Упаў ён на родную зямлю, як даспелы яблык, і болей не падняўся. Хавалі нябожчыка сонечным жнівеньскім днём. Якраз тады камбайн малаціў снапы ў дварах калгаснікаў. Уся вуліца была заслана свежаю саломаю. Па гэтым золаце і павезлі на могілкі Антося Самоту ў суправаджэнні жонкі, шасці дачок, мноства ўнукаў, родзічаў, суседзяў і аднавяскоўцаў.

Стэпка Сабакарова ўсё жыццё адпрацавала грабаром, капала зямлю, працуючы на будоўлі, ужо будучы на пенсіі, прыбілася да баптыстаў, стала добраю верніцаю, замольвала свае старыя грахі. Хаця ці можа быць грэшным

каханне? Памерла яна ў сваёй аднапакаёвай кватэры, якая пасля яе смерці дасталася пляменніку.

Гэля Юстынава двойчы няўдала выходзіла замуж, выгадавала трох сыноў, да пенсіі працавала мулярам, на гэтай цяжкай працы на марозе, слоце ды гарачыні прызвычаілася да гарэлкі, спілася і заўчасна памерла. Такі ж лёс напаткаў і Люську Новікаву. Лёс даў ёй бацькоў п'яніц, яна пайшла іхнім шляхам. У дзевяностыя гады з'явіліся ў Сіньгорадзе свае прадпрымальнікі, з Янавічаў. Былі яны ў маленстве моцныя, бы грыбкі. Так іх маці з замілаваннем называла. Выраслі яны, а мянушка засталася. Асноўны бізнес Грыбкоў складаўся з таго, што яны танна скуплялі кватэры ў алкаголікаў, даводзілі да ладу і прадавалі іх дорага. Трохпакаёвыя кватэры Гэлі і Люсі памянялі на аднапакаёвыя, заплацілі гаспадыням трохі грошай, што дало падставы гэтым няшчасным жанчынам яшчэ больш піць і хутчэй сысці ў магілы.

Шура Хроімаў, які кахаў Люсю Новікаву, працаваў на будоўлі, хаця ў яго была адна мара — стаць кінамеханікам. Кожны вечар пасля працы ён бавіў час у кінабудцы з дзядзькам Мішам. Маці аддала Шуру ў прымы ў вёску, якая знаходзілася за возерам. Аднойчы ён апоўначы вяртаўся зімой напрасткі праз возера дамоў і праваліўся пад лёд. Знайшлі яго толькі вясною.

Бузюміха, нягледзячы на жыццёвыя мітрэнгі, аказалася доўгажыхаркаю. Пражыла амаль дзевяноста гадоў, пакінула шмат прыгожых унукаў і праўнукаў, ляжыць цяпер на кладах побач з мужам. Яе Анісім на фотаздымку — малады мужчына, яна — бабулька ў хустачцы.

Пакуль яшчэ ліпяць на свеце Таіса ды Луця Бабціна — дзве тутэйшыя доўгажыхаркі. Апошняя так і не выйшла замуж, жыве адна, маці яе даўно памерла. Пачуваецца яшчэ няблага, з-за самоты любіць пагутарыць з прадаўшчыцамі ў краме ці з гандляркамі на рынку. На лаўках ля пад'езда цяпер ніхто не сядзіць, таму Луця снуўдаецца па горадзе проста для таго, каб сустрэць каго з даўніх знаёмых, а іх з кожным годам робіцца ўсё меней. Таіса кволіцца, яе, як і раней, даймаюць хваробы, перанесла некалькі аперацый, пра якія гатова бясконца расказваць кожнаму сустрэчнаму, пільна сочыць за ціскам і рэгулярна п'е патрэбныя лекі, тым і трымаецца. Да яе прыходзіць два разы на тыдзень сацыяльны работнік, які трохі прыбірае ў кватэры і прыносіць патрэбныя харчы. Таму яна толькі ў вельмі добрае надвор'е выбіраецца з кватэры.

Многія людзі, якія некалі жылі ў бараку, разляцеліся па свеце. Сярод іх, кажуць, нямала знакамітых і добра ўладкаваных. Нямала хто застаўся ў горадзе. Жывуць годна, працуюць. Але ж хапае і тых, у каго не ўдаўся лёс, напрыклад, пра Вінчышку дайшлі весткі, што аднойчы, п'яны, ён абліў бензінам сваю жонку Маню і спаліў...

Кандратава хата ўсё яшчэ стаіць беспрытульная. Той няўдалы дачнік, які яе купіў, паехаў некуды на заробкі і як згінуў.

Своеасаблівым помнікам тым людзям, якія жылі тут, працавалі, кахалі, гаравалі стаіць сучасны Сіньгорад ды электрастанцыя. Горад, пры будаўніцтве якога пераплялося столькі чалавечых лёсаў, адбылося столькі самых розных падзей: сумных і светлых, як бывае ў сапраўдным жыцці.





## Мікола ШАБОВІЧ

* * *

А я адпачываць нікуды не паеду:
Найлепшы адпачын на роднае зямлі,
Дзе з ліпамі дубы вядуць сваю бяседу,
А ў небе нада мной крыляюць жураўлі.

На лаўцы пасяджу, вавёрку прывітаю.
Рыхтуе свой запас да будучай зімы.
Прыветлівы мой кут, зямля мая святая,
З табою назаўжды заручаныя мы.

У засені бяроз складаюцца радочкі,
І скардзіцца на лёс, бадай што, не з рукі...
Няхай жа зберагуць сыны твае і дочкі
Цябе, мой родны край, на доўгія вякі.

### НАЧНЫ ДАЗОР

І цішыня… І крокі… І дазор…
Начны дазор — жыццё ў яго абліччы.
Як месяц — вартавы спакою зор,
Так вартавы планеты — пагранічнік.

---

*__Шабовіч Мікалай Віктаравіч__ нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1981). Кандыдат філалагічных навук. Настаўнічаў на Вілейшчыне. Зараз — дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.*

*Аўтар паэтычных кніг «Дом» (1996), «Яшчэ пакуль не лістапад» (1996), «Падары мне сваю адзіноту» (2002), «Мая надзея» (2006), кнігі гумару «Хор болей не спявае» (2008).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2009).*

А дзесьці кружаць птушкі над ракой,
А ў вёсцы хлопцы жэняцца, магчыма,
А ён Радзімы беражэ спакой,
Нібы спакой каханае дзяўчыны,

Што так нячутна спала на плячы, —
І замірала сэрца, як за вёскай
Ці совы адгукаліся ўначы,
Ці хваляў гучна пеніліся ўсплёскі.

І паласою дабрыні і зла,
Нібы мяжою між жыццём і смерцю,
Праз кожны нерв граніца пралягла,
Якую не парушыць і не сцерці...

А дзесьці кружаць птушкі над ракой,
А дзесь чакае любая дзяўчына…
І лашчыцца дзявочаю шчакой
І спіць спакойна ля пляча Айчына.

* * *

У паэта адна прапіска,
І не можа такога стацца,
Што аднойчы — узяць ды выпісацца,
Што аднойчы — узяць ды спісацца.

У паэта адна прапіска,
Толькі ёсць невялікая розніца:
У адных яна — пажыццёвая,
У другіх яна — пасмяротная.

У паэта адна прапіска,
Хоць кватэрамі хтось мяняецца.
У паэта адна прапіска —
Радзімаю называецца.

* * *

Радзіма мая:
І хатынскі набат,
І спеў салаўіны,
І каніны слёзы.
Я твой вартавы,
Твой прасцяг і працяг,
Радзіма мая:
Ўсё бярозы, бярозы…

Я стаю ля Агню.
Навакол — лістапад.
І здаецца: вайны
Агнявеюцца вёрсты.
І мне кажа салдат,
Невядомы салдат,
Каб з сабою пранёс
Боль бярозы чацвёртай.

Я ўсё споўню, салдат,
Пранясу у душы
Гэту просьбу як вернасць
Абранай дарозе.
Нехта скажа: ты лепей
Пра шчасце пішы…
Я пішу. Ну а думкі —
Ля той жа бярозы.

## ПАЭТУ АРКАДЗЮ НАФРАНОВІЧУ

Калі спявае Нафрановіч,
Сціхае бор, змаўкае гай.
Бо песня мкне за небакрай,
Калі спявае Нафрановіч.

Яго стары акардэон
Як родны брат яму, магчыма.
Жанкі збіраюцца й мужчыны
На свой вясковы «пантэон».

І просьбы нечыя чуваць:
«Урэж, Іосіфавіч, польку!
Мы не стаміліся нікольки,
Патанчыць хочам, паспяваць...»

Гадзіны хутка праляцяць.
Вяскоўцы дзякуюць Аркадзю,
Што ён іх сум забарыкадзіў.
Не будуць болей сумаваць...

Зямляк. Музыка і паэт.
Наш нарачанскі Лабановіч.
Здаецца, што святлее свет,
Калі спявае Нафрановіч...

* * *

Зноў чырвоны маяк
І насупраць — палоска блакіту.
Ты не верыш, аднак,
Што сцяжынка ў былое — забыта.

На зялёнай траве,
Дзе цвіла агнязорая краска,
І сягоння жыве
Ненаглядна-чароўная казка.

Сніць аб юнай вясне
І аб заўтрашнім радасным леце.
А надзея ў акне —
Нібы зорка ў вячэрнім Сусвеце.

* * *

Я думаў: ты сумотная наскрозь,
Твайму сур'ёзу можна пазайздросціць,
Але твой танец скончыўся — і вось
На вуснах спелых цуд-усмешка госціць.

А мо й не госціць нават, а жыве,
А рэдкі сум адно што на хвілінку
Загляне, каб у небнай сіняве
Паплыць далей, бы хмарка-аблачынка.

Шыкоўных косак неймаверны рой.
Ты ж не сама іх, пэўна, заплятала.
А дзе, скажы, твой казачны герой?
Ці мо яго яшчэ ты не спаткала?..

Так і глядзеў бы ў люстры воч тваіх
І прыгажосці потайна зайздросціў,
Адно б шчаслівым быў твой кожны міг,
Адно б на вуснах горкі сум не госціў.

* * *

Бывае так: ні стрэч, ні развітанняў
І шэры будзень госціць што часцей,
Ды прыйдзеш ты, як велічная тайна,
Як самая жаданая з гасцей.

І ўсё наноў расквеціцца ў прыродзе,
Хаця наўкол віруе лістабой,
І я ў тваёй расчулюся лагодзе,
Так неспадзеў аб'яснены табой.

Зноў пачуццё шчымліва затрапеча,
Як і раней, у юныя гады,
І быццам бы звычайная сустрэча
Найвекапомнай зробіцца тады.

І буду сніць нявысненую тайну,
Якою свет так велічна спавіт, —
Тры пацалункі ў шчочку пры спатканні
І столькі ж пацалункаў на развіт.

* * *

Яшчэ да жоўтай восені далёка,
Яшчэ табе пасуе так зялёны,
І гэты свет, для радасці шырокі,
Яшчэ зусім самотай не замглёны.

Ты не шкадуй ні ўсмешкі, ні спагады.
Хай вочы дораць маладосці казку!
Пакуль яшчэ дзесь дрэмлюць лістапады,
Душу настрой на радасць і на ласку.

Яшчэ, павер, да восені далёка.
Дык не сумуй, як хіліцца змярканне.
Зноў прыйдзе дзень, развеюцца аблокі
І кветкай вабнай расцвіце каханне.

* * *

На сайце «Восень» — сцюжная зіма.
На сайце «Восень» — белыя завеі,
Нібы нічога дзіўнага няма,
Што ўсё наўкол так хутка зімавее.
На сайце «Восень» — сцюжная зіма.
На сайце «Восень» — белыя завеі.

Ты заўтра прыйдзеш, дом  расквеціш мой
І скажаш мне: «Павер, табе здалося.
Шчэ не зіма — мы стрэнемся й зімой,
А сёння нат не восень, нат не восень».
Ты заўтра прыйдзеш, дом расквеціш мой
І скажаш мне: «Павер, табе здалося...»

Закон прыроды нехта падмяніў:
Зімой — вясна. Вясной мо будзе лета,
Такое лета — можа, хто й не сніў?!
Але шчэ рана гаварыць пра гэта.
Закон прыроды нехта падмяніў:
Зімой — вясна. Вясной мо будзе лета...

На сайце «Восень» — сцюжная зіма.
На сайце «Восень» — белыя завеі,
Нібы нічога дзіўнага няма,
Што ўсё наўкол так хутка зімавее.
На сайце «Восень» — сцюжная зіма.
На сайце «Восень» — белыя завеі.

* * *

У бары — баравікі,
Дома — рыжыкі...
Ад мужчынскай рукі
Па целе дрыжыкі.

Пераспелых грудзей
Страх-запужанасць.
— Каб далей ад людзей,
Я ж замужняя...

Дыялог уначы.
Золак свеціцца.
— Любы, любы, маўчы,
Чуйна дзеці спяць...

Толькі холад рукі,
Толькі дрыжыкі...
У бары — баравікі,
Дома — рыжыкі...

* * *

Дзень адгарэў і зачах.
Вечар зарою сцякае.
Вершы пісаць па начах —
Даўняя звычка такая.

Просяцца рыфмы ў радкі,
Ў строфы сплятаюцца словы.
Вабіць занятак такі
Кожнага рыфмалова.

Дзень адгарэў і зачах.
Месяц глядзіць зухавата.
Вершы пісаць па начах —
Самае лепшае свята.





**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**

# КРЫЎДА

*Апавяданне*

Неўтаймоўная, нібы ашалелая, зіма злосна кідала поўныя прыгаршчы сякучага снегу ў цёмныя вокны. Холад яшчэ з вечара выстудзіў хату, хоць грубка, якая была прапалена зранку і ўвечары, здаецца, яшчэ і зараз была гарачай. Але ўсё адно яе мяккае цяпло, якое так любіў гаспадар гэтай вялікай хаты, трымалася толькі побач з цаглянкай. Сюды ж, дзе сядзеў на ложку стары, да глухой сцяны, за шырмай, якая падзяляла хату на дзве часткі, на залу і спальню, амаль не даходзіла. У бязветрыцу можна было яшчэ трываць, а ў такую хмельную завіруху хоць сыходзь з хаты і прасіся да каго нанач. Толькі куды яму, старому чалавеку, ісці? Каму ён, васьмідзесяцігадовы дзядок, патрэбен? Здаецца, усё жыццё жыў сярод людзей, а вось чамусьці неяк нібы далікатна абыходзяць яго. І што ён кепскага ім зрабіў? Хіба што ніколі ні з кім першым не вітаўся, дык жа не роўня яны былі яму, ды ніколі нічога не распытваў: кожны жыве сам па сабе.

Хаця...

Пачуццё адзіноты і бессэнсоўнасці чалавечага знаходжання на зямлі не пакідалі старога настаўніка Антона Крапіевіча ўсе пераднавагоднія вечары. Днём яшчэ тупаў туды-сюды, шукаў клопату. А вечарам — хоць вый. Дык жа не воўкам нарадзіўся…

У пабудаванай сваімі рукамі хаце ён цяпер застаўся адзін. Побач, праўда, была жывая душа. Ля грубкі, на ўслончыку. Спіць такі ж, як і сам мужчына, стары кот Барысік. Ды так атрымалася, што ката гэтага ён не толькі не любіў, а нават і ненавідзеў.

Некалі ён раўнаваў сваю Лізку, Лізавету Піліпаўну, да суседа — калгаснага трактарыста Барыса. Здавалася яму, недаростку, што яна, высокая, статная,

---

*__Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч__ нарадзіўся 30 жніўня 1967 года ў вёсцы Вятчын Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1991). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Вятчынскай СШ, дырэктарам Бялёўскай СШ у Жыткавіцкім раёне, галоўным рэдактарам жыткавіцкай газеты «Новае Палессе» і гомельскай гарадской «Гомельские ведомости». Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі».*

*Аўтар кніг прозы «Споднія яблыкі» (1999), «Забранае шчасце» (2001), «Глыбокія карані» (2001), «На мяжы» (2003), «Плата за каханне» (2007), «Цяпло маладзіка» (2013) і публіцыстыкі «...Дзе над горадам лунаюць буслы» (2000), «Крокі па роднай зямлі» (2005), «Запрашэнне» (Швейцарыя, 2007) і інш.*

відная жанчына, кідала пажадныя позіркі на прыгажунчыка, значна маладзейшага за Крапіевіча Барыса Лазарчука. Убілася нешта ў галаву, калі на пенсію пайшоў. Іншы раз жонка крычала: здурнеў стары. Але…

Хіба Антон Крапіевіч — малы і хударлявы, якога, здаецца, першым ветрам з поля дзьме, ёй роўня? Ну і што калі разам жыццё пражылі? Ну і што, калі пакахала яго яшчэ ў інстытуце, ды пажаніліся і на Палессе разам па размеркаванні прыехалі, дзяцей нарадзілі, прыжыліся і абжыліся?.. І да смерці люта раўнаваў да суседа Крапіевіч жонку. А тая, было, карысталася гэтым.

Лізавеце Піліпаўне часам падабалася, што карацень-муж раўнаваў яе. Нейкі гонар нават браў: да старасці дажылі, а ён яе кахае. Але каб не забываўся на жонку, глядзеў, як след, дык кацяня, якое прыбілася да двара, назвала як суседа — Барысік.

Калі муж быў не ў гуморы, альбо калі жонцы было нешта патрэбна ад яго, яна прыціскала ката да сябе і прыгаворвала, абавязкова, каб мужчына чуў:

— Як жа я цябе люблю, Барысік мой! Ласкавы, мяккі. І ты мяне любіш… Я ведаю, Барысічак, мой дужанькі, мой прыгажунчык…

Тады Крапіевіч адразу ўспыхваў, як свечка. Але толькі на хвіліну. І моўчкі рабіў тое, што прасіла жонка. Яна з яго проста жартавала. А ён…

Слабы чалавек, што скажаш…

Антон Крапіевіч доўга варочаўся ў ложку і зайздросціў Барысіку — цёпла яму там, ля грубкі. Моўчкі злаваўся на зяця, якога прасіў па восені абкапаць прызбу, уцяпліць хату. Не паслухаўся, пасмяяўся са старога: якія цяпер зімы? Толькі падваліны сапсуюцца… На падлогу з-за гэтага нельга было ступіць — адтуль цягнуў холад. І ён спаў у валёнках, не здымаў іх, каб не прастудзіцца, бо хваробы чапляліся да яго цяпер як назолы-мухі на ліпавы мёд.

Вецер скуголіў за сцяной, а ў глыбіні душы старога нарастала чарговая хваля шкадавання сябе.

Некалькі месяцаў таму жонку, якая хварэла апошнія гады тры, адвезлі на вясковыя могілкі. Цяпер яна снілася, гутарыла з ім гэтымі доўгімі начамі. Прачнуўшыся, ён аднак не памятаў, што яму казала жонка, ці супакойвала, ці спрачалася з ім. І такое было часта: амаль цалкам наступны дзень ён марна намагаўся ўспомніць сон пра жонку.

Праўда ж: ён вельмі кахаў сваю Лізавету. Пра гэтае каханне і ў вёсцы, і ў школе, дзе працавалі ўсе гады, хадзілі нават анекдоты. Толькі Крапіевічы ні на што не звярталі ўвагу, лічылі, жывуць так, як трэба. А людзі... Жыццё тым часам праляцела як адно імгненне і скардзіцца на яго, здаецца, няма за што. Самі пажылі, і дзеці выраслі людзьмі. Сына, праўда, не стала ўвесну. Тады пра гэта бацькам не паведамілі. Дачка забараніла, баючыся за бацькава сэрца, ды і ехаць яму за трыста кіламетраў на пахаванне... Паведаміла пазней, праз сорак дзён. І маці, а, можа, найперш яе пашкадавала: ужо надта хворая была. А потым не стала і Лізаветы, і ён застаўся адзін са сваім болем у вялікай прасторнай хаце.

…Сон не прыходзіў, і Крапіевіч, нібы пацеры, перабіраў сваё жыццё. Дзесьці ў суседнім двары пачулася, як хрыпла, нібы прастуджаны, забрахаў сабака. Нават Барысік прачнуўся, фыркнуў і зноў аціх на ўслончыку. Нечакана за хваляй шкадавання сябе ў Крапіевіча ажно дробна застукалі зубы — нарастала хваля нястрымнай злосці. Яго апанавала старая крыўда. Яна нарастала і нарастала, і ён не змог болей заснуць. Ад напружання пачало дрыжэць усё цела. Праз нейкі час у хваравітым парыве ён ужо сядзеў за сталом і пісаў ліст свайму крыўдзіцелю...

Раніцай лянівы Барысік здзіўлена пазіраў праз шыбу ўслед свайму гаспадару, які нават забыўшыся замкнуць хату, шыбаваў на пошту. У Крапіевіча была важная справа: трэба каб яшчэ сёння, 31 снежня, яго пісьмо патрапіла адрасату.

* * *

Апошні дзень перад Новым годам у рэдакцыі працавалі толькі галоўны рэдактар і бухгалтарка. Шэф адпусціў перад святам літаратурных і тэхнічных работнікаў, якія пастараліся зрабіць своечасова ндрэнны навагодні нумар і адразу чарговы, першы ў наступным годзе. Так заўсёды ў рэдакцыях — жыць трэба будучым днём.

Год завершаны няблага, з прыростам тыражу і ндрэннымі фінансавымі вынікамі, і Касцянка быў у гуморы. Зрабіў некалькі тэлефонных званкоў калегам. Віншаваў і яго віншавалі.

Якраз прыйшла маладзенькая паштарка, ціха паклала на стол газеты і пісьмы і знікла. Віктар Іванавіч не паспеў пакласці трубку, каб павіншаваць і яе са святам, як яна ўжо зачыніла за сабой дзверы.

Пошту разбіраць не хацелася, аднак Касцянка разумеў, што трэба было гэта зрабіць зараз. Адразу пасля святаў — пашыраная нарада ў кіраўніцтва раёна. Там паўдня лясне. А потым свая лятучка, працаваць фактычна не будзе калі.

Пісьмаў было няшмат. Найбольш паштоўкі. Каляровыя, адмысловыя. Удзячныя чытачы віншавалі з Новым годам і Раством. Касцянка, пяцідзесяцігадовы мужчына, усміхнуўся: будзе з чаго пачаць паслянавагоднюю планёрку, вунь колькі іх, пажаданняў чытачоў сваім любімым журналістам. А адзін канверт адрасаваны нават яму асабіста. Чакай сюрпрызу, Касцянка!

Пісьмо было з вёскі, дзе некалі ён, Касцянка, працаваў дырэктарам школы. Больш як дваццаць гадоў мінулася, як ён пераступіў парог той школы маладым спецыялістам. І радасныя ўспаміны з таго часу. Уважліва паглядзеў на канверт. Почырк знаёмы, хоць прайшло столькі часу, помніў яго: вялікія, з нахілам улева, літары. Здаецца, так больш ніхто не піша, як ён, Крапіевіч. Але былы старэйшы калега, былы настаўнік, ужо даўно пенсіянер.

Касцянка пашкадаваў, што не падпісаў Крапіевічу і яго жонцы віншавальную паштоўку. Сваім жа настаўнікам паслаў бы. Не збяднеў бы. А вось былы калега, які папрацаваў пры ім, Касцянку, новым дырэктары школы, усяго год, памятае яго. Вось і вестку даслаў напярэдадні Новага года…

Касцянка, хвалюючыся, разгарнуў складзены ліст, хутка пачаў чытаць. І адразу халодны тупы боль працяў сэрца. У скроні затахкала, ажно пахіснуўся. Рука пацягнулася, каб расшпіліць верхні гузік кашулі, цяжка ўдыхнуў паветра. На тумбачцы ў скрыні быў валідол, і ён узяў таблетку...

Праз хвіліну Касцянка стаяў каля расчыненага акна. Моцны вецер напаўняў пакой халодным паветрам. Віктар Іванавіч прагна дыхаў, а яно здавалася цягучым і цяжкім. Аднак боль знік, больш не вяртаўся. На душы было прыкра ад прачытанага.

Невыразна, як праз туман, перад вачыма паўстала тая незапланаваная паездка ў абласны цэнтр. Гэта была нечаканая камандзіроўка. Справы творчыя. У першы дзень працоўнага новага года…

* * *

Малады таксіст забраў яго роўна ў шэсць гадзін раніцы ад пад'езда дома, у якім жыў Касцянка. Папярэдзіў:

— На фірме возьмем вам квіток. Вы ж у камандзіроўку?

— Так. Квіток мне патрэбен абавязкова, — сказаў Віктар Іванавіч.

— А пасля мне трэба забраць яшчэ двух пасажыраў, у Броніцы. Гэта па дарозе. Вы не будзеце супраць?

— Аднаго ж пасажыра, зразумела, не павязеце, — усміхнуўся прыватніку-бізнесмену Касцянка. Ён быў задаволены, што ўсё добра складваецца з гэтай паездкай. На цягнік трэба было ўставаць раней, ды яшчэ і выклікаць таксі, каб паспець на вакзал. Нязручна. А тут, лічы, з ложка, каля парога забралі. Не абслугоўванне — цуд нейкі. Вось што значыць прыватная ініцыятыва… Пазваніў вечарам у фірму, спытаў, ці можна заказаць машыну, і табе — калі ласка!..

Добрыя думкі не пакідалі Касцянку ўсю дарогу да Броніцы. Тут ён восем гадоў працаваў. Спачатку настаўнікам, потым дырэктарам школы. Тут стварыў сям'ю. Лепшыя гады жыцця. Хіба іх забудзеш?

Легкавік з шашачкамі наверсе спыніўся на вясковай вуліцы.

— Тут дзядок бабулю ў бальніцу вязе, — нібы просячы прабачэння, паведаміў гаспадар аўтамабіля. — Вунь яны ідуць ужо…

Касцянка, які сядзеў на заднім сядзенні, за вадзіцелем, праз шкло ў святле фар убачыў сваіх спадарожнікаў. Імі аказаліся муж і жонка Крапіевічы. Ён доўга згадваў іх імёны, здаецца, Лізавета Піліпаўна і Антон Мартынавіч. Калі ён патрапіў сюды на працу, Крапіевічыха ўжо даўно была на пенсіі. А Крапіевіч яшчэ працаваў. Апошні год.

Антон Крапіевіч уладкаваў жонку на пярэдняе сядзенне, побач з вадзіцелем, сам жа размясціўся побач з Касцянкам.

Павітаўся чамусьці суха, абыякава. Касцянка паспрабаваў пачаць гаворку, але размовы не атрымалася ніякай: Крапіевіч нешта буркнуў, адвярнуўся ад яго. Касцянка разважаў так: якая тут радасць сустрэчы, калі людзі едуць у бальніцу. Чуў ад некага: жанчына даўно хварэе, і, відавочна, муж вязе яе на абследаванне, не да Касцянкі ім, не да яго размоў. Моўчкі ехалі ўсю дарогу.

У Гомелі кожны быў заняты сваімі справамі, а вечарам, на тым жа таксі, вярталіся назад. Як і раніцай, ехалі моўчкі, нібы зусім незнаёмыя людзі…

— Віктар Іванавіч, падпішыце, калі ласка, дакументы. Я ўсё зрабіла, аднясу ў банк… — бухгалтарка перабіла ягоныя думкі.

Касцянка закрыў акно: і не заўважыў, як выстудзіў кабінет. Вярнуўся да стала. Падпісаў паперы і папрасіў:

— 3 снежня мінулага ездзіў у камандзіроўку. Не палічыце за клопат, падніміце справаздачу, квіткі. Мне тэрмінова трэба знайсці вадзіцеля. Не памятаю, якая фірма. Іх цяпер столькі развялося…

— Праз хвілінку знайду, — бухгалтарка нячутна знікла за дзвярыма. Віктар Іванавіч наліў з графіна ў шклянку вады, выпіў. Адчуў, што стала лепей. Узяў у рукі ліст, які некалькі хвілін таму прынесла паштарка, перачытаў яго, але цяпер уголас, каб зразумець, чаму чалавек, якога ён ведаў і паважаў, зрабіў яму так балюча ў такі дзень…

* * *

«…Я, Антон Мартынавіч Крапіевіч, хачу праз газету падзяліцца некаторымі сваімі думкамі.

На 3 снежня мінулага года я заказаў таксі ў райцэнтры, каб з’ездзіць у абласную бальніцу. Дакладней, адвезці туды сваю хворую жонку, Лізавету Піліпаўну Крапіевіч, на кансультацыю.

Таксі прыбыло своечасова. Я вырашыў уладкаваць жонку на заднім месцы ў найбольш зручным для хворага чалавека і меней балючым для яе становішчы. Самастойна і седзячы рухацца ёй цяжка, таму я зараней вырашыў, што абавязкова ўладкую яе на заднія месцы. Адчыніўшы бакавую дзверцу таксі, я ўбачыў, што там адно месца занята. Нядоўга думаючы, я ўладкаваў жонку на пярэдняе месца, побач з вадзіцелям. Мы паспелі да 10 гадзін, і жонку прынялі ў бальніцы без чаргі, а спазніўшыся, нам патрэбна было б чакаць у чарзе, якая там збіраецца заўсёды вялікая. Мне не было калі думаць пра прычыны таго, што адбылося напачатку пасадкі. Дарагая была кожная хвіліна.

Я заплаціў уладальніку таксі за праезд двесце тысяч рублёў, калі мы вярнуліся дадому.

Назаўтра я пазваніў майму нязванаму пасажыру і прапанаваў вярнуць мне семдзесят тысяч рублёў, бо я не меў ніякага жадання вазіць з раёна ў абласны цэнтр за свой кошт няпрошаных спадарожнікаў.

У адказ пачуў: «Я набыў квіток, заплаціў грошы за праезд, ужо аформлена камандзіроўка…» (Як быццам я яго камандзіраваў, выдаў квіток за праезд?)

Тады ж я патэлефанаваў у службу таксі, дыспетчар адказала, што нічога не ведае і растлумачыць нічога не можа.

Праз нейкі час «хуткая» забрала мяне ў бальніцу, дзе мне рабілі аперацыю. Пасля выпіскі здарылася пахаваць сына, а затым памерла і жонка. Пытанне сышло з павесткі дня.

Цяпер вось вырашыў: напішу. Народ павінен ведаць сваіх «герояў».

Такі ж ліст я перашлю свайму «высакароднаму» пасажыру. Бо ён мяне і маю цяжкахворую жонку, якая самастойна рухацца не магла, абразіў, нанёс фізічную шкоду здароўю і адначасова фінансавую шкоду нашай сям’і.

Дык хто ж гэта такі, гэты высакародны пасажыр?

Гэта чалавек, які мае вышэйшую педагагічную і журналісцкую адукацыю, былы дырэктар нашай Броніцкай сярэдняй школы, вядомы журналіст, галоўны рэдактар нашай раённай газеты Віктар Іванавіч Касцянка».

У канцы былі такія звесткі: «Антон Мартынавіч Крапіевіч, 80-гадовы пенсіянер, інвалід другой групы, удзельнік (дакладна лепш напісаць: паддоследны трус) іспытаў новай зброі». Далей пазначаліся гады службы ў войску, цяперашні адрас і нумар тэлефона, а таксама прыпіска, што копіі гэтага ліста будуць накіраваны ў сталіцу, у высокія інстанцыі і кіраўніцтву Саюза журналістаў…

— Віктар Іванавіч, квіткі выдадзены прыватным унітарным прадпрыемствам «Аўтасервіс», кіраўнік Аксёнтаў П. С. — Бухгалтарка паведаміла з парога. — Я магу пайсці…

— Канешне, дзякуй. І з Новым годам! — усхапіўся Касцянка з месца.

— І вас таксама. Да пабачэння.

— Да пабачэння…

Дзверы зачыніліся, і Касцянка зноў застаўся сам-насам са сваімі ўспамінамі і роздумамі. Дзе цяпер шукаць тую фірму і таксіста, які амаль год назад вазіў яго і Крапіевічаў у абласны цэнтр?

На душы было трывожна і пагана. Немагчыма нават было ўявіць: ён жа растлумачыў тады гнеўнаму Крапіевічу ўсё як ёсць, што ён радавы пасажыр, што яму аказвалі такую ж паслугу, як і старому настаўніку, і ён заплаціў грошы… Успомніў: настойліва рэкамендаваў пенсіянеру звязацца з перавозчыкам, каб вярнулі старому грошы. Атрымліваецца, таксіст нажыўся: і на хворай жанчыне, дзеля якой заказвалі машыну, і на дадатковым пасажыры, які, не падазраючы ні аб чым, стаў ахвярай і нягоднікам у вачах прыстойных людзей? Віктар Іванавіч не ведаў, што рабіць у такой сітуацыі. Але адно яму было зразумела: навагодняе свята канчаткова сапсавана.

* * *

Нечаканы званок па абедзе разбудзіў Антона Крапіевіча. Ён яму абрадаваўся: дачка звоніць, перад самым Новым годам. Стары з радасцю схапіў трубку.

— Антон Мартынавіч, гэта Віктар Іванавіч Касцянка турбуе. Мы можам пагаварыць?

— Слухаю вас… — суха адказаў Крапіевіч.

— Я атрымаў ад вас страшны ліст. Найперш хачу выказаць вам сваё глыбокае спачуванне: я толькі з яго даведаўся, што вы страцілі сына і жонку… Я разумею ваш стан. Але і вы мне зрабілі вельмі балюча. Вы нават пішаце пра злачынства, якога я не ўчыняў. Я нікому ніякай шкоды не рабіў, ні фізічнай, ні маральнай, ні фінансавай. І тады вам гэта растлумачваў. Я просты пасажыр, які за паездку заплаціў грошы. Апісанае — проста кашмар. Уявіць немагчыма. Ваша крыўда на мяне доўжылася цэлы год… Няўжо нельга было разабрацца раней?

— Але я напісаў праўду… — бадзёра прамовіў Крапіевіч.

— Гэта праўда ваша толькі. А вам не здаецца, што ёсць праўда і ў іншага чалавека. Ні ў чым не вінаватага? Шчыра кажучы, калі б я ведаў, што ўсе месцы ў таксі былі выкуплены, тым больш для хворага чалавека, ці сеў бы я ў такім выпадку? Няўжо мне складана было паехаць на цягніку альбо на іншым таксі?..

— То мо я што не разабраўся?.. То, мабыць, гэта тыя гады ўдвайне рашылі зарабіць: і з вас злупілі грошы, і з мяне?..

— Гэта бліжэй да ісціны… — ціха прамовіў Касцянка. — Прабачце, я адчуваю сябе вельмі кепска, але я знайду вам вашага крыўдзіцеля. Сапраўднага…

Віктар Іванавіч паклаў трубку.

Узрушаны Крапіевіч доўга стаяў на месцы.

* * *

Кіраўнік «Аўтасервіса» прыехаў на сустрэчу з галоўным рэдактарам Касцянкам а шостай гадзіне вечара. Касцянка доўга вышукваў: хто ў гэтай фірме сёння гаспадар, хто ажыццяўляў той рэйс у вобласць год назад. Дыспетчарка, відаць, маладая жанчына, зразумела, нарэшце, што ў гаспадара могуць узнікнуць праблемы, і знайшла яго.

— Ну і людзі пайшлі…— сказаў малады мужчына Касцянку, калі той прачытаў скаргу. Гэта быў той самы гаспадар і вадзіцель, што вазіў іх. — Я ж яму ўсё растлумачыў, што вы радавы пасажыр…

— Аднак стары чалавек перакананы, што я віноўнік яго бедаў. Нібыта з-за мяне памерла яго жонка. Уяўляеце, што робіцца ў яго душы? А ў мяне?.. Чалавек зняверыўся ў людзях...

— А калі мы па-добраму ўладзім гэтую праблему? — відавочна, такога таксіст не чакаў. Мабыць, зразумеў, што атрымалася з-за яго звычайнага жадання падманным шляхам пакласці сабе ў кішэню грошы.

— Вярніце яму давер, — сказаў Касцянка. А мне — прывязеце ад яго пісьмовае пацвярджэнне, што ніякіх прэтэнзій да мяне асабіста не мае. Гэта — першае. Другое. Вярніце старому лішнія грошы, вырашце гэтую сітуацыю сумленна.

— Я зразумеў. Еду ў Броніцы…

* * *

Праз дзве гадзіны на мабільны Касцянкі званілі з Броніц. Усхваляваны Антон Крапіевіч прасіў прабачэння. Паперу таксама напісаў, паведаміў, што прадпрымальнік з ім разлічыўся па-чалавечы: «Гарэлкай, кілбасой да святочнага стала».

Адно толькі стары ветэран педагагічнай працы не сказаў. Проста ў роспачы не ведаў, як сказаць праўду: копіі лістоў ужо былі ў сталіцы. І ў самога ў навагоднюю ноч моцна балела сэрца. А знясільваючая зіма шалёна кідала поўныя прыгаршчы сякучага снегу ў цёмныя вокны старога адзінокага чалавека, якога не было каму пашкадаваць…





## Міхась КУЛЕШ

* * *

У вялікай дзяржаве народжаны я.
Яе назва — Савецкі Саюз!..
Але ёсць Беларусь дарагая мая.
І па пашпарце я — беларус!

Горад рускай гаворцы мяне навучыў,
З грубаватым акцэнтам, магчыма.
Дзе б ні быў, беларускую роднай лічыў,
Мову маці маёй і Айчыны.

Шмат крыві намяшана у жылах маіх,
Плечы цісне мне вечнасці груз,
Але я не чужак, я — з няскораных тых,
Я ўсёй шчырай душой — беларус!..

Я не цвёрды, як дуб,
Не пусты, як бамбук,
Не гультай, не крыўляка, не хлус.
Просты я, нібы дрэва, зямны паляшук,
Памяркоўны бульбаш, беларус!..

Можа, тут, на зямлі,
Сцвердзіць доля калі
Без падзелу і межаў саюз,
Буду я ганарыцца, што я на зямлі
Зямлянін, а яшчэ — беларус!..

---

*__Кулеш Міхаіл Іванавіч__ нарадзіўся 6 жніўня 1956 года ў вёсцы Полкацічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1978). Працаваў настаўнікам, завучам, дырэктарам у сістэме народнай адукацыі і прафтэхадукацыі. Цяпер — індывідуальны прадпрымальнік.*

*Аўтар паэтычных кніг «Белые ночи» (1993), «Окна» (2011).*

* * *

Зноў лістота гарыць пазалотай,
І ўжо срэбра на скроні плыве.
Нам хапае цяпла і пяшчоты,
Покуль мама на свеце жыве.

Мама першай разбудзіць уранні,
Печ запаліць, бліноў напячэ.
Супакоіць, абдыме, параіць
І малітву прашэпча яшчэ.

Адыходжу, яе пакідаю.
Я аблудных шляхоў не жадзён.
А жыцця без яе не ўяўляю,
Без яе, што дала мне жыццё.

Не бывае ўсё так, як захочаш,
Ёсць няўмольны жыццёвы закон…
Ды баюся, калі сярод ночы
Патрывожыць званком тэлефон.

* * *

Мілы край мой, куток мой айчынны,
Перадумаў я гэтулькі дум…
Збег я з вёскі калісьці, наіўны,
Думаў, шчасце за светам знайду.

У райцэнтры я жыў і сталіцы,
Пачуваўся я там, нібы госць.
Магазіны, тэатры, бальніцы…
Там усё, што патрэбна нам, ёсць.

Ды начамі, як некалі, сніцца:
Недзе статак брыдзе за ракой,
Залатая навокал пшаніца,
Цешыць вочы блакіт васількоў.

Выйсце ёсць у жыцці і нявыйсце.
Што чакае — таго не мінеш.
Я сышоў з гэтай вёскі калісьці,
Ды яна засталася ўва мне.

* * *

Шчасце я здабываў сваё сам
І пабачыў брыдоты ўсялякай.
Дык чаму ж, як заходжу у храм,
Мне трывожна і хочацца плакаць?

Ад людзей не хаваю вачэй
І не крыўдзіў, здаецца, нікога,
А як толькі жыццё прыпячэ,
Дык адразу хінуся да Бога.

І сваю, і чужую душу
Разумею заўсёды, здаецца.
Я ў малітве таго не скажу,
Што слязою часамі пральецца.

Што ж, бывала, і сам я грашыў,
Не прасіў за свой грэх прабачэння,
І таму маёй грэшнай душы
Гэтак прагнецца ачышчэння.

* * *

На прыступках касцельных уранні—
З руж вяночак. Як ружа, сама
Затрымалася дзіўная пані,
Тая, блокаўская амаль.

Толькі твар, толькі позірк пяшчотны—
І такое нахлынне святла!
І патрэсквалі свечкі самотна,
І малітва на вуснах была.

Так руку яна ўскінула дзіўна,
Нібы дзіўную ноту ўзяла,
І смычком недасяжным вадзіла,
Столькі воч за сабою вяла.

Можна розум ад позірку страціць,
Прымарудзіць хацеў я імшу.
Хіба толькі сляза немаўляці
Можа гэтак узрушыць душу.

* * *

Не цеш сябе спадзеўкай даўняй зноў.
Жыццё прабегла лёгкім карагодам.
Прыйшоў я да цябе з далёкіх сноў
Глынуць з тваіх спакусных вуснаў мёду.

Я доўга так цябе перапрашаў.
Ты тая ўсё, якую ведаў, тая.
І радуецца грэшная душа,
Што ёй абдымкі даўнія вяртаюць.

Ах, дзіва-ноч, дзе разам ты і я,
Дзе месца ёсць слязе, загадцы, жарту.
Але ў цябе ды і ў мяне сям'я,
І нам пра гэта забываць не варта.

Як многа дзіўных згадак наплыло,
Бы ў гэты свет вярнуўся ты з-за свету.
Каханне тое, што калісь было,
Хай белай яхтай адплывае ў Лету!..

## NON SUM QUALES ERAM*

Чуб парадзеў, і памудрэў пагляд.
Хай выгляд мой камусьці здасца сумным,
Я не хачу, як трыццаць год назад,
Бы певень той, за кожнай бегчы сукняй.

Цаню я ў чалавеку прастату
І ўсё часцей баюся памыліцца.
Піўнушку абыходжу за вярсту,
Іду ў царкву ў нядзелю памаліцца.

За ўсе памылкі сам сябе віню,
Не змогся я ў жыццёвай крутаверці.
Спазнаў бяду, прадажніцтва, хлусню
І быў не раз на валасок ад смерці.

Пражыта шмат — а зроблена ці шмат?
Урок, што меў, ён не засцерагальны.
Я той жа, як і трыццаць год назад, —
Адкрыты, просты і сентыментальны.

Я не цярплю, дзе твораць што наспех,
І да чужое славы не хілюся.
І часам патаемна, хоць і грэх,
На маладыя ножачкі дзіўлюся.

Іду ў жыццё, бы ў шахты, у забой,
І ведаю: за мной — другая змена.
І ўсюды застаюся сам сабой.
Мяняецца жыццё, а я — нязменны!..

* * *

Час не прыпыніш. Тое немагчыма.
Гляджу, і ў мамы за апошні час
Пабольшала маршчынак пад вачыма
Ды і ў вачах агонь былы пагас.

---

* Я ўжо не той, што быў дагэтуль.

Сустрэліся. І вось ізноў расстанне.
Як сумна мне развітвацца было.
Ды толькі гэты раз пры развітанні
Балюча сэрца штосьці апякло.

Прыселі на дарожку, як бывала,
Ля даўняга кухоннага стала.
Дзясятак яек і брусочак сала —
Сабрала ты ў дарогу, што магла.

Гадзіннік адбівае час няўмольна,
А слёзы самі коцяцца з вачэй:
— Чамусьці так на сэрцы неспакойна.
Ці ўбачымся, сынок, калі яшчэ?

* * *

А доля ж у свечкі такая:
На сумнай далоні стала
Яна, як душа трапяткая,
Гарыць і згарае датла.

А ў холад — на дровы надзея.
І самай суровай зімой
Цяпельца вас роднае грэе
І ў попел згарае само.

І сонца не так сабе ззяе,
Аж хвілі не мае дыхнуць.
Усё аддае, а губляе.
Што згубіць — таго не вярнуць.

Па-іншаму ў нас з вамі, грэшных…
Ад думкі адной весялей —
Чым болей цяпла аддаеш ты,
Тым больш і самому цяплей.

***Пераклад з рускай***
***Казіміра КАМЕЙШЫ.***



Таццяна ДУБОЎСКАЯ

# «DER MOND DENKT, DIE SONNE SINNT: WORTDICHTE», АБО МЕНТАЛЬНА-НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ВОБРАЗЫ Ў ВЕРШАСЛОВАХ АЛЕСЯ РАЗАНАВА

Нямецкамоўная творчасць Алеся Разанава на сённяшні дзень прадстаўлена даволі шырока. Гэта дзве кнігі-білінгвы паэта, што былі апублікаваны адпаведна ў Германіі і Швейцарыі, — «Hannoversche Punktierungen» («Гановерскія пункціры», Гановер, 2002) і «Трэцяе вока» («Das dritte Auge», Базэль, 2007). Першую пераклаў Оскар Анзуль, другую — Эльке Эрб. Таксама асобнымі кнігамі выдадзены паэтычныя зборнікі «Zeichen vertikaler Zeit» («Знакі вертыкальнага часу», Берлін, 1995), у які ўвайшлі шэсць паэм, нізкі версэтаў, пункціраў і зномаў у перакладзе Эльке Эрб, з пасляслоўямі перакладчыцы і вядомага славіста Норберта Рандау, і «Tanz mit den Schlangen: Gedichtauswahl» («Танец з вужакамі: Выбраныя вершы», Берлін, 2002), у якім змешчаны пункціры і версэты розных гадоў у перакладах Эльке Эрб і Уладзіміра Чапегі. Творы, што ўвайшлі ў абедзве гэтыя кнігі, ужо добра вядомыя нашаму чытачу. Першая з іх змяшчае толькі нямецкамоўныя творы-пераклады, другая — двухмоўная.

Апошнім часам А. Разанаў сам піша па-нямецку. У Аўстрыі выйшла ў свет яго паэтычная кніга «Wortdichte» («Вершасловы», Грац, 2003), у Германіі — «Der Zweig zeigt dem Baum wohin er wachsen soll» («Галінка паказвае дрэву, куды яно павінна расці», Берлін, 2006), якая з'яўляецца своеасаблівым працягам «Вершасловаў». Менавіта гэтыя два зборнікі (а дакладней — большасць іх твораў) сталі асновай для стварэння новай, выдадзенай на радзіме кнігі вершасловаў «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» («Месяц думае, сонца разважае: Вершасловы», Мінск, 2011).

Актывізацыя нямецкамоўнай творчасці А. Разанава садзейнічае яе вывучэнню як нямецкімі (Ілма Ракуза, Юта Рынас, Оскар Анзуль), так і беларускімі вучонымі і журналістамі. Аднак калі даследаваннем беларускамоўнай творчасці А. Разанава ў айчыннай літаратуры займаліся і працягваюць займацца многія навукоўцы (У. Калеснік, У. Конан, Е. Лявонава, Я. Гарадніцкі, В. Русілка, Г. Кісліцына, У. Верына, А. Івашчанка, Н. Ламека, Т. Ціхановіч і многія іншыя), то да вывучэння нямецкіх твораў паэта звяртаюцца пакуль што адзінкавыя беларускія літаратуразнаўцы (У. Сакалоўскі[1], А. Івашчанка[2], А. Вераб'ёва[3]). Сярод іх прыярытэтнае месца займаюць працы Евы Лявонавай, прысвечаныя жанравым і

[1] Сакалоўскі, У. Л. Беларуская паэзія ў Нямеччыне / У. Л. Сакалоўскі // Літаратура і мастацтва. — 2002. — 27 верасня. — С. 6.

[2] Івашчанка, А. С. Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй: манаграфія / А. С. Івашчанка. — Мн.: БНТУ, 2008. — 144 с. У другім раздзеле манаграфіі «Эксперыментальныя паэтычныя формы А. Разанава» асобная ўвага нададзена эвалюцыі беларускіх пункціраў паэта, даследуюцца фармальныя і зместавыя асаблівасці «Гановерскіх пункціраў».

[3] Вераб'ёва, А. М. Паэтычнае слова А. Разанава ў еўрапейскім свеце / А. М. Вераб'ёва // Белрускае слова: дыялектнае і запазычанае: зборнік артыкулаў па матэрыялах навуковых чытанняў, прысвечаных памяці дацэнта Еўдакіі Сцяпанаўны Мяцельскай (26—27 красавіка 2011 года, г. Мінск) / рэд. кал.: М. І. Свістунова (адк. рэд.) [і інш.]; пад агул. рэд. М. Р. Прыгодзіча; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: Права і эканоміка, 2011. — С. 18—22.

зместавым асаблівасцям зборніка «Гановерскія пункціры» (артыкул «Крок за крокам тут зблiжаюцца мовы...»: Паэзія А. Разанава ў Германіі», ЛіМ, 29.11.2002), а таксама спецыфіцы новай жанравай формы вершасловаў кнігі «Wortdichte» (артыкул «Слова кліча — сэнс адгукаецца...» (нямецкая кніга вершасловаў А. Разанава), ЛіМ, 09.04.2004). Навуковай навізной, грунтоўнасцю і высокім узроўнем даследавання вызначаецца раздзел «Алесь Разанаў і нямецкая літаратура» ў кнізе «Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць» [3]. У ім Е. Лявонава разглядае кола стасункаў беларускага паэта з нямецкай літаратурай, прэзентуе творчасць такіх нямецкіх аўтараў, як Эльке Эрб, Норберт Гумэльт, Сара Кірш, вершы якіх перакладзены на беларускую мову А. Разанавым, акцэнтуецца ўвага на ідэйным і стылявым падабенстве іх творчасці з творчасцю беларускага паэта (асацыятыўнасць, падтэкставасць, канцэптуальнасць, унутраны драматызм і г. д.). Таксама даследчыца праводзіць глыбокі і дасканалы аналіз кніг-білінгваў «Гановерскія пункціры» і «Трэцяе вока», падкрэслівае падабенства па змесце і форме разанаўскіх пункціраў з усходняй паэзіяй (танка і хоку), абгрунтоўвае ідэю сувязі нямецкамоўных вершасловаў з авангардысцкімі літаратурна-мастацкімі напрамкамі і школамі XX ст., найперш дадаізмам і сюррэалізмам, праводзіць цікавыя паралелі паміж вершасловамі А. Разанава і каліграмамі (лірычнымі ідэаграмамі) Гіёма Апалінэра і «канкрэтнай паэзіяй», якая ў другой палове XX ст. займела асаблівае развіццё ў многіх літаратурах свету. Нямецкамоўная творчасць А. Разанава, шырока і падрабязна прадстаўленая ў навуковых працах Е. Лявонавай, разглядаецца сёння пераважна ў еўрапейскім кантэксце, у непасрэднай сувязі з еўрапейскай філасофска-эстэтычнай літаратурнай традыцыяй. Вершы паэта на нямецкай мове садзейнічаюць пашырэнню і развіццю беларуска-нямецкіх культурных і літаратурных стасункаў у свеце.

Аднак актуальнай задачай на сённяшні дзень застаецца спецыяльнае даследаванне нямецкамоўнай творчасці А. Разанава ў аспекце яе ментальна-нацыянальнай абумоўленасці, у кантэксце ўсёй ранейшай творчасці паэта, канцэптуальныя асновы якой палягаюць у рэчышчы беларускай міфалогіі, фальклору, этнаграфіі. Якраз гэтая праблематыка, нацыянальная маркіраванасць жанравай паэтыкі нямецкіх вершаў засталася ў асноўным па-за ўвагай даследчыкаў нямецкамоўнай творчасці пісьменніка. У дадзенай працы ў названым аспекце ўпершыню грунтоўна аналізуецца ідэйны змест вершасловаў А. Разанава з кнігі «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte», даследуюцца нацыянальна маркіраваныя вобразы ў нямецкамоўных творах, праводзіцца аналогія паміж нямецкамоўнымі вершасловамі і беларускамоўнымі вершаказамі, у выніку чаго выяўляюцца падабенствы і адрозненні ў пазначаных жанравых формах.

Паэтычны зборнік «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» перш за ўсё звяртае на сябе ўвагу жанравай формай твораў. Wortdichte даследчыкі перакладаюць як «вершасловы» (Е. Лявонава, А. Вераб’ёва, А. Івашчанка). Сам А. Разанаў прынцыпова называе свае творы «вортдыхты», захоўваючы ўвесь закладзены ў гэтай форме сэнсавы патэнцыял і нямецкамоўнае гучанне.

Пра ўзнікненне чарговай наватарскай паэтычнай формы аўтар распавядае наступным чынам: «Калі нямецкія людзі гавораць па-нямецку, для іх мова як плынь, як сродак выказаць сваю думку, сваё разуменне, як матэрыял, з якога будуецца выказванне. Для мяне было інакш. Я спатыкаўся на нямецкія словы і загаворваў з імі, як з жывымі істотамі. Тыя словы, што адгукаліся, служылі асновай для wortdichte. Яны хацелі гаварыць далей, і я ім дапамагаў выказацца, намаляваць сваю біяграфію, слухаў іх унутраную споведзь. Для мяне слова аказвалася закончаным творам, трэба было толькі яго раскрыць» [1, с. 8].

Вершасловы з кнігі «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» па форме і змесце блізкія да беларускіх вершаказаў, у якіх цэнтральная роля адводзіцца гуку, слову, праз якія раскрываецца сутнасць таго ці іншага прадмета або з’явы. Вершаказы, па словах А. Разанава, — «своеасаблівы эпас, мазаіка эпасу. Эпасу трохі незвычайнага, які спалучаны якраз з побытам, у першую чаргу з сялянскім, з усім нашым наваколлем. У гэтым наваколлі ёсць шмат з’яў, прадметаў.

<…> Дамінантная рыфма — гэта тое імя, тая назва, якія маюць рэч, прадмет, з’ява. І ўвесь вершаказ падпарадкоўваецца, слухаецца гэтага ключавога слова. Ці гэта збан, ці грыб, ці павуціна, ці гузік, ці дуга, ці дзіда… У слове заўсёды прысутнічае таямніца. У ім закадзіравана нешта вельмі істотнае, цэлы пласт рэчаіснасці. Вершаказы па меры магчымасці расшыфроўваюць гэты код, дазваляюць слову, каб яно расказала, з кім яно сябруе, як яно адчувае іншыя словы» [8, с. 68—69]. І ў вершасловах, і ў вершаказах прысутнічае ключавое слова, вынесенае звычайна ў загаловак твора, якое аўтар «раскрывае» з дапамогай гульні гукаў ці сугучных яму слоў. Аднак калі некаторыя вершаказы з’яўляюцца шматмоўнымі, г. зн. адлюстроўваюць аўтарскія асацыяцыі і асаблівасці гучання аднаго і таго ж слова ў розных мовах, то вершасловы аднамоўныя. Кожная страфа ў вершаказах (звычайна гэта адзін разгорнуты сказ) уяўляе сабой цэльны, закончаны выраз. І калі памяняць месцамі строфы ў вершаказе, то ў большасці выпадкаў гэта ніяк не паўплывае на пачатковы сэнс твора. У вершасловах радкі адносна кароткія (ад сказа і словазлучэння — да слова, складу, нават літары) і строфы цесна звязаны паміж сабой па сэнсе. Немалаважную ролю адыгрывае вонкавае аблічча вершасловаў, у якіх паэт радкамі і асобнымі словамі «малюе» абрысы ключавых прадметаў. Як падкрэслівае Е. Лявонава, «гэта своеасаблівыя вершы-мантажы (часам нават з элементамі малюнка), адмысловае маніпуліраванне гукам, фразай, словам, іхняй графікай, праз што паглыбляюцца і пашыраюцца зместы як верша ў цэлым, так і яго паасобных складнікаў. Чытач мусіць станавіцца суаўтарам, уваходзіць у сэнсавую зменлівасць паняццяў…» [4, с. 6]

У паэтычным зборніку «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» знайшлі адлюстраванне ў пераважнай большасці творы з назвамі пабытавага («Spiegel» («Люстэрка»), «Stiefel» («Бот»), «Kleid» («Сукенка»), «Löffel» («Лыжка»), «Faden» («Нітка»), «Laterne» («Ліхтар»), «Dach» («Дах»), «Truhe» («Куфар»)), прыроднага («Falter» («Матылёк»), «Käfer» («Жук»), «Mond und Sonne» («Месяц і сонца»), «Hummel» («Чмель»), «See und Fluss» («Возера і рака»), «Zweig» («Галінка»)), абстрактнага («Pflicht» («Абавязак»), «Schrei» («Крык»), «Erinnerung» («Успамін»), «Sekunde» («Секунда»), «Woche» («Тыдзень»)) характару.

Многія нямецкамоўныя вершасловы паэта маюць аднолькавую назву з беларускімі вершаказамі («Säge» — «Піла», «Nagel» — «Цвік», «Ofen» — «Печ», «Kahn» — «Човен», «Regen» — «Дождж», «Eichel» — «Жолуд», «Waage» — «Шалі», «Nacht» — «Ноч», «Wald» — «Лес», «Tasche» — «Кішэня»), а некаторыя з іх — «судакрананне» і па сэнсе. Так, у вершаслове «Ofen» («Печ») аўтар з дапамогай блізкіх па гучанні слоў апісвае ключавы вобраз: *«Wo Ofen ist, / ist Hof. / Der Ofen eröffnet, / dass er mit dem Feuer / leuchtet / und mit dem Rauch / schwebt, / und so oft, / wie er sich opfert, / begeben sich zu ihm / Töpfe und Köpfe / und wärmt sich bei ihm / eine Hoffnung»* («Там, дзе ёсць печ, / там — двор. / Печ паведамляе, / што яна з агнём / зіхаціць / і з дымам / лунае, / і так часта, / як яна сябе ахвяруе, / да яе кіруюцца / чыгуны і галовы / і пры ёй грэецца / Надзея» (Пераклад У. А. Папковіча)) [7, с. 41]. Вершаслоў пабудаваны на спалучэнні сугучных слоў (**Of**en — H**of** — er**öf**fnet — **of**t — H**of**fnung, **opf**ert — T**öpfe** — K**öpfe**), у якіх цэнтральная роля адводзіцца алітэрацыі і асанансу. Адначасова паміж некаторымі словамі можна заўважыць «адпаведныя сэнсавыя ўзаемадачыненні» (тэрмін — Е. Лявонавай): печ — тое месца, дзе штодзень ладзяцца гаспадарчыя справы, печ мае пастаянныя «стасункі» з дваром, на якім знаходзяцца сельскагаспадарчыя пабудовы і адкуль да печы прыносяцца розныя рэчы. Печ з’яўляецца міфапаэтычным вобразам у беларусаў, з якім звязана шмат прыкмет і павер’яў. Яна атаясамліваецца з цэнтрам хатняй прасторы і мае сувязь з сусветам у выглядзе коміна, печ саграваe і «корміць» сваіх гаспадароў. У падпеччы паводле ўяўленняў беларусаў жыве дамавік. Печ — самаахвярная і шчодрая, як, зрэшты, і беларускі народ. Вобразнае апісанне печы сустракаем у аднайменным вершаказе А. Разанава: *«Печ «пешчыць» ламачча, «пешчыць» дровы і, хоць яны часам плачуць ад гэтакай пяшчоты, перайначвае іх у агонь, у дым, у вуголле, у попел. / У печы варыцца, парыцца, смажыцца і пячэцца «ечыва»…»* [9, с. 121]. Як бачым, сэнсавае падабенства ў адлюстраванні

вобраза печы ў нямецкамоўным і беларускамоўным творах відавочнае, у абодвух асобая роля належыць гукавой арганізацыі. У вершаказе яна заснавана на паўторы гукаў [п], [ч], [ш], [ы], [э], якія выклікаюць асацыяцыі «пяшчоты» — агню, што сімвалізуе цяпло хатняга ачага, сямейнае шчасце і згоду.

Цікавым па сваіх вобразным і ідэйным зместах з'яўляецца вершаслоў «Eichel» («Жолуд»): *«Du bist groß und stark, / aber deine Eier / sind so klein», / spricht der Eichelhäher / zu der Eiche. / «Eile nicht / mit deiner Meinung / und schmeichle dir nicht, / feuchte sie besser / mit deinem Speichel an, / und lege sie dann in die Erde / um sie zu speichern», / gibt zur Antwort die Eiche. / «Und in einem Jahrhundert / vergewisserst du dich leicht: / Ich und die Eichel / sind gleich»* («Ты вялікі і дужы, / а твае яйкі / такія маленькія», / кажа сойка / дубу. / «Не спяшай / са сваім меркаваннем / і не цеш сябе, / лепей намачы іх / сваёй слінай, / а потым пакладзі іх у зямлю, / каб зберагчы», / адказвае дуб. / «І праз стагоддзе / ты лёгка ўпэўнішся: / Я і жолуд — / роўныя» (Пераклад У. Папковіча)) [7, с. 106]. Твор падобны да прыпавесці, у ім канцэнтруецца парадаксальная думка: у самых простых, звычайных рэчах можа захоўвацца магутны патэнцыял для росту і развіцця. Вершаслоў пранізваюць словы з аднолькавымі ці падобнымі гукавымі паўторамі, што ўтвараюць пачатковую (**Ei**er — **Ei**le, **Eiche** — **Eiche**l — **Eiche**lhäher, **Speiche**l — **speiche**rn — **schmeich**le) і канцавую (l**eich**t — gl**eich**) рыфмы. Да таго ж ключавыя вобразы твора (Eiche, Eichel, Eichelhäher) маюць адзін і той жа корань — Eiche (дуб). Дуб — свяшчэннае Прадрэва ў славян. У беларусаў, па словах даследчыцы І. Швед, вобраз гэтага дрэва «звязваўся з архетыпнымі ўяўленнямі пра стварэнне свету, што адлюстравалася ў адпаведных фальклорных матывах дуба з яго фундаментальнай сімволікай жыцця, смерці і новага адраджэння» [10, с. 5]. У вершы ў «Eichel» тоіцца «Eiche», раўназначна таму, як у жолудзе закладзена «генетыка» дуба, тое, чым ён павінен у выніку стаць. Узрастаючы праз жалуды, дуб адраджаецца нанова. Уся ідэйная канцэпцыя вершаслова А. Разанава змяшчаецца ў наступных радках яго вершаказа «Жолуд»: *«З галіны векавечнага дуба — з галіны самой векавечнасці — жолуд падае ў дол, каб потым, адольваючы прыцягненне долу, цягнуцца да жаданага — да «жалуданага» — узроўню»* [9, с. 99]. Дуб увасабляе сабой вечнае жыццё, ён мудры, магутны, нязломны. Падобным да яго жадаюць быць жалуды.

Большасць вершасловаў А. Разанава мае назвы, у аснове якіх — адно ключавое слова. Зрэдку — два, прычым гэта словы адной семантычнай групы («See und Fluss» («Возера і рака»), «Feuer und Rauch» («Агонь і дым»), «Mond und Sonne» («Месяц і сонца»)). Такія творы заснаваны на супастаўленні (а часам супрацьпастаўленні) ключавых вобразаў, на асацыяцыях, якія выклікаюць у аўтара гэтыя словы. У вершаслове «Weg und Straße» паэт асэнсоўвае метафізіку шляху і дарогі: *«Der Weg beginnt von der Wiege an, die Straße vor der Tür, der Weg geht in die Welt, die Straße in die Stadt, die Straße ist rasch, der Weg gemächlich, der Weg ist schweigsam, die Straße gesprächig, die Straße kennt die Adresse, der Weg den Zweck. / Der Weg ergibt sich aus der Bewegung, die Straße gestaltet sich aus den Schritten, der Weg weiht ein in das Geheimnis, die Straße in das Ergebnis, der Weg ist für das Genie, die Straße für den Fürst, die Straße verfasst das Statut, der Weg dichtet das Evangelium»* («Шлях пачынаецца ад калыскі, дарога — ад дзвярэй, шлях ідзе ў свет, дарога — у горад, дарога — хуткая, шлях павольны, шлях маўклівы, дарога гаваркая, дарога ведае адрас, шлях — мэту. / Шлях атрымліваецца з руху, дарога ўтвараецца з крокаў, шлях заводзіць у патаемнае, дарога ў вынік, шлях для генія, дарога для князя, дарога піша статут, шлях стварае Евангелле» (Пераклад У. Папковіча)) [7, с. 64]. Канцэпт шляху — адзін з ключавых ва ўсёй творчасці А. Разанава і мае розныя канатацыі ў залежнасці ад зместу яго канкрэтных твораў. Е. Лявонава сцвярджае, што «вобразам-матывам шляху, дарогі падпарадкоўваецца не адзін твор, нават не шэраг твораў, а ўся творчасць А. Разанава. Статыка прынцыпова чужая яго мастацкай свядомасці, яго света- і жыццеразуменню» [5, с. 13]. Па словах А. Івашчанкі, шлях у А. Разанава «ёсць метафарай духоўнага росту, пошуку Сябе ў сабе. Сюды ж укладаецца і анталагічная ідэя знаходжання

сябе ў свеце — увесьчаснае ўдакладненне «каардынатаў быцця і асобы» [2, с. 57]. Па-філасофску асэнсоўвае сутнасць шляху сам пісьменнік: «Шлях — гэта кожны раз жывая дарога. Яна адчувае чалавека, яна разумее яго. Я калісьці сфармуляваў у адной сваёй паэме, што я — той, хто шлях і хто па ім ідзе. Адначасова шлях як бы ўбірае тое, што было ўчора, і кожны новы дзень. Ён гэтаму шляху дазваляе ісці і адбывацца непаўторна» [8, с. 61—62].

Шлях у пазначаным вершаслове — пастаяннае спасціжэнне чалавекам сябе самога і невядомай яму рэчаіснасці. Гэта мэтанакіраваны рух наперад, аднак рух марудны і доўгі. Шлях маўклівы, бо толькі адзінкі яго выбіраюць. Падчас шляху чалавек спазнае невядомыя яму раней ісціны быцця, у выніку чаго шлях для яго становіцца свайго роду Евангеллем. Дарога ж — заўсёды асвоены, пракладзены кімсьці раней накірунак. Дарога «як бы ўжо з самага пачатку да канца прадвызначаная. Яна ўжо адбылася аднойчы ў рэчаіснасці, у свеце — і вось яна доўжыцца і паўтарае самую сябе» [8, с. 61]. Дарога хуткая і гаваркая, бо яе абіраюць многія. Яна «піша» статут або канстытуцыю, — нормы, якіх павінны прытрымлівацца ўсе.

Верш пабудаваны такім чынам, што ключавыя вобразы спалучаюцца са словамі, якія маюць падобнае гучанне і пэўныя асацыятыўныя сувязі: Weg — Wiege — Welt — schweigsam — Zweck — Bewegung — weiht — Genie — Evangelium, Straße — Tür — Stadt — rasch — gesprächig — Adresse — gestaltet — Schritten — Ergebnis — Fürst — verfasst — Statut. Такі ж прынцып пабудовы беларускіх вершаказаў «Маланка і гром», «Срэбра і золата», «Голад і холад», «Рэчка і возера», «Ключ і замок», «Аладка і блін» і інш.

Надзвычай удалым па лаканічнасці формы і глыбіні зместу з’яўляецца вершаслоў «Scherbe» («Чарапок»): *«Vom Sterben / zum Erbe: / strebe, / du Scherbe!»* (Ад смерці / да спадчыны: / імкніся, / ты, чарапок! (Пераклад У. Папковіча)) [7, с. 81]. Чарапок — аскепак разбітай рэчы. І хаця самой рэчы ўжо можа не існаваць, наяўнасць аскепка сведчыць пра тое, што рэч калісьці была. Аскепак — частка пэўнай рэчы, энергетыку і час якой ён у сабе захоўвае. Чарапок у аднайменным вершаслове — гэта абагульнены вобраз тых артэфактаў нацыянальнай культуры, якія існавалі ў мінулым і захаваліся па розных прычынах толькі ў частковым выглядзе (не ўлічваючы сучаснай «рэстаўрацыі»). Гэта, напрыклад, слуцкія паясы, большасць якіх падчас Другой сусветнай вайны была вывезена ў Германію; крыж Еўфрасінні Полацкай, што загадкава знік у Вялікую Айчынную вайну; шматлікія цэрквы і касцёлы, што былі разбураны і разрабаваны ў савецкі час, і многія іншыя помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры нашай Бацькаўшчыны. Сёння ўсе яны ўспрымаюцца як гісторыка-культурная каштоўнасць, як спадчына для ўдзячных ёй нашчадкаў. Твор заснаваны на гульні сугучных слоў (St**erbe**n — **Erbe** — st**rebe** — Sch**erbe**) і нагадвае скорагаворку.

У вершаслове «Reifen» («Абруч») праз алегарычны змест аўтар асэнсоўвае ідэю свабоды: *«Der Reifen / umgreift / eifernd / das Fass: / Das, was zur Frei- / heit treibt, / soll noch / reifen»* («Абруч / абхоплівае / старанна / бочку: / Тое, што да во- / лі імкнецца, / павінна яшчэ / саспець» (Пераклад У. Папковіча)) [7, с. 83]. Абруч у вершы можна параўнаць са знешнімі (перш за ўсё адмоўнымі) фактарамі, тымі грамадскімі стэрэатыпамі, якія часта перашкаджаюць чалавеку «паўнацэнна» думаць і дзейнічаць, прымушаюць яго жыць па чужых правілах. І тут многае залежыць ад чалавека, наколькі ён «саспеў» у сваім выбары: быць «як усе» ці мець свабоду ў сваіх учынках.

Змест твора можна прачытаць у нацыянальным кантэксце. На працягу многіх стагоддзяў беларускі народ жыў у неспрыяльных умовах для свайго этнакультурнага развіцця. Пазбаўленне ўласнай дзяржаўнасці, шматлікія войны, моцная асіміляцыя з боку Польшчы і Расіі прывялі да дэнацыяналізацыі большай часткі беларускага народа, нізкага ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці, праяў нацыянальнага нігілізму, «тутэйшасці», грэбавання або поўнага непрыняцця свайго роднага як «сялянскага», «халопскага». У такіх умовах, здавалася, амаль немагчыма было адрадзіцца Радзіме, стаць на шлях самастойнага развіцця. Паслабле-

ная выяўленасць агульнай нацыянальнай ідэі, унутраная раз'яднанасць, запаволеная этнічная кансалідацыя абумовілі тое, што беларусы з пачатку XX ст. яшчэ на многія дзесяцігоддзі забыліся пра ўласную свабоду, паўнавартасную легітымную дзяржаўнасць.

Многія вершасловы А. Разанава можна назваць аўдыявізуальнымі, дынамічнымі («Säge» («Піла»), «Dielen» («Палавіцы»), «Falter» («Матылёк»), «Segel» («Ветразь»), «Pendel» («Маятнік»), «Tunnel» («Тунэль»)). Чытаючы іх, мы нібыта бачым рэчы, прадметы, з'явы, пра якія ідзе гаворка, чуем мову, на якой яны гавораць:

**Pilz**
«Was ist
hier geschehen?
Nichts?!»

Etwas blitzte,
etwas platzte,
etwas vergoss Tränen —
und plötz-
lich ist
unter der Erde
ein Polizist
r v
e ge o
h ta r
uc
ht:
der Pilz [7, c. 26].

**Грыб**
«Што
тут здарылася?
Нічога?!»

Штосьці бліснула,
штосьці лопнула,
штосьці праліло слёзы —
і рап-
там
з-пад зямлі
паліцыянт
з'явіўся:
грыб

***(Пераклад У. Папковіча)***

Вершаслоў заснаваны на алітэрацыі гука [ц], які вымаўляецца ў словах са спалучэннямі літар «ts», «tz»: Nich**ts**, bli**tz**te, pla**tz**te, plö**tz**lich, Poli**z**ist, Pil**z**. Гэтым ствараецца слыхавы эфект, дзякуючы якому карціна ў творы «ажывае». Графічны малюнак грыба, па-майстэрску намаляваны адным нямецкім дзеясловам, надае вершу візуальнасць, рэльефнасць, аб'ёмнасць. У выніку вершаслоў нагадвае анімацыйны твор. Для выразнасці апісання ключавога вобраза аўтар стварае арыгінальнае параўнанне, у аснове якога — гукавое падабенства: Pilz — Polizist. Пры супастаўленні арыгінала верша і яго перакладу на беларускую мову, відавочна, што апошні не можа цалкам перадаць усёй той фанетычнай выразнасці, графічнай эфектнасці, сэнсавай гульнёвасці, якія ствараюцца пры дапамозе мадыфікацыі гукаў і слоў у нямецкамоўных творах. Таму, па сутнасці, неабходныя новыя напісанні твораў па-беларуску, якія б змаглі адлюстраваць бязмежныя магчымасці і ўсё багацце выяўленчых сродкаў нашай роднай мовы.

Незвычайныя вобразныя паралелі праводзіць аўтар у вершаслове «Erz» «Руда»: *«Das Erz / liegt im Herz / der Erde / als ein Ereignis, / das sich noch nicht ereignet hat, / als eine Erzählung, / die noch nicht erzählt ist. / Aber wenn ein Ereignis / sich ereignet hat / und eine Erzählung / erzählt ist, / dann zeigen sich Erz- / eugnisse und es kommt / der Komm- / erz»* («Руда / ляжыць у сэрцы / зямлі / як падзея, /якая не здзейснілася, / як расказ, / які яшчэ не расказаны. / Але калі падзея / здзейснілася, / а расказ / расказаны, / тады выяўляюцца вы- / рабы і прыходзіць / кам-/ ерцыя» (Пераклад У. Папковіча)) [7, c. 21]. У вершаслове прысутнічае нестандартнае параўнанне: Erz — Erzählung (руда — расказ). Калі руда знаходзіцца далёка ў зямных нетрах і з'яўляецца скарбам для чалавецтва, то расказы (аповеды), схаваныя ў «нетрах» чалавечых магчымасцей (у галаве), таксама будуць скарбамі, калі пісьменнік зможа ўсё задуманае перадаць на паперы. Сёння вядома нямала прыкладаў, калі творы становяцца настолькі папулярнымі, што адразу адаптуюцца сцэнічна, а потым па іх здымаюцца фільмы, якія становяцца касавымі, прыбытковымі (у асноўным гэта замежныя аўтары, напры-

клад, Джоан Роулінг, якая напісала гісторыю хлопчыка-чараўніка Гары Потэра, або Сьюзэн Колінз і яе «Галодныя гульні»). Гэта, мабыць, і можна назваць камерцыяй (бо ў вершы таксама прысутнічае намёк: Erzeugnisse — Kommerz (вырабы — камерцыя)). Але ці кожны аўтар можа прадбачыць, што яго выраб будзе прыбытковым? І ці ўсе творы ствараюцца з такой першапачатковай устаноўкай? Здаецца, што не толькі камерцыйныя памкненні штурхаюць пісьменніка да напісання твораў, нельга забываць і пра ідэальнае, а таксама пра настрой, душэўны стан аўтара, яго жаданне падзяліцца з чытачом сваімі думкамі, пачуццямі, фантазіямі.

У пазначаным вершаслове можна заўважыць, што ўсё «круціцца» вакол слова «Erz» (**Erz** — H**erz** — **Erz**ählung — **erz**ählt — **Erz**eugnisse — Komm**erz**), і таму адэкватна перакласці такі твор на беларускую мову немагчыма.

Даволі абстрагаваным з'яўляецца яшчэ адно параўнанне: Erz — Ereignis (руда — падзея). Руда з'яўляецца таямніцай прыроды, багаццем зямлі да той пары, калі яшчэ не вынайдзена чалавецтвам. Пасля здабычы і пераапрацоўкі яна ператвараецца ў штучную сыравіну — выраб, які ўжо страціў сваю першародную каштоўнасць і стаў часткай камерцыі. Падобныя асацыяцыі выклікае падзея, пакалькі само чаканне, прадчуванне чалавекам падзеі прыносіць яму большую асалоду, таямнічасць і загадкавасць, чым сама падзея.

Безумоўна, прапанаваная намі трактоўка названага вершаслова не прэтэндуе на адназначнасць, паколькі, як заўважае Е. Лявонава, змест такіх твораў «завершаны і ў той жа час адкрыты для новых прачытанняў; іхнія назвы ёсць варыяцыі тэм; гэта не вершы-вынікі, а вершы-працэсы, працэсы сэнсаўтварэння, што кожны раз здзяйсняюцца нанова…» [3, с. 479]

Такім чынам, вершасловы А. Разанава — творы, напісаныя па-нямецку, якія па змесце і стылёвых адзнаках падобныя да беларускіх вершаказаў. У абедзвюх жанравых формах ключавая роля належыць гукавой арганізацыі твора, слову, яго патэнцыяльным магчымасцям. Некаторыя вершасловы паэта выглядаюць як «перастварэнні» напісаных раней вершаказаў: адна і тая ж думка, толькі рознымі сродкамі рэалізаваная, выказаная ў нямецкамоўным і беларускамоўным творах. Аднак калі вершаказы А. Разанава вызначаюцца даволі вялікім аб'ёмам (звычайна гэта палова ці цалкам кніжная старонка тэксту), то вершасловы ў пераважнай большасці лаканічныя па форме. На нашу думку, нямецкія вершы адлюстроўваюць агульную тэндэнцыю сучаснай культуры да лаканізму, інтэнсіфікацыі ў сродках перадачы інфармацыі. Не можа не выяўляцца таксама і розніца ў аб'ёмах валодання А. Разанавым нямецкім і беларускім лексічным запасам. Варта адзначыць тое, што вершаказы пісьменніка статычныя (г.зн. апісальна-канстатуючыя) па змесце: чытаючы твор, мы адчуваем прысутнасць аўтара, які апісвае, распавядае, разважае пра пэўную рэч, прадмет, з'яву. У вершасловах маналогі і дыялогі герояў, графічныя малюнкі надаюць творам анімацыйнасць, прасторавасць, дынамізм («Pilz» («Грыб»), «Eichel» («Жолуд»), «Sieb» («Рэшата»)).

Важнае значэнне мае вобразная сістэма нямецкамоўных твораў А. Разанава. У Wortdichte паэт часта выкарыстоўвае нямецкія словы, у якіх актуалізуецца і беларуская семантыка. У нашым успрыняцці гэта рэчы і прадметы быту не столькі немцаў, колькі беларусаў (der Ofen (печ), Töpfe (чыгуны), der Reifen (абруч), das Fass (бочка), die Truhe («Куфар»)), а таксама канцэпты з канатацыямі беларускай ментальнасці, што займелі пачатак у ранейшай творчасці пісьменніка і атрымалі працяг у яго нямецкамоўных вершасловах (дуб, шлях, дарога, чарапок, сонца, месяц). Усе яны адлюстроўваюць асаблівасці светапогляду беларусаў (міфалагічныя ўяўленні, этнакультурную спецыфіку, гісторыю нашага народа). Доказам таму з'яўляюцца словы самога пісьменніка: «Родная літаратура, поўная скарбаў. Раствораныя ў народных лёсах, у пакінутых вёсках, у быце, нават у снах, яны незаўсёды былі запатрабаваныя. Я ўнёс у нямецкую літаратуру беларускі скарб, які стаў здабыткам нас» [6, с. 5].

## Спіс літаратуры:

1. Гапеева, Т. Алесь Разанаў: «У мове прысутнічае нешта, зразумелае без вымаўлення»: [пра сустрэчу з паэтам А. Разанавым у межах V Тыдня нямецкай мовы і культуры ў АБ (15—16 кастр.).] / Таццяна Гапеева // Брестская газета. — 2011. — 21 окт. — С. 8.

2. Івашчанка, А. С. Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй: манаграфія / А. С. Івашчанка. — Мн.: БНТУ, 2008. — 144 с.

3. Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць / А. В. Вальчук [і інш.]; навук. рэд. М. У. Мікуліч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск: Беларус. навука, 2012. — 577 с.

4. Лявонава, Е. А. «Крок за крокам тут зблiжаюцца мовы...»: Паэзія А. Разанава ў Германіі / Е. А. Лявонава // Літаратура і мастацтва. — 2002. — 29 лістапада. — С. 6—7.

5. Лявонава, Е. А. «Палову жыцця пішу на дарозе свае імёны, палову — закрэсліваю напісанае…»: канцэпты дарога, шлях у кнізе версэтаў «Лясная дарога» Алеся Разанава і культурная традыцыя / Е. А. Лявонава // Роднае слова. — 2007. — № 12. — С. 12—15.

6. Мечная, Н. «Паэзія абрала мяне»: [пра сустрэчу з паэтам Алесем Разанавым у рамках V Тыдня нямецкай мовы і культуры ў АБ (15—16 кастр.)] / Наталля Мечная // Заря. — 2011. — 18 окт. — С. 5.

7. Rasanau, A. Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte / A. Rasanau. — Minsk: Lohvinau, 2011. — 112 s.

8. Разанаў, А. С. З апокрыфа ў канон: гутаркі, выступленні, нататкі / А. С. Разанаў. — Мінск: Логвінаў, 2010. — 138 с.

9. Разанаў, А. С. Пчала пачала паломнічаць: вершаказы / А. С. Разанаў. — Мінск: Логвінаў, 2009. — 132 с.

10. Швед, І. А. Сімволіка дзікарослых дрэў у беларускім фальклоры / І. А. Швед // Веснік БДУ. Сер. 4. — 2007. — № 1. — С. 3—7.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 18 верасня 2013 года.

**Таццяна ДУБОЎСКАЯ**

### «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte», або Ментальна-нацыянальныя вобразы ў вершасловах Алеся Разанава

### Рэзюмэ

У дадзенай працы грунтоўна аналізуецца ідэйны змест вершасловаў нямецкамоўнай кнігі «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» А. Разанава, упершыню даследуюцца ментальна-нацыянальныя вобразы ў нямецкіх творах паэта, праводзяцца паралелі паміж вершасловамі і беларускамоўнымі вершаказамі, у выніку чаго выяўляюцца пэўныя падабенствы і адрозненні ў пазначаных жанравых формах.

**Tatsiana DUBOUSKAYA**

### «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» or Mental-indigenous images in versewords by Ales Razanau

### Summary

This article analyses the ideologic content of the German-language book «Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte» by A. Razanau, dissects the mental-indigenous images in the poet’s German works for the first time, draws a parallel between the versewords and Belarusian versephrases, thus showing some similarity and difference in both genres.

# ВЫЗВАЛЕННЕ: ДУХ ПЕРАМОГІ І ГОРЫЧ СТРАТ

## (Да 70-годдзя вызвалення першых рэгіёнаў Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў)

***У** верасні рэдакцыяй часопіса «Полымя» сумесна з Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі быў праведзены «круглы стол» «Вызваленне: дух Перамогі і горыч страт», прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якое будзе ўрачыста адзначацца ў ліпені 2014 года. Час, што застаўся да гэтай важнай даты, — магчымасць яшчэ раз перагарнуць старонкі ўсенароднага змагання з фашызмам, ацаніць той важкі ўклад, які ўнёс беларускі народ, змагаючыся разам з іншымі народамі Савецкага Саюза, у разгром карычневай чумы XX стагоддзя. Разам з тым, гэта і неабходнасць глыбей асвятліць тыя моманты Вялікай Айчыннай вайны, якія па розных прычынах пакуль вывучаны не цалкам, а тым больш зрабіць усё дзеля таго, каб не заставалася белых плям у яе гісторыі. На асэнсаванне гэтых момантаў і былі скіраваны выступленні ўдзельнікаў «круглага стала», а гэта акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Адамушка, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы Марат Жылінскі, загадчык аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксей Літвін, загадчык цэнтра гісторыі постіндустрыяльнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі Уладзімір Кузьменка, навуковы супрацоўнік ваеннага аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі Ірына Варанкова, навуковы супрацоўнік ваеннага аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі Яраслаў Бязлепкін, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі, дацэнт кафедры «Тактыка і агульнавайсковая падрыхтоўка» Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Барыс Далгатовіч.***

***Прапануем увазе чытача некаторыя з гэтых выступленняў.***

### Вячаслаў ДАНІЛОВІЧ,
**дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі:**

— Ва ўмовах глабалізацыі адной з важнейшых нашых задач з'яўляецца аб'ектыўнае вывучэнне, трансляцыя і захаванне для будучых пакаленняў памяці аб гераічных і трагічных падзеях Вялікай Айчыннай вайны. Дзяржаве і грамадству трэба сфарміраваць і захаваць гэтую памяць у маладога пакалення на доўгія гады, бо забываючы подзвігі сваіх продкаў, чалавек губляе той самы ўнікальны патрыятычны дух, які шануюць і паважаюць ва ўсім свеце. Таму важна захаваць выкладанне ў навучальных установах спецкурса ці факультатыва «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)», павелічэнне накладаў актуальных навуковых і навукова-папулярных выданняў па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, якія, на наш погляд, павінны прысутнічаць у кожнай школе і бібліятэцы.

Адным з важнейшых напрамкаў навуковай дзейнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі з’яўляецца даследаванне гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Пры гэтым галоўным з’яўляецца адыход ад стэрэатыпаў, крытычнае, больш глыбокае асэнсаванне, здавалася б, добра вядомых падзей і фактаў на аснове выяўленых у апошнія гады, раней не апублікаваных дакументаў і матэрыялаў айчынных і замежных архіваў. Безумоўным складнікам пры гэтым з’яўляецца творчае выкарыстанне навуковых дасягненняў суайчыннікаў, а таксама калег з іншых краін.

Увядзенне ў навуковае абарачэнне новых дадзеных дазволіла сфарміраваць сучасны навуковы погляд на шэраг пытанняў, якія патрабавалі дэталёвага ўдакладнення або прынцыповага перагляду. У прыватнасці, на падставе вялікай колькасці новых дакументаў і матэрыялаў з розных архіваў узноўлены асаблівасці аднаўленчага працэсу і грамадска-палітычнай сітуацыі ў БССР пасля выгнання германскіх захопнікаў.

Вынікі працы знайшлі адлюстраванне ў больш чым 200 публікацыях: манаграфіях, калектыўных працах, артыкулах, энцыклапедычных і даведачных выданнях. Сярод іх фундаментальная калектыўная праца «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945» (Мн., 2005), манаграфія У. Кузьменкі «В суровые сороковые: Интеллигенция Беларуси в Великой Отечественной войне (1941—1945 гг.)» (Мн., 2006).

Вучонымі інстытута на чале з А. Каваленем разам з калегамі з ВНУ падрыхтаваны вучэбна-метадычны комплекс «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)» (Мн., 2006 — 2009), які ўключае праграму, падручнік, даведнік, рабочы сшытак, хрэстаматыю, дапаможнік для настаўніка. Гэты вучэбна-метадычны комплекс прызнаны лепшым сярод краін СНД. У кантэксце ўвекавечвання памяці абаронцаў Айчыны падрыхтаваны і два выданні, прысвечаныя гісторыі ўнутраных войск Рэспублікі Беларусь: «Внутренние войска МВД Республики Беларусь: История и современность» (Мн., 2006) і «Память: Внутренние войска МВД Республики Беларусь: историко-документальная хроника» (Мн., 2008).

Найноўшыя навуковыя даследаванні праблематыкі Вялікай Айчыннай вайны знайшлі адлюстраванне ў калектыўнай манаграфіі «Беларусь: Народ. Государство. Время» (Мн., 2009). Гэтае выданне стала пераможцам у намінацыі «Лепшае масава-палітычнае выданне» Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2010», а таксама атрымала дыплом пераможцы і гран-пры Міжнароднага конкурсу «Навуковая кніга-2010», які адбыўся ў Маскве; падрыхтаванай на аснове гэтай калектыўнай манаграфіі і разлічанай на шырокае кола чытачоў, багата ілюстраванай кнізе «Беларусь: страницы истории» (Мн., 2011); двухтомнай фундаментальнай навуковай працы «Беларусь 1941—1945: Подвиг. Трагедия. Память» (Мн., 2010); унікальнай двухтомнай калектыўнай манаграфіі «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.» (Мн., 2011—2012); манаграфіі І. Варанковай «Двадцать второго июня, ровно в четыре часа…» Минск и минчане в первые дни Великой Отечественной войны» (Мн., 2011); унікальным зборніку дакументаў і матэрыялаў «Польша — Беларусь. 1921—1953» (Мн., 2012); падрыхтаванай па заказе і пры фінансавай падтрымцы Пінскага гарадскога выканаўчага камітэта да 945-годдзя Пінска ўнікальнай калектыўнай манаграфіі «Гісторыя Пінска. Ад старажытнасці да сучаснасці» (Мн., 2012); падрыхтаванай па заказе і пры фінансавай падтрымцы Беларускай чыгункі ўнікальнай калектыўнай манаграфіі «История Белорусской железной дороги. Из века XIX в век XXI» (Мн., 2012), якая атрымала гран-пры ў намінацыі «Залатыя скрыжалі» Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2013».

Цяпер ідзе падрыхтоўка абагульняючых калектыўных прац «Беларусь в войнах и военных конфликтах XX века», а таксама «Ваенная гісторыя Беларусі», якая стане часткай шматтомнай «Гісторыі Беларусі».

Разумеючы значнасць кантактаў з замежнымі гісторыкамі, Інстытут актыўна ўдзельнічае ў сумесных навуковых праектах, міжнародных навукова-практычных

канферэнцыях. Так, па выніках працы з германскімі калегамі з Універсітэта імя І. Гутэнберга ў Майнцы выдадзена манаграфія У. І. Кузьменкі і М. У. Токарава «Политика немецко-фашистских оккупационных властей в отношении научной интеллигенции Беларуси (1941—1944 гг.)» (Мн., 2007). Пры фінансавай падтрымцы германскага фонду «Памяць. Адказнасць. Будучыня» пад кіраўніцтвам А. Літвіна падрыхтавана і выдадзена калектыўная манаграфія «Вяртанне ў рабства: прымусовая праца насельніцтва Беларусі. 1941—1945 гг.» (Мн., 2010), у якой упершыню на дакументальным матэрыяле абгрунтавана, што да прымусовай працы германскімі акупантамі было прыцягнута да 2 мільёнаў жыхароў Беларусі.

Сапраўдным прарывам у гістарыяграфіі Беларусі, Расіі і Украіны сталі калектыўная манаграфія, а таксама зборнік дакументаў і матэрыялаў «1941: Страна в огне»: кн. 1. «Очерки» (М., 2011) ; кн. 2. «Дакументы и материалы» (М., 2011), якія прадстаўляюць цэласную карціну падзей 1941 г., адпавядаючую іх бачанню гісторыкамі Расіі, Беларусі і Украіны; змяшчаюць вялікую колькасць найноўшых факталагічных і статыстычных дадзеных, тэарэтычных абгрунтаванняў. Гэта першая пасля распаду СССР буйная міжнародная гістарычная праца аб пачатковым этапе Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер ідзе падрыхтоўка другога гістарычнага нарыса пад назвай «Страна в огне. Россия и Беларусь в годы коренного перелома 1942—1943», у якім упершыню будуць комплексна даследаваны шматпланавыя працэсы, звязаныя з гісторыяй Беларусі і Расіі ў пераломны для Вялікай Айчыннай вайны перыяд, які аказаў рашаючы ўплыў на яе вынік. Акрамя таго, да 70-годдзя вызвалення Беларусі мы рыхтуем сумесную навуковую працу разам з Інстытутам ваеннай гісторыі Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі.

Навуковыя распрацоўкі Інстытута ў галіне ваеннай гісторыі карыстаюцца нязменным інтарэсам нашых замежных калег. У чэрвені 2010 г. у Інстытуце адбылася 5-я Міжнародная летняя школа маладых вучоных-гісторыкаў краін СНД «Актуальныя праблемы Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войн», прымеркаваная да 65-годдзя Вялікай Перамогі. А. Літвін сумесна з вядомым гісторыкам з Арменіі К. Аруцюнянам апублікаваў у 2010 г. працу «Армяне — Герои Советского Союза в боях за Беларусь (1941—1944 гг.)». З удзелам А. Літвіна была выдадзеная таксама кніга «Казахстан — Беларусь: боевое братство» (Мн., 2005).

За апошнія гады Інстытутам арганізавана каля двух дзясяткаў, прысвечаных падзеям Вялікай Айчыннай вайны, міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцый як у Мінску, так і на базе ўніверсітэтаў ва ўсіх абласных цэнтрах нашай краіны, а таксама шматлікія «круглыя сталы» з работнікамі сістэмы адукацыі і прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Сумесна з камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, упраўленнем адукацыі адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя. М. Танка ў 2011, 2012 і 2013 гг. у гімназіі № 174 праведзены IV, V і VI Міжнародныя маладзевыя навукова-практычныя канферэнцыі «Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гадоў у гістарычнай памяці народа»; 29 мая 2012 г. у Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі праведзены семінар для настаўнікаў гісторыі па вывучэнні Вялікай Айчыннай вайны «І жывыя памяццю стагоддзяў ...»; 26 сакавіка 2013 г. па заказе Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь» для яго актыву праведзены навукова-практычны семінар «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці», матэрыялы якога апублікаваныя і выкарыстоўваюцца ў практычнай рабоце аб'яднання. Напрыканцы лістапада 2013 г. адбылася арганізаваная сумесна з Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Ф. Скарыны і Беларускім дзяржаўным універсітэтам транспарту Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «1943 год на Гомельшчыне».

Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што калектывам вучоных Інстытута гісторыі НАН Беларусі шмат зроблена ў справе вывучэння многіх актуальных праблем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

**Ірына ВАРАНКОВА,**
**навуковы супрацоўнік ваеннага аддзела**
**Інстытута гісторыі НАН Беларусі:**

— Руплівае захаванне ў Рэспубліцы Беларусь памяці пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны сваімі каранямі скіравана непасрэдна ў ваенныя гады, калі былі зроблены першыя крокі ў справе дакументавання і папулярызацыі гераічных і трагічных старонак гісторыі 1941—1945 гг. Як ні цяжка сёння ў гэта паверыць, мерапрыемствы па вывучэнні гісторыі вайны і яе адлюстраванні ў розных формах, у тым ліку ў музейных экспазіцыях, былі арганізаваны ў Савецкім Саюзе ўжо ў ліпені 1941 г. Асаблівая ўвага надавалася паказу трафейнага ўзбраення, што мела таксама прапагандысцкую мэту — псіхалагічна пераадолець расчараванне ад няўдалага пачатку вайны, пераканаць, што нямецкую ваенную тэхніку можна перамагчы.

Першая падобная выстаўка адкрылася 25 ліпеня 1941 г. у Мурманску. У жніўні з’явілася тэматычная экспазіцыя «Айчынная вайна» ў Цэнтральным музеі Чырвонай Арміі ў Маскве (зараз — Цэнтральны музей Узброеных сіл РФ), а ў верасні — выстаўка «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа супраць германскага фашызму» ў Дзяржаўным гістарычным музеі Масквы. Лістапад быў азнаменаваны стварэннем Камісіі па складанні хронікі абароны Масквы, а ў снежні 1941 г. на яе базе пачала працаваць Камісія па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пры Прэзідыуме Акадэміі навук СССР.

2 чэрвеня 1942 г. рашэнне аб стварэнні рэспубліканскай Камісіі па зборы дакументаў і матэрыялаў Айчыннай вайны прыняў ЦК КП(б)Б, які працаваў у эвакуацыі ў Маскве. Гэта структура стала першай беларускай спецыялізаванай установай па выяўленні, зборы, захаванні, навуковай апрацоўцы і выкарыстанні пісьмовых, выяўленчых, рэчавых і іншых помнікаў гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны, гэта значыць, выконвала, па сутнасці, функцыі адначасова навукова-даследчай, архіўнай і музейнай установы.

Старшынёй камісіі быў прызначаны сакратар ЦК КП(б)Б па прапагандзе Ц. Гарбуноў, членамі — работнікі апаратаў ЦК партыі, Саўнаркама, ЦК камсамола Беларусі, вядомыя гісторыкі, пісьменнікі, журналісты і інш. Сярод апошніх былі, напрыклад, кандыдат гістарычных навук, да вайны — дэкан Мінскага, потым Беластоцкага педінстытута І. Краўчанка (у 1955—1964 гг. — дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР, акадэмік), старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР М. Лынькоў, даваенны супрацоўнік шэрагу беларускіх газет В. Стальноў (гэта літаратурны псеўданім, сапраўднае прозвішча — Парфіяновіч).

Вакол камісіі паступова сфарміраваўся вялікі актыў, які аказваў канкрэтную дапамогу на месцах. На акупіраванай тэрыторыі Беларусі гэта былі спецыяльныя ўпаўнаважаныя, прызначаныя камандаваннем партызанскіх фарміраванняў, у савецкім тыле — прадстаўнікі эвакуіраванай беларускай творчай інтэлігенцыі. Асноўнай крыніцай паступлення матэрыялаў у камісію сталі камандзіроўкі яе супрацоўнікаў у франтавыя воінскія часці, у якіх змагаліся воіны-беларусы, на эвакуіраваныя беларускія прамысловыя прадпрыемствы, у партызанскія фарміраванні акупіраванай Беларусі.

Без перабольшвання агромністую ролю ў магчымасці атрымання першых дакументаў і матэрыялаў непасрэдна з беларускай зямлі адыгралі так званыя «Суражскія» альбо «Віцебскія вароты». На апошнім этапе Маскоўскай бітвы савецкія войскі на смаленскім і віцебскім напрамках прарваліся ў глыбокі тыл нямецкай групы армій «Цэнтр», 2 лютага 1942 г. занялі першыя вёскі на подступах да Віцебска, потым сумесна з мясцовымі партызанамі вызвалілі тэрыторыю 15 сельсаветаў Суражскага, Мехаўскага і Віцебскага раёнаў і 6 лютага апынуліся ў чатырох кіламетрах ад Віцебска. Але праціўнік перакінуў у гэты раён дадатковыя сілы і далейшае наступленне прыпынілася.

Разам з тым у лініі фронту стварылася некалькі разрываў, буйнейшы з якіх, шырынёй 40 кіламетраў, знаходзіўся паміж гарадамі Веліж Смаленскай вобласці і Усвяты, на той час Калінінскай, зараз Пскоўскай вобласці, у стык з мяжой Віцебшчыны. Гэты і былі знакамітыя «Віцебскія вароты», якія з 10 лютага па 28 верасня 1942 г. утрымлівалі з вонкавага боку савецкія ваенныя злучэнні, з унутранага — віцебскія і смаленскія партызаны.

Праз «Віцебскія вароты» Паўночна-Заходняя аператыўная група ЦК КП(б)Б, якая базіравалася ў тым раёне, забяспечвала, акрамя іншага, перапраўку ў Беларусь супрацоўнікаў Камісіі для збору матэрыялаў аб партызанскай барацьбе і злачынствах акупантаў. Пасля ліквідацыі «варот» гэта работа вялася з дапамогай ваенна-транспартнай авіяцыі, якая ажыццяўляла рэгулярныя рэйсы да беларускіх партызан.

Непасрэдная сувязь Вялікай зямлі з Беларуссю стала вызначаючым фактарам для актыўнага папаўнення фондаў камісіі, прычым у многіх выпадках — матэрыяламі рэліквійнага характару. Да прыкладу, праз «Віцебскія вароты» накіраваўся ў Беларусь адказны сакратар рэдакцыі газеты-плаката ЦК КП(б)Б «Раздавім фашысцкую гадзіну» А. Астрэйка з заданнем пабываць у партызанскіх фарміраваннях і расказаць пра іх жыццё і барацьбу. Яго другая камандзіроўка адбылася ў 1943 г. ужо праз адзін з авіярэйсаў. Паэт пабываў у многіх атрадах Віцебскай, Мінскай, Гомельскай, Пінскай абласцей. Больш за паўгода ён знаходзіўся ў партызан Слуцкага раёна, што адлюстраваў у 22 вершах зборніка «Слуцкі пояс», выдадзенага ў друкарні газеты «Народны мсцівец» Слуцкага падпольнага райкама КП(б)Б. Назва зборніка была навеяна як месцам выдання, так і знакамітым вершам М. Багдановіча.

Рэдакцыя і друкарня газеты базіраваліся ў 64-й партызанскай брыгадзе імя В. Чкалава Мінскай вобласці. Працавалі над выпускам зборніка рэдактар М. Дастанка, наборшчыцы Л. Куляшова і Л. Шаўчук, друкары У. Кананові́ч і М. Торхаў, партызанскія мастакі А. Залаты і А. Бяляеў. Клішэ для літар-заставак былі зроблены з кубікаў клёну, паперу і чырвоную фарбу для вокладкі дабылі ў нямецкай друкарні сувязныя-падпольшчыкі. Зборнік друкавалі на працягу месяца, гатовыя экзэмпляры паступова накіроўвалі ў партызанскія атрады.

Зборнік «Слуцкі пояс» з’яўляецца адзіным падчас вайны прыкладам літаратурнага твора прафесійнага аўтара, які быў надрукаваны ў падпольнай друкарні. Адзін з экзэмпляраў, прабіты варожай куляй, якой быў паранены друкар У. Кананові́ч, належыць сёння да «залатога» фонду Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Сярод першых матэрыялаў, якія паступілі ў камісію, былі падпольныя газеты і партызанскія рукапісныя часопісы, лістоўкі, фотаздымкі і звесткі пра баявыя справы партызан, акты аб злачынствах акупантаў, сведчанні пра баявыя подзвігі землякоў на фронце. Хутка да іх далучыліся таксама разнастайныя рэчы і творы выяўленчага мастацтва.

У канцы 1942 г. камісія апублікавала сваё першае друкаванае выданне, падрыхтаванае на падставе сабраных матэрыялаў — брашуру «Героі Савецкага Саюза» з нарысамі пра беларусаў, удастоеных гэтага высокага звання ў ходзе вайны: лётчыка А. Антоненку, кавалерыста Л. Даватара, снайпера Ф. Смалячкова, партызан Ц. Бумажкова і М. Сільніцкага і інш. У 1943 г. былі выдадзены тры зборнікі дакументаў аб злачыннай сутнасці акупацыйнага рэжыму: «Нічога не забудзем, нічога не даруем», «Дакументы аб зверствах нямецкіх акупантаў на Беларусі», «Пісьмы з нямецкага рабства», а таксама брашуры «Беларусь была і будзе савецкай» і «Першы і Другі мітынгі прадстаўнікоў беларускага народа». Былі падрыхтаваны да друку зборнікі пра беларусаў на франтах вайны і ў партызанскім руху — «Беларускі народ у баях за Радзіму» і «Народныя мсціўцы».

Восенню 1942 г. супрацоўнікі камісіі здолелі ўпершыню паказаць сваю працу ў музейным варыянце, прадставіўшы 313 экспанатаў рознага характару на выстаўцы «Беларусь жыве, Беларусь змагаецца, Беларусь была і будзе савецкай!»

Экспазіцыя была разгорнута ў пачатку лістапада ў будынку Дзяржаўнага гістарычнага музея на Краснай плошчы Масквы.

Выстаўка прадставіла практычна ўсе аспекты гісторыі Беларусі пярэдадня вайны і ваеннага часу. Вось якую характарыстыку дала ёй газета «Савецкая Беларусь» у нумары за 28 кастрычніка 1942 г.: «Першы раздзел выстаўкі — «Над нашымі гарадамі і вёскамі свяціла сонца сталінскай Канстытуцыі» — пакажа Беларусь савецкую да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

У другім раздзеле выстаўкі — «Пад ботам нямецка-фашысцкіх акупантаў» — паказаны разбурэнні гарадоў і вёсак, грабяжы і здзекі над мірным насельніцтвам, якія чыняць гітлераўскія бандыты. «Чорная ноч навісла над Беларускай зямлёй» — пад гэтым аншлагам развешаны шматлікія дакументы: загады нямецкага камандавання і нямецкіх чыноўнікаў, фотаздымкі, якія характарызуюць гітлераўскі «новы парадак» на Беларусі.

Трэці раздзел выстаўкі — «Беларусь жыве, Беларусь змагаецца» — паказвае работу прадпрыемстваў Беларусі, эвакуіраваных у савецкі тыл. Шырока паказана дзейнасць беларускіх вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў. Рад матэрыялаў і фотадакументаў адлюстроўвае барацьбу гераічных беларускіх партызан супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Экспануюцца рэчы партызан: іх зброя, абмундзіраванне і рэчы асабістага ўжытку, а таксама багатыя партызанскія трафеі.

Выстаўку завяршаюць раздзелы «Чырвоная Армія гераічна змагаецца на франтах Вялікай Айчыннай вайны» і «Сыны беларускага народа на франтах Вялікай Айчыннай вайны».

Гэтая выстаўка атрымала статус пастаяннай экспазіцыі і рэгулярна папаўнялася новымі экспанатамі з фондаў камісіі. Нарэшце ў красавіку 1944 г. камісія пераехала з Масквы на родную беларускую зямлю — спачатку ў Гомель, а ў ліпені — у толькі што вызвалены Мінск, дзе ў 1946 г. завяршыла сваю дзейнасць, сабраўшы каля 18 тысяч дакументаў і матэрыялаў, больш за 2,5 тысячы фотаздымкаў і інш. Яе фонды былі перададзены ў архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ (сёння захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь) і ў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне аб стварэнні гэтага музея на базе выстаўкі «Беларусь жыве…» 30 верасня 1943 г., што было напрамую звязана з пачаткам вызвалення Беларусі і мела вялікае палітычнае значэнне. Адразу ў рэспубліку былі накіраваны радыяграмы ўпаўнаважаным ЦК, а тыя, у сваю чаргу, аддалі загады камандаванню партызанскіх фарміраванняў аб зборы і захаванні для музея ўсіх магчымых сведчанняў жыцця і баявой дзейнасці народных мсціўцаў. Прыводзім тэкст такога загаду па Палескім партызанскім злучэнні ад 15 лістапада 1943 г.: *«Для музея гісторыі партызанскага руху Беларусі важна і неабходна мець і захаваць дакументы, якія характарызуюць баявыя дзеянні партызан, у тым ліку друкаваныя і рукапісныя выданні, узоры самаробнай зброі, усе фотаздымкі з тлумачальным тэкстам на адвароце, здымкі забітых нямецкіх генералаў і вышэйшых чыноўнікаў, нямецкія пагоны, захопленыя ў немцаў сцягі і іншае.*

*З а г а д в а ю:*

*а) сабраць і прадставіць у штаб злучэння зробленыя партызанамі ўзоры самаробнай зброі, якія ў вас маюцца, дакументы, якія характарызуюць жыццё і дзейнасць партызан /рукапісныя і друкаваныя выданні/;*

*б) здымкі забітых нямецкіх генералаў, афіцэраў і чыноўнікаў, нямецкія пагоны і сцягі;*

*в) здымкі крушэнняў эшалонаў, узарваных партызанамі мастоў, з тлумачэннем на адвароце: дата, час крушэння, узрыву, участак чыгункі і кім зроблена крушэнне, узрыў.*

*Тэрмін прадастаўлення 28 лістапада 1943 года.*

*Сакратар Палескага абкама партыі-камандзір злучэння /І. Вятроў/*

*Начальнік штаба злучэння капітан /Дарошка/*

У чэрвені 1944 г. супрацоўнікі выстаўкі-музея пераехалі з Масквы ў Гомель, 29 ліпеня прыбылі ў Мінск, а 26 верасня ў беларускую сталіцу перавезлі і выставачныя экспанаты. На гэты час іх ужо налічвалася больш за 10 тысяч.

Музей быў адкрыты 22 кастрычніка 1944 г. у будынку даваеннага Дома Працы на плошчы Свабоды (будынак захаваўся). Спачатку экспазіцыя складалася з двух тэматычных раздзелаў — «Узбраенне беларускіх партызан» і «Бальшавіцкі друк Беларусі ў дні Вялікай Айчыннай вайны».

Першы раздзел паказваў разнастайныя віды партызанскай зброі — самаробнай, трафейнай, савецкай, дастаўленай самалётамі з Вялікай зямлі.

У другім раздзеле дэманстравалася мноства падпольных газет і лістовак, сярод якіх былі і незвычайныя, надрукаваныя з-за адсутнасці паперы, на шпалерах, тканіне і нават на бяросце. Прыцягвалі ўвагу партызанскія «Баявыя лісткі», рукапісныя часопісы, у некаторых з якіх, зноў жа з-за недахопу чарніла альбо алоўкаў, тэксты пісаліся сокам лясных ягад. Шмат было партызанскіх сатырычных выданняў — ад плакатаў да ўнікальнай па знешнім выглядзе і змесце мініяцюрнай ілюстраванай кніжачкі пад назвай «Кніжка-малышка — фашыстам крышка», зробленай у партызанскай брыгадзе «Народныя мсціўцы» імя В. Варанянскага Мінскай вобласці. Усе гэтыя і многія іншыя рэліквіі складаюць гонар сучаснага музея, які з'яўляецца найбольш буйным у Беларусі музейным сховішчам помнікаў нацыянальнай гісторыі 1941—1945 гг.

### Барыс ДАЛГАТОВІЧ,
### дацэнт кафедры
### «Тактыка і агульнавайсковая падрыхтоўка» БНТУ:

— З 22 па 30 верасня 1943 фарсіравалі Днепр ад Лоева да Запарожжа арміі Цэнтральнага, Варонежскага, Сцяпнога і Паўднёва-Заходняга франтоў, захапіўшы 23 плацдармы. Планы нямецка-фашысцкага камандавання па стабілізацыі фронту на Дняпры былі сарваны. У кастрычніку савецкія войскі вялі жорсткія баі з мэтай ліквідацыі прадмостных умацаванняў ворага, якія засталіся на левым беразе Дняпра, пашырэння захопленых плацдармаў на яго правым беразе і стварэння ўмоў для вызвалення Правабярэжнай Украіны і Крыма.

Бітва за Днепр паклала пачатак вызвалення Беларусі. Першымі ўступілі на беларускую зямлю войскі 13-й арміі генерала М. Пухава Цэнтральнага фронту (камандуючы генерал арміі К. Ракасоўскі). У першым эшалоне наступаў 15-ы стралковы корпус (у складзе дзвюх дывізій): 8-я стралковая дывізія (палкоўнік П. Гудзь), 74-я стралковая дывізія (генерал-маёр А. Казаран).

Менавіта воіны перадавых атрадаў гэтых дзвюх стралковых дывізій вызвалілі першы райцэнтр Беларусі пасёлак Камарын — 23 верасня 1943 года. У прыватнасці ў пасёлак першым уступіў 360-ы стралковы полк 74-ы стралковай дывізіі падпалкоўніка М. Сташака. Толькі за першы дзень баёў (23.09.43) у гэтым палку 13 воінаў былі ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Усе камандзіры палкоў узнагароджаны ордэнам Суворава ІІІ-й ступені, а камандзіры дывізій — ордэнам Суворава ІІ-й ступені. З 22 верасня па 5 кастрычніка 1943 года баявыя дзеянні на тэрыторыі Брагінскага раёна вялі войскі 13-й арміі. З 5.10.43 года войскі арміі (па Дырэктыве стаўкі ВГК) падпарадкоўваліся камандуючаму Першага Украінскага фронту.

Вызваленне Брагінскага раёна працягвалі войскі 1-й арміі з перададзеным ёй — 7-м гвардзейскім кавалерыйскім корпусам. Менавіта воіны 61-й арміі 23 лістапада 1943 года завяршылі вызваленне раёна.

Непасрэдна г.п. Брагін вызвалілі часткі 55-й стралковай дывізіі (камандзір гвардыі маёр М. Заіюльеў) і танкісты 68-й стралковай танкавай брыгады (камандзір падпалкоўнік Г. Цімчанка). Адначасова ў штабе 61-й арміі паставілі задачу

партызанскаму атраду імя Катоўскага (камандзір Г. Сінякоў) нанесці ўдар па Брагіну і з захаду захапіць шашэйную дарогу Брагін — Хойнікі.

У баях за вызваленне г. Брагіна і раёна вызначыліся воіны 55-й стралковай (пазней стала Мазырская) дывізіі і кавалерысты 7-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса.

Сярод іх: начальнік інжынернай службы 111-га стралковага палка 55-й стралковай дывізіі капітан Васіль Сцяпанавіч Бачкароў. Ён асабіста абясшкодзіў сотні мін, а аддзяленне сапёраў сяржанта М. Андрэева абясшкодзіла 114 фугасаў вялікай магутнасці; камандзіры батальёнаў 55-й стралковай дывізіі: капітаны М. Трохін, Я. Арлоў, А. Дзюкаў.

Першым у горад Брагін увайшла рота ст. лейтэнанта В. Міхалёва. Ён і стаў першым ваенным камендантам г. Брагіна. У якасці трафеяў у горадзе было захоплена савецкімі салдатамі: тры склады з прадуктамі харчавання; 30 матацыклаў, 7 аўтамашын з боепрыпасамі і зброяй; склад мін і боепрыпасаў.

У баях за г. Брагін было забіта 387 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Асаблівасці баявых дзеянняў пры вызваленні Брагінскага р-на:

1. У ходзе зацяжных баёў у часцях і падраздзяленнях былі выведзены са строю да 80 працэнтаў афіцэраў і 50 працэнтаў асабовага складу. Камандзіраў-афіцэраў замянялі ў баі ўчарашнія сяржанты, якія скончылі кароткачасовыя курсы малодшых лейтэнантаў.

2. Невыпадкова з 132 чалавек, якія атрымалі званне за Брагінскі раён больш як 10 чалавек былі ў званні лейтэнантаў і малодшых лейтэнантаў.

3. Асаблівую ролю ў баях на беларускім Палессі адыграла кавалерыя. Так, толькі ў адной 16-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі (камандзір генерал-маёр Г. Бялоў) звання Героя Савецкага Саюза былі ўдастоены 56 чалавек. Сярод іх воіны больш як 10 нацыянальнасцей Савецкага Саюза: (казахі, узбекі, туркмены, армяне, башкіры, асеціны, татары і інш).

4. Звыш 50 працэнтаў вёсак у Брагінскім раёне спалены ворагам. Хаты, якія былі пакінуты, фашысты ператварылі ў кулямётна-агнявыя ўмацаванні, якія па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі пры іх вызваленні. Адсюль і вялікія страты нашых войск.

5. У Брагінскім раёне пахавана 15 Герояў Савецкага Саюза з 132-х. Амаль кожны чацвёрты быў удастоены гэтага звання пасмяротна, і не менш за 20 чалавек — Герояў Савецкага Саюза — атрымалі цяжкія раненні, пасля якіх яны былі камісаваны.

17 кастрычніка 1943 газета «Правда» пісала: «Шмат вялікіх спраў, якія здзяйсняюцца ў славу Радзімы, бачыў на сваіх берагах сівы Днепр. Але цямнеюць усе былыя подзвігі перад воінамі Чырвонай Арміі, яшчэ не было на берагах Дняпра таго, што ствараецца там цяпер бясстрашнымі савецкімі воінамі. Слава героям Дняпра!»

У выніку рашучых дзеянняў савецкіх войск Усходні вал праціўніка ў канцы верасня 1943 года «затрашчаў па швах». Нашы войскі на сямістакіламетровым участку ад Лоева да Запарожжа захапілі 23 плацдармы на правым беразе Дняпра. Былі таксама захоплены плацдармы на рэках Сож і Прыпяць. Аддаючы належную ўвагу ваеннаму майстэрству Чырвонай Арміі, англійскі гісторык Б. Ліддзел Гарт пісаў: «Лёгкасць, з якой рускія фарсіравалі Днепр, тлумачыцца майстэрствам і рашучасцю іх военачальнікаў».

Наступленне савецкіх войск на заходнім стратэгічным напрамку ў жніўні — снежні 1943 года з'явілася адной з найважнейшых падзей 1943 года і мела буйное сацыяльна-палітычнае значэнне. За гэты час савецкія войскі разграмілі звыш 40 дывізій груп армій «Цэнтр», у тым ліку 7 танкавых і матарызаваных.

Наступленне савецкіх войск на гэтым напрамку стала складаючай часткай бітвы за Днепр. Фарсіраваўшы Сож і Днепр у беларускім Палессі, яны авалодалі ўчасткам усходняга вала працягласцю звыш 500 кіламетраў.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# НА МЯЖЫ ЧАСОЎ
## *(нататкі пра сучасную паэзію)*

### Артыкул першы

Паэзія існавала насуперак усяму. Існуе і ў наш няпросты час, калі прыземленыя, утылітарныя інтарэсы людзей, «промышленные заботы», як сказаў калісьці рускі паэт Я. Баратынскі, відочна пераважаюць над духоўнымі зацікаўленнямі, адціснулі іх на задні план. Аднак, як ні дзіўна, чалавек, нягледзячы ні на што, не перастаў, не развучыўся ўспрымаць прыгажосць жыцця, дзівіцца яго навізне, хваляваццa, радаваццa і сумаваць, знаходзячыся ў пастаянных сувязях з яго шматстайнай штодзённасцю, няспынным ходам і развіццём.

Сённяшняя паэзія ў дарозе, як і сто гадоў таму, калі ўпэўнена заявілі пра сябе Янка Купала і Якуб Колас, а разам з імі рыхтаваўся пачаць сваю адметную сцяжыну Максім Багдановіч ды іншыя, як і пяцьдзясят гадоў назад, калі тварылі новыя класікі — М. Танк, А. Куляшоў, П. Панчанка... Вядома, панарама творчых пошукаў сучасных паэтаў вельмі складаная і разнастайная, але хочацца адзначыць два самыя агульныя моманты, падкрэсліць, магчыма, самае важнае: паэзія пашырыла сваю духоўна-эстэтычную аснову, стала магчымым, па-першае, пра ўсё пісаць і, па-другое, у паэзію вярнуўся Бог, у слова вярнулася тое субстанцыянальнае, што з'яўляецца анталагічнай, духоўнай асновай рэальнасці свету. Гэта добра відаць у творчасці многіх паэтаў, у тым ліку ў Рыгора Барадуліна, які сёння, на мой погляд, з'яўляецца самым буйным беларускім паэтам. У паэзіі, і гэта вельмі важна, аднаўляецца духоўна-клерыкальная плынь — як патрэба ў дыялогу з Небам, вера ў Вышэйшую Сілу.

Рыгор Барадулін піша:

Як у сцюдзёную раку,
Памалу ў Біблію заходжу,
Бо веру, што душу злагоджу,
І думаю, бяду ўраку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Свяжэе подых сіварка,
Чужэе цесната людская.
Душу спакоем абмывае,
Як свет, глыбокая рака.

*(«Як у сцюдзёную раку...»)*

Пасля Чарнобыля, пасля тых нягодаў, што абрынуліся на Беларусь, прыйшло ўсведамленне крызіснага стану свету...

Вершы сёння пішуць і стары, і малады — і ў дзесяць гадоў, і ў дваццаць, і пазней, і нават у дзевяноста. Паэзіі, выходзіць, як сказаў калісьці пра нешта іншае, але блізкае, Пушкін, падпарадкаваныя ўсе ўзросты. Дык што ж такое паэзія?

«Калі двое, — не жартуючы пісаў калісьці В. Бялінскі, — пачнуць тлумачыць адзін аднаму, што кожны з іх мае на ўвазе пад словам "паэзія", то і выходзіць на

паверку, што адзін называе паэзіяй ваду, а другі — агонь...» Вызначэнняў паэзіі шмат, у тым ліку вызначэнняў вобразных. З аднаго боку, паэзія — у жыцці (ці «ў траве», як сцвярджаў Б. Пастарнак), з другога — яна звязана са станам чалавечай душы. Спалучэнне аб'ектыўнага з суб'ектыўным. У эстэтычным сэнсе паэзія — вобразнае выяўленне сутнасці ў кароткім выказванні, адлюстраванне ўнутранага свету чалавека. Гэтага вызначэння будзем прытрымлівацца і мы ў размове пра сучасную беларускую паэзію.

Сённяшні дзень беларускай паэзіі — які ён у канкрэтных сваіх постацях і абрысах? Адназначнага адказу на гэтае пытанне даць, відаць, немагчыма. Сучаснасць валодае дзіўнай уласцівасцю: ёю заўсёды незадаволены: і тое дрэнна, і гэта. Спрадвечныя пытанні: пра што пісаць, нашто пісаць, як пісаць, для каго пісаць? — паўстаюць сёння вельмі востра перад паэтамі ўсіх пакаленняў. А пошук і яго вынік, як вядома, далёка не заўсёды супадаюць, і ні ў кога няма ключоў ад новага Сезама, які б адчыніўся па першым патрабаванні паэта, хай сабе і самага таленавітага.

Сярод сёняшніх беларускіх паэтаў — прадстаўнікі, здаецца, усіх праслаўленых пакаленняў, ад Рыгора Барадуліна (нар. 1935 г.) да Рагнеда Малахоўскага (нар. 1984 г.) і яшчэ больш маладога Паўла Барахвостава — нараджэння 1991 года. У страі паэты паважанага ўзросту, такія як М. Аўрамчык, І. Муравейка і некаторыя іншыя. Зусім нядаўна пакінуў нас Пятро Прыходзька — паэт ваеннага пакалення. Вялікую Айчынную вайну прайшоў «ад званка да званка». Апошняя яго кніга «Позняя восень» (вершы, балады, паэмы, 2006 г.) выглядала, як вечаровая, даверлівая бяседа з сябрамі-таварышамі, размова са сваім франтавым мінулым, са светам прыроды. Адчувалася, што навакольная прырода аказвала істотнае ўздзеянне на яго асобу, настрой. Пра гэта нагадваюць радкі (хаця, магчыма, і не самыя лепшыя):

У прыроды ёсць свая жывая мова,
І птушкі дзеля нас пяюць на ёй.
Я веру, што яны абавязкова
Мне адгукнуцца песняю сваёй.

Пятро Прыходзька адлюстроўваў (калі гэтае паняцце ўжывальнае ў адносінах да паэзіі) рэальнасць так, як бачыў і ўспрымаў яе сам. Разам з тым паэзія ніколі не была для яго чымсьці прыватным, а, наколькі помніцца, заўсёды адрасавалася шырокаму чытачу, жыла агульнымі клопатамі і неспакоем.

Паэты старэйшых пакаленняў здолелі выпрацаваць духоўную стойкасць перад тварам нягод, імкнуліся зазірнуць у глыбіню чалавечай душы, адчувалі маральныя асновы жыцця.

Асобна хацелася б сказаць пра паэтычныя зборнікі, што выйшлі адзін за адным з-пад пяра старэйшага нашага літаратара Васіля Івашына (1913—2009): «Слова» (1995); «Покліч памяці» (1998); «З надзеяй і верай» (2003); «Прызванне» (2007). Прырода, праца, прыгажосць — вось што было вытокам яго паэзіі. Вершы, напоеныя спакойнай, спелай мудрасцю, неслі ў сабе ўсе прыкметы інтэнсіўнага ўнутранага жыцця аўтара.

Што пражыта — не забыта,
Засталося дарагім...
І красуе маё жыта
На палетку веснавым.

Васіль Івашын паставіў перад сабой задачу, як сказаў з іншай нагоды М. Бахцін, асэнсаваць «сябе ў свеце і свет у сабе». Яго паэзія сведчыць, што ў яго была свая маральна-этычная сістэма, але ён не маралізатар. Этычнае ён спалучаў з эстэтычным. «Той ніколі не гаруе, — гучыць яго радок, — Хто красу жыцця святкуе». Няблага сказана!

У глыбіню жыцця ты загляні,
Дзе свецяцца таемныя агні,
Нічога не забудзь, не праміні,
Падлічы яго дары і страты
І адкажы:
Хто вінаваты,
Што гора шчэ віруецца ў жыцці?

Паэзіі В. Івашына пры ўсёй яе ўраўнаважанасці ўласцівы моцны «жыццёвы парыў» (вядомы выраз філосафа А. Бергсана), своеасаблівая радасць жыцця. Зразумела, што сама па сабе вітальная сіла яшчэ не гарантуе дабра і эстэтычнай прываблівасці. У В. Івашына такім гарантам выступае духоўны ідэал, які прысутнічае ў яго творчасці. Паэт любіў і апяваў жыццё, радзіму, прыроду з яе самарухам, стваральную дзейнасць чалавека, паважаў яго маральныя каштоўнасці. Яго вершы прасякнуты трывогай за лёс гэтых каштоўнасцей, асабліва ў наш час, калі многія, на вялікі жаль, выракаюцца роднага, забываюць аб патрыятызме, і свае не ладзяць паміж сабой.

З чаго нараджаюцца вершы? Найперш з пачуцця здзіўлення прыгажосцю свету, з адчування, што чалавечае жыццё — гэта шчасце, вялікі дарунак лёсу! Здольнасць здзіўляцца — галоўная дабрачыннасць паэта, але гэтым справа не заканчваецца, а толькі, можна сказаць, пачынаецца. Паэзія не можа задаволіцца абаяннем непасрэднасці. За эмпірычным засваеннем новых з'яў узнікаюць новыя далягляды — імкненне паэтаў спасцігнуць сутнасць таго, што адбываецца, сутнасць сучасных канфліктаў. Роздум, аналіз, развага — усё гэта ў значнай меры вызначае падыход паэтаў да рэчаіснасці, таму патрабуецца рэалістычная ўчэпістасць, сацыяльна-псіхалагічная і маральная зоркасць.

Паэзію жывіць дух эксперымента. Адно з яе адгалінаванняў можна гэтак і абазначыць: эксперыментальнае.

У сучасную паэзію прыйшло шмат моладзі, шмат жанчын (фемінізацыя!). У дзённіку М. Танка за 1973 год (пасля паездкі ў Польшчу) ёсць такі запіс: «Зараз у польскай паэзіі пануе матрыярхат. Прадчуваю, што гэта чакае і нас». Прадказанне М. Танка, здаецца, збылося. Фемінізм сёння папулярны і ў паэзіі. Шмат новых імёнаў: Таццяна Барысюк, Таццяна Сівец, Аксана Спрынчан, Валерыя Кустава, Святлана Кухарэвіч, Віка Трэнас, Таццяна Нілава, Дар'я Лёсава, Алёна Рыбік, Ганна Чумакова, Ганна Міклашэвіч, Маргарыта Латышкевіч... У свеце каштоўнасных арыентацый чалавека непераўзыходзячае значэнне маюць вера, свабода, воля, сумленне і ідэалы. Паэзія, як вядома, якраз і з'яўляецца захавальніцай і стваральніцай гэтых духоўных каштоўнасцей, якія існуюць адначасова як крыніца чалавечых патрэб і як норма быцця. Па прыродзе сваёй жанчына таксама захавальніца традыцый роду і ўсіх быційных пачаткаў.

Пра што пішуць маладыя? Пра першае — шчаслівае або нешчаслівае — каханне, нярэдка змяшчаюць філасофскія разважанні на тэмы жыцця і смерці, даюць пейзажныя замалёўкі родных краявідаў. Як правіла, у іх творах прысутнічае вобраз Радзімы, Беларусі. Маладыя праяўляюць цікавасць да гісторыі і культуры Бацькаўшчыны, да спадчыннай памяці і родавых каранёў. Хораша адзначыць, што літаратурная моладзь добра ўсведамляе сваю прысутнасць не толькі ў межах малой радзімы (у вёсцы ці горадзе), але і ў Сусвеце. Маладыя аўтары здольны вырашаць праблемы не толькі жыцця надзённага, але, на нашу думку, адбываецца інтэлектуалізацыя творчага мыслення, спасціжэнне складанасці рэчаіснасці. Працягваюцца цікавыя пошукі не толькі новай змястоўнасці, але і разнастайнасці формаў мастацкага ўвасаблення.

Наша паэзія заўсёды жыла грамадскім непакоем і з'яўлялася не столькі «чалавеказнаўствам», колькі «грамадазнаўствам», «народатворчасцю» (паводле выразу У. Калесніка). Уласнае «я» паэта заставалася ў ёй часцей за ўсё ў цяні ці на другім месцы. Такія асаблівасці беларускай паэзіі маюць глыбокія карэнні ў гістарычным лёсе нацыі, як мастацкай свядомасці. Гэта была «барацьбяная», як яе назвалі, паэзія, звернутая да шырокага дэмакратычнага адрасата.

* * *

Паэзію ў яе развіцці і станаўленні больш за ўсё займае чалавек, яго ўнутраны свет, адносіны да жыцця, і ў гэтым сэнсе яе называюць чалавеказнаўствам. У адрозненне ад навукі, дзе ёсць шырокая, так сказаць, бессуб’ектыўная зона, паэзія падобных зон не ведае. Навука з гатовага выніку праганяе ўсё індывідуальнае. У паэтычнай творчасці не толькі сам працэс, але і яго вынік настоены на індывідуальным, асабістым. Гэтае палажэнне сёння, здаецца, з’яўляецца агульнапрынятым і рэдка калі выклікае пярэчанні. Герой, лірычны персанаж з’яўляецца галоўным носьбітам сэнсу ў паэтычным творы. Герой у прозе і герой у паэзіі, паводле нашых назіранняў, маюць сваю спецыфіку. У прозе героем можа з’яўляцца і станоўчы персанаж, і адмоўны, у паэзіі — толькі станоўчы, ідэальная, можна сказаць, постаць лірычнага суб’екта. І пісьменнікам, і паэтам навакольны свет разглядаецца часцей за ўсё як поле дзейнасці чалавека і яго станаўлення, як асяродак, ва ўзаемадзеянні з якім ён выпрацоўвае і выяўляе іманентныя рысы свайго характару.

Выяўленне характару асабліва прынцыпова істотнае ў паэзіі, у якой, у самавыяўленні лірычнага героя, пануе маральны «пазітыў», найбольш паслядоўнае прызванне чалавека тварыць дабро. У дабра шмат назваў: філантропія, любоў да бліжняга, альтруізм, прыхільнасць, братэрства, чалавечнасць, спачуванне, суперажыванне, дапамога, міласэрнасць, пяшчота, пачуццё грамадскага дабра, патрыятызм. Усё гэта і складае асноўны змест маральна-эстэтычнай, духоўнай дзейнасці лірычнага героя, які адкрывае перад намі сябе, сваё ўнутранае жыццё, з’яўляецца носьбітам гэтых каштоўнасцей. А прыгажосць вакол нас — яркае святло сонца, таямнічае неба, якое пастаянна мяняецца, прырода, вясковыя і гарадскія пейзажы і г. д. — хіба гэта не вартае ўвагі? Безумоўна, вартае. Вартае таму, што ўсё гэта мае для чалавека пэўную значнасць, асабовы альбо грамадскі сэнс, інакш кажучы, з’яўляецца чалавечай каштоўнасцю і ў такой сваёй якасці ўвасабляецца ў літаратуры, у паэзіі, у рэшце рэшт — у паэтычным, мастацкім стылі.

Каб ацаніць развіццё сучаснай беларускай паэзіі, трэба, на нашу думку, прыгледзецца да яе паасобных стылёвых плыней, з якімі суадносіцца творчасць паэта, яго індывідуальны стыль. Індывідуальны стыль — пацвярджэнне таленту, сведчанне супадзення жыццёвага матэрыялу і пазіцыі паэта, яго асабістага пункту гледжання. Гэта — як пашпарт паэта. З’яўленне ў паэта свайго стылю — сведчанне таго, што ён прыручыў свет, адамашніў яго. У стылі адлюстроўваецца светапогляд паэта. Стыль звязаны з разуменнем паэзіі як сродку пазнання рэчаіснасці.

Як суадносяцца творчая індывідуальнасць і стылявая плынь? Здавалася б, на першы погляд, што стылявая плынь шырэйшая, што яна поўнасцю ўбірае ў сябе індывідуальнасць паэта з усімі яго асаблівасцямі. Гэта не так. Умоўна можна дапусціць, што калісьці, у пару эпічнай даўніны, «калектыўнай свядомасці», існаваў адзін усеахопны стыль і асобныя паэты («рапсоды») з’яўляліся пэўнымі яго гранямі. Аднак пазней становішча змянілася. У перыяд «Нашай нівы» абудзіліся актыўныя мастацкія пошукі. Паэты праяўлялі сваю суб’ектыўнасць, шукалі ў розных напрамках, і найбольш буйныя з іх самі прадставалі перад чытачом як стылёва шматаблічныя. У Я. Купалы, напрыклад, побач з узнёслым рамантызмам без цяжкасцей можна заўважыць рысы эпічна-апавядальнага стылю (раннія паэмы), публіцыстычнага («Ворагам беларушчыны»), філасафічнасці («Разлад») і інш. Тое ж і ў Я. Коласа, з перавагай, вядома, сваёй — эпічнай — стылёвай дамінанты. Складанымі і шматграннымі ў стылёвым плане выглядаюць разгледжаныя намі Танк, Куляшоў, Панчанка.

Мы нездарма ўспомнілі «Нашу ніву» (1906—1915) — гэта прарадзіма сучаснай беларускай паэзіі, паэтычная «майстроўня» ля яе вытокаў. З гэтай «майстроўні» выйшлі многія паэты — майстры вершаванага наратыву, мастакі-экстраверты, схільныя не выстаўляць наперад сваю асобу, а болей засяроджваць увагу на навакольным, паказваць абставіны жыцця ў яго ўласных формах. Такой выглядала

павесційна-аповедная аснова нашага «фірменнага» нацыянальнага стылю, які ў паэзіі набыў адпаведную лірычную, ці, дакладней, лірыка-апавядальную адметнасць. Гэтая адметнасць утрымлівала ў сабе сутнаснае, спецыфічнае, «кодавае», нацыянальна непаўторнае. Нацыянальны «пароль» нашай паэзіі — у маўленні, замешаным на прадметна-бытавой фактуры вобразаў і ўяўленняў. Гэтая рыса праяўляе сябе, можна сцвярджаць, ва ўсіх стылёвых плынях, але найбольш у лірыка-апавядальнай. Дамінанта лірыка-апавядальнага стылю — эпічнасць, знітаваная з нацыянальнай традыцыяй, яе атожылак. У абсягах гэтай традыцыі надзвычай плённа праявіў сябе талент Якуба Коласа і іншых класікаў, уключаючы Янку Купалу, Максіма Багдановіча і многіх яшчэ.

На гэтым стылёвым полі працуюць вельмі многія сучасныя паэты — прадстаўнікі розных паэтычных пакаленняў. Не адрываюцца ад яго, трэба сказаць, і тыя, хто імкнецца да большай выразнасці, да самавыражэння, выходзіць на новыя пазнавальныя і эстэтычныя далягляды. Адзнакі гэтага стылю знойдзем у творчасці ледзь не кожнага з беларускіх паэтаў.

«Апавядальнікі» — гэта паэты-экстраверты, майстры вершаванага наратыву. Цудоўна валодае гэтым майстэрствам цяперашні К. Камейша, што добра відаць у вершы «Кляновы ўспамін»:

Яго няма.
Але быў ён калісь.
Стаяў гэты дом.
Так і памяць даводзіць.
У галубіным памёце карніз,
Стаптаны парог
да гасцінца выводзіць.
Туліўся дом той пры трох клянах
Як храм пушчанскі пры трох званах.
Хто не спыняўся ў цяністым двары,
Каб скінуцца ў карты,
Падужацца з квартай.
Заскочыць анучнік, бывала, стары,
З куфэркам іголак,
і шпілек,
і жартаў.
То Рубін-пчаляр,
то ляснік з Лубяня,
То партызан налібоцкі Соза...
Ім ночы мала і мала дня,
Яны пад кляны паўцякалі з марозу.

У К. Камейшы не сустрэнеце вершаў гучна-публіцыстычнага кшталту, т. зв. грамадзянскіх. На першым плане ў яго — чалавечы, інтымна-чалавечы пачатак, напоўнены драматызмам жыцця, адчуваннем таго, што салодкае і горкае адно без другога не існуюць. У стылі выяўляецца характар аўтара.

Плыве мая позняя лодка,
Варушыць халодны аер.
А рэчка, як хітрая цётка,
Якой аніколі не вер.

Віруе яна і хітруе.
Каленцам свой бераг загне,
Аднойчы цябе зацалуе,
А потым у бездань шпурне.

Яна і давер мой, бывала,
Купляла за грыўну бляшні.
Аблокі падушкамі слала:
Ты толькі, наіўца, засні!

Я спаў, я праспаў гэтак многа,
Шмат дзён у віне патапіў.
Ад Бога была засцярога,
А я па цячэнні ўсё плыў.

Верш К. Камейшы ўспрымаецца як натуральны працяг прыватнага жыцця аўтара, аповед пра свой уласны жыццёвы досвед. Ёсць падставы сказаць, што ў яго творчасці павялічваецца каэфіцыент асэнсавання жыццёвага матэрыялу, ступень духоўнага засваення сучаснага свету і свету сучасніка. Праўда пачуцця адчуваецца ў самім дыханні радка, у яго фоніцы і інтанацыі, знешне простай, немудрагелістай, нязмушанай, але ўнутрана надта напружанай, багатай на эмацыянальныя адценні, падтэкст, які карэніцца недзе ажно ў геннай памяці. Нясе лодку рака жыцця.

Ля горла пятлёй завілася.
І зноў я паверыў рацэ,
Якая слязьмі расцяклася
Па сумнай бацькоўскай шчацэ.

Як лепшы мой час адфартуніў
І ў днішчы сатлела смала,
Ізноў мая рэчка ратунняй,
Паводкай у снах загула.

Не маю я крыўды на рэчку,
Не помню і назвы яе.
Пра лодку кажу я, урэшце,
Што леты гайдае мае.

Плыве мая позняя лодка,
Пад той занямонскі парог,
Дзе будзе мне ціха і лёгка
Пасля маіх цяжкіх дарог.

У сённяшняга К. Камейшы выклікае нашу павагу моцна выяўлены мужны спавядальны пачатак, паэт вядзе нелітасцівы дыялог з самім сабой:

Як іду на споведзь я да Бога,
Не прашу, каб Бог мне дапамог:
Што я сам магу?
Ды анічога,
Саду не збярог свайго старога,
Не ўбярог і дзядзьку ад астрога,
І дачку ад смерці не ўбярог.

Слоў няма ў малітве «цяжка», «досыць».
Што магу я?
Сам цягну за трох.
І таго ганю,
хто нешта просіць,
Хоць нікому сам не дапамог.

Пакутуе ў глыбокіх перажываннях душа. Пакутуе, але нешта і набывае, чалавек багацее на чалавечнасць...

Паэты-«апавядальнікі» грунтуюцца ў сваёй творчасці на ўсведамленні зыходных асноў мастацтва, на шчырасці і праўдзівасці пачуцця, шырыні духоўных даляглядаў. Паэтычнае «Я» ў кожнага выяўлялася па-свойму. Тут мелі значэнне своеасаблівасць асобы, тэматыка і мастацка-стылявая скіраванасць.

Здаўна запомніліся радкі маладога Генадзя Пашкова:

Затаіліся лес і зямля.
Ліст апошні
вось-вось
сарвецца.
Здрыгануўся, уражаны, я.
Бы не ліст зрываецца —
сэрца.

Гэтая лірычная замалёўка і сёння кранае трапяткім адчуваннем прыроды і сардэчнай пяшчотай. Ён і цяпер піша вельмі цікава. Паэзія Г. Пашкова — разнастайная па сваіх матывах, танальнасці, узрушанасці. Грамадска-патрыятычная, філасофская, пейзажная, інтымная лірыка яго звернута сваім зместам да агульначалавечых маральна-этычных каштоўнасцей жыцця. Ён умее цаніць давер і дружбу, прагне жыць эмоцыямі, сэрцам.

За табою — дарога.
І за мною — шляхі.
Спадзяёмся на Бога,
Хоць і маем грахі.

І, за іх не караюць,
Бо вініцца дарма,
Я вязу цябе ў далеч,
Дзе знаёмых няма.

За дрымотнаю пушчаю,
Ля азёрнай вады,
Мы дагонім,
Што ўпушчана
У былыя гады.

Будзе сонца і цемень.
Будзе — наадварот.
Пражывём і за дзень мы,
Што калісьці — за год.

У паэзіі Г. Пашкова ўсё натуральнае: прырода, сонца, каханне. Выдатны ў гэтым сэнсе верш «Утрапенне»:

Смаляны —
на ўсю шыр —
акалот
хор стазвонны навёў і наладзіў.
Калыхнуўся шапоткі чарот,
што крыло на падсіненай гладзі.
Дух чарніцаў,
гаркавы на смак,
будзем піць мы з табой да спатолі.
— Люблю цябе, мілая, так,
не любіў як нікога,
ніколі...
Гэты спеў,
гэты бор,
гэты час —
наша радасць,
ад шчасця нямая,
захліснула
і кінула нас
у абсяг,
што граніцаў не мае.

Шкада толькі, што Г. Пашкоў рэдка друкуецца, але кожная яго нізка спыняе, прымушае залюбавацца на дбайна выбудаваныя, дагледжаныя радкі, на сакавітае, паўнавартаснае пачуццё і слова.

Паэзія — гэта сама разнастайнасць. «Я» ў кожнага паэта выяўляецца па-свойму. Тут маюць значэнне своеасаблівасць асобы, псіхалагічны склад, светапогляд, тэматыка, мастакоўская смеласць, майстэрства і эстэтычны густ. Каб глыбей зразумець творчую індывідуальнасць паэта, трэба высветліць яго сувязь з традыцыямі, стылявое аблічча, нацыянальны пачатак у творчасці. Нацыянальны пачатак традыцыйна моцны ў беларускай паэзіі. Рускі паэт У. Гардзейчаў выказаўся (у лісце да А. Вярцінскага) на гэты конт так: «Я не зрабіў адкрыцця, заўважыўшы ў творчасці беларускіх майстроў верша, пры зусім відавочных стылёвых адрозненнях, нешта агульнае, што можна ахарактарызаваць як адзіныя моўныя і маральныя токі, неаддзялімыя ад жывячага іх народнага, нацыянальнага пласта. Я б сказаў, што такую прадвызначанасць накладвае на сваіх майстроў і чаляднікаў ужо сама беларуская мова, гістарычна замешаная на ўстойлівых выразных элементах народнага погляду на жыццё, часцей — дабротнай сялянскай афарбоўкі».

Далей У. Гардзейчаў так працягваў сваю думку: «Адсюль вынікае, на мой погляд, цікавая асаблівасць: ні ў самай малой ступені не пакутуючы на нацыянальную абмежаванасць, здольная выяўляць сусветныя матывы, беларуская паэзія тым больш паспяхова перамагае адцягненую рыторыку, голую дэкларацыйнасць, што для саміх паэтаў, чулых да ладу натуральнай роднай мовы, надта чужародная, надта “пазафізіянамічная” матэрыя верша, не абагрэтая цяплом сардэчным».

Значнае месца аповедны пачатак займае ў творчасці М. Дуксы. Сёння яму — аўтару многіх паэтычных зборнікаў — многае бачыцца па-іншаму. Яму па-ранейшаму ўласціва непаспешлівасць, некаторая замаруджанасць думкі і рытму, кантралюемыя эмоцыі, стрыманасць, аднак не сакрэт, што радок стаў бліжэй да праўды жыцця. Верш «Першыя калгаснікі» — кароткая гісторыя пасляваеннай беларускай вёскі, якая, нягледзячы ні на што, у нейкай меры яшчэ захоўвае сваю духоўную, маральную трываласць. Аўтар успамінае жыццястойкасць і сумленнасць першых калгаснікаў.

Не кожны раз было за што абуцца,
Па-людску з’есці, адагнаць хваробу.
Ды да зямлі спіною павярнуцца
не раіла сумленне хлебаробу.

Аднак нават і сялянскай, вякамі загартаванай трываласці не хапіла.

Ім верылася: зменіцца на свеце...
Як доўга, доўга перамен чакалі.
А гэтым часам безразважна дзеці
ад іхняй праўды ў горад уцякалі.

Партрэт вясковага актывіста пачатку 50-х гадоў намаляваны ў вершы «Сельсавецкі агент». Гэты «агент» нагадвае польскага секвестратара 20—30-х гадоў. Унутраная сутнасць яго не змянілася. Апісваючы за падаткі апошнюю кароўку ў беднай шматдзетнай сям’і гэты агент спасылаецца на дзяржаўныя інтарэсы: «Карміць дзяржаву — не тваю галоту...» «Галота» — дзеці, якія «румзаюць ля плота», застаючыся без сваёй карміцелькі. Яны для таго «агента» — па-за дзяржаўнымі інтарэсамі.

У сённяшняй «бізнес-лэдзі» нічога агульнага з імі, сельсавецкім агентам і колішнім секвестратарам, няма, але паэт прад’яўляе рахунак і ёй:

Яна заўжды на кліканым абедзе
штораз сядзіць у цэнтры — больш нідзе...
Пастукваючы ножкай, бізнес-лэдзі
упэўнена па офісе ідзе.
У сэрцы — клопат, ён такі вялікі —
і днём і ноччу з ім так і жыве.
Фінансавыя тоўпяцца падлікі,

палічкі ўсе заняўшы ў галаве.
У свеце гандлю — зорка, а не пешка,
крутая віртуозніца хутчэй.
Пазбаўленая сонейка, усмешка
выглядвае з падведзеных вачэй.
Калышучы мадэльнаю фігурай,
адшліфаваны халадок нясе,
бо з сумачкі, што з натуральнай скуры,
павытрасала сентыменты ўсе.

Сёння ў спакойна-ўраўнаважаную паэзію М. Дуксы пранікаюць элементы публіцыстыкі («Мужчыны ў школе», «Было», «У кнігарні», «Дамок Мацея Бурачка», «Утрапенне» і інш.). Такія вершы звычайна прысвечаны нейкай актуальнай праблеме і гучаць надзённа, хаця, не ўтоім, інфармацыйны пачатак у некаторых з іх бярэ верх над паэтычным. Таму радуешся, калі раптам натрапіш на ўдалую знаходку. Пра домік Мацея Бурачка:

За столькі вёсен засвіціўся гонт,
ужо з машком густым перамяшаны.
Не толькі даху — і людской пашаны
доўгачаканы наступіў рамонт.

Адзін з самых прыкметных сучасных паэтаў сярэдняга пакалення — Леанід Дранько-Майсюк, творчасць якога вылучаецца вельмі асабістым характарам, скіраванасцю ў сваё роднае, сямейнае, звязанае з палескім Давыд-Гарадком, дзе нарадзіўся паэт, роднай вуліцай, «пляцам», на якім стаяла і стаіць бацькоўская хата, з самімі бацькамі — Васілём і Любай, як ён іх пяшчотна называе. Асноўная рыса Л. Дранько-Майсюка — шчырасць, нязмушанасць, ненатужлівасць інтанацыі. Адсюль і вытокі, і своеасаблівасць яго індывідуальнасці, бо яшчэ Леў Талстой сказаў: «Індывідуальнасць — гэта шчырасць. Калі будзеце шчырыя, дык заўсёды будзеце індывідуальныя». Наколькі помніцца, ён ніколі (у адрозненне ад некаторых з яго сяброў) не пісаў «прыдворных» ці камсамольска-заказных вершаў, не паэтызаваў рух калон з рыдлёўкамі, будаўнікоў БАМа. Але вока паэта дастаткова ўчэпістае, каб убачыць на гарадской вуліцы «натоўп юнакоў у магнітафонных навушніках».

Цалкам занятыя кішэннай музыкай,
Юнакі не чулі ні пошуму дрэў,
Ні трамвайных званкоў,
Ніякага іншага вулічнага гоману.

*(«Я ўбачыў...»)*

Ён шкадуе гэтых недарэк, якія асудзілі сябе на адасобленасць ад свету, на некамунікабельнасць. Праўда, не адказвае на пытанне, адкуль яны, такія, з’явіліся, што іх такімі зрабіла.

Помню, як калісьці (гэта было гадоў 20 таму) ён сцвярджаў: у паэзіі важна не «што», а «як». Відавочна, што гэта было палемічнае сцвярджэнне, бо ў самога Дранько-Майсюка «што» і «як» ураўнаважаныя. Яму ёсць што сказаць, і ён умее як сказаць. Гэта даказаў і зборнік «Тут» (1990), у якім ён дамогся большай паўнаты лірычнага самавыяўлення, шчырасці і філасафічнасці. Многія вершы ў ім напоўнены глыбокім і непадробным унутраным драматызмам і прамаўляюць да нас сілай заключанай у іх праўды:

Сто англій і дзвесце францый
Ніякай сваёю сілай
Не зробяць з мяне эмігранта,
А наша жыццё зрабіла.

*(«Эмігрант»)*

За творам праглядваецца глыбокі і балючы падтэкст, блізкі сэрцу сучаснага беларуса.

Што ні было — усё ж радзіма,
І што ні ёсць — усё ж свая,
Часцей з сабачымі вачыма,
Чым з вольным горлам салаўя.

Радней няма, бліжэй таксама.
Мой родны кут, мой мілы кут...
І застаецца лепшым храмам
Твой кожны дол, твой кожны груд.

Гэта таксама сказана вельмі ж па-беларуску. З класікаў яму найбольш, відаць, блізкі М. Багдановіч — паэт «красы, гармоніі і кахання», для якога эстэтычнае было разнавіднасцю агульначалавечага. Да Багдановіча Дранько-Майсюк звяртаецца са словамі:

Багдановіч, ратуй,
Ад знікнення ратуй, ад нямоты.
Пачуццем тым гаючым ратуй,
Праз якое ты быў не самотны.

Як і М. Багдановіч, ён таксама адраджэнец, якому блізкія і будзённая рэальнасць, і высокія парыванні чалавечага духу. Аўтар «Слуцкіх ткачых» калісьці пасапраўднаму адкрыў Беларусь, але з тых часоў яна, пры нашым убогім нігілізме, паспела забыцца ў многіх важнейшых сваіх праявах — мове, гісторыі, краявідах, помніках, тым, што можна назваць зместам і асаблівасцямі нацыянальнага духоўнага жыцця.

На Багдановіча ён падобны яшчэ і тым, што спалучае ў сваім паэтычным менталітэце адначасова гарадскія і вясковыя рысы. Гэта — адно са сведчанняў цэласнасці паэтычнай натуры, і хацелася б, каб Л. Дранько-Майсюк, асвойваючы традыцыі вялікага класіка, глыбей пранікаўся Багдановічавым светаўспрыманнем, яго адчуваннем чалавечай супольнасці, таго, што ўсе мы «разам ляцім да зор».

Сёння Л. Дранько-Майсюк у добрай творчай форме. Прызнаны паэт, любімы сябрамі і публікай. Я не раз быў на яго выступленнях і радаваўся той цеплыні, з якой яго сустракаюць аматары паэзіі. Яго вершы дэтэрмінаваныя сваім часам, абрысы якога можна знайсці ледзь не ў кожным творы. Ён разнастайны з тэматычнага боку: грамадзянска-публіцыстычныя матывы мяжуюць з інтымнымі, пейзажная лірыка пераходзіць у філасафічную.

Аднаго толькі можна яму пажадаць — каб не натыкаўся лішне на тое, што М. Танк назваў «рыфамі прыгажосці». Пра гэта варта памятаць нават такому арганічнаму і густоўнаму песняру «красы», жыццёвага хараства, як Л. Дранько-Майсюк.

Прыхільнік лірычнага наратыву — Міхась Пазнякоў. Аднойчы Васіль Вітка — адэпт традыцыйнай школы ў паэзіі — не без самаіроніі, але і з адчуваннем уласнай годнасці сказаў пра сябе: «Я не пішу верлібрам — грашу старым калібрам». Нешта падобнае, услед за сваім настаўнікам, мог бы паўтарыць М. Пазнякоў. Ён таксама верна сябруе з рыфмай, не любіць парушаць памер, трымаецца страфы, не злоўжывае метафорыкай і асацыятыўнасцю, словам, як кажуць, пыл у вочы не пускае. Тым не менш дадатнага выніку звычайна, у большасці выпадкаў, дамагаецца, як, напрыклад, у гэтай здавалася б сціплай жанравай замалёўцы пад назвай «На аўтобусным прыпынку», у якой відзён той даўні «пароль» нашага паэтычнага маўлення, пра які згадвалася вышэй.

— Купіце яблычкаў вядзерца,
Зусім нядорага прашу —
На дзве ўсяго буханкі хлебца,
Ледзь прыцягнула на шашу...

За спрацаванаю бабуляй
Глядзіць умольна дзед сівы,
Свой поўны кошык падцягнула
І дзеўчанё гадкоў васьмі.

Ды іх ніхто не ашчасліviў:
Хто ў вёску ехаў да бацькоў,
А хто й купіць вядро наліву
Не меў і лічаных рублёў...

На тым аўтобусным прыпынку
З'явіцца зноў хацеў чамусь:
Не бабку, дзеда і дзяўчынку —
Я там пабачыў Беларусь...

Апошнія радкі ўзнімаюць звычайны эцюд да значнага паэтычнага абагульнення, паглыбляюць яго сэнс. Паэзія М. Пазнякова вельмі істотная па сэнсе, насычана псіхалагічна і выразная па форме. Некаторыя паэты робяць упор на яркую, «выпуклую» вобразнасць. У яго ж яна выглядае дастаткова сціпла, «неэфектна», але затое праўдзіва: аўтар адчувае сваё права на выражэнне вельмі асабістых пачуццяў, упэўнены ў іх каштоўнасці, у тым, што яны не супярэчаць яго імкненню «гаварыць з небам».

Вершы М. Пазнякова разнастайныя ў жанравым плане. Паэт асвоіў такія лаканічныя формы, як трыялет, хоку, чатырохрадкоўе, якія дапамагаюць яму абагульняць свае жыццёвыя назіранні, выказваць тыя ці іншыя маральна-філасофскія сентэнцыі.

Як не стае нам велічы і згоды...
О, час! Дарэшты ўсё не руш!
Хоць вельмі шмат паўсюль народу,
Ды малавата светлых душ.

Хоку не робяць уражання запазычання, у лепшых з іх адкрываецца шырокі прастор для думкі і пачуцця:

Бяроза — як лёс чалавечы:
Надсекі, надломы,
Святло і туга.

Гэтыя вершы, думаецца, вельмі паказальныя для М. Пазнякова — яны сведчаць пра талент тонка адчуваць жыццё, уменне «прапусціць» падзеі і з'явы знешняга свету праз уласнае сэрца і лёс, зрабіць пражытае і нашым духоўным здабыткам. Тут і тэму цяжка вызначыць, яна выступае як штосьці глыбока ўнутранае, інтымнае. Паэт не проста фіксуе рэальнасць, а стварае яе зноў — намаганнямі душы.

Вершы лірыка-апавядальнага характару здольны несці ў сабе багаты чалавечы змест, яны падкупляюць сваёй яснасцю і прастатой — у рытмічным малюнку і ў вобразах. Магчымасці гэтага стылю выкарыстоўваюць многія паэты. Прыкметнай асаблівасцю іх лірыкі з'яўляецца тое, што яны ўмеюць вельмі тонка спалучыць чыста апісальныя моманты (пейзажы, успаміны пра мінулае, пра дзяцінства і да т.п.) з раскрыццём унутранага свету чалавека, яго пачуццямі і перажываннямі, радасцямі і няўдачамі.

Стылі не адгароджаны адзін ад аднаго кітайскай сцяной. У творчасці аднаго паэта могуць з камфортам размяшчацца розныя стылёвыя плыні, што мы бачым,

напрыклад, у вершах Н. Капы. Многія з іх, апавядальныя па форме, у той жа час філасафічныя па змесце.

Я стану жыць ля возера ў глушы
лясоў і, як прыгожы сон,
зноў буду ўспамінаць вясною,
брыдучы каля азёрнай мелі,
усё, што дні мае скупыя мелі,
усё, што малітвай стала для душы:

урыўкі фраз, пагляды, недамовы...
А шорахі галін сухіх у змроку
чыесьці зноў мне нагадаюць крокі,
а ветру шум у адзінокіх клёнах
падасца раптам голасам знаёмым —
я азірнуся на прыроды змову...
Пакора лёсу — гэта прыгажосць,
агню, пакутам, крыжаванню
без наракання, стогнаў і кангання.
Так сад асенні заціхае ў брудзе,
ды лёгкі снег прыроду не асудзіць
і верне ёй вясною маладосць.

Паэт і праніклівы крытык Ю. Сапажкоў сказаў пра гэты верш: ён «пры ўсёй сваёй прастаце і жывапіснасці загадкавы, таямнічы, прасякнуты мудрым, светлым смуткам. Ён супакойвае, як антыдэпрэсант». Нешта падобнае можна сказаць і пра наступны верш В. Русілкі:

Нягледзячы, якое там надвор’е,
Рабі сваю работу, чалавек.
Лічы, пішы, адкрыццямі адорвай —
Любая непагода не навек.

Што сэнс жыцця так і застаўся тайнай
І што імгненнем трэба даражыць,
Мы позна разумеем. І адчайна
Хапаемся былое варушыць

А перастаць. Мы ўсе жывём як можам.
А значыць так, як і магчыма жыць.
І хай даруе мне Магутны Божа,
Што я ўзялася некага вучыць.

Гэтаму вершу, як і многім іншым, хапае і сталасці, і глыбіні думкі, і нечаканасці заключнага сюжэтнага павароту, і выразнасці паэтычнага маўлення. Яна ідзе да вытанчанасці сваёй спавядальнай манеры.

Лірыка-аповедная паэтыка прадастаўляе паэту значныя магчымасці самазаглыбленасці і самараскрыцця, эстэтычнага пазнання і асваення навакольнага свету. Зрэшты, у гэтым і заключаецца спрадвечная задача паэзіі — ператвараць звычайныя асабістыя ўражанні ў штосьці ўніверсальнае, надасабовае, а не абмяжоўвацца дробным самавыяўленнем свайго «непаўторнага» «Я».

***Працяг будзе.***



**Валянціна ЛОКУН**

# ПТАХІ З ПАДРЭЗАНЫМІ КРЫЛАМІ*

## Фрэдэрык Стэндаль і Змітрок Бядуля: да праблемы свабоды і чалавека

Дарэчы, дваістасць была ўласціва і самому Ф. Стэндалю, ды і З. Бядулю таксама. Аб супярэчлівым «двухадзінстве» сваёй асобы французскі раманіст выказаўся ў аўтабіяграфіі «Жыццё Анры Брулара»: «*Трэба прызнацца, што, нягледзячы на мае колішнія досыць глыбокія рэспубліканскія перакананні, бацькі перадалі мне свае арыстакратычныя густы і гідлівасць. Я ненавіджу чэрнь (ненавіджу мець з ёю справу), між тым як пад імем* ***народа*** *я горача жадаю ёй шчасця. (...) Я адчуваю агіду да ўсяго брыдкага, а народ у маіх вачах заўсёды брыдкі*» [15, т. 13. с. 111]. І далей: «*...я люблю народ, ненавіджу прыгнятальнікаў, але жыць з народам было б для мяне бязмернай пакутай*» [15, 13. с. 115]. І побач з гэтым пісьменнік заявіць: «*нам патрэбна літаратура не тая, што створана для двара, а літаратура, створаная для народа*» [15, т. 9. с. 127] (9,127). Ф. Стэндаль тут ідзе ўслед за В. Гюго, які крыху раней пазначыць, што «*працаваць для народа — вось самая неадкладная задача*» [10, с. 315].

Герой Ф. Стэндаля, як і яго аўтар, быў далёкі ад простага народа, ён, як і аўтар, пагарджаў простым чалавекам. Праўда, яго Жульен Сарэль не належыць да арыстакратычнага саслоў'я і не мае дачынення да дваран, якія «каюцца». Ён, сын цесляра, марыў стаць Напалеонам. У вобразе Жульена сінтэзаваны «чалавек 1793 года» і адначасова Гамлет, асоба рэфлектуючая і дваістая, і ў цэлым — адчужаная ад людзей і грамадства.

Не абыдзена ўвагай Ф. Стэндаля і «хвароба веку», пад якой ён разумеў меланхолію. Меланхолія была спараджэннем новага часу, яе карані пісьменнік шукаў у сферы соцыуму. Яго Люсьен Левен і Фабрыцыа дэль Донга толькі тое і робяць, што змагаюцца з тугою. Праўда, Ф. Стэндаль «хваробу веку» называў яшчэ «*хваробай празмернай разумовасці*». Праз гэтую разумовасць яго рамантычны герой адрозніваўся ад шатабрыянаўскага Рэнэ, які ў адчаі мітусіўся на беразе Місісіпі, або лермантаўскага Мцыры, што гатовы быў «*абняцца з бурай*», ды і героя З. Бядулі, які чэрпаў сілы з роднай зямлі.

Аднак Ф. Стэндаль, услед за Ф. Шатабрыянам, досыць смела адлюстроўваў страсці. Як пазней іх будзе апяваць беларускі пісьменнік. «*Я,* — адзначыць французскі празаік, — *стараюся расказаць аб тым, што адбываецца ў сэрцы: 1) праўдзіва; 2) ясна*» [15, т. 13. с. 250]. А гэта ўжо — сінтэз рамантызму з рэалізмам. Такі сінтэз — дамінанта мастацкага стылю З. Бядулі. У Ф. Стэндаля і З. Бядулі асоба ўпісваецца ў рэальныя жыццёвыя абставіны.

Ф. Стэндаль паказаў розныя тыпы герояў. Яго Жульен Сарэль мае «хваробу», якую еўрапейская літаратура назвала напалеанізмам, або байранізмам. Гэта — герой-адзіночка і менавіта ў сваёй адзіноце гэты герой самасцвярджаецца. Ён паўстаў супраць грамадства, і ў гэтым процістаянні разлічваў толькі на сябе. Але ён — **не правадыр**, які (як Напалеон) вядзе за сабой іншых. Ён дзейнічае **сам** і разлічвае толькі на свае сілы. Гэты герой, як Сымон-Салавей З. Бядулі,

* Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2013 г.

прыходзіць да думкі аб супраціўленні, бунту — няхай сабе гэты бунт і застаецца індывідуалістычным па форме і не выходзіць за сферу маралі. Гэта — бунт эгатыста. У эгатызме Ф. Стэндаля змешчаны бунтуючы пачатак. У той час, як, дапусцім, меланхолія Рэнэ (Ф. Шатабрыян, аповесць «Рэнэ» — 1805), прыводзіць яго да пакоры. Герой З. Бядулі — гэта нескароны герой. Праблема свабоды асобы ў Ф. Шатабрыяна і Ф. Стэндаля перарастае ў праблему чалавечага існавання. У З. Бядулі — у свабоду нацыянальнага духу. Як і належыць рамантычнаму герою, герой Ф. Стэндаля адмаўляе правілы гульні таго грамадства, у якім жыве. Жульен, плябей, бунтуе таму, што грамадства прыгнятала яго ўнутранае «я». Фабрыцыа і Люсьен прывілеяваныя, але таксама бунтуюць па-свойму, адмаўляючы грамадства, у якім чалавек страчвае сэнс свайго існавання. Сымон-Салавей адваёўвае яшчэ і свабоду Мастака.

У XVIII стагоддзі і на пачатку XIX-га ў еўрапейскай літаратуры актуальнай была праблема «асабістага інтарэсу». Чалавек выбірае пакуты і смерць, каб прынесці карысць грамадству, народу. Дзеля **чаго** ён усім ахвяруе? Дзеля славы ці дзеля нейкай ідэі? К. Гельвецый усё тлумачыў фізічнай асалодай. Той, хто ратуе чалавека ці дзяржаву, будзе ўхвалены пасля народам і жанчыны будуць яго кахаць. Ф. Стэндаль не пагаджаўся са сваім настаўнікам і кумірам. Ён лічыў, што чалавек у сваіх высокіх учынках кіруецца нейкім унутраным голасам. Што гэта за голас, ён не ведае. Да тэорыі фізічнай асалоды К. Гельвецыя ён дадаў сваё разуменне ўнутранага абавязку і тэорыю кантаўскага «катэгарычнага імператыву», якая была распаўсюджана ў Францыі ў часы Рэастаўрацыі. Зусім адкінуць тэорыю Э. Канта Ф. Стэндаль не мог, таму што яна змяшчала ў сабе бясспрэчныя ісціны, але і прыняць яе цалкам не хацеў. У межах свайго ўтылітарызму ён, па сутнасці, будаваў новую этычную праграму. Герой «Чырвонага і чорнага» адмаўляецца ў фінале ад усіх сваіх заваёў і хоча памерці. Гэтая псіхалагічная «неадэкватнасць» супярэчыць і тэорыі ўтылітарызму, але яна надае вобразу Жульена праўдзівасць і жыццёвую глыбіню. Маральныя пошукі героя прывялі яго да нечага больш важнага, чым ідэя асабістага шчасця.

І іншыя героі Ф. Стэндаля, Люсьен Левен і Фабрыцыа дэль Донга, акрамя асабістага, маюць яшчэ і «агульны інтарэс». Толькі ў Фабрыцыа ідэя патрыятызму (а менавіта гэтая ідэя і была яго «агульным інтарэсам») дамінавала на пачатку яго дарослага жыцця, калі ён інкогніта прабіваўся на вайну, каб падтрымаць свайго куміра — Напалеона. Напрыканцы свайго кароткага жыцця Фабрыцыа больш кіраваўся ідэяй «шчасця для сябе». Як і Жульен Сарэль.

«Агульным інтарэсам», які ў дачыненні да беларускай літаратуры можна назваць «нацыянальным інтарэсам», жылі і героі беларускай адраджэнскай літаратуры. У прыватнасці, і галоўны герой аповесці З. Бядулі Сымон-Салавей — і тады, калі марыў быць «валадаром свету», і тады, калі стаў «насельнікам» пушчы, змагаром атрада бунтаўшчыкоў.

Ф. Стэндаль хацеў стварыць тыпы, праз якія можна было б адлюстраваць яго, аўтара, стагоддзе. Але на практыцы ён стварыў герояў выключных, арыгінальных, якіх у людской масе было цяжка знайсці. Толькі ў гэтым няма супярэчнасці. Бо тыповасць героя, па Ф. Стэндалю, заключаецца не ў масавасці яго, або падабенстве з іншымі, і нават не ў яго элементарнай рэалістычнасці. Ён рэалістычны таму, што яго характар і паводзіны можна патлумачыць, акрамя «эга», яшчэ і сацыяльнымі прычынамі, якія дзейнічаюць у дадзеным грамадстве. Тып у Ф. Стэндаля не меў нацыянальнасці, як у З. Бядулі, не быў ён і калектыўным партрэтам ці ідэалізаваным прадстаўніком класа. Яго герой — рэалістычна-рамантызаваная асоба, народжаная аўтарскай фантазіяй, фантазіяй, абуджанай у канкрэтных гістарычных умовах. Адсюль вынікае яе выключнасць, «адзінкавасць».

З. Бядуля таксама пісаў рэалістычна-рамантызаваных, выключных герояў. Яны не былі скапіраваны з жыцця сучаснага, яны народжаны гісторыяй, яго, бядулеўскай, фантазіяй.

У параўнанні з З. Бядулем, Ф. Стэндаль не пісаў ідэальных герояў. Такіх герояў французскі пісьменнік увогуле лічыў фікцыяй, аўтарскай прыдумкай. Характар і паводзіны героя, на яго думку, павінны тлумачыцца грамадскай свядомасцю, псіхалогіяй класа, да якога ён належаў. Кожны герой задзейнічаны ў працэсах, якія адбываюцца ў грамадстве і абмежаваны імі. Новая літаратура адмаўляла ідэальнага героя, лічыла яго не-праўдзівым, не-гістарычным героем. Але, дыскрэдытуючы ідэальных герояў, Ф. Стэндаль з асаблівым замілаваннем стварае герояў станоўчых, перадаючы праз іх гістарычную глыбіню і рух самой эпохі.

«*Чырвонае і чорнае*», — адзначыць Р. Андрые, — ***драма** адзінокага бунту, асуджанага на паражэнне менавіта таму, што гэта бунт адзіночкі*» [1, с. 69]. Такім чынам, «Чырвонае і чорнае» — драма бунтуючай свядомасці. «Пармскі манастыр» і «Люсьен Левен» — гэта ўжо драма пераважна рэфлексуючай свядомасці. Але і там і там чалавек існуе ў адзіноце і праз гэта яму наканавана паражэнне. У дзеянні героя-адзіночкі часта праяўляецца трагічная неадпаведнасць паміж велічнасцю яго памкненняў і маштабамі зла, супраць якога выступае герой.

Бунт героя Ф. Стэндаля, ды і З. Бядулі таксама, гэта не толькі вынік метафізічнага лёсу, але і гістарычных умоў жыцця, якія яго не задавальняюць. Герой Ф. Стэндаля бунтуе супраць свайго асяроддзя. І эгатызм яго — процістаянне гэтаму асяроддзю. У З. Бядулі зло персаніфікавана ў асобе пана Вашамірскага і яго памагатых. Бунт Сымона-Салаўя абумоўлены сацыяльна. Гэтак жа як і яго канфлікт з жыццём — ён не выходзіць за межы соцыуму.

Каханне, па Ф. Стэндалю, — найвышэйшая каштоўнасць. Яно ёсць сэнс жыцця, адзіная рэальнасць, якая патэнцыяльна ўтрымлівае ў сабе гарманічны пачатак. У пацвярджэнне сваёй канцэпцыі Ф. Стэндаль злучае два ідэйныя цэнтры: Мацільду — узнёслага рамантыка і Жульена-макіавеланца. Жульен-макіавеланец марыў аб кар'еры, як у Напалеона. Ён сумаваў па тым гістарычным часе, які даваў магчымасць стаць валадаром свету. Ён і ў вобліку Мацільды бачыў Кацярыну Медзічы. «*Гэта быў ідэал Малонаў, Фрылераў, Канстанедаў, якімі ён захапляўся ў юнацтве. Другімі словамі, гэта быў яго ідэал Парыжа*» [15, т. 1. с. 407].

У сваім рамантычным памкненні Жульен кіраваўся ідэяй «напалеанізму», ідэяй моцнай асобы. Жульен хацеў улады, каб узвысіцца над людзьмі, каб адпомсціць свету за тое, што ён, свет, здзекаваўся з яго. Герой прысвоіў сабе правы суддзі і выканаўцы правасуддзя. Як рабілі гэта героі-рамантыкі індывідуалістычнага плана, — высакародныя разбойнікі, мсціўцы-адзіночкі («Жан Сбогар» Ш. Надзье, «Карсар» Д. Байрана, «Амалат-бек» Бястужава-Марлінскага, «Дзевіца Скюдзеры» Э.Т.А. Гофмана).

Мацільда ж, наадварот, хацела зрабіць шчаслівымі іншых, яна прагнула барацьбы **дзеля некага, або нечага, дзеля свабоды для ўсіх.**

Адносіны Жульена Сарэля і Мацільды дэ Ла-Моль разгортваюцца па формуле «славы для сябе» і «шчасця для ўсіх».

У аснову характару Мацільды пакладзена ідэя ўніверсальнасці рамантычнай асобы — як антытэза замкнёнасці ў сваім «я» Жульена. Вобразам Мацільды аўтар яшчэ раз пацвярджае, што ідэя гарманічнай асобы ў рамантыкаў была ўтапічнай.

Мацільда мела ўсё — багацце, розум, знатнае паходжанне, а ёй хацелася зусім іншага — «*удзельнічаць у **сапраўдным** баі, у напалеонаўскай бітве, калі на смерць ідуць дзесяць тысяч салдат... Глядзець у твар небяспецы — гэта ўзвышае душу і пазбаўляе ад тугі... а яна такая заразная, гэтая туга!*» [15, т. 1. с. 396].

Драма Мацільды ў тым, што сярод маладых людзей свайго класа яна не бачыла нікога, хто падобны на Напалеона. Жульен быў інакшым, адрозным ад іншых, і гэта прывабіла дзяўчыну. Яна і сябе ўяўляла не інакш як гераіняй 1793 года: «*Адважыцца пакахаць чалавека, які так далёка стаіць ад мяне па сваім грамадскім становішчы, — ужо ў гэтым ёсць велічнасць і дзёрзкасць*»

[15, т. 1. с. 398]. Такім чынам, яна, Мацільда, і не Мацільда ўжо, яна — Маргарыта, каралева Наварская.

Мацільда, як і Жульен, не жыла сапраўдным жыццём. Абое яны **гралі ролю**, кожны сваю: Жульен — Напалеона, Мацільда — Маргарыты Наварскай.

Але пры ўсім гэтым быў яшчэ «адзін» Жульен: праўдашукальнік, які больш за ўсё на свеце хацеў быць свабодным.

Толькі ці стаў герой Ф. Стэндаля свабодным?

Жульен адваяваў сабе свабоду толькі ў фінале — у выбары жыцця і смерці. «*Кожны памірае як хоча, вось і я хачу памерці па-свойму*» [15, т. 1. с. 583]. «*Пасвойму*» — гэта азначае «*не пагарджаючы сабой*» [15, т. 1. с. 618]. Жульен **узняўся** над масай, над людзьмі і стаў суддзёй таго класа, які яго прыніжаў, а пасля хацеў знішчыць фізічна.

Герой перад смерцю, якую выбраў ***сам***, па-ранейшаму рэфлексуе, засяроджваецца на сваім унутраным «я», ён не столькі пакутуе, колькі філасофствуе. Ён хоча зразумець для сябе нешта вельмі важнае, знайсці сэнс свайго зямнога прадвызначэння. І, нарэшце, адкрые, што судзяць яго не за тое, што страляў у Луізу дэ Рэналь, не за злачынства, якое ён учыніў і ў чым пакаяўся, а за тое, што ён «*просты чалавек, які абурыўся супраць свайго незайздроснага лёсу*» [15, т. 1. с. 592]. Судзяць яго як прадстаўніка «*той пароды маладых людзей нізкага паходжання, якія прыгнечаны галечай, але якім пашчасціла атрымаць добрую адукацыю, і па гэтай прычыне яны асмеліліся ўціснуцца ў асяроддзе, якое фанабэрыстасць багацеяў называе добрым светам*» [15, т. 1. с. 592]. Судзяць за мару быць свабодным у несвабодным свеце.

Усю сілу пагардлівага стаўлення да існуючага грамадства Ф. Стэндаль на пачатку сваёй творчасці перадаў герою «Арманса» Актаву дэ Маліверу, чужаку сярод «сваіх». Герой гэты, кажучы словамі Я. Багданава, быў «*абсурдны герой… разважлівы бунтар, які не мог прапанаваць нічога, акрамя велічнага маўчання і вялага самаахвяравання*» [4, с. 261]. І сапраўды, арыстакрат Актаў не меў маральнага права судзіць тое грамадства, да якога належаў сам. Сын цесляра Жульен Сарэль такое права ўжо меў, ён яго заваяваў. Жульен належыць да партыі пераможаных, але не зламаных духам. Ён, якому грамадствам была адведзена роля слугі, уздымаецца на самую высокую ступеньку, ступеньку Суддзі.

Канфлікт асобы і грамадства заканчваецца паразай асобы, толькі ж пры гэтым унутрана, духоўна герой самаачышчаецца, самаўдасканальваецца, пазбаўляецца ад рамантычнага «двоемирия».

«Двоемирие» — дамінанта і бядулеўскага героя Сымона-Салаўя.

Сымон не прымае «рэвалюцыйнасці» скрыпкі. Ён — дэмакрат, мастак-гуманіст, вяшчун прыгожага. Ён нарадзіўся, каб быць Салаўём, а не «*злосным каршуном*» [5, т. 3. с. 136]. Але грамадству патрэбны былі зусім іншыя героі — узброеныя ваяры. У гэтай супярэчнасці і закладзена трагедыя мастака. Ён быў носьбітам хараства, а яго вымушалі брацца за зброю. Яшчэ А. Галіч падкрэсліў, што ў аснову «*барацьбы свабоды з неабходнасцю*» [7, с. 188] пакладзены трагічны канфлікт. Гэта пацвярджае і З. Бядуля вобразам Сымона-Салаўя.

З. Бядуля ставіць свайго героя перад выбарам: або застацца ў няволі панскім пацешнікам, або набыць волю і выступіць супраць пана. Набыць волю, заўважым, праз насілле, праз зброю, а гэта выбар нялёгкі для Творца, галоўнай «зброяй» якога была **песня**. Рашэнне даецца нялёгка: «*Воддаль пад хвояй корчыўся ад плачу Салавей*» [5, т. 3. с. 136].

Толькі ўнутраная драма героя З. Бядулі не прыводзіць яго да адзіноты, адчужэння, што было ўласціва героям Ф. Кафкі, Ж.-П. Сартра, А. Камю, Сімоны дэ Бавуар. І пэўным чынам героям Ф. Стэндаля. Салавей абірае іншы шлях — шлях народнага змагання.

Дарэчы, сам крывавы бунт падаецца аўтарам рамантычнымі фарбамі — як прыродная стыхія: «*Мора сіняга агню пырскала фантанам, страшнай наваль-*

*ніцай (...) Шыпела, гуло, бухала, грымела. Трэснуў цагляны бровар ад выбуху, і на вялікім абшары разлілося возера сіняга полымя (...) Тым часам загарэўся і парк. Корчыліся лісці, вугліліся вершаліны дрэў. Сотні залатых кудзерцаў мільгаліся на дрэвах, пераскаквалі маланкавымі дугамі-вясёлкамі адразу на многа сажняў угару, потым вуглёвымі лапамі шоргаліся па зямлі, паўзлі прыгінаючыся (...) А жудаснае вока пажару наскрозь прасвідравала ноч. Свяціла на вялікую адлегласць вакол яркай зарніцаю*» [5, т. 3. с. 149—150].

Такой жа рамантызаванай бачыцца Ф. Стэндалем бітва пад Ватэрлоа ў «Пармскім манастыры». Розніца ў тым, што тэкст З. Бядулі аб'ектываваны, а апавяданне ў Ф. Стэндаля адлюстравана праз успрыманне героя. Для Фабрыцыа гукі вайны «*зліваліся ў бесперапынную басавую ноту, і на фоне гэтага працяглага гулу, які нагадваў аддалены гул вадаспаду, відавочна чулася аружэйная перастрэлка*» [15, т. 4. с. 44].

Ф. Стэндаль і З. Бядуля прадстаўляюць дзве канцэпцыі ў адлюстраванні асобы — індывідуалістычную і ўніверсальную. Французскі празаік прадстаўляў асобу эгатыста, які імкнуўся найперш да сцвярджэння свайго «я». Для З. Бядулі была непрымальнай пазіцыя гордага адшчапенца, яго маніла да сябе асоба мастака, гарманічная асоба.

* * *

Пытанне жыцця і смерці хвалявала пісьменнікаў-гуманістаў усіх часоў і народаў. У эстэтыцы рамантызму смерць усведамлялася як нешта трагічнае і ўзвышанае адначасова. Вельмі папулярным быў матыў смерці як «выйсця». Аб шматварыянтнасці суадносін са смерцю пісаў яшчэ Ф. Бэкан: «*Няма ў душы чалавека такой нават самай слабай страсці, якая б не перамагла страху смерці, а значыць смерць не можа быць такім ужо страшным ворагам, калі ёсць у чалавека раць, здольная яе пераадолець. Помста ўздымаецца перад смерцю; каханне яе не заўважае; гонар кліча яе; гора шукае ў ёй выйсця; страх папярэджвае яе*» [3, с. 354]. **Усе** гэтыя «дзействы» ёсць пратэст, адкрыты ці прыхаваны, але менавіта пратэст. **Так** пратэставалі героі Д. Байрана, Г. Гейнэ, А. Пушкіна, А. Міцкевіча, Я. Купалы.

Ф. Стэндаль не любіў гаварыць пра смерць, лічыў яе хутчэй брыдкай, чым жахлівай. У сваёй кнізе «Рым, Неапаль, Фларэнцыя» ён назваў яе «агідным скандалам». Але калі ўжо так сталася, што пазбегнуць смерці нельга, то выбіраць смерць трэба «прыгожую», каб без пакут, на фоне прыгожага пейзажу. Як смерць Брута ў адлюстраванні Плутарха — пад зорным небам Македоніі побач з высокай скалой. Ангельская душа пакідае цела, не прычыніўшы яму пакут. Яна нібыта адлятае ад яго.

Ф. Стэндаль не філасофствуе аб смерці, ён яе рамантызуе. Як рамантызавалі яе Д. Байран, Г. Гейнэ, А. Пушкін і іншыя рамантыкі.

Усе героі Ф. Стэндаля гінуць маладымі, амаль усе пры трагічных акалічнасцях. Жульен, які нарэшце «*адплаціў за сябе*» [15, т. 1. с. 559], — на эшафоце, Фабрыцыа заўчасна памірае ў манастыры, Актаў накладвае на сябе рукі пасля першай шлюбнай ночы, а ў «Італьянскіх хроніках» герою адсякаюць галаву. Усе яны гінуць, калі можна так сказаць, «прыгожа», пафасна.

Жыццё, ідэалы, барацьба, пошук ісціны — усё губляе сэнс. «*Слава для сябе*» трансфармавалася ў «*свабоду для свайго «я»*.

Ф. Стэндалю больш імпануе язычніцкае памкненне заваражыць смерць, мажлівасць ператварыць яе ў свята. Ствараецца эфект «літаратурнай эўтаназіі» (выраз Ж. Прэва). Для Актава дэ Малівера смерць — збавенне ад зямных пакут. Яна — прыгожая. І без усялякага болю смерць насцігае героя ля берагоў Грэцыі ў цудоўную зорную ноч.

Жульен Сарэль таксама не адчуваў страху перад смерцю. Калі ён увайшоў у залу суда, дык першае, што адзначыў, — «*вытанчанасць архітэктуры*». А ў дзень пакарання «*прайсціся па свежым паветры было для яго… прыемным адчуваннем*» [15, т. 1. с. 619]. «*Ніколі яшчэ галава гэта не была настроена так узнёсла, як у тое імгненне, калі ёй было наканавана загінуць*, — адзначыць Ф. Стэндаль. — *Салодкія імгненні, перажытыя некалі ў вяржыйскіх лясах, займалі яго свядомасць з неадольнай сілай*» [15, т. 1. с. 619].

Яшчэ больш выразны прыём «літаратурнай эўтаназіі» ў «Пармскім манастыры»: Клеліі пасля смерці сына «*дадзена было суцяшэнне памерці на руках яе сябра*» [15, т. 3. с. 518]. А Фабрыцыа з надзеяй «*сустрэцца з Клеліяй у лепшым свеце*», прыгожа і ціха памірае ў Пармскім манастыры.

Праз адчуванне смерці Ф. Стэндаль набліжаецца да вечнасці — гарманічнай, непадуладнай разбуральным сілам соцыуму. «*Трагедыя заканчваецца, як казка, тужлівая і вясёлая, на паўдарозе паміж настальгіяй і іроніяй*» [1, с.217], — тонка заўважыць Р. Андрые.

Больш за тое, як чалавек гонару, герой Ф. Стэндаля сам набліжае смерць. Гэта яго выклік жыццю. Смерць Жульена Сарэля і Люсьена Левена — таксама пратэст. І сцвярджэнне свайго ўнутранага «я», якое, нягледзячы ні на што, застаецца свабодным ад «знешняга» ціску».

З. Бядуля развівае матыў смерці як помсты. У аповесці «Сярэбраная табакерка» ён метафарызуе паняцце смерці як неабходнасці.

Стагоддзямі чалавецтва білася над тым, каб зрабіць жыццё дасканалым, «*зрабіць такі шрубок, каб зашрубаваць як след раз'езджаны вазок, які называецца жыццё*» [5, т. 5. с. 275]. Над выпрацоўкай такога «*шрубка*» «*біўся*» і З. Бядуля. Пісьменніцкі неспакой абвастрыўся яшчэ больш у сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны. «*Смерць хадзіла па зямлі зусім не тоячыся*» [5, т. 5. с. 259].

«Сярэбраная табакерка» — гэта філасофія смерці, хоць у цэлым напоўнена напружаным пошукам ісціны. Ісціны жыцця і смерці, ісціны смерці і барацьбы з ёю.

У творы адсутнічае фальклорная першакрыніца. Казка пабудавана на ўласным аўтарскім сюжэце. Дзіда-дзед перахітрыў смерць. Смерць злоўлена і пасаджана ў табакерку. Смерці няма. «*Няма Смерці! Няма Смерці! Няма!*» [5, т. 5. с. 268]. Прырода трыўмфавала. Здавалася б, што ў ёй павінна наступіць **абсалютная** гармонія. «*Птушкі спявалі як ніколі. А птушкі якія! Ранейшыя лютыя між сабой ворагі, каршуны і вераб'і, арлы, галубкі, сокалы, вароны, крумкачы, дразды, дзятлы, буслы, плісачкі, сініцы, зяблікі, удоды, зязюлі, качкі, селезні і многія-многія іншыя, розных парод і плямён (…) Арол пасадзіў сабе на магутную спіну статак кволых гусянят ды вандруе… Муха вучыцца ў павука ткаць…*» [5, т. 5. с. 271].

Смерць як зло найбольшае на зямлі, больш не ўплывала на пачуцці і паводзіны чалавека, «*у кожнага з мільярдаў жывых цяга да забойства страціла сваю сілу. Ніхто больш не хацеў быць парабкам лютай пані Смерці*» [5, т. 5. с. 273].

Чалавек умяшаўся ў працэсы яму непадуладныя. Бо, прыдумаўшы Смерць, Тварэц зямлі і неба напоўніў яе глыбокім сэнсам. Цяпер, калі смерці не стала, свет падзяліўся на людзей неўміручых і на тых, хто ўжо памёр. І сувязь паміж імі перарвалася.

З. Бядуля не падтрымлівае хрысціянскую ідэю суднага дня і ўваскрасення памерлых. Нельга чалавеку ўмешвацца ў працэсы космасу, быційныя працэсы. Гэта вядзе да прыроднага і чалавечага хаосу. Да катастрофы свету-універсуму.

З. Бядуля ўводзіць у структуру твора вобраз казачнага Дзіда-дзеда. Гэта яшчэ адна мадэль Прарока і Богачалавека. Бядулеўская мадэль. Нацыянальная мадэль. Людзі прасілі Дзіда-дзеда «*самую дробязь, — каб ён адчыніў пазуху зямлі ды ажывіў нябожчыкаў хаця б за апошні гадок… Маленькая была просьба…*» [5, т. 5. с. 297]. Яны прасілі яго — чалавека — стаць Богам. «*Ты бог! Табе трэба толькі*

*захацець выканаць нашу просьбу. Захацець трэба! Захацець!*» [5, т. 5. с. 297]. Але чалавек не можа, не павінен быць Богам.

Прыродны свет як працэс, як рух быцця складваецца з дзвюх **роўнавялікіх** субстанцыяльных велічынь: жыцця і смерці. Гэта — агульныя антыноміі, узаемазвязаныя, генезіс якіх караніцца ў першавытоку самога Быцця. Жыццё не можа існаваць без смерці, гэтак жа, як смерць без жыцця. Толькі праз зло можна спасцігнуць дабро, толькі праз смерць — усвядоміць сэнс жыцця.

Універсальнасць аповесці З. Бядулі ў тым, што аўтар адной з формаў спасціжэння гармоніі абраў рамантычную іронію. Яшчэ Ф. Шэлінг пісаў, што рамантычная іронія «*ёсць самая свабодная з усіх вольнасцей, таму што, дзякуючы ёй, чалавек здольны ўзвысіцца над самім сабой…*» [12, с. 176]. Толькі іронія З. Бядулі, якой воляй аўтара, наканавана было стварыць ілюзію ўніверсальнасці, у фінале гэтую ілюзію і разбурыла. Самаразбурэнне ілюзіі ў З. Бядулі стала адным з магутных мастацкіх сродкаў у адлюстраванні трагічнай дысгармоніі свету.

* * *

Ф. Стэндаль у сваёй творчасці ішоў не столькі ад вобразаў, ці мастацкіх мадэляў, якія самі па сабе мала што азначалі, а ад філасофіі гэтых мадэляў.

З. Бядуля ішоў ад ідэі, адсюль і метафарызацыя яго тэкстаў. Ф. Стэндаль тварыў тыпы. Адзінкавыя, адмысловыя. Праўда стэндалеўскіх тыпаў у тым, што яны фармулявалі законы псіхалогіі і гісторыі, кандэнсавалі ў сваёй недасканаласці і схематызме стваральныя ці разбуральныя сілы рэчаіснасці.

Тып бядулеўскага героя — тып героя ўніверсальнага, крэатыўнага. Гэта — Мастак, Музыка, носьбіт хараства. Герой марыў ператварыць свет з дапамогай Мастацтва. Але новае жыццё патрабавала і новага іншага героя. З літаратуры знікаў вобраз Песняра як сына Прыроды, сына Сусвету. У гэтым унутраная драма бядулеўскага героя, ды і самога аўтара.

«*Герой сучаснага рамана*, — пісаў Б. Рэізаў аб героях Ф. Стэндаля ў прадмове да збору твораў французскага пісьменніка, — *быў судом над эпохай, ацэнкай яе, вырашэннем сацыяльнай праблемы…*» [15, т. 1. с. 17]. Але ён быў і адзінокім, часта пераможаным, лішнім. Як лішнімі былі Анегін («Яўгеній Анегін» А. Пушкіна), Пячорын («Герой нашага часу» М. Лермантава), як лішнімі былі героі Першай сусветнай вайны ў Э. Рэмарка, Р. Олдзінгтана, Э. Хэмінгуэя, М. Гарэцкага. Герой З. Бядулі быў таксама пераможаным, але ніколі не быў лішнім, ці адзінокім.

Паняцце свабоды Ф. Стэндаль звязваў з ідэяй праўдзівасці, З. Бядуля — з ідэяй гармоніі. Такім чынам, Бядуля-рамантык абсалютызаваў мастацтва, верыў у яго пераўтваральную сілу, верыў у выключнасць ролі мастака. Неадпаведнасць мары і рэчаіснасці і спараджала канфлікт — найперш духоўны, які і быў асноўнай прычынай унутранай трагедыі чалавека-творцы. Услед за гэтым ён абсалютызаваў гармонію ў свеце прыродным — як ідэал хараства. Ф. Стэндаль абсалютызаваў каханне, услаўляў красу і пакуты закаханага сэрца.

Ідэю свабоды беларускі пісьменнік непарыўна звязваў з разняволеннем Бацькаўшчыны, «свабода для ўсіх» пераважвала «свабоду для сябе». Ф. Стэндаль суадносіў ідэал свабоды са сферай індывідуальнага «я», з разнявольваннем асобы, адчужанай ад грамадства, — пераможанага і суддзі адначасова. «Сабода для сябе» ў французскага пісьменніка пераважвала «свабоду для ўсіх».

Ф. Стэндаль ідэал свабоды шукаў у гістарычным мінулым, сярод гістарычных асоб, моцных духам, мэтанакіраваных. Адбіткам такой гісторыі была эпоха Напалеона.

З. Бядуля таксама абапіраўся на гістарычнае мінулае, а яшчэ больш на вусную народную творчасць, народныя паданні, фальклор. Яго ідэал свабоды звязаны са сферай прыроды. Праз прыроду, як неад’емную частку вялікага космасу, чалавек,

па З. Бядулю, набліжаецца да Бога — сферы абсалютнай гармоніі і абсалютнага хараства.

Ф. Стэндаль у французскай і З. Бядуля ў беларускай літаратурах з’явіліся, калі еўрапейскі рамантызм страчваў свае пазіцыі (у беларускай ён увогуле меў сваю адметную спецыфіку развіцця). Іх мастацкая свядомасць будавалася на аснове эстэтычных здабыткаў папярэдніх літаратур і з улікам новых рэалій свайго часу: расчараванне ў Ліпеньскай рэвалюцыі 1793 — у Ф. Стэндаля; у З. Бядулі — Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая спачатку выклікала ў яго вялікія надзеі, а пасля расчараванне.

Творчасць Ф. Стэндаля, як і мастацкія дыскурсы З. Бядулі, — гэта досыць складаныя мастацкія светы, складаныя сваёй эстэтычнай праграмай і філасофскай асэнсаванасцю жыцця. Гэта — тэксты, дзе ўспрыманне сучаснага свету ўскладняецца гістарычнымі (Ф. Стэндаль), міфалагічнымі (З. Бядуля) характарыстыкамі, тэксты напоўненыя трагічным настроем сваёй эпохі. Ф. Стэндаль і З. Бядуля тварылі кожны ў сваёй сацыякультурнай прасторы і вырашалі праблемы свайго канкрэтнага часу. Яны належаць да розных тыпаў рамантызму, — калі зыходзіць з тых мадэляў, якія яны ўвасобілі ў сваіх мастацкіх дыскурсах. Але ёсць і агульнае, што дазваляе ставіць іх побач. Кожны з гэтых творцаў пакінуў свой след у развіцці нацыянальных літаратур, у развіцці сусветнай літаратуры — праз ідэйна-мастацкую і стылёвую неардынарнасць сваіх мастацкіх дыскусаў, творчы неспакой, уменне прагназаваць літаратуру будучыні.

## Літаратура:


1. Андрие, Р. Стендаль, или Бал-маскарад / Р. Андрие — М., 1985. — 288 с.
2. Багдановіч, І. Янка Купала і рамантызм / І. Багдановіч — Мн., 1989. — 220 с.
3. Бекон, Ф. Соч.: В 2-х т. Т.2 / Ф. Бекон — М., 1978. — 575 с.
4. Богданов, Я. Мастер и его герои / Я. Богданов // Андрие Р. Стендаль, или Бал-маскарад / Р. Андрие — М., 1985. — 288 с.
5. Бядуля, З. Зб. тв.: у 5-ці т. / З. Бядуля — Мн., 1985—1989.
6. Бядуля, З. Пад родным небам / З. Бядуля — Мн., 1922.
7. Галич, А. Опыт науки изящного / А. Галич — М., 1925. — 290 с.
8. Гейне, Г. Собр. соч.: В 10-ти т. / Г. Гейне — М., 1950—1953. — Т.6. — 472 с.
9. Гофман, Э.Т.А. Избранные произведения: В 3-х т. Т.3. / Э.Т.А. Гофман — М., 1962. — 519 с.
10. Гюго, В. Собр. соч.: В 15-ти т. / В. Гюго — М., 1953—1956. Т.XIV. — 768 с.
11. Кант, И. Соч.: В 6-ти т. Т.4. / И. Кант — М., 1965. — 544 с.
12. Литературная теория немецкого романтизма. / Л., 1934. — 329 с.
13. Мицкевич, А. Собр. соч.: В 5-ти т. Т.4. / А. Мицкевич — М., 1954.
14. Наша ніва. — 1910. — 23 верасня.
15. Стендаль, Ф. Собр. соч.: В 15-ти т. / Ф. Стендаль — М., 1958—1959.
16. Шеллинг, Ф. Система трансцендентального идеализма / Ф. Шеллинг — Л., 1936. — 393 с.
17. Шиллер, Ф. Собр. соч.: В 7-ми т. Т.6. / Ф. Шиллер — М., 1957. — 794 с.
18. Эгатызм — слова англійскае і абазначае празмерную ўвагу да самога сябе.




**Серафім АНДРАЮК**

# ТАЛЕНТ ШЧЫРЫ, СЛОВА ПРОСТАЕ

Вопыт сусветнай рэалістычнай літаратуры, асабліва літаратуры XX стагоддзя, пераканаўча засведчыў: найбольш значныя яе дасягненні, набыткі звязаны з вялікімі, жорсткімі выпрабаваннямі і для народа, і для чалавека. Доказ таму — нейкі асаблівы ўздым у развіцці многіх нацыянальных літаратур пасля Першай і Другой сусветных войнаў. І гэта зразумела. Па-першае, у найсуравейшых падзеях вайны выяўляецца сутнасць чалавека, яго дух і яго душа. Па-другое, пасля перанесеных найсуравейшых выпрабаванняў, пасля ўсяго пабачанага і перажытага чалавек асабліва абвострана пачынае ўспрымаць, адчуваць усё добрае, прыгожае. Талент гэта выяўляе па-свойму выразна, востра — і ва ўзноўленай у творы рэальнай жыццёвай аснове, і ў эмацыянальнай напружанасці і вастрыні.

Што ж да рэальнай жыццёвай асновы, то ў адносінах да гэтай літаратуры важны сам прынцып мастацкага ўзнаўлення жыцця, дзе значэнне мае кожная падзея, кожны факт, асаблівы сэнс набывае кожная дэталь, падрабязнасць. І гэта незалежна ад жыццёвай сферы, зместу і характару жыццёвага матэрыялу. Важна тут непасрэднасць аўтаравага пачуцця, адкрытая эмацыянальнасць. Бачыцца гэта як тэндэнцыя агульная, тэндэнцыя, уласцівая творчасці пісьменнікаў рознага ўзроўню і характару таленавітасці. Па-свойму яна выявілася і ў тых, хто прайшоў вайну — удзельнікаў вайны, і творчасці тых, хто перажыў, пабачыў вайну дзіцячымі яснымі вачыма — як драму, трагедыю.

Ёсць пэўны сэнс паглядзець у такім аспекце на творчасць Аляксея Кулакоўскага — пісьменніка ў мастацкіх адносінах няроўнага, але моцна схільнага да жыццёвай праўды, чуйнага да павеваў часу. Нагода — стогадовы юбілей. А яшчэ ў 1963 годзе Іван Навуменка зазначаў, што «яго (Кулакоўскага. — **С. А.**) асабістая біяграфія вельмі цесна змыкаецца з лёсам шматлікіх літаратурных герояў». А яго біяграфія — гэта біяграфія яго пакалення, біяграфія краіны.

Нарадзіўся Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі 24 снежня 1913 г. на Старобіншчыне ў вёсцы Кулакі. Пазней ён прызнаваўся, што ў часы калектывізацыі яму няёмка было называць сваё прозвішча, «бо некаторыя заўзятыя “актывісты” аж з твару мяняліся, пачуўшы, што я з вёскі Кулакі і сам Кулакоўскі. Меркавалі яны, што такі чалавек абавязкова павінен быць з багатых, з кулакоў».

Ды ўсё было зусім не так. Зноў з аўтабіяграфіі: «Памятаю, што ў нас ні ў адзін год не хапала хлеба да вясны. І тады бацька ішоў з мяшком да якога-небудзь багатага суседа і прасіў пазычыць пуд мукі».

Было звычайнае вясковае дзяцінства, з яго працай, штодзённымі клопатамі, радасцямі і бедамі, засмучэннямі. Была вучоба, спачатку дома, пазней па хатах разам з іншымі дзецьмі, імкненне да ведаў. Пастаянна турбавала жаданне прымаць самы актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. «У часы калектывізацыі мы стараліся ва ўсім быць перадавымі, поўнасцю свядомымі», «мне падабалася ўсё новае ў жыцці».

З пачатку 30-х пачалася журналісцкая работа: спачатку ў раённай газеце, пазней у цэнтральнай «Чырвонай змене».

Потым — армія, вайна. «Служыў два гады да вайны і ўсю вайну знаходзіўся на фронце. Камандаваў стралковым узводам, потым ротай».

Дэмабілізаваўся ў 1945 годзе.

У гэтым жа годзе ў дзявятым нумары часопіса «Беларусь» было надрукавана першае апавяданне Аляксея Кулакоўскага «Мой сын». Менавіта гэтым годам, годам гістарычнай перамогі, першым годам мірнай працы пазначаны пачатак творчага шляху пісьменніка. З гэтага часу творчая літаратурная праца з'яўляецца галоўнай. Але не адзінай. Пасля дэмабілізацыі Кулакоўскі працуе загадчыкам аддзела газеты «Сталинская молодёжь» (1945—1947), часопіса «Беларусь» (1947—1949), пазней — адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва» (1949—1953), галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» (1953—1958). Нейкі час (1958—1965) быў поўнасцю аддадзены творчай рабоце. У наступныя гады (1965—1976) працуе намеснікам адказнага сакратара, адказным сакратаром праўлення СП БССР. З 1977-га і, па сутнасці, да апошніх дзён жыцця быў дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Памёр 9 красавіка 1986 года.

Біяграфія жыццёва багатая. Творча таксама.

І сталася так, што менавіта вайна, яе трагічныя і гераічныя падзеі і факты, яе найсуровейшыя выпрабаванні, і сучаснасць, спачатку вяртанне да мірнага жыцця, потым — само гэтае мірнае жыццё на працягу многіх гадоў, па сутнасці, аж да смерці, складалі змест творчасці пісьменніка, прадвызначылі яе эмацыянальны лад, яе ідэйную скіраванасць.

У 1963 годзе ў артыкуле «Слова да таварыша, якое я хацеў бы сказаць на юбілейным вечары» Іван Мележ пісаў так: «Думаю, я не памылюся, што і твае ўдачы і няўдачы былі заўсёды на адной дарозе — да праўды. Ты, вядома, разумееш, што з усіх мастацкіх вартасцей самая першая і самая нязменная, неабходная — праўда. Імкненне да яе і вяло цябе ў няспынных пошуках, прага яе жыве заўсёды ў тваім сэрцы…»

І далей: «Я веру табе, бо ведаю, што ты любіш людзей, з якімі жывеш, радуешся і турбуешся, што тваё сэрца поўна самым вялікім клопатам жыць для іх, родных, для іх дабрабыту, для іх радасці, для іх жыцця. Іменна гэтай любоўю да людзей і сагрэты твае кнігі, іменна ў гэтым і самае вялікае іх хараство…»

Пісаў Мележ да 50-годдзя з дня нараджэння Аляксея Кулакоўскага, пісьменніка, чый талент да таго часу раскрыўся даволі поўна і акрэслена. Бо тады ўжо былі напісаны найбольш характэрныя яго творы: дылогія «Расстаёмся ненадоўга» (1953—1954) і «Сустрэчы на ростанях» (1961—1962), аповесці «Нявестка» (1956), «Да ўсходу сонца» (1957), «Дабрасельцы» (пазнейшая назва «Апошняя пяліпаўка»; 1956), лепшыя апавяданні, у прыватнасці такія, як «Кватаранты» (1953), «Гарэў аганёк» (1955), «Не з таго боку» (1955), «Дванаццаты, жорсткі» (1956).

Якраз у гэтых творах у найбольшай ступені выявіліся тыя асноватворныя якасці таленту Кулакоўскага, пра якія так усхвалявана пісаў Іван Мележ — праўда і любоў да чалавека. Гэтыя якасці і надалей вызначалі мэту і сутнасць творчай дзейнасці пісьменніка. Яны з вайны, з першых нялёгкіх пасляваенных гадоў.

Звычайна многія пісьменнікі, асабліва адносіцца гэта да празаікаў, найбольш пішуць пра тыя падзеі, тыя ўражанні, перажыванні, якія непасрэдна звязаны з іхнім дзяцінствам. У Кулакоўскага гэтага, па сутнасці, няма.

Чаму?

Дзяцінства ж і юнацтва яго прыпадаюць на гады, якія проста не паспявалі глыбока адбіцца ў дзіцячай памяці, замацавацца ў сэрцы. І тое, што было так адкрыта, выразна ўбачана ў час ваеннага ліхалецця, сцерла з памяці ўсё даваеннае, як штосьці асабіста не дужа істотнае, не вартае асаблівай увагі. Душа была перапоўнена іншымі, больш глыбокімі і вострымі пачуццямі і перажываннямі. Больш свежымі, драматычнымі.

Вайна — як і ў многіх і, разам з тым, толькі свая. Напэўна, у кожнага яна свая. Вось гэтая свая вайна Аляксея Кулакоўскага будзе доўга вярэдзіць памяць, турбаваць сумленне, прымушаць вяртацца да яе, пісаць пра яе. Для адных яна становіцца наогул галоўнай (і адзінай) тэмай і галоўным пафасам (вызначае яго) творчасці, для іншых — адной з галоўных тэм, вызначае ідэйна-эмацыянальны і этычны лад многіх твораў.

Дылогія «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях» Кулакоўскага, яго раман «Сцежкі зведаныя і нязведаныя» (1972), аповесці «Да ўсходу сонца», «Белы Сокал» (1981), «Маршрут ад Клічава» (1983), «Хлебарэз» (1983) сталі прыкметнай і адметнай старонкай у нацыянальным мастацкім летапісе вайны. Пісьменнік адзін з першых у нашай літаратуры паказаў вайну ў яе штодзённым, суровым і мужным, абліччы. Вернасць тэме непаказнога гераізму радавога ўдзельніка вайны, асаблівая ўвага да бытавой непасрэднасці падзей і бытавой атмасферы тых гераічна-драматычных дзён, цікавасць да непаўторных жывых падрабязнасцей, прастата, дакладнасць і эмацыянальная стрыманасць апісанняў — якасці, якія прадвызначылі поспех «ваенных» твораў Аляксея Кулакоўскага.

Прайшоў час. Асаблівасці літаратурнага працэсу акрэсліліся больш выразна. І стала відаць, што якраз на шляху такога паказу вайны, паглыбленага даследавання яе штодзённасці, несумненных поспехаў дасягнулі пісьменнікі пакалення дзяцей вайны (В. Адамчык, У. Дамашэвіч, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, М. Стральцоў, І. Чыгрынаў).

Неабдымная тэма мінулай вайны распрацоўвалася Кулакоўскім у самых розных яе праявах.

Праўдзівасцю, даверлівасцю тону, глыбокім паказам, даследаваннем духоўнага жыцця, псіхалогіі захопленых вайною людзей вылучаецца аповесць «Да ўсходу сонца». У аснове твора гісторыя адступлення невялікай групы людзей, якая апынулася ў даволі складаным, няпэўным становішчы, дзе вайсковыя законы, па сутнасці, не дзейнічаюць. І вось у гэтых суровых умовах штодзённага выключна напружанага ваеннага жыцця, калі пастаянна прысутнічае пагроза смерці, загартоўваюцца ўнутрана характары зусім маладых дзяўчат Светы і Зіны. Адначасна адбываецца станаўленне невялікага вайсковага калектыву, з’яднанага агульнасцю выпрабаванняў, што выпалі на яго долю, адзінствам мэты.

У раманах «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях» перад вачыма чытача — цяжкія і складаныя дарогі сустрэч і расстаняў, здзяйсненняў і расчараванняў, перамог і паражэнняў, увогуле «блуканняў па пакутах» Вялікай Айчыннай вайны. Падзеі пачынаюцца ў адной вёсцы ў апошнія перадваенныя месяцы. Паступова ахопліваюць усё большы прасцяг: барацьба на фронце і ў партызанскім атрадзе, жыццё насельніцтва на акупаванай тэрыторыі, у варожым тыле. Усе шматлікія, разнастайныя падзеі непасрэдна ці то апасродкавана звязаны з лёсам галоўных герояў — Андрэя Сакольнага і Веры. У цэнтры ўвагі пісьменніка — маладое пакаленне інтэлігенцыі, выпрабаванне яго ў полымі вайны.

У дылогіі ёсць моцныя па эмацыянальнай сіле, псіхалагічнай глыбіні і праўдзівасці мясціны, дзе выдатна выкарыстана мастацкая дэталь. Можна згадаць сцэну, калі Вера ў час адступлення спыняецца недзе ў полі нанач. Рассцілае даматканую посцілку ў лапічкі, каб палажыць дзіця. І гэтая посцілка, апісаная вельмі падрабязна, шмат што гаворыць і сэрцу жанчыны, і чытачу. Выклікае ўспаміны пра мірнае, такое цяпер прывабнае і далёкае вясковае жыццё, і тым самым яшчэ больш падкрэслівае ненатуральнасць, драматызм становішча, у якім апынулася жанчына. Або вось поўная глыбокага драматызму сцэна, дзе паказана, як у непраходнай багне топяцца коні і ў іх вачах адлюстроўваюцца хмаркі, што плывуць па небе, як апошні водблеск жыцця. Увогуле пісьменнік выдатна карыстаецца мастацкай дэталлю як моцным сродкам стварэння праўдзівых жыццёвых абставін і жывых чалавечых характараў.

І ўсё ж дылогія пакідае двайстае ўражанне. Выклікаюць незадавальненне галоўныя персанажы. Яны статычныя, іх паводзіны, учынкі слаба псіхалагічна абгрунтаваны. Прайшоўшы праз усе ростані і сустрэчы, яны якімі прыйшлі ў твор, такімі і выходзяць. Духоўна амаль не змяніліся. У другім рамане ўсё захліствають падзеі. Апошнія ж раздзелы дзесьці занадта паспешлівыя, а таму і павярхоўныя.

У рамане «Сцежкі зведаныя і нязведаныя» для пісьменніка важна было не толькі паказаць мужнасць людзей, іх самаахвярнасць у барацьбе з ворагам, але і выявіць, даследаваць вытокі гэтых высокіх якасцей, працэс іх фарміравання. Адсюль вялікая ўвага да паказу жыцця ў даваенныя 20—30 гады.

Ставячы сваіх герояў, людзей рознага ўзросту, розных характараў і жыццёвых інтарэсаў у самыя звычайныя і разам з тым неверагодныя абставіны вайны, вырашаючы ў кожным канкрэтным выпадку свае асобныя ідэйна-мастацкія задачы, Кулакоўскі заставаўся нязменны ў сваіх асноўных мастакоўскіх мэтах і прынцыпах. Больш за тое, і ў творах пра вайну, пра якія гаворка была вышэй, і ў тых, што з'явіліся ўжо пад канец пісьменнікавай творчай дарогі, даволі прыкметна адчуваюцца іх жыццёвая аўтабіяграфічная аснова, асабістая перажытасць.

Усё натуральна: творчасць — увасабленне і працяг жыццёвай біяграфіі.

Іван Шамякін зазначае: «Аляксей Кулакоўскі — бытапісец. У творчасці ён надзвычай моцна прывязаны да канкрэтных, часцей за ўсё ўласна ім самім перажытых жыццёвых фактаў. Факт для яго — першааснова твора. Прызма творчай фантазіі пісьменніка не надта адмыслова шматгранная, святло фактаў пераламляецца ў ёй не заўсёды так, каб адбіцца спектрам вясёлкі і ў сюжэце, і ў характарах, і ў дэталях, каб драматызавацца, і асобныя факты, прапушчаныя цераз гэтую прызму, у творы захоўваюць тыя ж адценні, што і ў жыцці. Пісьменнік як бы спадзяецца, што само жыццё зрабіла работу па адборы і тыпізацыі з'яў і характараў. Такая асаблівасць таленту Кулакоўскага дае яму пэўную перавагу перад іншым падыходам да асваення жыццёвага матэрыялу, мае свае станоўчыя якасці, але абумоўлівае пэўныя недахопы…»

Тут, у гэтых словах, дакладна вызначана адна з найбольш адметных і характэрных рыс творчага аблічча пісьменніка. Так, сапраўды, А. Кулакоўскага ў шматлучным матэрыяле жывой рэчаіснасці найперш і найбольш цікавіць сфера побыту, свет штодзённых людскіх клопатаў і турбот. У творчасці гэта выяўляецца ў самых розных аспектах: стварэнне жывых, яркіх бытавых (жанравых) карцін, даследаванне характараў у іх непасрэдных пабытавых узаемаадносінах, выключная ўвага да бытавой дэталі, да выразных, характэрных падрабязнасцей. Дзякуючы бытавым дэталям і падрабязнасцям пісьменнік надае карцінам узноўленай рэчаіснасці яркасць і выразнасць, унутраную рухомасць і паэтычны ўзлёт.

Быт для пісьменніка з'яўляецца найбольш прыдатным матэрыялам спасціжэння рэчаіснасці, найбольш эфектыўным сродкам даследавання чалавечых характараў. Быт — празаікава мастацкая стыхія. Мэта ж творчасці — даследаванне чалавека, раскрыццё яго сутнасці, унутранай прыгажосці, душэўнай дабрыні, сцвярджэнне гуманных адносін да яго. Якраз гэтыя якасці таленту пісьменніка, можна сказаць, яго прынцыпы мастацкага асваення рэчаіснасці, даволі пэўна выявіліся і акрэсліліся ўжо ў першых творах, якія склалі зборнік «Сад» (1947).

Густы бытавы фон, добрае веданне і адчуванне з'яў звычайнага, штодзённага жыцця вёскі з яго непаўторным водарам, здольнасць бачыць яго рухома, выпукла, а не аднастайна, плоскасна — вось што неяк адразу заўважалася пры знаёмстве з апавяданнямі А. Кулакоўскага. Побыт — аснова, рэальны жыццёвы матэрыял, якому даецца паэтычнае напаўненне. На першы погляд часам магло здацца, быццам пісьменнік некалькі абмежаваны ў прасторы і часе; падзеі звычайна не выходзяць за межы жыцця вёскі, нават не вёскі, а ўсяго некалькіх яе жыхароў; змест апавядання абмяжоўваўся толькі часам непасрэднага дзеяння. Адсюль самая простая сюжэтна-кампазіцыйная структура.

Аднак…

У творах празаіка разгортваецца сюжэт, раскрываюцца характары дзякуючы тонкім і быццам нязначным сувязям з побытам, праз выразныя побытавыя дэталі. Але быт ніколькі не з’яўляецца знешнім фонам. Ён арганічна звязаны з чалавекам, у ім матывы ўчынкаў і дзеянняў персанажаў. Раскрыццё характараў, іх злучэнне, выяўленне зместу адбываецца праз сістэму ўзаемадзеяння бытавых аб’ектаў, усёй бытавой стыхіі. Глыбокае пранікненне, уважлівае даследаванне гэтай стыхіі жыцця дазваляе выявіць грамадска-сацыяльнае напаўненне часу. Канфлікты, узятыя са сферы быту, унутрана пачынаюць несці пэўную духоўную нагрузку.

Выявілася гэта ўжо досыць пэўна ў лепшых апавяданнях першага зборніка. Найбольш у асобных сцэнах, эпізодах, апісаннях, дзе добра адчуваецца непасрэднасць рэальнага жыцця, дзе відаць і жывыя чалавечыя характары. Асноўная ўвага пісьменніка ў апавяданні «Сад» (1945) засяроджана на паказе ўмоў пасляваеннага жыцця. У гэтых умовах якраз раскрываецца характар галоўнага героя Несцера. Запамінаюцца характэрныя сцэны.

Несцер быў у канторы калгаса. Якраз у гэты час вартаўнік прывёў старую жанчыну Хвядосіху толькі за тое, што тая каля гумна збірала нейкую пацяруху — маўляў, гэта ж калгаснае. «Несцер глядзеў на Хвядосіху, на яе мокры хвартух, з якога яна толькі што высыпала пацяруху, і думаў, што цяпер, мусіць, тут не адна такая сям’я, у якой, калі ёсць карова, дык пракарміць яе няма чым, а хто без каровы, то і самому хоць зубы на паліцу. Хвядосіха не здабра пайшла збіраць мокрую пацяруху». Не лішне заўважыць, што ў пазнейшых выданнях гэтая мясціна апускалася. Хаця, паказваючы ў асобных даволі выразных момантах цяжкасці першых пасляваенных гадоў, пісьменнік імкнуўся выявіць (і выяўляў) невычэрпнасць жыццёвых народных крыніц.

Знявечаны вайною сад. «Несцер хадзіў па пратаптаных сцежках і, сам не ведаючы для чаго і чаму, усё лічыў і лічыў пні. То яны нагадвалі яму магілы блізкіх, дарагіх людзей, то ўяўляліся жывымі істотамі, якія глыбока ў зямлі набіраюцца соку, каб вясною вынырнуць і пацягнуцца прагнымі лісцямі да сонца. Яму здавалася, што ўжо нават цяпер, калі прылегчы тварам да зямлі, то можна было б адчуць, як варушацца, растуць жывыя карэнні».

Тон народжаны тагачаснай рэчаіснасцю — пасляваенным адраджэннем краю, вынікае з ўсёй мастацкай тканіны твора. Такое заўсёды бывае пры непасрэдным веданні пісьменнікам жыццёвага матэрыялу, асобных падзей, фактаў, сітуацый, іх асабістай перажытасці.

Вось што Кулакоўскі гаварыў пра ўзнікненне апавядання «Нямко» (1945). «Мне ўспомніўся мой аднакашнік — нямы хлопец, якога ўсе баяліся. Пабойваўся яго і я: здавалася, што ён і ўдарыць чалавека можа. І вось аднойчы гэты хлопец знайшоў птушанятка, што вывалілася з гняздзечка. Я бачыў, як ён любоўна ўзяў гэтае птушанятка ў рукі. З гэтай дэталі і вырас пасля сюжэт апавядання “Нямко”. Потым, пры далейшым роздуме, паявіўся сацыяльны матыў, звязаны з вайной, — гэта я ўжо дамысліў…»

У лепшых апавяданнях пісьменніка характар раскрываецца як бы па ўзыходзячай лініі, не губляючы свайго кірунку, выяўляючы свае вызначальныя якасці ў розных знешніх праявах, пачынаючы з бытавых і канчаючы грамадскімі, сацыяльнымі. Мастацкае выяўленне характару адбываецца і праз паказ яго ўчынкаў, і праз аўтарскую характарыстыку, аўтаравы адносіны да яго.

Апавяданне «Нямко» складаецца па сваім змесце як бы з дзвюх частак. Першая — дзяцінства Нямка. Розныя выпадкі з яго жыцця, якія гавораць пра яго дабрату, чалавечнасць, шчырасць. Другая — успамін пра Нямка, чалавека сталага. І тут яго дабрата і чалавечнасць вытрымліваюць сацыяльнае выпрабаванне.

Чулы, сардэчны Нямко, які як бы ўвасабляе любоў да ўсяго жывога, нішчыць збожжа, паліць, дратуе коньмі. На першы погляд гэта здаецца ненатуральным і неверагодным, яно быццам супярэчыць існасці Нямка. Але ў творы вырыш

гэтаму. Пісьменнік пераканальна паказвае абставіны, якія падпарадкоўваюць сабе чалавека, сваёй ненатуральнасцю прымушаючы яго рабіць ненатуральнае. У гэтым трагізм вайны, драматызм і трагізм самога вобраза Нямка. Кулакоўскі паказвае гэта псіхалагічна пераканальна, па-бытавому, сацыяльна абгрунтавана.

Творчасць А. Кулакоўскага, яе лепшыя набыткі, прынамсі, красамоўна засведчыла, што мастацкае ўзнаўленне побыту, побытавай сферы жыцця, патрабуе багатай наяўнасці падрабязнасцей, выразных, характэрных дэталяў. Іх узнаўленне павінна вылучацца жыццёвай непасрэднасцю, арганічнасцю. У гэтым узноўленым жыцці, у сваю чаргу, павінна адчувацца цяпло жыцця, водар краю, месца, эмацыянальная і духоўная атмасфера, рытм часу. Бо і сам аўтар жыве, піша свае творы ў сваім часе, яго героі дзейнічаюць зноў жа ў сваім часе. І якраз гэты час вызначае, абумоўлівае і змест твора, і характар вабразаў, і тон твораў. Ды, урэшце, і сам мастацкі падыход аўтара да жыцця.

Такое бачыцца, адчуваецца асабліва ў першых апавяданнях (пра іх гаварылася вышэй), дзе ўспрыманне жыцця вельмі непасрэднае, светлае. Па-іншаму відаць гэта ў творах малога жанру, напісаных у сярэдзіне 50-х гадоў — «Не з таго боку» (1955), «Дванаццаты, жорсткі» (1956), крыху раней — «Кватаранты» (1952). Тут менш лірычнай непасрэднасці, больш эмацыянальнай стрыманасці, аналітычнасці, прыкметна вылучаецца крытычны пачатак.

Вось апавяданне «Кватаранты» — адзін з першых твораў не толькі ў Кулакоўскага, але і ва ўсёй беларускай прозе, дзе даволі моцна відаць крытычнае стаўленне да праяў тагачаснага жыцця. У цэнтры аўтаравай увагі вобраз Нікадзіма Пятровіча Бузы — рахункавода калгаса, кулака ў сваёй сутнасці. То была фігура тыповая ў тагачаснай літаратуры, зусім невыпадковая ў жыцці. Вобраз Бузы раскрываецца, як і заўсёды ў Кулакоўскага, як бы ў адной плоскасці — бытавой, дакладней, ва ўзаемаадносінах яго з кватарантамі.

Першы кватарант камбайнер Прыбытны. Гаспадар напачатку ўсяляк таму дагаджае, гаспадыні было загадана не шкадаваць камбайнеру лепшага кавалка.

А пачалася ўборка — і ўсё змянілася. Прыбытнага адсадзілі ад стала, потым выціснулі з бакоўкі, і неўзабаве гаспадар сказаў сваёй старой: «Прыбытны то, можа, і прыбытны, але не для нас». Потым быў другі кватарант, далей трэці. Гісторыя паўтараецца ў розных варыяцыях. Праз асобныя бытавыя сцэны і дэталі, якія паўтараюцца ў адносінах да кожнага персанажа (першая гутарка з кватарантам, пачастунак), выконваючы адну і тую ж функцыю, пісьменнік паказаў сацыяльна і маральна шкодную хваробу ўласніка, які прыстасоўваецца да ўмоў і адчувае сябе зусім нядрэнна.

Апавяданне ў мастацкіх адносінах цэласнае, эмацыянальна пераканаўчае. Выразныя, характэрныя мастацкія дэталі, яны нясуць значную ідэйную нагрузку.

Аповесць «Нявестка» — адзін з самых характэрных і самых дасканалых твораў пісьменніка. Ён прызнаваўся, што такія творы, як аповесць «Нявестка», «Тут я жыву» (1959), «Тры зоркі» (1963), «Расце мята пад акном» (1966), цыкл апавяданняў «Салігорскія эцюды» (1963) найбольш блізкія да яго родных мясцін.

Вось сведчанне А. Кулакоўскага пра задуму і рэальную жыццёвую аснову аповесці «Нявестка»: «Мне часта даводзіцца бываць у той вёсцы, дзе я нарадзіўся. Там жыве ў мяне мая маці, брат. І вось аднаго разу мая маці кажа: “Міканор учора хваліўся: маладая нявестка яму вады нагрэла, сказала — папар, тата, ногі, кашляць не будзеш”.

Я ведаў гэтага Міканора, ведаў яшчэ дзесятак чалавек, якія жылі прыкладна так, як ён. Мне пачаў уяўляцца лёс старога чалавека, які рана аўдавеў і многа год пражыў у адзіноце. Не бачыў гэты чалавек сапраўднага жыцця, не адчуваў цёплай жаночай спагады. Сам ён і гаспадарыў дома, і гаспадыніў, сам сабе крупнік варыў, сам сабе лапіў порткі.

І вось нарэшце прыязджае дадому з арміі ці з якой-небудзь установы сын гэтага чалавека, прывозіць маладую ласкавую нявестку. Нявестка нагрэла старо-

му начоўкі вады — і зарадаваўся чалавек, адчуў сябе шчаслівым, можа, лепшага шчасця для яго на гэты раз і не трэба было. У яго ўжо душа збалела па добраму, сардэчнаму слову сына, па цёплых вачах дачкі».

Дзеянне ў аповесці разгортваецца спакойна, некалькі нават замаруджана, з падрабязным паказам умоў жыцця, найперш бытавых, асноўных герояў. Вылучаецца тут выдатнае валоданне празаікам мастацкай дэталлю, адчуванне яе розных адценняў, функцыянальнай ролі.

Паказваецца хата Данілы, старая, як і ён сам, цёмная, закураная. Каля печы чачоткавая калода, здзёўбаная з усіх бакоў сякерай; шырокая лава, якую «трэба было б дзён два скрэбці», каб вызначыць, з якога яна дрэва; вялікая печ, у якой Даніла гатуе сабе есці, на якой спіць і якая амаль заўсёды халодная.

Апісанне выклікае настрой смутку, глыбокага сардэчнага спачування адзінокаму старому чалавеку, уводзіць чытача ў кола грамадскіх праблем твора (чаму так чалавек жыве?), стварае эмацыянальную аснову ўсіх пазнейшых зрухаў у душы і свядомасці Данілы. Усё жыццё чалавека праходзіць неяк бязрадасна, у адзіноце. Магчыма, такі ў яго характар. Магчыма, проста жыццё так склалася. Даніла жыў і жыве для сына. Сын — радасць і сэнс яго жыцця.

Па-майстэрску, з добрым адчуваннем псіхалогіі адзінокага старога чалавека, самых тонкіх унутраных зрухаў напісаны сцэны падрыхтоўкі да прыезду сына, выбару таму жонкі, перададзена нязвычнасць новага сямейнага жыцця. Натуральна, шчыра, без ніякай долі фальшу. Кранае, калі чытаеш такое: «…Даніла ўжо даўно адвык ад мяккай пасцелі. Калі ў першы раз ён уступіў Ларысінай (нявесткі. — **С. А.**) просьбе і падклаў пад галаву падушку, то доўга не мог заснуць. Усё яму здавалася, што нешта варушыцца, шамаціць пад вухам».

Вылучаючы яркія бытавыя і псіхалагічныя моманты жыцця Данілы, акцэнтуючы на іх увагу, падкрэсліваючы самыя выразныя дэталі, Кулакоўскі пераканаўча паказвае, як чалавечая чуласць, увага, сардэчныя клопаты прымушаюць яго героя па-новаму зірнуць на жыццё, на людзей — больш даверліва і лагодна. І, мабыць, упершыню за доўгі час самотнага жыцця адчуў ён, пераўжыў простае чалавечае шчасце.

Вобраз Данілы падаецца галоўным чынам у бытавой сферы — яго прыроднай стыхіі, у адным эмацыянальным ключы. І там, дзе аўтар спрабуе ўзняць героя над яго прыроднай стыхіяй, там адчуваецца фальш, як бы парушэнне эмацыянальнага адзінства (эпізод з лазняй, першая сустрэча Данілы з брыгадзірам Шандыбовічам).

Асноўны гуманістычны змест твора побач з вобразам Данілы нясе ў сябе вобраз Ларысы, яго нявесткі. Ларыса — духоўна прыгожы і чысты чалавек, для якога праўда, шчырасць, чалавечнасць сталі звычайнымі нормамі жыцця. І калі Даніла — характар у асноўным пасіўны, у адносінах да якога выяўляецца дабрыня і сардэчнасць іншых, то Ларыса — чалавек іншага складу. Яна змагаецца за шчырыя адносіны да людзей, за праўду ў жыцці. На жаль, гэты вобраз атрымаўся не такі цэласны і арганічны, як вобраз Данілы. Характэрна, што там, дзе Ларыса паказана ў сферы бытавых узаемадачыненняў з людзьмі, найперш як нявестка, відаць жыццёвая праўда, псіхалагічная пераканаўчасць. У тых жа сцэнах, эпізодах, дзе пісьменнік выяўляе адносіны гэтага персанажа да якіхсьці спраў грамадскіх, — нейкая ідылічная чуллівасць, штучнасць.

Знешне ў аповесці вылучаюцца дзве ідэйна-тэматычныя лініі. Першая (і галоўная) — эмацыянальна моцнае, жыццёва пераканаўчае сцвярджэнне гуманных адносін да чалавека. Другая — выкрыццё адмоўнага ў побыце, псіхалогіі людзей, у калгасным жыцці. Унутрана гэтая другая лінія падпарадкавана першай, галоўнай, працуе на яе.

Аляксей Кулакоўскі — пісьменнік вельмі шчырых і непасрэдна адкрытых адносін да жыцця, да таго, пра што ён піша. Яго любоў, павага, спачуванне, радасць, захапленне, як і гнеў, абурэнне, пагарда, злосць, не схаваныя ў падтэк-

сце, выяўляюцца яны пэўна і адразу. Адчуваецца гэта ва ўсіх творах. Але неяк асабліва натуральна, выразна і чыста ў тых, дзе рэальная жыццёвая аснова, найперш бытавая, унутрана блізкая для аўтара, эмацыянальна ім перажытая.

Такая жыццёвая аснова — вёска. Тут любоў да чалавека, да прыроды, адносіны да вясковага жыцця чыстыя, глыбокія і паэтычныя.

Тое ж самае, па сутнасці, што і пра «Нявестку», у плане агульнай ідэйнай скіраванасці, духоўнай напоўненасці і эмацыянальнай насычанасці, у плане вызначальных мастакоўскіх прынцыпаў можна сказаць і пра аповесць «Дабрасельцы». Па сваёй праблематыцы, сюжэтна-кампазіцыйных прыёмах, аўтаравым стаўленні да жыццёвага матэрыялу творы гэтыя шмат у чым падобныя. У «Дабрасельцах» толькі, у параўнанні з «Нявесткай», як бы змясціліся прапорцыі: галоўная ўвага звернута на выкрыццё адмоўнага ў жыцці, таго, што было народжана ва ўмовах беззаконня і ўсеагульнай падазронасці.

Творы з’явіліся, па сутнасці, у адзін час — у другой палове 50-х гадоў. То быў час духоўнага і грамадска-палітычнага ажыўлення, выкрыцця культу асобы Сталіна, час вяртання, хоць у нейкай ступені, да дэмакратычных нормаў жыцця. Творы якраз і прысвечаны тагачаснаму жыццю.

Увогуле ж час не толькі адлюстраваны, прысутнічае ў творы. Адбіўся пасвойму ён і на лёсе аповесці «Дабрасельцы». Твор быў надрукаваны, як ужо зазначалася ў часопісе «Маладосць» (1958, № 5). Галоўным рэдактарам часопіса ў той час быў сам Аляксей Кулакоўскі. У хуткім часе, яшчэ да канца 1958 года, давялося яму пакінуць гэтую пасаду. Прычына — публікацыя «Дабрасельцаў». Аповесць доўгі час не выдавалася. Упершыню ў кнізе — «Выбраныя творы», у 2-х тамах, т. 2 — з’явілася ў 1984 годзе пад назвай «Апошняя піліпаўка». Назва «Дабрасельцы» была вернута твору ў 1991 годзе: у рускамоўным выданні «Повести и рассказы» («Мастацкая літаратура»).

Чаму твор выклікаў такую павышаную цікавасць? Чаму доўгі час не мог выйсці асобнай кнігай ці ў кнізе побач з іншымі творамі?

Агульны адказ, відаць, можа быць такі: твор быў напісаны ў адных умовах — ва ўмовах грамадска-палітычнай адлігі, а друкаваўся ў іншых — ва ўмовах пачатку замаразкаў.

У Кулакоўскага-пісьменніка былі, як ужо зазначалася, асабліва непасрэдныя, эмацыянальна абвостраныя адносіны да жыцця. Яго талент, натуральнасць і інтэнсіўнасць яго выяўлення (аб’ём напісанага, жанравая разнастайнасць) напрамую залежалі ад умоў, ад сацыяльнага, духоўнага стану грамадства.

Аповесць «Дабрасельцы» напісана ў сярэдзіне 50-х гадоў на хвалі моцнага грамадскага ўздыму, на хвалі выкрыцця ўсяго адмоўнага, што тады так багата і востра выявілася ва ўсіх сферах народнага жыцця. Пісьменнік не чапае якіхсьці значных сацыяльна-палітычных, гаспадарчых ці ідэалагічных пытанняў, якія ў той час як бы самі прасіліся ў твор. Ён і тут застаецца самім сабою, верным свайму таленту, таленту, для якога галоўная сфера мастацкага ўзнаўлення і спасціжэння ў жыцці — побыт, побыт ва ўсім багацці і разнастайнасці яго праяўленняў.

Густая бытавая стыхія, добрае веданне і вострае адчуванне з’яў звычайнага, штодзённага жыцця вёскі з яго непаўторным водарам, здольнасць бачыць рухома і заглыблена — вось што адразу моцна адчуваецца пры першым знаёмстве і з гэтым творам.

«Управіўшыся крыху каля мыцельніка, Андрэіха ўсё ж выйшла ў сенцы. Бычок-двухтыднёвік варухнуўся ў загародцы, павярнуў да гаспадыні галаву, і ў змроку забялела яго вялікая, на ўвесь лоб, лысіна. Тут бычку цяплей, зацішней, як у хляве, пакуль ён яшчэ кволы. Андрэіха лепш зачыніла сенечныя дзверы, апусціла на крук запору і, пагладзіўшы бычкову лысіну, вярнулася ў хату. Праз некалькі хвілін яна выключыла святло, узлезла на печ, скруцілася там, як малая, у клубочак, але заснуць чамусьці не магла. Спачатку залішне гарачым здаўся чарэн, а потым, як гэта часта бывае, атакавалі галаву розныя думкі, і рады ім ніякай

не дасі. А сухі маліннік усё шоргаўся і шоргаўся аб намерзлую шыбу…» Гэта з першых старонак «Дабрасельцаў». Тут бачны чалавек, умовы яго жыцця, аўтаравы адносіны да яго. І гэта вельмі істотна, важна. Бо для пісьменніка, схільнага да мастацкага спасціжэння бытавой сферы жыцця, да даследавання чалавека ў стыхіі бытавых узаемадачыненняў, неабходна валодаць такімі якасцямі таленту, якія б дазвалялі надаць творам пэўны паэтычны ўзлёт, пазбаўлялі іх прыземленасці, нуднай апісальнасці. Гэта — асабліва пільная, добразычлівая ўвага да чалавека, выяўленне яго жыццятворнай сутнасці, узровень маральнага пафасу, чысціня аўтаравага голасу. Захаваць арганічнасць узноўленых жыццёвых фактаў і падзей, чалавечых паводзінаў і ўчынкаў і глыбокую натуральнасць аўтаравага голасу — для пісьменніка задача першаступеннай значнасці. А. Кулакоўскаму ў лепшых творах гэтага ўдаецца дасягнуць.

Дарэчы, пра натуральнасць аўтаравага слова, яго адпаведнасць народнай стыхіі жыцця вельмі добра сказаў у сваёй разгорнутай рэцэнзіі на аповесць «Да ўсходу сонца» такі майстар слова, як Ян Скрыган («Аповесць пра мужных людзей», 1957). Яго словы: «Мова твора вельмі добрая. Толькі дзякуючы глыбокаму адчуванню слова, народнай, простай, насычанай фразе Кулакоўскі мог стварыць праўдзівы мастацкі твор. Тут няма штампаў, няма бліскучых слоўных вывертаў, штучнага «літаратурнага» хараства, а ёсць тое, без чаго няма сапраўднага хараства, — натуральнасць. У мове Кулакоўскі ідзе не ад літаратурнага пераймання, а ад падслухоўвання фразы ў народзе».

Тое мы бачым у «Дабрасельцах», хаця б у тым жа апісанні старой Андрэіхі. Яна адразу выклікае чытацкія цёплыя пачуцці, павагу і шкадаванне. У прынцыпе, такія ж пачуцці ўзнікаюць і ў адносінах да іншых станоўчых герояў. Асабліва людзей старэйшага пакалення. Тут сутнасць вёскі, яе змест і сэнс.

Увогуле ж у Кулакоўскага-празаіка «надзвычай эмацыянальныя адносіны да жыцця, абвостранае бачанне яго драматычных паваротаў» (Алесь Адамовіч). У выкрыцці адмоўнага ён непрымірымы, адкрыты. Станоўчым жа, бывае, захапляецца так, што, здаецца, забывае пра глыбіннае высвятленне яго заканамернасцей і тэндэнцый і даходзіць часам да ідылічнасці, да спрашчэння жыццёвых складанасцей, прыгладжвання рэальных супярэчнасцей. Звычайна такое здараецца, калі піша ён пра падзеі ім недастаткова глыбока асвоеныя, не да канца, а то і слаба, пазнаныя на ўзроўні духоўным і псіхалагічным. Бачыцца гэта ў нейкіх момантах і ў аповесці «Дабрасельцы». Можа, найбольш у вобразе Дашы.

Даша — загадчыца жывёлагадоўчай фермы, дэпутат сельскага савета. Яна ў найбольшай ступені ўвасабляе новыя тэндэнцыі ў жыцці, з’яўляецца, па сутнасці, галоўным іх носьбітам. І тут вобраз гэты — як ідэя — не выклікае пярэчанняў. Але ж у сваім жыццёвым руху, рэальным псіхалагічным развіцці, ва ўзаемаадносінах з іншымі дзейнымі асобамі вобраз Дашы збеднены, дэкларацыйны, адналінейны. За ім няма багатага бытавога фону, густой жыццёвай асновы, што, дарэчы, уласціва стварэнню вобразаў прадстаўнікоў старэйшага пакалення.

Яе перамога ў канфлікце з Мокрутам (а гэта асноўны канфлікт твора) — гэта перамога часу, новых жыццёвых тэндэнцый, а не яе чалавечая перамога.

У гэтым сэнсе другі канфліктны бок (а яго найперш увасабляе Лявон Мокрут) у значна большай ступені жыццёва верагодны, больш псіхалагічна рэальны.

П’яніца, дэмагог, чалавек, у якога за душою, здаецца, няма нічога святога, які выбіўся ў людзі выключна праз сваю пранырлівасць, паклёпніцтва, беспрынцыпнасць, — такім прадстае ў творы Лявон Мокрут, старшыня сельсавета.

Хто такі Мокрут? Прадукт адпаведных умоў і абставін? Ці такі ён ужо па сваёй прародзе, як кажуць, ад нараджэння?

У знешнім выглядзе Мокрута не адчуваецца ніякай драпежнасці ці жорсткасці. Наадварот. Даша глядзіць на яго і ёй не верыцца, што Лявон можа цяпер ці некалі мог каго-небудзь напалохаць ці пакрыўдзіць. «У яго былі вельмі маленькія і, напэўна, мяккія, як у дзіцяці, рукі. Круглы, чысты падбародак з пяшчотным вал-

ляком. Здавалася, што гэты падбародак выяўляў заўсёды толькі адну лагоднасць, нават і тады, калі Мокрут злаваўся. Вочы таксама не кожны раз былі калючымі. Часамі яны свяціліся цёплай ласкаю, нават пяшчотай…»

Але ў яго прыроднай сутнасці якраз ёсць нешта тое, што развілося ў пасляваенных умовах культу асобы да выключных памераў і зрабіла гэтага чалавека шкодным, небяспечным, страшным. Даша хоча разабрацца, што за чалавек ён, Мокрут. Ды і прычына для гэтага ёсць: той прызнаецца ў каханні. Ён гаворыць Дашы: «Мне ты патрэбна для душы, для сэрца, якое ўжо стала забываць, што такое ласка, што такое добрае чалавечае слова». Ды нават і тут Мокрут не можа не пагражаць (пазней пагрозу тую паспрабуе ажыццявіць): «магла б ты ведаць, Даша, што мне не цяжка было б прымусіць цябе стаць ласкавейшай. Ёсць у маіх руках сякія-такія сродкі. Але ж я не хачу быць для цябе кепскім. Я для цябе нават і не старшыня, калі ты гэтага хочаш. Я ўсё для цябе зраблю! Усё! Разумееш?..»

Даша ўспамінае, што быў Лёўка ў даваенныя часы не апошнім хлопцам у вёсцы. На выгляд быў прыгожы, адукаваны, добра спяваў, мог «найлепш адстукаць казачка, выступаць на сцэне». Лічыў ён сябе першым хлопцам на вёсцы. Але самае істотнае і самае паганае іншае: «Любіў Мокрут, каб на яго глядзелі, а яшчэ больш — каб яго баяліся. Няхай, можа, і не яго, а каго іншага, але ўцеха брала хлопца, калі людзі палохаліся або жылі ў чаканні якога-небудзь няшчасця. Так у яго змалку».

І калі іншыя дзеці і падлеткі на шчадраца ці ў іншыя святы гулялі ў гульні бяскрыўдныя, Лёўку цягнула зрабіць штосьці такое, каб напалохаць, каб баяліся. І ён рабіў: спускаў у хату праз камін якой-небудзь бабулькі чорнага ката, паставіў на могілках пусты гарбуз са свечкаю ў сярэдзіне — «былі выразаны дзіркі для вачэй і страшэнныя зубы».

У вайну Мокрут перанёс страшэннае душэўнае ўзрушэнне. З-за яго эгаізму загінула маці. Ледзь перажыў гэта. Нават праз шмат гадоў, калі Мокрут расказвае гісторыю Дашы, у словах яго чуецца сапраўдны чалавечы боль, непрыхаваная туга. Але і пасля гэтага чалавек не змяніўся. Умовы пасляваеннага часу асабліва спрыялі раскрыццю і выяўленню гэтай натуры.

Маналог-споведзь Мокрута, з якім ён звяртаецца да Дашы пасля таго, як вызвалілі яго ад пасады старшыні, шматзначны. Прызнаецца: «Жыццё ў мяне ішло ўсё неяк адным бокам, і вочы мае глядзелі больш за ўсё ў адзін бок, у свой. Былі людзі вакол мяне, харошыя людзі, а я іх мала заўважаў і не ведаў». Працягвае далей: «Заўважаў я іншы раз толькі тых людзей, якія падчас, хочучы гэтага ці не хочучы, станавіліся на маёй дарозе. Іх я лёгка спіхаў з дарогі».

У свой час Мокрут сабраў «матэрыяльчык» не на аднаго чалавека. Самыя брудныя справы ён прыкрывае гучнай фразай. Характэрны і сатырычна добра выпісаны эпізод сесіі сельсавета, дакладней — рашэння сесіі. Ён дыктуе сакратару тэкст пастановы, хаця той таксама добра асвоіў навуку падрыхтоўкі такіх пастаноў. «Пішы так! — загадваў ён, пастукаўшы пальцам па лістку. — Галасую! Хто супраць пастановы бюро райкама партыі і райвыканкама? Хто ўстрымаўся? Няма. Аднагалосна».

Кулакоўскі паказвае ў аповесці той перыяд у жыцці краіны, калі шматлікія адмоўныя з'явы былі даведзены да абсурду, да сваёй, як бы поўнай завершанасці і гранічнай акрэсленасці. Для яго няма глыбокай патрэбы пранікаць асабліва ва ўнутраны свет героя (ды ён, свет гэты, і не надта багаты і складаны), даследаваць, глыбока паказваць. Мокрут увесь на паверхні. Пісьменніку дастаткова звярнуць увагу на валлячок яго ці на тое, як ходзіць, як ступае, каб унутраны свет таго быў зразуметы поўнасцю.

Некаторыя сцэны ў плане сатырычным выпісаны проста выдатна. Вось адна з іх.

Мокрут застаецца ў сельсавецкім кабінеце адзін. Яго ахоплівае быццам разгубленасць, няўпэўненасць. Пачынае хадзіць па пакоі. «Крок выходзіў кволы,

нібы старэчы. Ад гэтага рабілася яшчэ горш сумна і нейкая нудлівая крыўда лезла ў душу». Рукі трымае за спінаю. Узбуджаны, знерваваны. «Раптам адна рука апускаецца, з нейкім спалохам абмацвае канты галіфэ, а потым глыбока лезе ў кішэню». Шукае нешта. Выцягвае «пячатку ў драўляным футлярчыку: “адразу павесялеў, нават узрадаваўся”».

Не можа стрымаць пачуццяў. Гучыць маналог: «Пячатка ты мая! — урачыста прамовіў ён, трымаючы на далоні крыху зашмальцаваны ад прабывання ў штанах футлярчык і пяшчотна гледзячы на яго. — Спужаўся быў, аж у сэрцы ёкнула, — здалося, што згубіў цябе, выпала ты з маіх гэтых, ужо мала надзейных штаноў. Ажно ж не, не выпала, дзякуй богу! І што б я рабіў без цябе? Корміш ты мяне цяпер і поіш. Не адзяваеш, праўда, пакуль што, але будзеш і адзяваць! Будзеш!

Ён паднёс футлярчык ледзь не к самаму носу, падкінуў на далоні, затым сціснуў у кулаку і апусціў зноў у кішэню.

— Будзе карміць! — ужо зусім упэўнена сказаў старшыня, — паіць і адзяваць! Яна ў мяне — чарадзейка, яна ў мяне ўсё ўмее і ўсё можа. І нікому другому яна не трапіць у рукі, пакуль сам не аддам».

Дзіўная, абсурдная сітуацыя: адчуванне такое, што не пячатка пры Мокруту, а Мокрут пры пячатцы. Але ж для тых часоў, калі чалавек быў проста звычайным вінцікам сістэмы, а пячатка — сімвалам улады, такая сітуацыя зусім рэальная. Здае пазней Мокрут пячатку — і яго няма. Знікае цвёрдасць, самаўпэўненасць, нахабства.

Мокрут — чалавек (прадукт) пэўных умоў. У гэтых умовах заглушанай народнай актыўнасці, мясцовага дробнага дыктатарства, запалохвання і падазронасці, ва ўмовах злоўжывання «матэрыяльчыкамі», такія, як Мокрут, асабліва адчувалі сваю сілу, іншыя ж, людзі сумленныя і праўдзівыя, але запалоханыя, становяцца страшэнна бяздзейнымі і пасіўнымі.

Надыходзіць іншы час, узнікаюць іншыя ўмовы, іншыя абставіны. І ў прадчуванні свайго канца Мокрут няправільнае кіраванне людзьмі, бюракратычныя адносіны да іх даводзіць да гратэскнага перабольшання, да самаадмаўлення. Церпіць першае паражэнне. І адразу ж знікаюць яго самаўпэўненасць, нахабства, рашучасць. У гэтым сэнсе можна, напэўна, сцвярджаць, што Мокрута перамагае час, а не персанажы станоўчага плана. Непасрэдна яны, апрача хіба што Дашы, з Мокрутам не канфліктуюць. Яны проста ўвасабляюць, нясуць у сябе ўсё тое сумленнае, прыстойнае, працавітае, на чым трымаюцца дабрасельцы, на чым трымаецца вёска. Унутрана яны ніколі не прымалі такіх, як Мокрут. Іх цярпелі. Надышла пара — і само жыццё, людзі адкінулі мокрутаў. Нармальнае жыццё, натуральны рух яго патрабуюць людзей-творцаў, а не спажыўцоў.

Напісаная ў пераломныя для нашага грамадства гады, на хвалі духоўнага абнаўлення, аповесць «Дабрасельцы» моцна і дзейна прагучала ў той час, не страціла сваёй актуальнасці і па сённяшні дзень. Бо выкрывала і выкрывае яна з’явы не толькі ўласцівыя пэўнаму часу і пэўнаму грамадству, але і чалавечаму жыццю наогул. Бо пафас твора, яго духоўны зарад неслі ў сабе, увасаблялі неспакойны розум і турботнае сэрца пісьменніка-грамадзяніна. Бо валодае твор гэты жанравай завершанасцю, арганічнасцю аповеду, наогул многімі прыкметамі сапраўднай мастацкасці.

Узаемадачыненні літаратуры наогул, кожнага пісьменніка ў прыватнасці з часам, з жыццём ніколі не бываюць простымі. І час, і жыццё ў любых яго праявах вылодаюць вялікай сілай супраціўлення іх мастацкаму спасціжэнню. Некалькі парадаксальная рэч: пісьменнік жыве жыццём свайго часу, жыве побач з тымі, хто можа і павінен быць героем літаратуры, а вось даць глыбокі мастацкі адбітак свайго часу, стварыць жывыя, паўнакроўныя вобразы сучаснікаў не заўсёды ўдаецца. Відаць гэта і ў творчасці А. Кулакоўскага.

Як зазначалася, А. Кулакоўскі — пісьменнік надзвычай непасрэдных адносін да жыцця. Галоўная сфера яго мастакоўскай увагі — штодзённае жыццё чалавека,

яго побыт. Ён, як і многія іншыя майстры слова, «прывязаны» сваімі творамі да родных мясцін. Пра гэта пісьменнік сам гаварыў у гутарцы з крытыкам Аляксеем Гардзіцкім яшчэ ў 1966 г. Творы тыя ўжо называліся вышэй. Пазней спіс гэты, бясспрэчна, павялічваўся.

Жыццё павярнулася так, што ў тых мясцінах, дзе нарадзіўся пісьменнік, дзе прайшло яго дзяцінства і юнацтва, адбыліся грандыёзныя змены. Тут вырас горад шахцёраў Салігорск, пабудаваны калійныя камбінаты, змянілася аблічча ўсяго краю. Той побыт, які вякамі ўсталёваўся тут, пачаў крута змяняцца, узаемаадносіны людзей шмат у чым набывалі прынцыпова грамадскі характар, у псіхалогіі чалавека ўсё больш выяўлялася залежнасць ад калектыву.

Аляксей Кулакоўскі, зразумела ж, ведаў усё гэта, бачыў, усведамляў, імкнуўся асэнсаваць і па-мастацку паказаць. Спачатку гэта былі асобныя ўражанні, замалёўкі пераважна нарысавага характару («Зоркі салігорскія», «Салігорцы»), пазней з'яўляюцца творы, дзе новы для пісьменніка жыццёвы матэрыял падаецца ў больш шырокім, больш поўным аб'ёме, дзе відаць імкненне да ўсебаковага выяўлення, асэнсавання пэўных глыбінных зрухаў (аповесць «Расце мята пад акном», раман «Васількі»).

Раман «Васількі» вылучаецца даволі шырокім ахопам жыццёвых з'яў і фактаў.

У цэнтры твора — сям'я беларускіх шахцёраў. Сям'я, у якой пачынаюць складвацца свае працоўныя традыцыі, паступова выпрацоўваюцца свае, звязаныя з новым жыццём, этычныя нормы і прынцыпы, свой побытавы лад і парадак. Бацька, Пятро Арлоўскі, маці, Анэта Іванаўна, іхнія дзеці, Аўгусцін і Мальвіна, — гэта ўжо аснова рабочай, шахцёрскай дынастыі. Ва ўсіх ёсць тое, што вызначае сутнасць рабочага чалавека — унутраная патрэба працы, сумленнасць і прынцыповасць, творчы неспакой і няўрымслівасць. Так, як гэта мае быць.

Праўда, паказ у рамане ўзаемаадносін герояў на вытворчасці, іх адносін да працы, самой працы займае далёка не галоўнае месца і па аб'ёме, і па іх ролі ў разгортванні падзей, у выяўленні характараў. Галоўнае месца займае паказ бытавога боку жыцця, асабістых узаемаадносін людзей. Ды гэта і зразумела. Тут талент пісьменніка адчувае сябе найбольш моцна і вольна. Бытавы пласт у рамане ўзноўлены дужа арганічна, у яркіх, запамінальных падрабязнасцях. Тут пісьменнік паказаў сябе сапраўдным майстрам. Манера апавядання лёгкая, нязмушаная, часамі з іранічнай, нязначнай, але адчувальнай афарбоўкай.

Новы жыццёвы матэрыял, як і заўсёды, няпроста паддаецца мастацкаму асваенню. Выяўленне яго духоўнага зместу, праблемнае асэнсаванне — для нацыянальнай літаратуры ўсё яшчэ наперадзе.

Жыў Аляксей Кулакоўскі немітуслівым, але актыўным творчым жыццём. Зроблена ім нямала — у самых розных жанрах: раман, аповесць, апавяданне, нарыс, крытычны артыкул. Лепшыя творы сталі прыкметным набыткам нашай прозы. Яны, пэўна можна сказаць, ужо вытрымалі выпрабаванне часам. Пісьменнік заняў сваё адметнае сталае месца ў нацыянальнай літаратуры.



Ірына БУТОРЫНА

# СВОЙ У КРАІНЕ ДЗЯЦІНСТВА



***За мной рана зачыніліся дзверы дзяцінства. І я нібыта ўсё жыццё шукаю, уваходжу ў іх. Не магу нацешыцца светам Дзяцей. У дзверы Дзяцінства мяне ўводзілі: мая святая Мама, мае шоўкаўцы, класікі дзіцячай літаратуры Янка Маўр, Васіль Вітка, самі Дзеці. Я і сёння жыву ў Краіне Дзяцінства і пакутна-шчаслівы ад гэтага.***

*Уладзімір ЛІПСКІ*

Уладзімір Ліпскі — аўтар шматлікіх кніг для дзяцей і дарослых, старшыня праўлення Дзіцячага фонду Беларусі, вось ужо 35 гадоў — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». Дзённікі і малітвы, апавяданні і казкі, дакументальныя аповесці, краязнаўчыя нарысы — багатая і разнастайная літаратурная спадчына, створаная Уладзімірам Сцяпанавічам, дапамагае ўмацоўваць сямейныя адносіны, берагчы непаўторныя ўспаміны юнацтва, абараняць душэўны спакой дзяцей.

«Даслужыўся да званняў: муж, бацька, дзед… Супакоіцца б, а мне хочацца: пагуляць з унукамі ў хованкі, скакаць з моладдзю на вечарынках, пакатацца на хмарках, пералічыць зоркі на небе, пераплыць Нарач, перачытаць кнігі продкаў, напісаць свае пра знакамітых людзей Беларусі, парадніць «Вясёлку» з усімі пачаткоўцамі, дачакацца праўнукаў, дапамагчы ім увайсці ў свет…» — чытаем шчырыя разважанні пісьменніка.

У 1978 г. па рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў У. Ліпскі быў прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Вясёлка», які паспяхова, з натхненнем узначальвае звыш трыццаці год. «Кожны месяц мы выходзім на творчы экзамен са шматтысячнай патрабавальнай дзятвой. У нас тры асноўныя задачы: трэба навучыць дзяцей любіць сваю Радзіму; трэба прывіць ім любоў да роднай мовы, спадчыны, гісторыі, культуры; трэба, каб дзеці нашы ўмелі шанаваць людзей, якія цярпліва выводзяць іх на жыццёвыя пуцявіны», — адзначае галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» У. Ліпскі.

Пад яго кіраўніцтвам рэдакцыя часопіса «Вясёлка» плённа супрацоўнічае з установамі адукацыі і культуры, праводзіць важныя, цікавыя дзецям грамадскія акцыі, накіраваныя на далучэнне дзяцей да свету мастацкай літаратуры, узбагачэнне іх светапогляду, фарміраванне гарманічнай асобы. Так, толькі апошнім часам з поспехам былі праведзены гульні-спаборніцтвы «Міс-“Вясёлка”», «Чэмпіён “Вясёлкі”», мелі поспех праекты «Замежныя сябры “Вясёлкі”», «Зорны год

"Вясёлкі"». У бягучым годзе ажыццяўляецца праект «"Вясёлка" запрашае ў цырк». Беларускія школьнікі прымаюць удзел у міжнародным праекце «Жывая класіка». Акцыя «Чытаем разам» ужо не адзін год крочыць па краіне разам з «Вясёлкай», неабыякавымі пісьменнікамі і паэтамі, педагогамі, бібліятэкарамі і, безумоўна, маленькімі чытачамі. Дзяўчынкі і хлопчыкі вучацца выразна чытаць на памяць, абмяркоўваць і творча асэнсоўваць прачытанае, любіць роднае слова. Падобныя мерапрыемствы заклікаюць з любоўю вывучаць родную мову і літаратуру, развіваюць творчыя здольнасці вучняў, садзейнічаюць гарманічнаму развіццю асобы.

Высокае псіхалагічнае майстэрства ў творчасці Уладзіміра Ліпскага, уменне не толькі адчуць галоўныя праявы чалавечага характару, але і перадаць кожны душэўны рух, жэст, паварот думкі — цудоўная, урадлівая глеба для выхавання лепшых якасцей асобы дзяцей. З самага маленства, як руплівы хлебароб, укінуўшы ў зямлю залатое зерне дабрыні і павагі, гадуем мы маладыя парасткі, няшчадна вырываючы пустазелле зайздрасці, ляноты, нахабства. І як хочацца хутчэй дакрануцца да спелага калосся, пацешыцца добрым ураджаем.

«Што змяніліся за сто гадоў? Нічога! Сонца, як і раней, прачынаецца на ўсходзе. Нарадзіўшыся, чалавек нанава адкрывае свет і сябе», — быццам рытарычнае пытанне гучыць роздум пісьменніка і абуджае вечныя думкі пра будучыя пакаленні. Сёння мы прапануем яшчэ раз перагарнуць старонкі кніг Уладзіміра Ліпскага, адрасаваныя дзецям.

Сярод літаратурнай спадчыны пісьменніка значнае месца займаюць творы для дзяцей: апавяданні, казкі, аповесці, мастацка-дакументальныя краязнаўчыя нарысы, якія адзначаюцца жанравай і тэматычнай разнастайнасцю.

«Усе людзі — дзеці: малыя, дарослыя, старыя. Малыя гуляюць у жыццё. Дарослыя жывуць. Старыя прыгадваюць мінулае. Дарослыя! Дайце падзяцінець дзецям — сонечна і святочна», — пераконвае дарослых пісьменнік Уладзімір Ліпскі, аўтар кніг для дзяцей «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска» (1982), «Споведзь Шпундзіка» (1988), «Як Бог стварыў свет» (1993), «Вясёлая азбука» (1993), «Пра Андрэйку Добрыка і чорціка Дуроніка» (1993), «Антонік-Понік» (1998), «Каралева белых прынцэс» (2001), «Наша Маша» (2001), «Прыгоды Нуліка» (2007), «Я тут жыву» (2008), «Свіцязянская русалка» (2009), «Янкаў вянок» (2009), «Азбука жыцця» (2010), «Вясёлка над Нёманам» (2011).

Творы Уладзіміра Ліпскага для дзяцей пазбаўлены залішняй павучальнасці, маралізатарства, пісьменнік размаўляе з юным чытачом на даступнай, зразумелай дзецям мове. Творы насычаны займальнымі прыгодамі, нечаканымі пытаннямі і заданнямі, цікавымі размовамі, якія запрашаюць чытачоў да самастойных разважанняў і творчага выказвання думак. «Уладзімір Ліпскі валодае ключыкам ад дзвярэй Дзяцінства: лёгка знаходзіць тэмы, займальныя сюжэты, сітуацыі. Умее гаварыць з дзецьмі, захапіць іх цікавай і карыснай гульнёй, усхваляваць, зачараваць беларускім словам», — адзначае кандыдат філалагічных навук, даследчык творчасці М. Яфімава.

Сярод адметных асаблівасцей кніг *«Антонік-Понік»* (апавяданні-казкі), *«Наша Маша»* (забаўлянкі і апавяданні, былі і небыліцы, казкі і загадкі для Машы і ўсіх дзетак нашых) займальны сюжэт, гумарыстычны характар выкладання зместу, імкненне растлумачыць важнасць перамогі дабра над злом, фарміраванне актыўнай жыццёвай пазіцыі дзяцей, накіраванасць на развіццё фантазіі і пазнавальнага інтарэсу, выхаванне лепшых маральных пачуццяў, добразычлівасці. Пісьменнік знаходзіць патрэбныя словы, каб запрасіць маленькіх чытачоў да размовы на самыя розныя тэмы, у тым ліку пазнаёміць дзяцей з «дарослымі», сур'ёзнымі праблемамі, разумець, якія дзеці павінны вучыцца з маленства. Напрыклад, Антонік даведваецца пра Чарнобыльскую аварыю, адпаведна свайму дзіцячаму светаадчуванню спрабуе выказаць свае адносіны да наступстваў гэтай бяды, імкнецца падказаць дарослым, як перамагчы іх — складае «Чарнобыльскую казку».

Фантастычна-прыгодніцкая аповесць *«Пра Андрэйку Добрыка і чорціка Дуроніка»* адрасавана дзецям малодшага школьнага ўзросту. Разам з першакласнікам Андрэйкам чытач даведваецца пра тое, што хітрая каралева Лянота разбурыла замак Алфавіт. Лянота не любіць старанных, дапытлівых дзяцей, стварае перашкоды на шляху да ведаў. Андрэйка Добрык разам са сваімі новымі сябрамі Васем Вясёлкіным, Мурзілкам, Барвінкам і дзяўчынкай Алесяй пераадольваюць усе выпрабаванні ў барацьбе з Лянотай і атрымліваюць перамогу. Адзначым, што аповесць насычана прыгодамі, казачнымі пераўтварэннямі, і маленькія чытачы маюць магчымасць выконваць заданні разам з героямі твора.

Чорцік Дуронік — цацка Андрэйкі, якая згодна з асаблівасцямі казачнага жанру набывае рысы адушаўлёнай істоты: пераўтвараецца ў жывога, непаседлівага, гарэзлівага чорціка, і ўвесь час суправаджае свайго гаспадара Андрэйку. Аднак уважлівы чытач заўважыць, што праз апісанне ўзаемаадносін Андрэйкі і чорціка аўтар звяртае ўвагу на здольнасць чалавека кіраваць сваімі ўчынкамі і фарміраванне характару кожнага дзіцяці, далікатна падказвае, што кожны ўчынак павінен быць свядомым, а паводзіны залежаць ад умення кіраваць самім сабой. Гарэзлівы чорцік нібы жыве ў самім Андрэйку, праз яго ён робіць часам не зусім добрыя ўчынкі, і хлопчык павінен растлумачыць правілы паводзін не толькі свайму цацачнаму сябру, але і выхаваць уласную культуру паводзін. Па матывах аповесці «Пра Андрэйку Добрыка і чорціка Дуроніка» ў Беларускім дзяржаўным тэатры музычнай камедыі быў пастаўлены спекталь для дзяцей «Прыгоды ў замку Алфавіт» (музыка кампазітара Віктара Войціка, лібрэта — Святланы Клімковіч).

У аповесці-казцы Уладзімір Ліпскі звяртае ўвагу дзяцей на літару «Я». «Кожны з вас мае сваё імя, сваё «Я». Давайце ўстановім «Я» на вяршыне замка. Няхай кожны, хто прыйдзе сюды, ведае: нялёгка ўзняцца да апошняй літары, да свайго «Я», — вучыць ён юных чытачоў і нібы падштурхоўвае іх паразважаць над сэнсам выслоўя «ўзняцца да свайго Я», працаваць над выхаваннем лепшых якасцей асобы.

Пачатак аповесці-казкі *«Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска»* малюе нам партрэт хлочыка, падобнага на многіх іншых дзяцей, якія з прагай дзіцячай цікаўнасці кожны дзень чакаюць незвычайных прыгод: «Не за сінім морам, не за высокімі гарамі, не на іншай планеце, а на нашай Зямлі — у горадзе Дзіўнагорску — жыў хлопчык Янка. Быў ён белабрысы, рухавы, усім цікавіўся і вельмі сумаваў праз тое, што ў Дзіўнагорску не адбывалася ніякіх дзівосаў. Але аднойчы, пад Новы год, здарылася такое, чаго Янка ніколі нават і не чакаў». Янка знаёміцца з Кляксай-Ваксай, якая з'явілася з ненаўмысна вылітага татавага чарніла, а далей пачынаюцца незвычайныя прыгоды, пра якія марыў хлопчык: сустрэчы з новымі знаёмымі, падарожжа ў горад Казак і горад Лічбаў. І зноў Уладзімір Ліпскі нагадвае дзецям пра неабходнасць быць добразычлівымі, спагадлівымі, смелымі на шляху да перамогі дабра над злом.

Казка-забаўлянка *«Вясёлая азбука»* ў займальнай форме знаёміць дзяцей з літарамі алфавіта. Чытачы даведваюцца, што Вася Вясёлкін прапанаваў дзецям з дзіцячага садка «гуляць-забаўляцца з азбукай»: прыдумваць вясёлыя гісторыі пра літары і «амаль у кожным слове павінна адгукацца тая літара, пра якую будзем нешта прыдумваць». На кожную літару пісьменнік прапануе цікавую гісторыю і дапамагае дзецям не толькі ў захапляльнай форме засвоіць гукі і літары беларускага алфавіта, але заахвочвае да самастойнай творчасці. З педагагічнага боку кніга «Вясёлая азбука» прапануе разнастайны дыдактычны матэрыял для арганізацыі працы з вучнямі пачатковых класаў на ўроках беларускай мовы і літаратурнага чытання, для правядзення фанетыка-артыкуляцыйных трэнінгаў, удасканалення вуснага маўлення вучняў, развіцця лагічнага і творчага мыслення, уяўлення, памяці, увагі.

Галоўнымі героямі аповесці-казкі *«Прыгоды Нуліка»* з'яўляюцца хлопчык Міколка і Нулік, які «ўяўляў сабой роўны абадок, які нібыта саскочыў з курынага яйка. Было яно абвязана дроцікам ад «носіка да «пяткі» — і раптам вылузнулася

з палону, а тая абвязка і стала Нулікам». Аўтар распавядае пра сустрэчу Міколкі з Нулікам, іх цікавыя прыгоды і гульні. Пісьменнік раскрывае тэму сяброўства, добразычлівых адносін паміж людзьмі. Аўтар праўдзіва апісвае жыццёвую сітуацыю, якая магла б узнікнуць у жыцці кожнага сучаснага дзіцяці: атрымаўшы ад бацькоў на дзень нараджэння прыстаўку да тэлевізара і картрыджы з гульнямі, Міколка зусім забыўся пра свайго сябра. Некалькі разоў Нулік запрашаў Міколку пагуляць, аднак хлопчык, захапіўшыся новымі электроннымі гульнямі, адмовіўся і пакрыўдзіў Нуліка агіднымі словамі. «Гэта крыўда нібы параніла Нуліка. Ён першы раз у сваім жыцці заплакаў. Сябар Міколка нават не заўважыў яго слёз». Кульмінацый твора з'яўляецца момант расстання Нуліка з Міколкам. Маленькія чытачы, якім адрасавана аповесць-казка, з хваляваннем сочаць за тым, як Міколка шукае Нуліка, радуюцца іх шчаслівай сустрэчы, разам з героямі нібы даюць клятву на вернасць сяброўству: «Клянуся сонейкам і небам, цукеркамі і хлебам. Клянуся дружбай даражыць і цябе заўжды любіць». На прыкладзе ўзаемаадносін Міколкі і Нуліка зразумелай юным чытачам мовай пісьменнік тлумачыць дзецям важнасць сяброўства ў жыцці людзей. Аповесць-казка «Прыгоды Нуліка» была высока ацэнена і прызнана лепшым творам дзіцячай літаратуры 2007 года.

Кніга *«Янкаў вянок»* (дзецям пра Янку Купалу) у мастацка-дакументальным плане распавядае пра жыццёвы і творчы шлях народнага паэта Беларусі Янку Купалу. Упершыню так шырока юным чытачам расказваецца пра лёс Я. Купалы.

Творчасць Янкі Купалы хвалявала Уладзіміра Ліпскага і раней. Узгадаем яго разважанні ў кнізе «Жыві сёння. Пакаянне»:

«Янка Купала — паэт-прарок.
Што прарочыў сваёй матцы-зямлі?
Чаго хацеў беларусам?
За што загінуў?
Каб мы людзьмі зваліся.
Каб зазлавалі на сябе:
*Што і я — чалавек,*
*Што і мне гараваць*
*Надаела ўвесь век.*
Каб жылі вольна, незалежна:
*Зямлёй лягу ў зямлю,*
*Але перш прапяю.*
*Як я волю люблю,*
*Гэту волю сваю!*
Каб шанавалі матчыну мову:
*Каб ніколі не чураўся*
*Сваёй роднενькае мовы,*
*У якой узгадаваўся.*
*Хоць забыўся дзеля новай.*
Каб мы ганарыліся сваёй Айчынай:
*Гэй, прасніся, беларусе!*
*Усе людцы паўставалі.*
*Гэй, прасніся, беларусе!*
*Усе праўдачку пазналі.*
Каб нас шанавалі нашчадкі:
*Нам трэба жыць і долю папраўляць,*
*Каб нас патомкі з часам не клялі.*
Пад Купалавымі словамі
Паспавядайся, Беларус!»

Як адзначае У. Ліпскі, працуючы над кнігай «Янкаў вянок», ён глыбока, «з алоўкам» вывучыў акадэмічнае выданне твораў Янкі Купалы, успаміны, крытычны матэрыял, прысвечаны песняру. Было наладжана шмат сустрэч з нашчадкамі паэта, а таксама — шматлікія вандроўкі па купалаўскіх мясцінах, асабліва па Лагойшчыне. Уладзімір Ліпскі пачынае аповед нарысам «Купалава дрэва», у якім разважае пра важнасць вывучэння радаводнага дрэва ў жыцці кожнага чалавека,

і знаёміць чытачоў з радаводным дрэвам Я. Купалы, складзеным паводле дакументальных матэрыялаў архіваў. Далей Уладзімір Сцяпанавіч шматпланава, з дапамогай вобразных апісанняў, метафарычных выразаў і іншых сродкаў мастацкай выразнасці апісвае жыццёвы шлях песняра. У змест кнігі ўключаны ўрыўкі з твораў Я. Купалы, якія дазваляюць чытачу яшчэ раз судакрануцца з жывым словам паэта, лепш зразумець асобныя матывы яго творчасці. «У Янкі Купалы ёсць тры вершы пад адной назвай: «Над калыскай». Напісаны яны ў розныя гады, але аб’яднаны адной думкай: «Дзеці, помніце маміну калыханку, шануйце маму!» І было б кранальна да слёз, калі б работнікі музея ажывілі Купалавы калыханкі. Голасам слыннай артысткі, скажам, Купалаўскага тэатра мелодыя сустракала б кожнага экскурсанта. Веру, яна глыбока асядала б у кожнай душы», — дзеліцца сваімі разважаннямі Уладзімір Ліпскі.

Заключныя старонкі кнігі запрашаюць чытачоў прааналізаваць уласныя думкі і пачуцці, часцей звяртацца да паэтычнага слова Купалы і глыбей усвядоміць ролю паэтычай спадчыны, пакінутай Я. Купалам сваім нашчадкам. Уладзімір Ліпскі зазначае: «Калі я пісаў кнігу пра Купалу, часта падыходзіў да помніка каля Свіслачы і як бы спавядаўся перад паэтам, жывым сярод жывых. Такое духоўнае ачышчэнне, адчуваю, павінен прайсці кожны беларус, бо Янка Купала для ўсіх нас і прарок, і павадыр, і святы мучанік. Яго творчая спадчына, як той купальскі вянок, кінута нам на шчасце, на прасвятленне, на радасць зямнога раю. Той вянок яго паэзіі трэба вылавіць у кніжным моры і разгадаць яго чарадзейства».

Кніга *«Я тут жыву»* (дзецям пра Беларусь) распачынае краязнаўча-дакументальны цыкл твораў для дзяцей, у якіх Уладзімір Ліпскі запрашае дзяцей да цікавага падарожжа па родным краі.

«Мая Беларусь…
Не голас, сэрца прамаўляе гэтыя словы, —
з любоўю, з гонарам,
з душэўнай пяшчотай.
Тут — наша гісторыя.
Тут — мае карані.
Тут — напеўная родная мова.
Тут — жывём мы!» — урачыста пачынае размову з юнымі чытачамі пісьменнік.

У змесце кнігі прадстаўлены апавяданні пра адметныя мясціны і вядомых людзей кожнай вобласці Беларусі і займальныя заданні для самастойнага выканання дзецьмі. Белавежская пушча і возера Нарач, Цётка і Кастусь Каліноўскі, Марат Казей і Мікалай Гастэла, іншыя вядомыя імёны і мясціны Беларусі стануць больш блізкімі і знаёмымі дзецям, якія ўважліва прачытаюць кнігу «Я тут жыву». Юныя чытачы маюць магчымасць здзейсніць завочнае падарожжа па Беларусі.

*«Свіцязянская русалка», «Вясёлка над Нёманам»* — кнігі нарысаў, прысвечаныя раёнам Гродзенскай вобласці, працягваюць раскрываць краязнаўчую тэму, агучаную ў кнізе «Я тут жыву».

«Мая Беларусь… Каб мець права і гонар сказаць так, трэба палюбіць сваю Айчыну. Каб палюбіць сваю родную зямлю, трэба ведаць яе гісторыю, геаграфію, яе спадчыну, яе людзей. Запрашаю ў падарожжа па Гродзеншчыне. У чароўны край нашай Бацькаўшчыны, дзе бруіцца старажытны Нёман», — звяртаецца Уладзімір Ліпскі да юных чатачоў у кнізе «Вясёлка над Нёманам». Варта адзначыць паэтычныя назвы раздзелаў кожнай з пазначаных кніг: «Астравеччына прыродай і людзьмі ўвенчана», «Ашмяны ўсімі людзьмі прызнаны», «Бераставіца — прыгажосці крыніца» і інш. Дакументальны характар краязнаўчага матэрыялу пісьменнік узбагаціў стварэннем мастацкіх апісанняў жыццёвых шляхоў вядомых людзей Гродзеншчыны, легендамі, паданнямі, урыўкамі з сачыненняў школьнікаў.

Уладзімірам Ліпскім падрыхтавана таксама кніга краязнаўчых нарысаў, якая знаёміць дзяцей з адметнымі мясцінамі Гомельскай вобласці пад назвай

«Гомельская зямля — радзіма твая і мая». У завяршэнне аднаго з нарысаў ён піша: «Людзі, давайце не спознімся ва ўчарашні дзень. Не спазнаўшы яго, хіба можам мець заўтрашні?» Тым самым пісьменнік заклікае юных чытачоў з павагай ставіцца да гістарычнага мінулага сваёй Радзімы, вывучаць нацыянальную, у тым ліку літаратурную спадчыну беларускага народа, шанаваць нацыянальныя духоўныя каштоўнасці для будучых пакаленняў.

Дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту адрасавана літаратурна-мастацкае выданне «*Азбука жыцця»*. Па сваёй структуры кніга ўяўляе сабой своеасаблівы аўтарскі энцыклапедычны слоўнік, якія знаёміць дзяцей з паняццямі і тэрмінамі, размеркаванымі ў алфавітным парадку. Мова выкладу кожнага нарыса вызначаецца даступнасцю, эмацыянальнай вобразнасцю. Аўтар звяртаецца да маленькіх чытачоў з заклікам любіць родны край, вывучаць мінулае сваёй краіны, ганарыцца яе дасягненнямі, любіць і шанаваць сям’ю, быць неабыякавымі да свайго здароўя, расці чулымі і добразычлівым людзьмі. У шэрагу нарысаў Ліпскі выкарыстоўвае ўспаміны з уласнага дзяцінства, з асаблівым пачуццём і шчырасцю піша пра сваю матулю.

«Сябры! Запрашаю вас у падарожжа па незвычайнай Азбуцы, — піша аўтар у прадмове. — На першых сваіх школьных уроках вы даведаліся, як вымаўляюцца і пішуцца ўсе літары беларускага алфавіта. А цяпер я прапаную вам словы на гэтыя літары. Папярэджваю, словы будуць і складаныя, і не зусім зразумелыя, і, здавалася б, простыя. Іх трэба ведаць, бо цяжка будзе разабрацца ў навакольным жыцці, у якім вы не толькі дзеці ў сям’і, не толькі выхаванцы дзіцячых садкоў, не толькі вучні школ. Кожны з вас — Чалавек, Грамадзянін Рэспублікі Беларусь. І ў вас, як і ў дарослых, ёсць свае правы і абавязкі. Імі мусіце карыстацца… Тыя старонкі, што я вам прапаную, не проста прачытайце, а запусціце глыбока ў душу, адчуйце сваім сэрцам маё сэрца. І тады, веру, складаны свет вакол вас стане больш зразумелым. І вы адчуеце, хто вы, чаму жывяце на зямлі і што павінны зрабіць, каб на ёй вечна жылі людзі, каб не згасла памяць аб мінулым і была вера ў будучае».

Па словах Уладзіміра Ліпскага, яшчэ са школьных гадоў ён выпісваў невядомыя словы, з якімі сустракаўся пры чытанні, імкнуўся грунтоўна растлумачыць значэнне гэтых слоў. «Калі пачаў пісаць кніжкі для дзяцей, адчуў, што дзецям шмат чаго трэба растлумачыць. Узнікла такая незвычайная энцыклапедыя», — паведамляе пісьменнік. Апавяданні на кожную літару алфавіта тлумачаць дзецям значэнне слоў, з якімі яны сустракаюцца штодзень ці чуюць іх ад дарослых. «А» — Айчына, абавязкі; «Б» — Беларусь, «В» — вобласці, вёскі і г. д. Варта асабліва адзначыць мастацкае тлумачэнне Уладзімірам Сцяпанавічам значэнняў слоў, якія дапамагаюць дзіцяці адчуць пачуццё агульначалавечай і нацыянальнай годнасці (мама, чалавек, радавод, патрыятызм і інш.), зразумець важнасць сімвалаў нашай краіны. У канцы кожнага раздзела пісьменнікам распрацавана «Дамашняе заданне» для замацавання прачытанага.

У сваёй творчасці Уладзімір Ліпскі не абмінае ўвагай і тэму ўзаемаадносін падлеткаў з бацькамі. Гэтай праблеме прысвечана аповесць *«Даверлівая душа, або Споведзь Шпундзіка».* Падзеі апісваюцца вачамі падлетка Сяргея Марозава, якога дома па-ранейшаму завуць «Сяргейкам, Сярожам, Сяргуньчыкам, Сярожачкам». Аднак сам герой лічыць, што даўно ўжо можа звацца Сяргеем Сямёнавічам Марозавым і мае права на асабістую думку, якая адрозніваецца ад меркавання дарослых. «Дзіўны народ сталыя людзі. Аніяк не ўцямяць, як нас называць, як з намі быць. Колькі кніг панапісвалі пра наш цяжкі ўзрост. Гэта ж трэба, прыдумалі — п-а-д-л-е-т-к-і! Калі мы толькі падлеткі, то яны старыя клекатуны. Ім — каб хутчэй дабраўся да таго месца, дзе яны самі сядзяць, каб ішоў той жа сцяжынай, якой яны хадзілі. А мне, наадварот, хочацца лезці чмырэзнікам, ахвота закасаць калашыны і памераць лужыны, ускараскацца на самую верхавіну дрэва і пабачыць, як выглядае адтуль мой горад. Для дарослых — гэта дзікунства. А я проста

дзічэю ад іхніх выкрыкаў: «Нельга!», «Не руш!», «Не трэба!», «Не хадзі!», «Не балуйся!», — з хваляваннем разважае галоўны герой.

Аўтар закранае самыя актуальныя праблемы сталеючай асобы: першае каханне, імкненне да самастойнасці, жаданне, каб бацькі разумелі матывы паводзін і меркаванняў. Пісьменнік звяртае ўвагу дарослых на далікатнасць у зносінах з падлеткамі, заклікае сем'і больш часу праводзіць разам. У. Ліпскі «знаёміць» свайго героя (а значыць, і чытачоў) з «Пісьмамі да сына» Чэстэрфілда. Герой лічыць англічаніна, які жыў дзвесце гадоў назад, мудрым і зайздросціць яго сыну, які штодзень атрымліваў ад бацькі вялікія лісты. «Ідзі за сваёй мэтай настойліва і нястомна. І няхай усялякая новая цяжкасць не толькі не пазбавіць цябе мужнасці, але, наадварот, яшчэ болей натхніць. Чалавеку настойліваму вельмі багата чаго ўдаецца…» Малайчына, Чэстэрфілд! І я так буду дзейнічаць у сваім жыцці. А разумееш, Чэстэрфілд, з якім настроем і настырнасцю рушыў бы я наперад, каб такое жывое павучанне меў ад свайго роднага бацькі? Ты не думай, граф, мой татка і мамка таксама разумныя людзі. Але ў іх няма часу на мяне. Ні ў кога яго няма. Такі наш касмічны век». Уважлівыя чытачы знойдуць у творы падказкі і прапановы па гарманізацыі ўзаемаадносін у сям'і, дзе выхоўваюцца дзеці і падлеткі.

Усхваляваныя разважанні Уладзіміра Ліпскага пра сям'ю, бацькоў і дзяцей суправаджаюць творчасць пісьменніка розных гадоў. Важна, што думкі-парады аўтара заклікаюць бацькоў і дзяцей умацоўваць шляхі ўзаемаразумення, з павагай ставіцца да меркаванняў кожнага, падштурхоўваюць да пошуку сумесных цікавых сямейных спраў.

Дзіця без дзяцінства — сівы лунь.
Дзіця без душы — ледзяны слуп.
Дзіця без працы — труцень.

Дык вось што трэба для здароўя нашых дзяцей: шчаслівае дзяцінства, высокая духоўнасць, творчая праца! — звяртае ўвагу дарослых на ўсебаковае і гарманічнае выхаванне дзяцей Уладзімір Ліпскі ў кнізе «Дай, Божа, дзецям долю. Дзённік збалелага сэрца». Неаднаразова гучаць у творах пісьменніка і ўспаміны пра сваю сям'ю: «Мае бацькі пражылі ў любасці 52 гады. Нажылі нас, дзяцей, і перадалі нам у спадчыну ўсё лепшае, што атрымалі ад сваіх бацькоў: чыстае сумленне, любоў да жыцця і прыроды, душэўную дабрыню. Іх запавет — будзь Чалавекам!» — з цеплынёй зазначае У. Ліпскі ў аўтабіяграфіі.

Для маленькіх чытачоў, якія яшчэ толькі пачынаюць крочыць па жыццёвых сцяжынках, пісьменнік падрыхтаваў важныя парады пад назвай «Дзесяць пажаданняў дзецям»:

«**1.** Шчасце — гэта ўмець радавацца таму, што ты жывеш, дыхаеш, і пры гэтым адчуць, што ты патрэбен камусьці. Будзьце шчаслівымі!

**2.** Жыццё — гэта Божы дар. Жыццё — гэта свята! Хай кожны ваш дзень будзе святам!

**3.** Я плюс Я — сям'я. Знайдзіце сваё Я ў жыцці, абавязкова сустрэньце другое Я, адзінае і непаўторнае, і стварыце моцную сям'ю.

**4.** Падкажыце дарослым, навучыце іх спазнаць вялікую мудрасць: «Дзецям трэба даць «даспець» у дзяцінстве.

**5.** Расціце, сябры, так, каб пра вас казалі: «Добры чалавек!»

**6.** Жывіце прыгожа Сёння, тады вы з прыемнасцю ўспомніце дзень Учарашні, тады з радасцю сустрэнеце дзень Заўтрашні.

**7.** Запомніце, радасць вось у чым: калі вочы не стамляюцца ад прыгажосці; калі цэніш тое, што ёсць і што маеш; калі не спатыкаешся на роўнядзі; калі табе хораша пад дажджом; калі не стамляешся рабіць дабро; калі ёсць хлеб і да хлеба, і ты ўсё гэта зрабіў сам.

**8.** Давайце, сябры, жыць весела і дружна, з літасцю і любасцю адзін да аднаго, бо за пусты смех і пустую жытку давядзецца лізаць вогненную патэльню на тым свеце.

**9.** Верныя сябры — жыццёвы скарб кожнага чалавека. Хай жа гэты скарб не абмінае вашу долю.

**10.** Кожны дзень паўтарайце маю малітву:

Дай, Божа, даваць, а не прасіць;
Дай, Божа, заўсёды смяяцца і ніколі не плакаць;
Дай, Божа, з радасцю вучыцца і працаваць і дома начаваць;
Дай, Божа, усё ўмець, а не ўсё рабіць;
Дай, Божа, на жыццё, на быццё і на доўгі век.
У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амінь».

У 1988 г. Уладзімір Ліпскі быў абраны старшынёй праўлення Беларускага рэспубліканскага дзіцячага фонду, а затым — віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў. «Кожны, хто ведае здольнасці і нястрымную энергію Уладзіміра Ліпскага, яго адданасць дзецям, упэўнены, што гэта была адзіная кандыдатура, якой, як цяпер кажуць, не магло быць альтэрнатыў», — з гэтай нагоды заўважыў Васіль Вітка.

«Якое гэта шчасце — навучыць сябе шчыра радавацца таму, што ты жывеш, дыхаеш, як важна адчуць, што ты патрэбен камусьці. Жыццё — гэта дар. Жыццё — гэта свята!» — праз усю творчасць гучыць жыццесцвярджальная думка Уладзіміра Сцяпанавіча Ліпскага, пісьменніка, чалавека, якога па праве можна лічыць сваім у шчырай Краіне Дзяцінства, Сям'і, Радзімы.

Грамадская і літаратурная дзейнасць У. Ліпскага адзначана шматлікімі ўзнагародамі. Ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, літаратурных прэміяй імя Янкі Маўра, Аляксандра Грына; Міжнароднай прэміі імя Альберта Швейцара «За бескарыслівую дзейнасць у духу чалавекалюбства і гуманнасці». Пісьменнік узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, медалём «За працоўную доблесць», ордэнам святога царэвіча Дзімітрыя «За справы міласэрныя», залатым медалём Льва Талстога — вышэйшай узнагародай Міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў.

Літаратурная творчасць Уладзіміра Ліпскага вызначаецца тэматычнай і жанравай разнастайнасцю: дзіцячая літаратура з яскрава акрэсленым выхаваўчым патэнцыялам, хвалюючыя дзённікавыя запісы, краязнаўчыя нарысы, якія запрашаюць чытачоў да вывучэння радаводных крыніц і гісторыі, дакументальная проза, кнігі «аўцюкоўскіх» жартаў дазваляюць з упэўненасцю гаварыць пра глыбіню думкі і адметнасць аўтарскага светаадчування. Нястрымная жыццёвая энергія У. Ліпскага, імкненне абуджаць важныя думкі і пачуцці ў свядомасці чытачоў розных узростаў падказваюць пісьменніку новыя тэмы згодна з яго філасофскім асэнсаваннем жыцця:

«**Мудры —** хто вучыцца ва ўсіх, усюды, заўсёды.
**Багаты —** хто жыве на сродкі, якія ёсць.
**Шчаслівы —** хто жадае быць шчаслівым.
**Вольны —** хто адказны перад сабой.
**Святочны —** хто ўмее лавіць чароўнасць.
**Моцны —** хто падмагае слабаму.
**Карысны —** хто працуе не на сябе.
**Міласэрны —** хто ўпускае ў сэрца чужое гора.
**Праведны —** хто шануе душу.
**Вечны —** каго помняць.

Кім хочаш быць, тым і будзь! А хочаш вечнасці — будзь мудрым, багатым, шчаслівым, вольным, святочным, моцным, карысным, міласэрным, праведным».

Васіль МАКАРЭВІЧ

# СЫН НАЛІБОЦКАЙ ПУШЧЫ



*Казімір Камейша.*

Адкуль з’яўляецца паэтычны талент? Чаму ён даецца не кожнаму, хто бярэцца за вершы і хоча стаць паэтам? Пра гэта можна толькі здагадвацца і разважаць. Напэўна, неўпрыкметку, як кінутае ў пульхную раллю зерне, талент прарастае ў душы і генах прашчураў, а пасля пераходзіць, перадаецца з роду ў род, з пакалення ў пакаленне, выспявае, набіраецца сілы, каб аднойчы, выбраўшы шчаслíўца, праявіцца ў яго асобе на поўную моц і выліцца паэтычнымі радкамі. Так яно, відаць, было і з Казімірам Камейшам. Трэба думаць, дасціпнымі і мудрымі на слова былі яго продкі, маглі сказаць у лад і склад такое, што яно рабілася памоўкай ці крылатым выразам, перадавалася з вуснаў у вусны і станавілася вядомым на ўсю акругу. Спадчыннае ўменне гэта ад бацькі пераходзіла да сына, ад сына да ўнука і праўнука і доўжылася да таго часу, пакуль, урэшце, не дайшло да хлапчука, можа, у дваццатым ці трыццатым калене, якога назвалі Казікам. З маленства быў ён цікаўным і ўражлівым. Яму хацелася ведаць, чаму раскаціста грукоча гром і бліскае зыркая маланка. Дзівіўся, хто так прыгожа размалёўвае зімою вокны і як галасіста спяваюць у лесе веснавыя птушкі, аклікае кагосьці зязюля. Дапытлівасць і захапленне прыродай спадарожнічалі яму з таго часу, як стаў на ногі і пачаў хадзіць. Ён уважліва слухаў байдуноў-шчыруноў, якія жылі ў невялікай і сціплай вёсачцы са мнагазначным найменнем Малыя Навікі ў падсуседзях з Налібоцкай пушчай, багатай на розных звяроў і ўсялякую дзічыну. У дзівосным і запаветным кутку будучы паэт убіраў душой і сэрцам прыгажосць навакольных мясцін, прыглядаўся да гнёздаў і нор, дзе атабарылася птаства і дробныя звяры, запамінаў іх звычкі і нораў, асобныя моманты з ляснога жыцця, нібы ведаў, што яны спатрэбяцца яму ў будучым.

А наталяць дапытлівую душу было чым не толькі ў пушчы! Адны ўжо найменні выклікалі буру пачуццяў і безліч асацыяцый. Возера Кромань! Назва ядраная і крохкая, як храбусткі, налíты з краямі аскомай, яблык. Здаецца, цвёрдай градзінай, што выпала летам, качалася яно на зубах, халадзіла іх, абуджала фантазію, дапамагала сягаць думкамі ў нязведаныя далячыні, дзе хаваліся таямніцы, казкі і нязведаныя істоты. Зіхціць бурштынам, золатам пераліваецца, гучыць мілагучна і загадкава каларытнае і шматзначнае найменне раённага гарадка — Івянец! Пачынаў вымаўляць яго, смакаваць і — выходзіла дзіва дзіўнае! Гучала як нешта новае і магічнае — і вянец! І згадвалася вядомая прымаўка: «Добры канец — справе вянец!»

Можа, адсюль і пайшла назва гарадка. Колькі ў ім жыло ганчароў і разьбяроў па дрэве, шаўцоў і краўцоў, усялякіх розных майстроў, што мелі залатыя рукі і спагадлівую душу. І сам гарадок быў падобны да чараўніка. А што гэта так, варта пабываць на кірмашы! Чаго на ім ні знойдзецца! Зранку на вазах і прылаўках высяцца горы паліваных гладышоў і гарлачоў, рознакаліберных гладышак і місак. Прадаюцца скрыпкі і жалейкі, балалайкі і лютні, цымбалы і гармонікі. У бочках зіхціць, пераліваецца сотнямі колераў мёд-цякун, а ў кадушках тоўпяцца, быццам не знаходзяць сабе месца, засоленыя асобым спосабам грузды і лісічкі. Божа, якое смакоцце! Пачнеш есці, глядзі-пільнуйся, каб язык не праглынуць! Ведай, што гэта дарунак Налібоцкай пушчы. Варта вымавіць па складах: налібоцкі! — і выйдзе нешта падобнае да «налі ў бочку». Падглядалі мёд у вуллях, што віселі на дрэвах, пад самым небам, і лілі, цадзілі яго ў бочкі, затарвалі і везлі на кірмаш. Дападалі часам у Варшаву і Парыж. Збіралі смалу-жывіцу і таксама везлі за свет, дзе яе варылі карабелы, прасмольвалі судны і пускаліліся на іх у марскія і акіянскія падарожжы. І гэта рабілася дзякуючы таму, што мелася Налібоцкая пушча, як паэт скажа пазней, «зялёная Біблія», якую ў дзяцінстве гартаў ён рукамі і мераў нагамі ўперак і ўдоўжкі.

Аднойчы хлапчук натаміўся, прылёг пад сасной дый прыснуў. А тым часам, адкуль ён толькі і ўзяўся, стары чараўнік-лясун, прысеў каля хлопчыка і стаў нешта шаптаць, можа, замову ці нейкую прыхамаць. І нечакана як з'явіўся, так і знік. Прахапіўся хлапчук, працёр вочы і здзівіўся. Як быццам недзе паблізу струна спявае. Азірнуўся навакол — няма нікога! Прыслухаўся больш уважліва і ледзь не войкнуў: струна заціхала, то зноў спявала ў яго душы! І адчуў ён такую радасць, якой не ведаў ніколі. Струна спявала, а словы самі ішлі, прасіліся з душы. Каб не забыць, будучы ўжо школьнікам, ён браў аловак і ўпотай ад сябрукоў запісваў іх на паперы. Міналі дні, месяцы, праходзілі гады, і юнак не заўважыў, як пачаў дасылаць свае вершы ў рэдакцыі газет і часопісаў. А калі стаў студэнтам і адслужыў у арміі, дзе таксама не выпускаў з пальцаў пяро і не забываў пра музу, убачыў, што твораў хапае на цэлую кніжку.

А хто не ведае, што першая кніжка вершаў — гэта своеасаблівая ластаўка, візітная картка і адначасова, скажам так, мікрачып, па якім можна прачытаць, хто ідзе ў літаратуру, якім залатым запасам паэзіі забяспечаны ягоныя радкі. Што да вершаў К. Камейшы, то цікава, чаму ў першых ужо творах малады аўтар звяртаецца да паэзіі? Адказ просты: юнак увесь час думаў, трызніў пра вершаваныя радкі, Яе Вялікасць Паэзію. І яму здаецца, што апрача яе, ва ўсім свеце няма нічога больш прыгожага, вабнага і казачнага. Паэзія для яго стала іконай і своеасаблівай святыняй, на якую ён маліўся, якой спавядаўся. Ён пісаў: «Можа, не так нараджаюцца вершы… Па рыштаваннях, як па радках, я цяжка ступаў, нібы Пётр Першы, — толькі б не вельмі прараб дапякаў». Пісаў, як бачам, не для таго, каб даць характарыстыку паэзіі ці сказаць пра яе нешта незвычайнае і мудрае. Завіхаючыся на будоўлі, ён прымяраў, параўноўваў тое, што рабіў і бачыў перад сабой, са шчырунняй і прыгажуняй паэзіяй. А калі аднойчы спытаў Зямлю, як «яе наймудрэй забудаваць», яна адказала, што трэба зрабіць так, «каб лесвіцы ўгору шчаслівa беглі, як Маякоўскага вершаў радкі». Калі ўлічыць, што гэта былі першыя спробы паэта, то ў асноўным — неблагія.

Вызначальна і тое, што вершы першага зборніка К. Камейшы «Восеньскія позвы» былі пазначаны такімі жыццёвымі меткамі і рыскамі, за якімі ўгадваліся пэўныя аўтабіяграфічныя з'явы і калізіі, а таксама ўласны вопыт, што грунтаваўся на рэальнай жыццёвай глебе і быў густа замешаны на добрай дозе аўтарскай фантазіі. Пэўна, інтуітыўна адчуваючы і разумеючы, што дабротную пабудову нельга ўзвесці на фундаменце з пяску, малады паэт звяртаецца да таго, што засталося ў памяці і было перад вачамі. А таму часцей за ўсё ґаварыў пра хатнія рэчы, як напрыклад, у гэтым выпадку: «Надзейна ўмацаваны у вушак з ласіных мужных рог вяшак». Адразу трэба заўважыць, што сказана коратка і канкрэтна.

А чытачам заўсёды па душы шчырае жаданне аўтара гаварыць не пра нейкаю ўяўную і абстрактную прыгажосць, што знаходзіцца ў завоблачных вышынях і цікавіць багемных гурманаў, а пра тое, няхай сабе каравае і сярмяжнае, але сваё, роднае і дарагое, сярод чаго ён узрос, вылюднеў і адкуль пайшоў у свет. Мы не супраць прысутнасці дыялектнага слова «вяшак», здагадваючыся, якую ролю ў хаце выконвае гэтая рэч. Звяртае на сябе ўвагу ўменне маладога аўтара заснаваць і выбудаваць верш такім чынам, што ў ім нітуюцца і пераплятаюцца паміж сабой асобныя дэталі і рэчы, як бы ствараючы нейкі закончаны архітэктурны ансамбль, са сваёй гармоніяй, сіметрычнасцю асобных ліній, што вымагае мастацтва. Высвятляецца, што «мужных рог вяшак» аўтар закрануў не проста так. У наступнай страфе ён звяртаецца да іх зноў. Яму здаецца, што «рогі успыхнулі, як тыя свечкі». І далей гэтая дэталь выступае ў новай для сябе ролі. Лірычны герой, вярнуўшыся ў родную хату, адчувае, што яго «душа навострана, як рогі, супроць яе, спакусы цішыні». Нечаканы паварот думкі? Канечне. Але і гэта яшчэ не ўсё. Фантазія не пакідае паэта. Варта яму было пакратаць гарадское паліто, якое ён павесіў на рогі, як з яго «здавалася выскоквалі ласі і бубнамі грымелі капытоў. Уцекачы дарог не выбіралі, яны імчалі проста ў лес, у ціш». Сцэнка канчаецца тым, што, нягледзечы на перапалох, які ўзняўся ў хаце і ў лесе, «рогі ўсё ж вушак не адпусціў».

Як бачым, параўнальна на невялікай плошчы верша аўтар змясціў столькі дзеянняў, якіх хапіла б на цэлую аповесць. Трэба сказаць, што дзеянні могуць быць да месца і не да месца. Але, дзякуй богу, у вершы яны не выглядаюць надуманымі і выпадковымі. Аўтар выстраіў падзеі ў такі рад і сюжэт, які памог сабраць іх у адзін фокус, а ўслед за гэтым лагічна павесці думку ў патрэбным напрамку і завяршыць яе на пэўнай ноце. Адначасова звычайныя рэчы і прадметы набылі чалавечыя рысы і якасці, сталі жывыя і рухомыя. У вершы загучалі драматычныя ноткі. У чым жа ўсё гэта праявілася? Ды ў тым, што душа паэта, схільная да юначага максімалізму, не выносіла надакучлівай «спакусы-цішыні», пад якой на той час мелася на ўвазе ўсюдыіснае паўзучае мяшчанства. А паколькі па афіцыйных ідэалагічных установках яно лічылася для грамадства злом і ворагам нумар адзін, бо вяло да жыццёвай дэградацыі і застою, з ім змагаліся ўсе, у тым ліку і паэты, і К. Камейша далучыў да агульнага хору свой голас і пратэст. Праўда, яны былі крыху прыхаваны флёрам пушчанскай рамантыкі і падрабязнасцямі лясной фаўны і флоры. Аднак у звычайным малюнку паэт здолеў убачыць тыя рысы і штрыхі, якім надаў драматычныя адценні, што і прыцягваюць увагу чытачоў. Безумоўна, усё гэта было зроблена паэтам, якому на той час бракавала яшчэ ўменне і віртуознага майстэрства, што прыйдзе да яго пазней. І, тым не менш, ён здолеў перадаць першароднае незамутнёнае пачуццё, якое нарадзілася і выспела ў душы, і перадаць без ніякага лішняга дамешку і прафесійных хітрыкаў. А гэта вунь як каштоўна для любога твора! Відаць, кожнае па-сапраўднаму мастацкае палатно ў большасці выпадках і падкупляе нас асобнымі момантамі душэўнага ўзрушэння і хвалявання падчас творчага азарэння, калі нават з тэхнічнага боку верш не заўсёды ўдаецца зрабіць выдатна і бездакорна.

Помніцца, як Максім Танк узяў і пераапрацаваў свой твор пра пачатак вайны, палічыўшы, што ў ім маецца шэраг хібаў стылістычнага і моўнага характару. І што вы думаеце, верш, сапраўды, стаў больш зграбны, элегантны знешне. Але ён згубіў самае галоўнае, што было ў першым варыянце — тое эмацыянальнае пачуццё, якое прысутнічала ў радках, напісаных як бы сходу, без асаблівага роздуму і нейкага спецыяльнага заглыблення ў філасофскія развагі, што з'явіліся пасля перапрацоўкі верша, але, на жаль, не палепшылі яго, а пагоршылі.

Перагортваючы лепшыя творы К. Камейшы, уключаныя ў першую кніжку, нельга не звярнуць увагу на тое, што ў шэрагу з іх прысутнічаюць такія каштоўныя мастацкія якасці, як драматызм і супрацьпастаўленне. Пры гэтым яны не выглядаюць штучнымі і прыдуманымі, а вынікаюць з тых сітуацый і рэалій, якія

кладзе паэт у аснову верша. Усе мы ведаем, што, каб убачыць у звычайнай з'яве ці рэчы нешта незвычайнае, тым больш, драматычнае ці трагічнае, трэба мець асобае чуццё, у тым ліку і фантазію.

Цікавы ў гэтым сэнсе невялічкі верш, дзе гаворка ідзе пра старую скрыпку. Здавалася, што можа сказаць дваццацігадовы юнак пра гэты, канечне, знакаміты музычны інструмент і сказаць так, каб яно зачапіла чытача за жывое. І нельга не здзівіцца вынаходніцтву паэта выходзіць, як кажуць, са складанага становішча. Не кідаючыся ў мудрагельства, ён вельмі проста і коратка, здаецца, толькі канстатуе факт: «Будзе доўга ляжаць у запыленым футарале скрыпка». Інтуітыўна аўтар так умела падоўжыў радок, што чытачы фізічна адчуваюць, наколькі доўга ляжала ў футарале скрыпка. А гэта падцвярджае тое, што мы маем справу з мастацкім творам. І не сумняваемся ў гэтым, бо ўжо ў наступным радку паэт яшчэ больш інтрыгуе нас, гаворачы, што «футарал для яе (скрыпкі. — **В. М.**) труна». Ну хіба не завязка для драмы? Хіба хто-небудзь можа адкласці кніжку ўбок і не пацікавіцца, а што ж будзе далей? А далей, здаецца, нічога незвычайнага і не адбываецца. А на справе ой як адбываецца! Бо паэт нечакана для сябе пабачыў у звычайным эпізодзе нешта неардынарнае і нават звыш уражлівае: «Ды аднойчы дзіцячым прарэзлівым крыкам закрычыць у чыёйсьці руцэ струна». Вось што адбудзецца са струной. Не зазвініць і не заспявае яна, а «закрычыць прарэзлівым крыкам». І чытачы самі павінны дадумацца і здагадацца, чаму менавіта вось так зробіць струна. Відаць, не ўсё добра ў яе. Як бачым, радкі не толькі выклікаюць на суперажыванне, але на развагу і дадумванне. Чым жа заканчваецца верш? Калі браць два радкі адасоблена ад верша, то нават неяк дзіўна: «А кагосьці гэта музыка выратуе, ён жывым падымецца проста з магілы». І сапраўды, чытачы вераць, што на такое здольна скрыпка. Чаму? Скрыпач не проста павядзе смычком па струнах, а «кране, быццам рану, гук». І ў выніку «пральюцца, як лівень, раптоўна гукі». А яны, гэтыя гукі, відаць, не простыя, а чарадзейныя. Тым не менш, нечаканая змена непрывычных параўнанняў не толькі не выклікае ў чытачоў недаўменне, наадварот, павялічвае цікавасць навізной мастацкіх дэталей, іх многакалёрнай афарбоўкай і адценнямі.

Нельга прайсці міма яшчэ аднаго верша, які звяртае на сябе ўвагу не толькі драматызмам сітуацыі, бо прысвечаны смерці дзеда, які не «дажыў чатыры ранкі да зязюлі кування», але і мастацкімі дэталямі, што знойдзены паэтам хутчэй за ўсё падсвядома і, на першы погляд, з'яўляюцца як бы другараднымі і не вельмі абавязковымі. Але пасля прачытання твора і пэўнага роздуму бачна: кампаноўка і расстаноўка мастацкіх дэталей настолькі ўдалая, што, здаецца, усё гэта рабілася вопытным майстрам ці пры дапамозе камп'ютара, якога падчас напісання радкоў яшчэ, мабыць, не існавала. Пра што гэта гаворыць? Ды пра тое, што верш ствараўся ў хвіліны творчага натхнення. І, відаць, дзеля таго, каб неяк адцягнуць увагу ад трагічнага і драматычнага, К. Камейша пачынае верш, як бы з крыху нейтральнага, але, на самай справе, вельмі патрэбнага і абавязковага: «Ён (дзед. — **В. М.**) не дажыў чатыры ранкі да весняга кування, зусім не страшны быў яго апошні сон. Прачнуўся — ў вёсцы кавалі чаромсе цвет кавалі, і серабрыўся на бярозе сок». Не будзем гадаць, падслухаў паэт вось гэту паэтычную знаходку «кавалі чаромсе цвет кавалі» сярод мясцовых байдуноў і знатакоў народнага слова ці шчасліва адшукаў сам, але яна так высвечвае і падсвечвае трагічную карціну смерці старога, што без яе нельга і ўявіць верш. Зрэшты, пра смерць у ім гаворыцца неяк ускосна, паэт як усё роўна абмінае яе, прытрымліваецца вядомай народнай завядзёнкі: пры нябожчыку не гаварыць пра нябожчыка. Калі ж даводзіцца пакласці нейкі штрышок, то ён робіць гэта надзвычай асцярожна і абачліва, каб не парушыць агульнага малюнка і не ўнесці ў яго непатрэбнага дысанансу. Ці не таму ён і гаворыць: «Бы кропля дажджавая, дзедаў позірк навечна затрымаўся на акне». Здаецца, ніхто яшчэ да маладога паэта не параўноўваў позірк з дажджавой кропляй, якая затрымалася на акне. Тут аўтар паяднаў у адно цэлае

абстрактнае з прадметным і рэальным, атрымліваючы выдатны сімбіёз, супраць якога не маглі запратэставаць нават самыя адпетыя артадоксы. Чаму? Настолькі ўмела і па-майстэрску зроблена метафара. Але справа не ў гэтым. Успрыманне смерці старога пададзена праз успрыманне вясковага хлапчука, у чыё жыццё і памяць гэтая з’ява ўварвалася і пакінула пэўную адмеціну. І галоўнае — смерць дзеда не стала нечым такім трагічным, пасля чаго не хочацца жыць. Не! Смерць дзеда служыць кантрапунктам, супрацьпастаўленнем таму, што адбываецца ў прыродзе. На змену зіме прыходзіць вясна. Прыход яе паэт паказвае размашыста, выкарыстоўваючы густыя акварэльныя фарбы і гіпербалу: «На Нёмане вясна грымела недзе, ішоў да мора пушчай крыгалом». Значыць, жыццё брала сваё. Цікава і тое, што паэт не пакідае ў вершы незавершаных абрыўкаў і канцоў. Ён завязвае іх у вузлы. Напрыклад, зязюлю, да спявання якой дзед не дажыў «чатыры ранкі», пачуў хлапчук. І «хацеў спачатку ад яе ўцячы, яна прасілася, як хітрая цыганка, гады… шчаслівыя лічыць». Не забыў К. Камейша і пра позірк дзеда, што кропляй «затрымаўся на акне», і думку даводзіць да лагічнага канца: «На шыбіне ў кроплі прамяніцца, ніколі не згасае сіні свет». Робіць гэта паэт без націску і дыдактычных высноў і абагульненняў, што раней служылі працягам некаторых патрыятычных вершаў.

Помніцца, як цёпла сустрэў вершы К. Камейшы і высока ацаніў іх Анатоль Сербантовіч, нястомны шукальнік і адкрывальнік паэтычных імён і талентаў, які, дарэчы будзе сказаць, працуючы ў часопісе «Бярозка», надрукаваў першыя вершы вучаніцы адной з сельскіх школ Піншчыны Я. Янішчыц і прадказаў ёй бліскучае літаратурнае будучае. Прачытаўшы неяк творы К. Камейшы, ён катэгарычна, як гэта рабіў заўсёды, калі быў упэўнены ў сваёй праваце, заявіў, што ў параўнанні з вершамі сваіх равеснікаў, якія вучыліся тады ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, малады паэт на галаву вышэй за іх разам узятых і яго чакае бясспрэчны поспех на паэтычным Алімпе. І не памыліўся адносна таленту і здольнасці свайго малодшага калегі па пяры. Пацвярджэннем гэтаму вершы з першай кніжкі, што, як мы змаглі пераканацца, з годнасцю вытрымалі праверку часам і здольны выклікаць цікавасць і цяпер, пасля таго, як прайшло амаль паўвека з дня іх напісання.

Што паспрыяла іх даўгавечнасці? К. Камейша не проста пісаў вершы, а ўзводзіў з іх творчую хароміну, пашыраючы яе і дбаючы пра ўсё новыя і новыя забудовы і прыбудоўкі, аздабляючы іх не таннымі завітушкамі і бразготкамі, а вылепліваючы неабходныя для агульнага фону гожыя апсіды і пілястры, што надавалі стройнасць, гарманічную суразмерную закончанасць і цэласнасць, а таксама мнагазначнасць і шматфарбнасць будучаму архітэктурнаму ансамблю. Як ніхто з равеснікаў, ён адчуваў павевы свайго імклівага і надзвычай багатага на розныя падзеі часу, улоўліваў яго астматычнае і перанапружанае дыханне і не тое што падладжваўся пад пэўную сітуацыю, а набіраў поўныя грудзі паветра, чуйна рэагаваў на любыя змены і вёў франтальную разведку паэтычных вышыняў, якія трэба было вывучыць, заняць і асвоіць.

Ці трэба гаварыць, што звычайна пасля выхаду ў свет першай кніжкі паэты робяць перапынак ці, як нехта сказаў, бяруць тайм-аўт, каб агледзецца, па-новаму зірнуць на свет, напоўніцца новымі ўражаннямі. Як было з К. Камейшам, невядома. Але, мяркуючы па другой, трэцяй і наступных кніжках, можна ўпэўнена сказаць, што працаваў ён інтэнсіўна і ўпарта, як золаташукальнік, натрапіўшы на сваю залатаносную жылу, асвойваў і пашыраў паэтычную дзялянку. Але ведаючы, а можа, і адчуваючы, што, не знайшоўшы і не выбраўшы адзіна правільнага напрамку ў паэзіі, як і ў жыцці, можна разгубіцца і апынуцца каля разбітага карыта, паэт не кінуўся шукаць казачную жар-птушку дзесьці за сінімі марамі-акіянамі. Ён своечасова зразумеў: самыя каларытныя словы-самацветы, што выпраменьваюць незвычайнае святло ды і сама жар-птушка фантазіі жыве недзе побач, непадалёку ад бацькоўскага кутка, у адвечных прыцемненых і загадкавых гушчарах Налібоцкай пушчы, дзе летам на Івана Купалу цвіце чарадзейная папараць-кветка. Да яго прыйшло

перакананне: каб здзейсніць сваю мару, нельга рваць нітку, што звязвае з роднымі мясцінамі дзяцінства, якія пакінулі ў душы самыя глыбокія ўспаміны пра пушчу. Адчуваючы непарыўную сувязь з родным краем, К. Камейша з годнасцю і на ўвесь голас заявіць: «Я з пушчы прыйшоў, пушчанец. Ад сосен сваіх і бяроз. Прынёс за спіною не ранец, а ранак сунічны прынёс». Сказаць вось так мог толькі той, хто душой і сэрцам прыкіпеў да родных і дарагіх мясцін, без якіх не ўяўляў сваё жыццё. Не забываў паэт і сваіх землякоў, не так ужо і важна было, дзе яны жылі, — у яго родных Малых Навіках або ў суседніх сёлах. Паэт ведаў, што пушчанскія людзі здаўна вызначаліся як знешнімі рысамі, так і душэўнымі якасцямі. І ў першую чаргу — сваёй працавітасцю і тым, што прыносіла гэта працавітасць. З адкрытай любоўю і гордасцю ён гаворыць пра іх: «Багатай парой перадзімнаю і сейбіты і вазакі у кірмашовым прэзідыуме сядзяць сабе, як казакі». Але ў іх позах няма бравады, жадання казырнуць нечым такім, што магло б выклікаць у каго-небудзь здзіўленне ці зайздрасць. Землякі паэта простыя людзі, але не прасцякі. На мякіне іх не правядзеш. Жыццё навучыла ні перад кім не ламаць шапку і не задзіраць галаву, а быць стрыманамі, добразычлівымі і адначасова паводзіць сябе з годнасцю, не прыніжаючы нікога са староннiх. І ў той жа час яны гатовы падзяліцца ўсім тым багаццем, якім узнагародзіла пушча. Мы ўвачавідкі пераконваемся, што землякам паэта ёсць што паказаць, ёсць чым і ганарыцца. Не забываюць яны, як і сам паэт, што сваім багаццем яны абавязаны Налібокам. Ці не таму К. Камейша і гаворыць далей: «Крыляе, шуміць за спіною зялёная пушча, як сцяг». Сказана крыху з ідэалагічнай афарбоўкай, затое адкрыта і шчыра. І галоўнае ў тым, што аўтар падкрэслівае, якое значэнне мае пушча ў жыцці яго землякоў.

Пушчанцы не толькі прывозяць свае дары ў горад, яны могуць шчодра частаваць імі і ў хатняй абстаноўцы. Вось як гаворыць пра гэта паэт: «Накрыты стол у хаце лесніка. Мёд і дзічына. Дык частуйцеся, госці. Даўно, даўно вас гаспадар чакаў, яшчэ, здаецца, з самай маладосці». Гаспадар не толькі можа пачаставаць розным пушчанскім смакоццем, але і паказаць той казачны старажытны дуб, у якім «недзе спіць у камлі шматвяковае рэха. О, калі б яго разбудзіць». У апошнім радку аўтар намякае на тое, якую незлічоную колькасць падзей, гісторый і розных выпадкаў хавае ў сваіх нетрах Налібоцкая пушча!

Ці стане хто здзіўляцца, што як бы ні вадзілі паэта па Налібокам сцежкі-дарожкі, якія б непаўторныя па сваёй прыгажосці мясціны ні паказвалі, яны не маглі не вывесці за межы пушчы да такой станцыі, як Стоўбцы. Паэт не раз бываў тут, прыязджаючы дамоў і ад'язджаючы ў горад. І заўсёды знаходзіў нешта асаблівае, што хвалявала, аб чымсьці гаварыла. Можа, пра тое, што за пяць-шэсць кіламетраў адсюль нарадзіўся народны паэт Беларусі Я. Колас. Пясняр бываў тут, лічыў гэту станцыю роднай. Родная яна і для Камейшы. Яго заўсёды цікавіла тое, што робіцца на ёй, дзе «кожны дзень, як прыпынак», і адначасова «запацелыя шыбкі зноўку грукат трасе. І шыбуе так шыбкі, аж жахаюцца ўсе». Звярніце ўвагу, колькі ў радках экспрэсіі і ўнутранага напружання, якія перадаюцца праз інтанацыю верша. Умела выкарыстоўвае аўтар і супрацьпастаўленне, якое дае пэўную падсветку сказанаму, пашыраючы яго сэнс. «Што мне свет наш вялікі, без маленькай цябе!» — усклікае К. Камейша, маючы на ўвазе станцыю Стоўбцы.

Прачытаўшы гэткія радкі, можна падумаць, што аўтар па выразе Маякоўскага, «упіраецца ў сваё карыта», ухваляе і адстойвае нешта вузкаасабістае, і яму трэба параіць, як гэта рабіў у адным са сваіх вершаў Я. Колас: «Змяні свой вузенькі настрой на шырыню людскіх настрояў!» Але хіба цераз вось гэта вузкае і асабістае паэт не выходзіць на больш шырокае і маштабнае?! Хіба не на такіх вось станцыях, як Стоўбцы, на блізкіх і аддаленых ад яе сёлах і вёсках трымалася і трымаецца ўся наша рэспубліка?!

Але як паэту ні хацелася б затрымацца на роднай станцыі, адвесці душу прыемнымі ўспамінамі, трэба развітвацца. І ён у роздуме гаворыць: «Расстаёмся… Зноў дарога. Што ж рабіць, зямны я госць. І ў расстанні ненадоўга той заўсёды

смутак ёсць». Канечне, чалавек, відаць, і народжаны дзеля таго, каб ездзіць, а не сядзець на адным месцы сіднем, абрастаць мохам. А што цягне паэта ў дарогу? «Проста клічуць крылы, рэкі. Ці ж замкнеш жыццёвы круг? Проста сутнасць чалавека — рух і рух, заўсёды рух!»

Рух, безумоўна, добрая справа. Але кожны павінен добра ведаць, куды ён едзе і дзе яму трэба сысці. Пэўна, не проста так дакарае сябе герой К. Камейшы: «Не на той я станцыі сышоў, а цягнік кудысьці ў ноч памчаўся». Герою паэта прыкра ад такой недарэчнасці. Таму ён і паўтарае для сябе, як словы малітвы: «Мне на тую трэба, на сваю, хай сабе ніхто там не чакае». Што ж, у жыцці бывае ўсялякае. Такая ўжо доля вандроўніка. Ён прывык да прыгод і ведае: «Заўтра зноў мяне разбудзяць новы дзень і новы шлях».

А пакуль дарога вядзе паэта ў раённую гасцініцу, дзе яму трэба пераначаваць. І начуе, пэўна, не ўпершыню, калі прызнаецца: «Паважаю за гасціннасць, за павагу да гасцей гэты домік з цёсу, з цішы, чатырох сасновых сцен». Паэт пачувае сябе хораша і камфортна. Ён прывык да падарожжаў. У гасцініцы з цікавасцю прыглядваецца да абстаноўкі і суседзяў. І робіць нечаканае для сябе адкрыццё: «Забываеш на адлегласць, на падушках пухавых, вёска з горадам прылегла галава да галавы». Гаворка ідзе не пра нейкую выпадковую сустрэчу вясковых жыхароў з раённай гасцініцай, а пра блізкае суседства вёскі і горада. Гэта вось своеасаблівае разуменне вёскі і горада выклікае пэўную цікавасць, па-свойму інтрыгуе чытачоў. Скупа сведчыць аўтар і пра сябе: «Хвалім ложак і падушкі, мы асвоіліся ўжо, хоць з другога краю — птушкі у шпакоўніцы чужой». Два апошнія радкі ўносяць у верш элемент загадкавасці і таямнічасці. Іх гучанне прыкметна ўзмацняецца, калі паэт гаворыць штосьці незвычайнае і ў некаторай ступені дзіўнае: «Сон вартуе нам жанчына. Лёгка з вартаю такой. А ў вачах такі спакой, аж спакой мяне пакінуў». Чым жа заваражыла жанчына прыезджага паэта? А тымі рысамі, што характэрны для гераінь фальклорных твораў — казак і легенд. Жанчына: «Вяжа сыну рукавіцы, вяжа ноч і вяжа дзень». Гэта гаворыцца пра жанчыну-адміністратара, а перад нашымі вачамі паўстае Васіліса Прыгожая ці Папялушка.

А ў радку «вяжа ноч і вяжа дзень» хутчэй за ўсё — не пра час, які руплівка-майстрыха траціць на вязанне рукавіц, а пра тое, што яна вяжа, нітуе ў адно цэлае дзве паловы сутак — ноч і дзень. І гэта паглыбляе, робіць больш ёмістым і маштабным у мастацкіх адносінах паэтычны вобраз. Разам з гэтым у верш упляталоцца ўсё новыя і новыя дэталі: «У руках гуляе спіца, як на шыбіне прамень». Ствараецца ўражанне, што паэт трапіў не ў гасцініцу, а ў казачны дамок-церамок, у якім сядзіць царыца-чараўніца, цягне-прадзе бясконцую кужэльную нітку з валакністай кудзелі… У канцы верша ўрачыста-ўзвышаным акордам у гэтым паэтычным скерца гучыць аўтарскае прызнанне і здзіўленне: «Я сачыў за спіцай доўга… Як звязаць яна змагла і людзей і іх трывогі вузялком адным жытла?»

Прачытаўшы радкі, пранікаешся павагай да жанчыны-чараўніцы і яе занятку — вязання. К. Камейша ўмее гаварыць проста і даходліва, выкарыстоўваючы матывы вуснай народнай твочасці. Гэта дзіўнае багацце маецца ў вершы, які ўяўляе сабой скразную, шырока разгорнутую метафару і з'яўляецца адным з лепшых твораў паэта. Прывядзём яго поўнасцю:

— Што там чутна?
— Чуцен звон…
Значыць, едзем, дабрадзею.
Шасцярык будзённых дзён
Цягне лёгкую Нядзелю.

А не ўлегцы едзем мы —
Едуць справы,
Едуць рэчы.
Ад вясны і да зімы,
Ад сустрэчы — да сустрэчы.

І за намі, і ля нас
Едзе люд многагалосы.
Нам аднойчы мудры час
Прыпісаў усім калёсы.

Едзем, гонім сон з павек
І кагосьці абганяем.
Калі добры чалавек,
Дык сядай, паедзем з намі.

Падвязём, віна нальём
І яшчэ пакажам, дом дзе.
Толькі праўду падвязём,
А хлусня і пешшу дойдзе.

Верш, здаецца, напісаны на адным дыханні. І мы, як наяве, бачым не прывычную для нас запрэжаную ў аглоблі «рускую тройку», а «шасцярык будзённых дзён», які «цягне лёгкую Нядзелю». Вось дзе праявілася эстэтычная грацыёзнасць і гарманічная закончанасць формы, мастацкае майстэрства! Абстрактнае паняцце — «шасцярык будзённых дзён», які «цягне лёгкую Нядзелю», набывае канкрэтныя рысы, ажывае, і дні робяцца рэальнымі фігурантамі. Мы, здаецца, на самай справе бачым гэту дзіўную шасцёрку, запрэжаную ў казачную карэту, у якой едзе Яе Вялікасць панна «Нядзеля». Удала пераасэнсоўваючы ўсе сем дзён тыдня, як гэта нярэдка робіцца ў фальклоры, аўтар дае нам шырокую магчымасць паглядзець на іх, і ўспрыняць у нейкім незвычайным, амаль чараўнічым святле, і ў захапленні парадавацца — вось у якое золата можа перарабіць паэзія самыя звычайныя і празаічныя рэчы і з’явы. Здаецца, адной гэтай метафары было б дастаткова для таго, каб верш заззяў усімі колерамі вясёлкі, прыцягваючы да сябе пільную ўвагу чытачоў. Але К. Камейша не спыняецца на гэтым, развівае метафару, дадае новыя дэталі і падрабязнасці, каб карціна атрымалася больш разнастайнай і маштабнай, па-акварэльнаму маляўнічай і давала больш яркае ўяўленне пра «шасцярык будзённых дзён», праехацца на якім паэт запрашае ўсіх: «Калі добры чалавек, дык сядай, паедзем з намі». Па-народнаму мудра, коратка і мнагазначна заканчваецца верш: «Толькі праўду падвязём, а хлусня і пешшу дойдзе». Па сутнасці атрымаўся афарыстычны выраз. У ім рэальнае і казачнае цесна зліваюцца і пераплятаюцца паміж сабой. І яшчэ хочацца дадаць, што падобныя вершы нараджаюцца ў хвіліны душэўнага пад’ёму і творчага азарэння, калі радкі самі бягуць і кладуцца на паперу, абганяючы адзін аднаго, быццам іх хтосьці дыктуе, маўляў, паспявай толькі запісваць!

У Казіміра Камейшы, як і ў кожнага значнага паэта, маецца свой непаўторны ўнутраны свет, які можна параўнаць з мацерыком або архіпелагам. І наўрад ці памылімся, калі скажам, што ў яго душы пасля родных Налібокаў яшчэ адным захапленнем і любоўю з’яўляецца дарога, якая «пятляла і кружыла» не толькі па нашай рэспубліцы, але і за яе межамі, дабягала і зазірала ў самыя аддаленыя куткі былога Саюза. Яна вяла, напрыклад, у Літву, але не так, як абыякавага падарожніка і разяваку, а як чалавека, які цікавіцца мінулым Вільнюса, дзе «можна ў вечнасць і можна ў мінулае глянуць з чырвонай гары Гедыміна». Спрыяла дарога і таму, што ў Львове паэт змог наведаць выстаўку гадзіннікаў, якія былі «то з аваднёва вочка, то велічынёй з вясковы зруб». І што яны толькі ні рабілі: «Той зязюлі з дзверцаў выпускае, гэты сам распальвае камін. А з таго рачулка выплывае, і бяжыць, і нават круціць млын». Не меншыя дзівосы паказвае дарога, кіруючы «на возера Рыца», дзе аўтар адчувае, як «сціскаецца свет каменным мехам. І ўжо не да смеху. Становіцца дрэва дрэву на плечы: што там цікава? А што, калі вечнасць?» Удзячны паэт і дарозе, якая прывяла на Каўказ, дзе яго адразу вядуць за сяброўскае застолле, багатае на гасціннасць, дасціпныя тосты, весялосць і задушэўныя песні. Дык вось паэту трэба было перад тым, як узняць келіх, не проста сказаць

тост, а праспяваць песню. І Камейша пытаецца ў сябе: «Сыну лясной і азёрнай зямлі, што праспяваць мне пра горы?» І, безумоўна, знаходзіць выйсце: «Я заспяваў ім пра пушчы свае, я заспяваў ім пра рэкі, так, як пастух наш пушчанскі пяе, будзячы ранняе рэха». Здавалася б, складваецца сітуацыя не на карысць госця. Але выручаюць гаспадары: «Вып'ем, — крычалі яны, — за яго — гэтак пра горы удала!» А ўслед за гэтым патлумачылі: «Ты, генацвале, пра дружбу спяваў. Дружба — гара, генацвале!» І нельга ўтрымацца, каб не працытаваць радкі пра дружбу. Вось яны: «Кінеш усмешку — усмешка ляціць маладзіком да Каўказа… Кінеш папаху — папаха ляціць на галаву беларуса». Ці не таму з гумарам, ад якога светлее на душы, паэт і заканчвае верш: «Келіхі мы да Каўказа ўзнялі і усміхнуліся зорам. Сыну лясной і азёрнай зямлі лёгка пяецца пра горы». І ў душы чытачоў нараджаецца гордасць за своеасаблівы экзамен, які паэт з годнасцю вытрымаў у гасцях.

Але ў якую б далячынь ні бегла і ні заводзіла паэта дарога, кожны раз яна стрымгалоў ляцела назад, вярталася ў Налібоцкую пушчу, каб пабыць сярод векавечных дубоў і клёнаў, выносістых сосен і кашлатых ялін, перавесці дыханне і, набраўшыся новых сіл, зноў пусціцца ў белы свет. І паэт зноў бачыць вострым зрокам не толькі тое, што сустракае, але яшчэ і нараджаецца ў душы, ацэньвае ўласныя ўчынкі. Вось ён падвозіць «маладых грыбнікоў да Бярозы» і заўважае, што «парожне ў кашах, а ў вачах — весела». Чаму? Магчыма, гэтыя маладыя людзі ездзілі не столькі ў грыбы, колькі па тое шчасце, якое хвалюе ў юнацкім узросце. А далей кантрастнае і не вельмі суцяшальнае: «Сустрэлася рэчка, не рэчка, а слёзы». Безумоўна, гаворка ідзе пра меліярацыю, гэты ўсюдысісны спрут, што калісьці ледзь не пусціў на згубу ўсе нашы рэчкі і крыніцы. А ўслед за гэтым — амаль неверагоднае: «Пчалу яшчэ стрэў і падумаў цвяроза: якую ж хоць ношку праз дзень свой нясём мы?» Пабачыць пчалу з легкавушкі ды яшчэ на ладнай хуткасці — не кожны зможа. Чытачы здагадваюцца, што гэта паэтычны прыём.

Але дарога не заўсёды бывае той дарогай, па якой мы прывыклі ездзіць і падарожнічаць. Дарога — гэта яшчэ і нядаўняе мінулае з рэзкімі, тады-сяды нечаканымі і крутымі паваротамі, дзе здараліся драматычныя выпадкі. І хаця аўтар гаворыць пра звычайную дарогу, што «з Магілёва ляціць, як пяе…», яна асацыіруецца з апошнім дзесяцігоддзем былога Саюза, кіданнем з аднаго боку ў другі, развалам дзяржавы і «парадам» суверэнітэтаў рэспублік. Што тычыцца верша, то гаворка вядзецца ў ім на бытавым узроўні і фактах. Напрыклад, мы даведваемся пра злашчасны паварот: «Цешчын язык» — так жартуюць мужчыны, «зяцеў гарляк» — так жартуюць жанкі. Што і казаць, не вельмі прыемная характарыстыка, але затое каларытная і дакладная, і адпавядае характару тых, хто іх агучвае.

Над якімі б прорвамі і паваротамі ні ляцела дарога паэта, ён помніць той час і хвіліну, калі яна спынілася на адной з вуліц і не проста так. Паэт прызнаецца: «Заначаваў і я аднойчы ў ціхім доме над ракой. Там быў з утульнасцю дзявочай, з вазоннай цішаю спакой». Пра што ў вершы далей? Канечне, пра каханне, якое зведаў калісьці лірычны герой. Але гэта хутчэй адчуванне шкадавання пасля таго, што адбылося паміж закаханымі. З горкай усмешкай лірычны герой заўважае: «І на прапісцы салаўёвай жыве другі залётны птах». Штосьці рамансавае і вабнае маецца і ў радках іншага верша: «…Я выпадкова стрэў яе ў акне. Іконаю акно здалося мне. За шыбаю стаю і дзень і ноч. Распяццем стала мне акно даўно. Вы кіньце промень позірку свайго, мне хопіць, каб да вас прыйсці, яго». Пачуццё любві ў творах К. Камейшы цнатлівае і чыстае, як крынічная вада. У ім няма і намёку на грубасць, эротыку. Трэба сказаць, што ўсе дарогі праходзяць праз сэрца паэта. І кожная з іх лучыцца з жыццёвай дарогай. І тады дзве дарогі ідуць у адным кірунку, дзе паэта чакае родны куток: «І ў вішняку, каля сіняга дома, спыняецца стома мая падсвядома». Тут ёсць і «каменны бог», якому гатоў маліцца і кланяцца К. Камейша, таму што гэты бог — калодзеж, з якога можна прагнаць смагу. З

любоўю і замілаваннем гаворыць паэт пра вядзерца, якое, каб зачэрпнуць вады «ляцела… недзе планеце пад самае сэрца». Такія каларытныя вобразы не ляжаць на паверхні. Аўтар здабываў іх з артэзіянскіх глыбінь уласнай душы, каб парадавацца самому і парадаваць іншых.

Гэтыя знаходкі сведчаць пра талент К. Камейшы. І, канечне, нельга не сказаць пра тое, што жывіць гэты талент роднае сяло, куды ён і імкнецца: «Ды вось і грузавік — мой спадарожнік. Давай, браток, кіруй у Навікі!» Аўтар гэтулькі разоў звяртаўся да сваёй вёскі, што нам хочацца даведацца: што ўяўляюць сабой Малыя Навікі? Ды гэта звычайная пушчанская вёска, і, як сведчыць К. Камейша: «Не сустрэнеш тут дзівос». Можа, таму ніхто «на карту, на шматвёрстку, гэту вёску не занёс». На пытанне сяброў, якія прыязджаюць разам з ім у вёску: «Чаму гэтак ціха ў тваіх Навіках?» — паэт адказвае ахвотна і дасціпна: «Ды люд у нас ціхі між лесу узрос… І ціхія прозвішчы — Ціханы скрозь, ціхоні усюды, ціхоні».

Але дзіва дзіўнае, хаця гэта сяло і не занесена на карту-шматвёрстку, тым не менш яно падказала паэту столькі тэм, дало столькі вобразаў, лірычных герояў, што наўрад ці справіўся б з гэтым і раённы гарадок. Помніцца, як аднойчы К. Чукоўскі сказаў пра герояў А. Чэхава, што, калі б яны высыпалі са старонак яго кніг на гарадскую плошчу, то запоўнілі б яе да краёў. Нешта падобнае можна сказаць і пра герояў К. Камейшы. Іх столькі ў яго паэтычных кнігах, што з іх можна было б арганізаваць не адну рыбалавецкую брыгаду ці арцель на тым самым налібоцкім возеры Кромань, якое сінее ў яго радках. Лірычныя героі паэта — людзі з мазолістымі рукамі, са шчодрай душой, сярод якіх ёсць і такія прызнаныя сельскія інтэлігенты, як пчалаводы, садаводы, мясцовыя лекары і, канечне, бацька і маці паэта. Іменна пра бацькоў, сваіх аднасяльчан і многіх іншых К. Камейша і напісаў самую лепшую сваю паэму, якую назваў «Галоўная вярста».

Калі гаварыць пра форму паэмы, то яна не мае выразнага сюжэта, які бывае ў класічных творах гэтага жанру. Паэма складаецца з асобных карцінак, накідаў, эцюдаў і фрэсак, не звязаных паміж сабой дзеяннем, а толькі месцам, дзе адбываецца тая ці іншая падзея. Першы раздзел паэмы — гэта своеасаблівы ўступ і адначасова развага пра пушчу, куды вядзе дарога, успаміны пра каларытную фігуру — роднага дзядулю, які «шмат па свеце калясіў. Быў маракам і проста быў бадзягам. А лёс вярнуў у родныя лясы, у пушчы толькі наталіў ён смагу». Гэты персанаж цікавы не толькі біяграфіяй, характарам, але і тым, што ён як бы дапаўняе вобраз самога аўтара, ад імені якога вядзецца аповед. Умела выкарыстоўвае паэт аўтарскія адступленні, звароты да чытачоў: «Мяне аднойчы крытык папракнуў, што ў вершах у мяне дарог замнога». І не прамінае выпадку, каб сказаць патрэбнае: «Але жыццё само — і ёсць дарога».

У кожным раздзеле паэмы з'яўляюцца ўсё новыя і новыя персанажы. У хату заходзяць госці з раёна, і адзін з іх папракае дзеда Радзівона: «Как же так — изба в избу с тобой живет кулак?» Іх змяняе цыганка і прадказвае па руцэ лёс дзіцяці: «Сынок, дарогі тры табе даў Бог, адзін павінен ты прайсці за трох. Сальюцца леты, годы прамінуць, сальюцца тры дарогі у адну. Далёка недзе за лясамі там, сынок, твая галоўная вярста…»

Паэт шмат разоў будзе звяртацца да гэтай галоўнай вярсты, тлумачыць, што значыць яна для яго. Апрача галоўнай вярсты маецца ў яго і галоўная дарога. Дарогу і галоўную вярсту ён паказвае ў розных іпастасях. Дарога «была натруджана, як трос, нацягнута магутнымі рукамі між сэрцамі людзей і між вякамі». І ў нейкі міг паэт адчуў, што яго «струна ў тым тросе зазвінела. Аж стракаталі сосны уваччу, мая вярста галоўная ляцела». Тут не канстатацыя факта, а захапленне адкрыццём сваёй галоўнай дарогі і вярсты, пра якія будзе ўспамінаць усюды.

Што тычыцца сустрэчы з прыезджым геолагам, то карціна атрымліваецца кідкая і ўражлівая. Геолаг аблазіў наваколле і не мог адшукаць рэчку, пазначаную на карце. На пытанне: «Куда она запропастилась? Может, ее и вовсе не было в этих местах?» — мясцовы пастух адказвае: «Чаму ж, была…

Во й мост застаўся. Кідала рыбку ў нераты. Ды скуль аднойчы госць узяўся такі вось точна, як і ты. Прыехаў ён такім жа часам, прытупаў пеша ад шашы. Ён асушыў спачатку чарку, а потым рэчку асушыў». Прачытаеш і бачыш перад сабой не дзеда-жартаўніка, падобнага да шолахаўскага Шчукара, а выкрывальніка службоўцаў-кар'ерыстаў, якія дзеля таго, каб пралезці ўверх, гатовы былі не толькі знішчаць рэчкі і нізіны, а зрабіць і большае злачынства. Пад канец размовы гумарыстычныя ноткі пераходзяць у адкрыты сарказм з боку паэта: «І кропкай нашае размовы дзесь браканьера грымнуў стрэл».

К. Камейша і другі раз звяртаецца да крытыка, але не з дакорам, а з тлумачэннем: «Даруй, мой крытык, строга не судзі, што доўга йшоў я. Пэўна, колькі можна. Я ведаю, табе не дагадзіў, ды за сабой хоць крыху павадзіў, каб не таптаўся ты на раздарожжы». Не забывае паэт напрыканцы паэмы і пра галоўную вярсту на многакіламетровай дарозе. Ён просіць, нібы заклінае: «Ляці, мая галоўная, ляці, я не хачу, каб ты адпачывала». Безумоўна, з галоўнай вярстой атаясамліваецца ўсё тое лепшае і светлае, што маецца ў кожнага з нас, і ў першую чаргу: душэўная чысціня, гатоўнасць дзеля агульнага шчасця ахвяраваць асабістымі інтарэсамі, чужы боль успрымаць, як свой уласны, мэтанакіраванасць, прага пошукаў і адкрыццяў… Ці не таму ў канцы паэмы творца мнагазначна заўважае: «Пражытае не вымераць гадамі, пражытае я мераю вярстой». Безумоўна, не звычайнай, а той, якую аўтар і называе «галоўнай».

На гэтым гаворку пра творчасць К. Камейшы можна было б і скончыць, калі б не кніга «Паміж кубкам і вуснамі», якая мае падзагаловак «Проза паэта». Калі падыходзіць фармальна, то пад адну вокладку К. Камейша сабраў дзённікавыя запісы, як гэта рабілі і робяць некаторыя творцы. Але яго кніга выгодна вылучаецца сярод такой прадукцыі. Знаёмячыся з прозай паэта, можна ўвачавідкі пераканацца, што яна не падобна да звычайных запісаў. Эцюды і карцінкі, імпрэсіі і замалёўкі, навелы і прытчы, абразкі і накіды з'явіліся па той прычыне, што некаторыя рэчы і з'явы, крануўшы душу паэта, не «лезлі» ў верш, і ён не мог не занатаваць іх у свой сшытак. Пры гэтым абрабіў з такой ашчаднасцю і стараннем, што ледзь не кожны запіс выглядае маленькай залацінкай і адкрыццём. Па датах, якія стаяць у канцы кнігі, бачна: рабіў запісы К. Камейша на працягу сарака гадоў і, відаць, не для чужога вока. Таму яны атрымаліся такімі шчырымі і непасрэднымі, даверлівымі і спавядальнымі. Знаёмячыся з кнігай, ствараецца такое ўражанне, што аўтар развязаў казачны мех і сыпнуў на яе старонкі гэтулькі розных падзей, фактаў, здарэнняў, выпадкаў, прыпамінаў, жартаў і баек, што нагадваюць дзівосны калейдаскоп з рознакаляровымі малюнкамі, ад якіх, здаецца, закружыцца галава. Але такога не здараецца. Чаму? К. Камейша ведае меру, якая называецца мастацкім чуццём. І самае галоўнае — кароткія, а часам і ладныя па сваім памеры творы настолькі пранізаны паэзіяй, напоўнены мастацкімі знаходкамі, моўнай навізной і свежасцю, што чытачы проста купаюцца ва ўсёй гэтай раскошы і багацці, — здаецца, калі б ударыў гром, яны ўсё роўна не адарваліся б ад чытва! Зрэшты, паэт настолькі ўдала размясціў мініяцюры, імпрэсіі і абразкі, што мы, здаецца, увесь час падымаемся кудысьці ўгору і перад нашымі вачамі адкрываюцца ўсё новыя і новыя краявіды з неверагоднымі таямніцамі і дзівосамі. Нельга не здзівіцца чэпкай памяці К. Камейшы, якая трымае ў сабе нейкія такія рысы і рыскі з далёкага дзяцінства, што здольны заінтрыгаваць і нас, чытачоў, людзей, як кажуць, нейкім чынам пабочных.

Цікавая ў гэтых адносінах замалёўка «Кругловіна», якой, дарэчы, пачынаецца кніга. Кругловіна — гэта месца на ўзбалотку, дзе калісьці аднавяскоўцы паэта капалі торф на ўгнаенне і вывозілі на поле. Дарэчы, такое рабілася па ўсёй рэспубліцы. Гэтым вось штрышком і яшчэ згадкай пра «мацапураўскія» плугі аўтар пазначае час, калі ўсё гэта адбывалася. Узнаўляючы акварэльныя карціны прыроды, гаворыць паэт і пра іншыя рэчы, напрыклад, пра рыдлёўку. І робіць гэта настолькі ярка і вобразна, што проза нагадвае радкі верша: «Вось дзе ўжо

каму хапіла за жыццё — рыдлёўцы. Ёй — і студню, ёй — і граду, і звычайную яму пад шуло… і, на жаль, — тую ж магілу, дол. Але дзе, якая прылада ў сялянскім жыцці была гультайкай?!» Нельга не сказаць, што такое «адступленне» не адцягвае нашай увагі ад галоўнага, пра што гаворыцца ў замалёўцы. Яно арганічна ўплятаецца ў агульную карціну, якую малюе аўтар. На тым месцы, дзе капалі торф, з'явіліся ямы, што пасля дажджоў сталі сажалкамі. Адну з іх аблюбавала дзетвара: летам купалася, а ўзімку каталася на каньках, калі яна замярзала. Райскае месца! Ды хтосьці ўтапіў у сажалцы кацянят, і гэта адпрэчыла ад яе хлапчукоў. Аўтар са шкадаваннем канстатуе, што цяпер кругловіна зарасла разнатраўем і здрыгвянела. А яе можна было б паказваць прыезджым як музейную рэдкасць. Можа, тут аўтар крыху перабірае меру. А што да замалёўкі, то яна запамінаецца і робіць пэўнае ўражанне.

А ўслед ідзе драматычны аповед пра тое, як ваенныя прывезлі ў вёску і пахавалі хлопца, які служыў у арміі і загінуў падчас вучэнняў. Адразу і помнік паставілі. А на Вялікдзень малодшы брат пайшоў ускладаць кветкі, і, як толькі ступіў за агароджу, дол пайшоў уніз, а помнік паплыў на яго. Выявілася, што зямля не паспела асесці, а таму і адбылося такое жудаснае здарэнне, падобнае на фантасмагорыю. Здавалася б, факт, падобны на страшылку. Але паэт падаў яго так, што аповед выглядае як драматычны абразок. Побач з такімі творамі ў кнізе гаворыцца як пра трагічныя выпадкі, так і пра смешныя і анекдатычныя здарэнні, напрыклад, пра кашалёк з грашамі, што выпаў з кішэні камандзіровачнага ў прыбіральні і якім спосабам давялося яго даставаць.

Трэба сказаць, што ўбачанае, перажытае ці пачутае К. Камейша перарабляе, дадае сваё, уласнае. Так было і са здарэннем, што адбылося з С. Гаўрусёвым, калі ён вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Паэт працаваў над паэмай пра Леніна і, каб больш натхніцца, узяў таксі і пачаў кружыць вакол Крамля. Яго затрымалі людзі ў пагонах і запатрабавалі тлумачэння. У абразку К. Камейшы атрымліваецца крыху інакш: паэт шукае на Краснай плошчы рыфму, і яна настолькі цяжка даецца яму, што міліцыянер вымушаны зацікавіцца яго асобай. Далей К. Камейша дадае ад сябе, што рыфму лепш за ўсё шукаць у Налібоцкай пушчы. Там ніхто не перашкодзіць творцу ды і рыфму знойдзе выдатную! Гэта яскравы прыклад, як пад пяром паэта звычайнае здарэнне набывае крылы і становіцца арыгінальным мастацкім творам.

Такога кшталту творы нагадваюць шарыкі ртуці, якія пры першай магчымасці разбягаюцца ў розныя бакі. Чаму гэткага не здараецца з мініяцюрамі і іншымі «карацелькамі» кнігі? У ёй, здаецца, маецца нейкая цэнтрабежная сіла, што ўзнікае пры раскручванні цэнтрыфугі. Але яна не толькі не дазваляе творам «разляцецца» куды папала, наадварот, дапамагае ўтрымацца ім каля нябачнай восі і працаваць на агульную задуму, у аснове якой — жыццяпіс неардынарнай асобы, а калі канкрэтна — паэта К. Камейшы. І не аднаго, а яшчэ калег па пяры, землякоў і ўсіх тых, з кім яму давялося сустракацца, мець нейкія справы. Аўтару ўдалося нейкім чынам сфакусіраваць, сабраць у адно цэлае і сцэментаваць агульнай задумай, здавалася б, самыя розныя па сваім прызначэнні і дыяпазоне гучання падзеі і з'явы і зрабіць так, што яны ўяўляюць сабой адно мастацкае палатно. І калі на нейкае імгненне прыўзняцца над ім — перад намі адкрыецца агромністая мазаічная панарама нашага штодзённага жыцця з усімі яго падрабязнасцямі і ва ўсіх праявах, з жудаснымі здарэннямі і штодзённым побытам сучаснікаў, інтэлігентаў і простых працаўнікоў. І што асабліва важна, — можна адчуць гарачае дыханне нашага няпростага веку і самой гісторыі. Кнігу К. Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі» трэба разглядаць як своеасаблівую энцыклапедыю, у якой знайшла месца не толькі жывапісная і маляўнічая прырода, але традыцыі, звычкі і звычаі, што беражліва захоўваюцца на працягу вякоў, душа вясковых людзей, іх гумар, уменне з годнасцю выходзіць са складаных сітуацый, а таксама адвечнае імкненне да праўды і справядлівасці. Пэўна, усе гэтыя кампаненты, узятыя разам, дапамаглі

пазбегнуць у кнізе сюжэтнай аморфнасці і рыхласці. Чытаючы зацемкі, ствараецца ўражанне, што паміж імі існуе цесная ўнутраная повязь, што і лучыць іх у адзін буйны твор, які можна назваць раманам альбо сагай. У кожным з іх маецца інтанацыйная рытміка, але не штучная, як гэта бывае ў некаторых аўтараў. Разнастайнасць яе залежыць ад таго, пра што ў кожным з іх ідзе гаворка.

Умее К. Камейша слухаць дзяцей, у пераважнай большасці ўнучку, як яна ўспрымае гэты свет, як глядзіць на яго даверлівымі і шчырымі вачамі, як ацэньвае тое, што робяць старэйшыя і чаму вучаць.

Аўтар не толькі свабодна валодае мастацкім словам, але і ўмее гнуць яго, як падкову, камячыць, як падатлівую гліну, надаваць яму патрэбную форму, афарбоўку і адценні. І робіць гэта неяк лёгка, без гвалту і сіламоцця. Часам паэт здольны павярнуць слова так, што яно, здаецца, набывае новы сэнс і новае значэнне. У творах можна знайсці россыпы моўных залацінак і алмазаў, слоў-наватвораў. Вось некаторыя з іх: «разбежжа», «густатраўе», «звадзянелы», «падцяжараны», «прыснежаны», «кружна», «ласунковасць», «піцаваць», «кісліць», «свінабацька», «залампашаны», «звабы», «наплыццё», «дрэвасмалы», «струкаваты», «бескароўе». Такіх свежых і каларытных слоў можна прывесці безліч. Яны не толькі ўзбагачаюць мову паэта, але і дапамагаюць яму больш ярка і даходліва ўзнавіць падзею, перадаць асобныя н'юансы і тонкасці якой-небудзь карцінкі.

Як праз павелічальнае шкло ці бінокль, К. Камейша адкрывае перад намі агромністы свет, з яго разнастайным ландшафтам, фаўнай і флорай, рознымі прыроднымі катаклізмамі, якія то бушуюць, то заціхаюць, напамінаючы пра жыццё, якім мы павінны даражыць і адначасова берагчы. Паэт імкнецца ўбачыць і асэнсаваць падзеі, няхай сабе і не планетарнага маштабу, а нейкага лакальнага характару, але пад такім вуглом, што адразу бачна: ад іх залежыць вельмі многае. Родная вёска і бацькоўская хата, аднасяльчане, Налібоцкая пушча, карміцелька і дарадца навакольных жыхароў, — былі і застаюцца не толькі надзейным апірышчам паэта, але і тымі арыенцірамі, на якія ён раўняецца і правярае свой азімут, адкуль вядзе адлік жыццёвым вёрстам, дзе бруяць крыніцы, з якіх суджана яму чэрпаць поўнымі прыгаршчамі натхненне, тэмы і задумы для новых твораў. І гэтага багацця, трэба спадзявацца, Казіміру Камейшу хопіць для творчасці на многія і многія гады.



**Вольга БРЫЛОН**

# КОЖНАЯ ПРЭМ’ЕРА — ПАДЗЕЯ ВЯЛІКАЙ ЗНАЧНАСЦІ*

## ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

**Рок-опера Уладзіміра МУЛЯВІНА «Песня пра долю» паводле паэмы Янкі Купалы «Адвечная песня»**

**Харэаграфія, пастаноўка — Ларыса СІМАКОВІЧ.**
**Лібрэта — Валерый ЯШКІН.**

**Дзеючыя асобы і выканаўцы:**

*Янка Купала — Пётр Ялфімаў.*

*Мужык — Ян Жанчак.*

*Маці, Жонка — салістка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Кацярына Дзегцярова.*

*Поры года, Цені:*

*Вясна, Голад — Ягор Алесіюк,*

*Лета, Холад — Андрусь Данілевіч,*

*Восень, Доля — Сяргей Савіцкі,*

*Зіма, Бяда — саліст Белдзяржфілармоніі Уладзіслаў Даніловіч.*

*Жыццё — мужчынская група Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Рэспублікі Беларусь імя Р. Шырмы (хормайстар — Павел Сопат).*

*Фальклор-тэатр «Госціца», мастацкі кіраўнік — Ларыса Сімаковіч.*

*Рэканструкцыя партытуры, аркестроўка — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Аляксандр Крамко.*

*Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, прафесар Міхаіл Казінец.*

*Каардынатар праекта, уступнае слова — Вольга Брылон.*

*Прэм’ера адбылася 19 красавіка 2012 года.*

Хочаце верце, хочаце не, але Казінец не адразу «падпісаўся» на «Песню пра долю». Цяпер ён, можа, і не памятае, як я аднойчы асцярожна загаварыла на гэтую тэму, але ў адказ атрымала катэгарычнае «не». Магчыма, яго насцярожвалі размовы пра тое, што аркестр, маўляў, надта збочыў у эстраду і трэба вяртацца «да вытокаў».

* Працяг. Пачатак у № 10, 2013 г.

Але праз некаторы час, калі ішла падрыхтоўка «Гусляра», папрасіў мяне прынесці яму запіс «Долі». Дыск, неаднаразова праслуханы мною ўздоўж і ўпоперак, ляжаў на маім рабочым стале з тае пары, як у 2008-м яго падараваў мне «пясняр» Анатоль Кашапараў падчас свайго прыезду ў Мінск. Цяпер можна ўпэўнена сказаць: ляжаў нездарма, проста чакаў свайго часу! І дачакаўся. Бо праз дзень Міхаіл Антонавіч прыходзіць, як звычайна, з раніцы ў кабінет, сядае ў сваё «кіраўнічае» крэсла і кажа:

— Будзем рабіць «Долю» да 130-годдзя з дня нараджэння Купалы!

«Песня пра долю»... Амаль 40 гадоў гэтая музыка маўчала. Самы галоўны, самы значны, самы складаны і самы цудоўны твор У. Мулявіна аказаўся літаральна пахаваны адразу ж пасля таго, як быў пракатаны «Песнярамі» ў год прэм’еры па некалькіх гарадах СССР. Мінск—Віцебск—Курск—Арол—Бранск—Ленінград—Масква — такім быў вялікі гастрольны тур «Песні пра долю» з красавіка па ліпень 1976 года.

Потым — яшчэ некалькі паказаў у наступным сезоне (дакладна вядома, што «Доля» дэманстравалася ў Кіеве і Ульянаўску). Вось і ўся сцэнічная геаграфія гэтага твора.

У 1978-м з’явіўся «Гусляр», потым — новыя праграмы, і «Доля» канчаткова сышла з рэпертуару ансамбля. Аказалася — у нябыт.

Дагэтуль незразумела, як і чаму ніхто і ніколі афіцыйна не запісаў гэты твор на тэлебачанні ці на радыё. І гэта пры такой шалёнай папулярнасці «Песняроў»! І гэта пры тым, што напісана «Песня пра долю» на сюжэт Купалы, які пры любых раскладах і ў савецкі час быў культавым паэтам, дый не толькі ў Беларусі! І гэта пры тым, што «Песня пра долю» аказалася адной з самых першых рок-опер у Савецкім Саюзе і заўсёды збірала біткоўвыя залы, калі людзі сядзелі на прыступках і ў праходах! ЯК і ЧАМУ?.. Няма адказаў.

Шчасце, што нейкі невядомы чалавек абсалютна бескарысліва выклаў трансляцыйны аўдыёзапіс «Долі» ў інтэрнэце. Дзякуй яму вялікі за гэта! Дарэчы, як я разумею, дыск, што падараваў мне А. Кашапараў, быў перапісаны менавіта з гэтага запісу. Адшукаць бы таго чалавека і пакланіцца нізка-нізка! Бо нашай пастаноўкай мы абавязаны толькі і выключна гэтаму адзінаму і, без перабольшання, ГІСТАРЫЧНАМУ запісу, які аказаўся даступным для карыстання і захаваў музыку «Песні пра долю» амаль без страт, нягледзячы на ўсю сваю тэхнічную недасканаласць. Пра нотны матэрыял увогуле няма чаго гаварыць. Не засталося нічога! Я ў свой час даволі грунтоўна займалася пошукам нот мулявінскіх аранжыровак, але гэтыя пошукі нічога не далі. Усе музыканты «Песняроў», да якіх я звярталася (Кашапараў, Ткачэнка, Місевіч, Ісупава), у адзін голас сцвярджалі: Мулявін увогуле не пісаў партытуры. На рэпетыцыі кожнаму музыканту ён прыносіў эскізна накіданыя партыі, якія зводзіліся разам і дапрацоўваліся, дашліфоўваліся непасрэдна падчас рэпетыцый.

Ніхто і ніколі не бачыў Мулявіна з партытурнымі фаліянтамі на каленях ці ў руках. Такія «партытуры» ён складаў унутраным слыхам, не запісваючы партыі разам на партытурную паперу, а адразу ж распісваючы гэтыя галасы паасобку. Як я разумею, Мулявін рабіў так для зручнасці і хуткасці, каб максімальна аптымізаваць працэс развучвання твораў. Так было з песнямі, так было і з буйнымі праграмамі. Застаецца загадкай, як пры такім немагчымым метадзе арганізацыі рэпетыцыйнай працы Мулявін ухітраўся падымаць такія глабальныя і працаёмкія творы!

Так што запісу «Песні пра долю» цаны не было! Ён быў зроблены кімсьці з прыхільнікаў «Песняроў» на бытавы пераносны магнітафон падчас аднаго з паказаў «Песні пра долю» проста з залы.

Фольк-рок-опера «Песня пра долю» напісана У. Мулявіным паводле паэмы Я. Купалы «Адвечная песня». Дарэчы, афіцыйна яна пазначалася як «опера-

прытча», бо напісаць словазлучэнне «фольк-опера» ці — жах! — «рок-опера» на праграмцы ў той час было папросту нечувана... Паміж «Доляй» і «Адвечнай песняй» — амаль 70 гадоў розніцы: Купала стварыў паэму ў 1908-м годзе, Мулявін сваю оперу — у 1976-м. Мулявін нездарма абраў «Адвечную песню» ў якасці літаратурнай першакрыніцы. Выбар свядомы і невыпадковы, бо праблематыка «Адвечнай песні» была яму вельмі блізкай і ўвогуле — не згубіла сваёй актуальнасці. У паэме разгортвалася трагедыя маленькага чалавека, простага мужыка, які ўсё жыццё цягне непасільную ношу пакутаў і ў рэшце рэшт гіне ад немагчымасці больш супраціўляцца выпрабаванням.

Па сутнасці, гэта філасофскі роздум пра лёс Беларусі і яе народа, дакладней, аднаго маленькага чалавека, які ўвасабляў гэты пакутны, цёмны, забіты, але незламаны народ. Купала прагнуў для яго лепшай долі, але «шлях да Беларусі» аказаўся сапраўды бясконцым, таму кожнае слова яго вершаў, прасякнутае болем за сваю зямлю, заўсёды знаходзіла і знаходзіць водгук у сэрцах неабыякавых людзей. А Мулявін жа абагаўляў Купалу! З песняй на верш Купалы «Малітва» ён крочыў у вечнасць, узняўшыся да ўсяленскіх вышыняў, і на зыходзе жыцця быццам устаў упоравень з Купалам па маштабе і значнасці ў культуры Беларусі. «Песня пра долю» была адным з першых зваротаў Мулявіна да творчасці Купалы. Вялікі ўклад у працу над гэтым творам зрабіў Валерый Яшкін — адзін з верных саратнікаў Мулявіна па працы ў «Песнярах», можна сказаць, яго правая рука. Яны пазнаёміліся ў 1965 годзе падчас праходжання армейскай службы ў Беларускай ваеннай акрузе. Яшкін увайшоў у першы склад «Песняроў» і быў адным з заснавальнікаў ансамбля разам з Мулявіным.

Валерый Яшкін даволі грунтоўна перапрацаваў паэму Купалы. Ён увёў у канву лібрэта вобраз самога песняра, партыю якога спяваў Мулявін. Купала заставаўся нібы па-за сюжэтам, выступаючы ў ролі апавядальніка, каментатара падзей. Для гэтага Яшкін скарыстаў некаторыя вершы з ранняга перыяду творчасці Купалы, якія тэматычна перакліkaліся з «Адвечнай песняй», і ўклаў іх у ягоныя вусны. Некаторыя ўстаўныя вершы прызначаліся і для партыі Мужыка. Асобныя сцэны паэмы былі скарочаны, асобныя апушчаны. Але галоўныя сюжэтныя лініі засталіся без змяненняў... Пасля нараджэння дзіцяці да яго зляталіся духі — Холад, Голад, Бяда і Доля. Яны прарочылі яму ўсе зямныя напасці і абяцалі ісці заўсёды побач, а Жыццё наракала Мужыком. З самага нараджэння галоўны герой змагаецца са сваёй цяжкай мужыцкай доляй, нястомна працуе з ранку да ночы. Ды ўсё ж поры года Вясна, Лета, Восень і Зіма кожны раз прыходзяць нечакана для Мужыка і сурова выпрабоўваюць яго. Ён бяссільны перад іх націскам і, надрываючыся ад непасільнай працы, вымушана праходзіць усе кругі пекла зямнога жыцця. У апошняй сцэне Мужык паміраў, Жонка аплаквала яго глыбока драматычнай арыяй «Ой, доля ж мая доля», а потым ціхай пранікнёнай малітвай «Рай светлы, бесканечны» адпяваў хор.

Калі «Песняры» прыступілі да пастаноўкі оперы, то прыдумалі арыгінальны пастановачны ход: на сцэне па дыяганалі быў усталяваны незвычайны памост у выглядзе вялікага крыжа, на якім разгортваліся падзеі. І вось пасля здачы спектакля звышпільны чыноўнік ад культуры ўчыніў «Песнярам» разнос:

— Чаму ваш Мужык у канцы памірае, ды яшчэ на крыжы?! Чаму ў тэксце ёсць словы «Ой, Божа мой, Божа»?!

Спектакль не прынялі. Харэограф-пастаноўшчык «Песні пра долю» Валянціна Гаявая ўспамінала той дзень: «У мяне камок стаяў у горле, а Мулявін кажа: «Валя, супакойся, так перажываць нельга. Я праспяваю ў канцы оперы жыццярадасную песню, якая адраджае нашага Мужыка да новага, радаснага жыцця». Гэта падалося нам поўным абсурдам. Мулявін жа кажа: «А што рабіць?» Памаўчаў і дадаў: «Заўтра ў 23.00 зноў рэпетыцыя. Валя, прыходзь, будзем рабіць новую рэдакцыю з радасным фіналам».

Зноў Купала аказаўся пад прыцэлам! І хоць Мужык той «памёр» ажно ў 1908-м годзе, гэтага нельга было растлумачыць партыйнаму чыноўніку. У выніку, каб дагадзіць цэнзуры, Мулявін прыдумаў новы фінал. Цяпер «Доля» завяршалася наступным тэкстам:

Песні распраўілі крылы, ляцяць
Быццам птушкі на волю.
Хоць продкі заснулі ў магіле,
Патомкі знайшлі сваю долю!

Гэты варыянт задаволіў членаў мастацкага савета куды больш, і з такім фіналам «Песня пра долю» выйшла ў свет і ўвайшла ў гісторыю. Сапраўды, а што было рабіць?..

Вырашыўшы ставіць «Песню пра долю», Міхаіл Антонавіч, канечне, зноў звярнуўся да Ларысы Сімаковіч у якасці рэжысёра-пастаноўшчыка і адразу атрымаў яе згоду. Але да пачатку гэтага праекта пакуль што было далёка, бо «на выхадзе» яшчэ знаходзіўся «Гусляр», потым меркаваўся «Апокрыф».

Тым не менш, Казінец, як заўсёды, адразу вызначаў галоўнае. У перапынку адной з рэпетыцый «Гусляра» ён запрасіў да сябе ў кабінет Ялфімава і прапанаваў яму ролю Купалы ў будучай пастаноўцы «Песні пра долю». Пётр адразу ж згадзіўся. На ролю Мужыка Сімаковіч прапанавала запрасіць Яна Жанчака і сама ж потым давяла гэта Яну, не пакінуўшы таму ніякіх шанцаў для адступлення! Дарэчы, у «Песнярах» гэтая роля падзелена паміж Кашапаравым і Барткевічам: адзін спяваў Мужыка і Пастушка, другі Сына, хоць, па сутнасці, падзеі разгортваліся вакол аднаго і таго ж чалавека. Я думаю, такая мера вымушаная і спатрэбілася толькі дзеля таго, каб вядучыя салісты «Песняроў» не засталіся без прыгожых нумароў-арый.

Я падзялілася гэтым меркаваннем з Сімаковіч і прапанавала ёй аб'яднаць партыі Кашапарава і Барткевіча ў адну. Ларыса, трэба сказаць шчыра, адразу ж згадзілася. Маці і Жонку меркавалася даручыць першай выканаўцы гэтай ролі Людміле Ісупавай, якую Уладзімір Георгіевіч спецыяльна запрасіў у ансамбль для пастаноўкі «Долі».

Мы ўжо двойчы сустракаліся з Ісупавай у канцэртных праграмах аркестра, прысвечаных «Песнярам». Яна непараўнана выконвала цэнтральны нумар оперы — трагічны Плач Жонкі, і заўсёды выклікала сапраўдную буру авацый. Здавалася, яе запрашэнне да ўдзелу ў «Песні пра долю» цалкам заканамернае.

Міхаіл Антонавіч і Ларыса адразу ж дамовіліся, што ў пастаноўцы будзе задзейнічана мужчынская група хору ў якасці дадатковай вакальнай фарбы (як выказалася Ларыса, «санорнай падушкі»), і Казінец, зноў-такі, асабіста правёў перамовы пра ўдзел у рабоце з кіраўніком Дзяржаўнага камернага хору Міхайлавай — нашымі пастаяннымі партнёрамі. Мне даручалася знайсці чатырох вакалістаў на парныя ролі духаў і пор года (Голад—Холад—Доля—Бяда і Вясна—Лета—Восень—Зіма), у кожнага з якіх па дзве самастойныя арыі і спевы ў сумесным ансамблі.

...Вясной 2011 года аркестравая партытура «Песні пра долю» была напісана. Асабіста я ўпершыню ўбачыла яе на стале ў Міхаіла Антонавіча перад самым Новым годам, пасля таго, як ён дасканала з ёй папрацаваў. Глядзела на гэты гросбух, затаіўшы дыханне. Крамко пераплёў яго ў нейкую тоўстую паперу з бліскучымі зорачкамі на вокладцы. Гэтыя зорачкі былі цалкам у кантэксце традыцыйнага пераднавагодняга антуражу. Яны, як бліскавіцы, таямніча падміргвалі, быццам рэкламуючы змест таго, што было ўнутры. Усім сваім унушальным выглядам вялізная партытура наганяла свяшчэннае трапятанне. Крамко, дарэчы, піша ручкай, не прызнае камп'ютарнай вёрсткі, хоць камп'ютарнымі тэхналогі-

ямі валодае цудоўна. Гэта — яго творчы прынцып. Ён уласнаручна разліноўвае партытурныя лісты і кажа, што менавіта гэтая праца адымае ў яго найбольш шмат часу, а ўсё астатняе, маўляў, — справа тэхнікі.

Партытура напісана, як заўсёды, акуратным каліграфічным почыркам. Ніякіх выпраўленняў, ніякіх памарак. Уся музыка оперы аказалася заключана ў гэтых стройных радах нотных значкоў і сімвалаў, якія нагадвалі вялікую і магутную армію, гатовую па першым сігнале рынуцца ў бой. І павесці яе за сабой павінен быў, канечне, Міхаіл Антонавіч. Праца Крамко сапраўды неацэнная.

Опера «Песня пра долю» доўжыцца роўна гадзіну. І гэтую гадзіну жывой музыкі трэба было пачуць, распазнаць, асэнсаваць, сістэматызаваць і выкласці ў выглядзе зведзеных у адно цэлае аркестравых партый, пры гэтым захаваць і зберагчы кожную мулявінскую ноту! Інакш кажучы, Крамко цалкам рэканструяваў музыку «Песні пра долю», а потым пералажыў яе на аркестр імя Жыновіча. І зрабіў ўсё за два тыдні! Тытанічная праца! Каб усвядоміць яе маштаб, магу параіць паслухаць хоць бы ўступ, літаральна першыя 10 секунд гучання «Долі» ў выкананні «Песняроў». Гукавы каскад падобны на гарматны стрэл і праносіцца, без перабольшання, з хуткасцю ракеты, якую запусцілі ў космас. Крамко **дакладна** «зняў» гэты рэактыўны пасаж і выпісаў яго нота ў ноту! І так яшчэ некалькі тысяч секунд музыкі, якую ён прапусціў праз сябе, як прасейваюць муку праз сіта. І ўсё ўручную, і ўсё без страт! Так чыста спрацаваць не здолеў бы нават камп'ютар! Але Саша карыстаецца толькі сваімі слыхавымі ўражаннямі, папросту — вушамі! Як пажартаваў наш калега, хормайстар Дзмітрый Хлявіч, Крамко — тая акула, у якой уся бакавая лінія ад вока да пяты ўяўляе сабой суцэльнае вуха...

Адразу ж пасля навагодніх канікулаў Міхаіл Антонавіч прыступіў да аркестравых рэпетыцый. Сімаковіч таксама ўжо грунтоўна «ўгрызлася» і ў лібрэта, і ў музычны матэрыял. І вось яна вылоўлівае мяне ў калідоры і кажа:

— Оля, я катэгарычна супраць фіналу. Яго трэба зняць, гэта савок! А Казінец не хоча. Як угаварыць Казінца?

Для паўнаты карціны яна дадала смачны выраз, сэнс якога зводзіўся да таго, што ўся яе фізіялогія працівіцца ставіць спектакль з фінальнымі словамі «Хоць продкі заснулі ў магіле, патомкі знайшлі сваю долю». Але і без гэтага дадатковага «аргумента» я была цалкам з ёй згодна. Я паабяцала падтрымаць Ларысу і пагаварыць з Міхаілам Антонавічам. Але Казінец нават слухаць не захацеў.

— Не-не-не, гэта ўжо гісторыя, — запярэчыў ён. — Мы не можам умешвацца ў музычны матэрыял. Няхай застаецца ўсё, як у Мулявіна.

Дарэчы, як высветлілася потым, Міхаіл Антонавіч і сам добра ведаў, што фінал літаральна прыцягнуты за вушы, пра што расказаў у інтэрв'ю журналістцы Аксане Яноўскай пасля прэм'еры «Долі». «У 1976 годзе «Песня пра долю» нараджалася на маіх вачах, — успамінаў ён. — Помню, з якімі цяжкасцямі давялося тады сутыкнуцца Уладзіміру Георгіевічу і аўтару лібрэта Валерыю Яшкіну. Ім належала выканаць цяжкую задачу: вельмі тактычна, не ў шкоду задумцы Янкі Купалы падкарэкціраваць паэму так, каб цэнзура прапусціла оперу». Далей Казінец адзначаў: «Мы шмат спрачаліся з рэжысёрам Ларысай Сімаковіч: пакідаць тэкставы варыянт фіналу ці вярнуцца да першакрыніцы. Зараз іншы час, на шчасце, таму ў нас у фінале словы Янкі Купалы гучаць без змяненняў і скарачэнняў».

Але Міхаіл Антонавіч далёка не адразу прыняў такое рашэнне. Аднойчы на рэпетыцыю прыйшоў «пясняр» Улад Місевіч. Казінец прадставіў яго музыкантам, і яны сыгралі сцэну дыялога Мужыка і Зімы, партыю якой калісьці выконваў Місевіч. Пры гэтым сам Міхаіл Антонавіч старанна ілюстраваў спевы, якія адсутнічалі, што было вельмі забаўна. Цікавая сустрэча!

Казінец праз Місевіча прапанаваў паўдзельнічаць у пастаноўцы «Беларускім песнярам», але атрымаў аргументаваную адмову. Місевіч гаварыў, што ансамбль цяпер працуе выключна на камерцыйнай аснове, запрасіць іх будзе каштаваць

вялікіх грошай і часу на сумесныя рэпетыцыі не будзе. Адным словам, адмовіў. На тым і закончылі. А Міхаіл Антонавіч пасля доўгіх роздумаў усё ж вырашыў зняць няўдалы фінал, што нас вельмі ўзрадавала.

Між тым, трэба было як мага хутчэй шукаць вакалістаў. Ад кандыдатуры Ісупавай на ролі Маці і Жонкі вырашылі адмовіцца. Гэта было даволі хваравіта, бо яе ўдзел агаварылі раней. І справа нават не ў тым, што Людміла Міхайлаўна значна старэйшая за Яна, і таму не падыходзіла для ролі Жонкі. Проста напярэдадні аркестр падрыхтаваў сольны канцэрт Ісупавай, які прайшоў надзвычай няўдала і пакінуў ва ўсіх непрыемны асадак. Было відавочна, што Ісупава не ў лепшай вакальнай форме. Міхаіл Антонавіч першы гэта канстатаваў.

Спачатку, скарыстаўшыся парадай У. Місевіча, я патэлефанавала Вользе Хіжанковай-Нікалаені, — дублёру Ісупавай, якая спявала ў песняроўскай пастаноўцы «Песні пра долю». Вольга спачатку абрадавалася запрашэнню. Я перадала ёй ноты, каб магла лепей рыхтавацца, і яна паабяцала падумаць. Аднак праз некалькі дзён паведаміла, што спяваць не будзе. Трэба было бачыць, як угаворваў яе Міхаіл Антонавіч! Ён нават запрасіў яе ў рэпетыцыйную залу да аркестра, і яна даволі нядрэнна праспявала фрагмент Плача Жонкі. Але ўсё роўна не захацела працаваць далей.

Потым прапановы паступілі яшчэ як мінімум чатыром спявачкам. І ўсё безвынікова! Каменем спатыкнення быў праславуты Плач Жонкі, асіліць які ніхто не здолеў.

Час ішоў... Каця Дзегцярова стала сёмай па ліку кандыдаткай, якой я прапанавала працу ў «Песні пра долю». Стыхія Кацярыны — мюзікл. Менавіта ў гэтым жанры найбольш плённа раскрыўся яе талент. Дзегцярова — салістка Дзяржаўнага музычнага тэатра, куды трапіла ў 2000 годзе адразу ж пасля заканчэння Беларускай акадэміі мастацтваў. Па вакале яна займалася ў акадэміі ў Гайды. На запрашэнне праслухацца Каця імгненна згадзілася і праз некалькі дзён прыйшла на сустрэчу з Міхаілам Антонавічам. Ён папрасіў яе а капэла праспяваць фрагмент Плача Жонкі (гэта просьба ў нашай сітуацыі стала ўжо дзяжурным мерапрыемствам), і Каця зрабіла гэта з лёгкасцю і артыстызмам. Казінец застаўся задаволеным. Трыо Ялфімаў—Жанчак—Дзегцярова складала выдатны вакальны і акцёрскі ансамбль.

Таксама не без цяжкасцей сфарміраваўся мужчынскі квартэт на эпізадычныя ролі духаў і пораў года. Сапраўднай знаходкай аказаўся Сяргей Савіцкі, які праявіў лепшыя «байцоўскія» якасці. Яму дасталіся партыі Восені і Долі, якія спяваў у «Песнярах» Юрый Дзянісаў. У Долі даволі складанае арыёза з кульмінацыяй на «до» трэцяй актавы. На тым самым запісе, які з'яўляўся для нас адзіным гукавым эталонам, Дзянісаў не справіўся з гэтай нотай і пусціў пеўня... Думалася: ну калі ўжо сам Дзянісаў не асіліў, дык хто ж тады зможа справіцца з гэтым арыёза? Але Савіцкі справіўся бліскуча! Ён шмат разоў спяваў яго падчас рэпетыцый, і заўсёды ў поўны голас, і заўсёды паспяхова браў гэту славутую ноту, дый па-акцёрску быў беспадобны!

Раней Сяргей працаваў з намі ў «Гусляры», спяваў разам з «Лявонамі», як і Улад Даніловіч. Даніловіч увогуле супрацоўнічаў з намі ўжо ў трэцім пастановачным праекце. У «Песні пра долю» ён агучваў Зіму і Бяду. Гэта спрактыкаваны спявак, аднакурснік Ялфімава па акадэміі музыкі. Менавіта Пеця і параіў запрасіць яго тады яшчэ на «Гусляра», і Улад прыйшоўся даспадобы. А вось выканаўцы партый Вясны-Голаду і Лета-Холаду Ягор Алесяюк і Андрэй Якушаў-Данілевіч аказаліся навічкамі. Абодва былі студэнтамі Беларускай акадэміі музыкі: Ягор — вакальнага аддзялення, Андрэй — аддзялення харавога дырыжыравання.

Калі пачаліся аркестравыя рэпетыцыі, нечакана высветлілася, што артысты Дзяржаўнага камернага хору не змогуць удзельнічаць у «Долі», бо таксама рыхтуюць нейкую працаёмкую праграму, якая па часе супадала з нашымі рэпетыцыямі. Міхаіл Антонавіч вельмі засмуціўся, але тут жа сам адправіўся на перамовы

з кіраўніком харавой капэлы імя Шырмы Людмілай Яфімавай — балазе, гэта таксама ў філармоніі, літаральна пад нашай рэпетыцыйнай залай, на адзін паверх ніжэй. Людміла Барысаўна не адмовіла і дала згоду на ўдзел у «Песні пра долю» мужчынскай групы капэлы ў складзе 12 чалавек — менавіта столькі, колькі патрабавалася для паўнавартаснага гучання 4-х галоснага мужчынскага хору.

Міхаіл Антонавіч супакоіўся і працягнуў рэпетыцыйную работу па разборы аркестравай партытуры твора. Там было над чым папрацаваць. У кожнай групы аркестра хапала сваіх творчых задач. Але галоўнае было зразумела адразу: музыка рок-оперы з яе незвычайнай для нашага аркестра стылістыкай яму не чужая, усе тэмбры выдатна зліваліся ў магутную гукавую палітру. Яе дадавала і разгорнутая партыя фартэпіяна, і цікавыя знаходкі ў гучанні электронных клавішаў, за якімі чараваў Крамко, і фантастычна складаная партыя ўдарнай устаноўкі. У творах, падобных «Песні пра долю», музыкант, які іграе на ёй, з'яўляецца правай рукой дырыжора. Яго ўдар — гэта пульс музыкі, а яго адмысловы інструмент — сэрца музычнай партытуры, якое жыве і б'ецца ў такт з кожнай нотай усіх груп аркестра. Дзякуючы нашаму выдатнаму барабаншчыку Сяргею Шаптунову аркестр падаваўся адзіным пругкім механізмам, дасканалую працу якога зладжваў і пamaйстэрску рэгуляваў маэстра Казінец.

Ларыса Сімаковіч пачала працаваць як хормайстар з квартэтам вакалістаў. Аднак неўзабаве ўзнікла праблема: уся чацвёрка ніяк не магла сабрацца разам. То ў аднаго заняткі, то ў другога, у трэцяга канцэрт, чацвёрты захварэў. На адну рэпетыцыю двое прыходзяць, двое адсутнічаюць, на чарговай рэпетыцыі з'яўляюцца тыя, каго не было на першай, затое няма двух іншых. І так бясконца. Але паступова ўсё ж работа пайшла, хлопцы заспявалі і нават вывучылі свае партыі на памяць. Сімаковіч займалася таксама і з Дзегцяровай — дапамагала ёй развучваць музычны матэрыял і працавала над роляй. Ялфімаў і Жанчак вучылі свае партыі самастойна, па нотах і песняроўскім запісе.

Для пастаноўкі «Долі» ў аркестры павінны было іграць струннае трыа з сімфанічнага аркестра. З ім патрабавалася ўзгадніць графік рэпетыцый, гэтаксама, як з джазавым піяністам Гарачым. Без іх удзелу гучанне аркестра ў асобных сцэнах было няпоўным, што вельмі перашкаджала Казінцу. Але запрошаныя музыканты не маглі пастаянна прысутнічаць на рэпетыцыях. Тое ж самае адбывалася з салістамі-вакалістамі. «Духі» і «поры года» прыходзілі па чарзе і не своечасова. Каця разрывалася паміж філармоніяй і тэатрам, таму прапускала аркестравыя рэпетыцыі. Ян ці то хварэў, ці то «лётаў» па якіхсьці конкурсах... Самым стабільным у сэнсе вытворчай дысцыпліны аказаўся Ялфімаў. Нягледзячы на занятасць, ён, як стойкі алавяны салдацік, прыходзіў своечасова і рэгулярна і быў «нашым усім» у прамым і пераносным сэнсе гэтага слова. Ціхенька апускаўся на крэсла пад дырыжорскім пультам і, як суфлёр-ілюстратар, спяваў партыі ўсіх салістаў, якія адсутнічалі. Аднойчы, калі ён загаласіў фальцэтам «Спі, сыночак, лю-лі, спі...» замест Каці, Міхаіл Антонавіч страпянуўся і пачаў азірацца вакол, думаючы, што гэта Каця прыйшла.

Смех смехам, але тое, што салісты ніяк не маглі сабрацца разам для паўнавартасных рэпетыцый, стала вельмі непрыемным момантам. Дакладней, момантамі, бо яны паўтараліся з зайздросным пастаянствам, і мне заўсёды было няёмка дакладваць Міхаілу Антонавічу пра чарговыя «сюрпрызы» ў выглядзе раптоўных тэлефонных званкоў ад Каці (Яна, Андрэя, Улада, Сяргея, Ягора...) з папярэджваннямі пра немагчымасць прыйсці на рэпетыцыю. Я бачыла яго рэакцыю на гэтыя паведамленні і таксама расстройвалася. Але Казінец заўсёды знаходзіў выйсце і стараўся максімальна аптымізаваць рэпетыцыйны час. Калі не з'явіліся салісты, працаваў з харавой капэлай, калі адсутнічала капэла — з аркестрам, засяроджваючыся на асобных сцэнах і эпізодах. А калі прыходзіў нехта з салістаў, адразу ж пераходзіў да іх арый і сцэн. Вытрымаць такі анархічны і непрадказальны графік рэпетыцый яму як кіраўніку пастаноўкі было вельмі няпроста.

Выйшла рэкламная афіша «Песні пра долю». Яе дызайн вельмі просты: стылізаваны пад даўніну фотаздымак, на якім — жаночы лік у павязанай па-сялянску хустцы. Але асацыяцый гэта выклікала вельмі шмат. Жанчына ўвасабляла сабой і вобраз маці, і вобраз роднай зямлі, і сялянскую Долю... Крыніцы, якія заслугоўвалі даверу, адкрылі тайну: на фота — сама Сімаковіч, хаця пазнаць яе там было даволі цяжка... Значыць, Ларыса прыдумала нават дызайн афішы!

Увогуле, уклад Сімаковіч у пастаноўку «Песні пра долю» цяжка пераацаніць. Яны на пару з Казінцом літаральна выпеставалі гэты спектакль. Ларыса грунтоўна пералапаціла харавую партытуру, падзяліўшы яе паміж квартэтам салістаў-вакалістаў і артыстамі харавой капэлы. Яна займалася са спевакамі як канцэртмайстар, а ў балетным класе рыхтавала танцавальныя эпізоды з дзяўчатамі з «Госціцы» ў якасці харэографа. Сімаковіч прыдумала агульную канцэпцыю спектакля і да пачатку сцэнічных рэпетыцый, якіх было зусім няшмат, выдатна падрыхтавалася як рэжысёр-пастаноўшчык. Поўнасцю засяродзіла ў сваіх руках рэжысёрска-пастановачную працу і такім чынам вызваліла Міхаіла Антонавіча ад непатрэбнага клопату. Зрэшты, клопату ў яго хапала і за пультам.

З пачаткам сцэнічных рэпетыцый усім было цікава, як Сімаковіч распарадзіцца сцэнічнай прасторай, а галоўнае — якім паўстане спектакль. Ведаючы, як умее працаваць Ларыса, можна было ўявіць, што вынік будзе цікавым пры любым раскладзе. Сімаковіч вырашыла артыстаў хору пасадзіць, каб яны менавіта так, седзячы, і спявалі. Аркестр размяшчаўся на сцэне двума сіметрычнымі сектарамі — справа і злева ад дырыжора. Дырыжорскі пульт ўсталявалі пасярэдзіне, а насупраць яго паставілі чатыры рады крэсел: на першым сядзела струннае трыа, а на астатніх — артысты харавой капэлы па чацвёра ў рад. Паміж кожным з трох сектараў пакінулі свабодную прастору. Левая свабодная «ніша» прызначалася для квартэта салістаў, правая — для трох танцоўшчыц з «Госціцы», а на авансцэне, такім чынам, дзейнічалі галоўныя персанажы спектакля. Пры гэтым ззаду аркестра паміж правым і сярэднім сектарамі стаяла высокая задрапіраваная ў чорнае канструкцыя, на якой, па задуме Сімаковіч, нараджаўся і паміраў Мужык.

Сцэна была «населена» па максімуму. Пры гэтым Ларыса агарнула яе ў поўную цемру, — відаць, каб падкрэсліць, што цемра — тое адзінае натуральнае асяроддзе, дзе толькі і можа блукаць няшчасны беларус! А калі сур'ёзна, дык, магчыма, інтуітыўна, а магчыма, свядома прымяніла традыцыйны прыём, якім карыстаюцца на захадзе пры пастаноўцы опер у канцэртным выкананні, а менавіта — наўмысна зацямніла сцэну і аркестр, каб рэльефней падкрэсліць уласна дзею і высвеціць такім чынам дзеючых асоб.

Першы прагон прайшоў даволі паспяхова, хоць Ян адчайна «плаваў» у матэрыяле, асабліва ў тэксце. Але мы прызвычаіліся да гэтай яго манеры падганяць і дапрацоўваць усё ў самы апошні момант. Пётр быў бездакорны ў ролі Купалы. Хлопцы з квартэта таксама вельмі стараліся. Але ўсіх зацьміла Каця, якая з уласцівай ёй самааддачай на аголеным нерве пражывала лёс сваіх персанажаў. Яна аплаквала Мужыка ў сваім трагічным Плачы так, што, здавалася, літаральна памірала сама. Мароз ішоў па скуры! Пасля гэтай арыі хор спяваў ціхую малітву «Рай светлы, бесканечны», падчас якой дзяўчаты з «Госціцы» накрывалі галаву і расхінутыя рукі Каці белымі покрывамі. Адна клала тканіну на правую руку, другая — на левую, а трэцяя — на галаву. Вытанчаная беласнежная тканіна лёгка струменілася па твары і спадала на плечы. І раптам Кацін застылы твар у такім незвычайным атачэнні ператвараўся, без перабольшання, у лік Мадонны, які нібы сышоў з іконы... Гэтая асацыяцыя настолькі адназначная і відавочная, што ўсе прысутныя літаральна былі ашаломлены. Вось гэта рэжысёрская знаходка!.. Але тое, што адбылося секундай пазней, не паддавалася ніякай логіцы. Дзяўчына, якая пакрывала Кацііну галаву, чамусьці апусціла тканіну ніжэй і цалкам закрыла ёй твар, і ў такім выглядзе Каця з растапыранымі рукамі застыла аж да самага фіналу. Такі нечаканы паварот пакінуў усіх у поўным недаўменні...

Тым не менш, прагон «Долі» зрабіў каласальнае ўражанне. Галоўнай стваральнай сілай выступаў, канечне ж, аркестр. Ён аказаўся на такой вышыні, гучаў так магутна і пранікнёна, што размовы адносна рэжысёрскіх «ізмаў» сталі проста недарэчнымі. Музыка — глыбокая, вобразная, драматургічна насычаная — дамініравала над усім. Аркестр ствараў яе на вачах, тут і цяпер, ствараў, як магутную фрэску, як гіганцкую скульптуру, якая нібы ажывала пад чуйнымі рукамі дырыжора і музыкантаў. Музыка з’яўлялася самастойнай субстанцыяй і давала каласальны імпульс для слухача, што было галоўным.

«Песня пра долю» заканчвалася арыяй Мужыка са словамі «Я буду жыць, бо я — мужык», якую вянчаў фінальны акорд аркестра. Гэты жыццесцвярджальны акорд гучаў на магутным crescendo, якое ўзнімалася пад рукамі Міхаіла Антонавіча моцнай нарастаючай хваляй і абрывалася на высокай кульмінацыі. Але Казінец дамовіўся з музыкантамі, што пасля апладысментаў, падчас якіх Ян з балетам спускаўся на авансцэну для паклонаў, яны паўтораць мажорны рэфрэн «Гэй жа, братцы, усе мы разам песню запяём», які гучаў у самым пачатку дзеі. Калі ён сказаў пра гэта Ларысе, ёй зрабілася дрэнна. Яна палічыла гэта зваротам назад, да «патомкаў», і выказалася даволі рэзка, што Міхаіл Антонавіч такім чынам здраджвае яе задуме і іх дамоўленасці. Але Казінец настаяў на сваім, і спектакль ад гэтага не прайграў. Гэтая сцэна гучала як звычайная фінальная «адбіўка», якая ніяк не ўплывала на агульную канцэпцыю. Пасля прагону Сімаковіч спыталася пра мае ўражанні, і я, канечне ж, адразу ж сказала пра недарэчнасць Кацінай мізансцэны, у выніку якой яе гераіня з Мадонны ператваралася ў нейкі надмагільны крыж.

— Ларыса, ты сама не ўяўляеш, што ты прыдумала! — гаварыла я ўсхвалявана. — Каця ж стала падобная на Мадонну! Жонка аплакала Мужыка і ўзнеслася, ты разумееш?! Ты ж закальцавала гэтай мізансцэнай выяву на афішы. Гэта — той жа самы жаночы лік, але ўжо ў выглядзе святой. Чаму ты закрываеш Каці галаву?!

Але Сімаковіч ніяк не пранікласяа маімі аргументамі.

— Я не бачу тут Мадонны, я бачу птушку! — адрэзала яна.

Я зразумела, што далейшыя спрэчкі не маюць сэнсу, бо спрачацца з Ларысай — апошняя справа. Як яна вырашыла, так і будзе. Птушку — дык птушку. Ларыса, у сваю чаргу, паскардзілася на Казінца за тое, што ён у фінале паўтарыў сцэну «Гэй жа, братцы» — для яе гэта было ледзь не асабістай абразай, і сказала, што ў выніку яе задавальняе толькі праца Яна, а Каця і Пеця не выконваюць таго, што яна задумала. Ну хто б сумняваўся, што яе рэзюмэ будзе менавіта такім!

Міхаіл Антонавіч, канечне ж, ведаў пра гэта ўсё. Але захоўваў спакой і не ўмешваўся ў спрэчкі. Ён засяродзіўся на музыцы, на працы музыкантаў аркестра і правільна рабіў, бо ў перадпрэм’ернай мітусні аркестр заставаўся тым непахісным фундаментам, ад якога ў асноўным і залежаў канчатковы вынік.

І была гістарычная прэм’ера... 19 красавіка 2012 года музыка рок-оперы «Песня пра долю» вярнулася з нябыту. У зале, канечне ж, знаходзіліся і тыя, хто памятаў песняроўскую пастаноўку, але для большасці прэм’ера стала вялікім адкрыццём, нават больш — сапраўдным узрушэннем. І гэта адчувалася па рэакцыі залы. Першыя авацыі спынілі прадстаўленне пасля Плача Жонкі, што цалкам чакана. Каця настолькі эмацыянальна перадавала трагедыйнасць вобразнага зместу гэтай арыі, што нельга было не адгукнуцца апладысментамі. Пасля апошняй фразы Жонкі «Ой, доля ж мая, доля!», якую Каця літаральна выкрыквала ў адчаі, публіка не стрымалася і пачала апладзіраваць, раздаліся першыя крыкі «брава!» Казінец спыніў спектакль і цярпліва дачакаўся, калі воплескі сцішацца. Ну, а пасля фінальных слоў арыі Мужыка «Я буду жыць, бо я — мужык» залу літаральна страсянулі авацыі, якім не было канца. Яны доўжыліся цэлых сем хвілін! Няспынных сем хвілін! Публіка ацаніла і прызнала нашу вялікую працу, і гэтыя бясконцыя авацыі сталі самым што ні на ёсць шчырым падцвярджэннем гэтага прызнання.

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

# ЗРЫЎ ЛІТАРАТУРНАГА ДЫСПУТУ Ў ГОРКАХ

У Горках (Горы-Горках) Янка Купала бываў тройчы. Першы раз наведаўся 6—7 чэрвеня 1925 года. Пазнаёміўся з работай тагачаснага сельскагаспадарчага інстытута, прымаў удзел у пасяджэнні Навуковага таварыства па вывучэнні Беларусі і секцыі навуковых супрацоўнікаў гэтай ВНУ. Івана Дамінікавіча залічылі ганаровым членам згаданага таварыства. Паездка была наладжана ў сувязі з 20-годдзем ягонай літаратурнай дзейнасці. А 13 чэрвеня яму афіцыйна прысвоілі званне народнага паэта Беларусі.

Другі раз ён пабываў у Горках 28 лістапада таго ж года. Разам з Якубам Коласам і Цішкам Гартным прысутнічаў на адкрыцці Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, у якую перайменавалі інстытут.

Трэці раз Купала прыехаў у Горкі ў лютым 1928 года з членамі літаратурнага аб’яднання «Полымя» Цішкам Гартным, Міхасём Зарэцкім, Міхайлам Грамыкам, Алесем Дударом, Андрэем Александровічам. Яны 10—14 лютага выязджалі на сустрэчу з чытачамі ў Горкі і ў горад Оршу.

У «Летапісе жыцця і творчасці» Купалы пра наведванне Горак гаворыцца мімаходзь:

«*Люты. 12.* Раніцай у Горках выступіў (Янка Купала. — ***А. В.***) перад настаўнікамі. Вечарам у Оршы. У Горках наведаў П. Мядзёлку» (*Купала Янка.* Поўны збор твораў. Т. 9. Кніга другая. Мн., 2003. С. 188).

З трох мерапрыемстваў пясняр у гэты дзень удзельнічаў толькі ў адным: «У Горках наведаў П. Мядзёлку».

Гэтыя сустрэчы з чытачамі, як кажуць, «по горячим следам событий», газета «Савецкая Беларусь» 18 і 19 лютага, мякка кажучы, адлюстравала не поўнасцю і ўвогуле сродкі масавай інфармацыі пра гэта дыпламатычна прамаўчалі.

Чаму?

А таму, што ў Горках з пісьменнікамі здарыўся канфуз.

Але пачнём па парадку.

Прыехалі літаратары «невядома з якою мэтаю ці па запрашэнні, ці па сваёй добрай волі» (так у дакуменце. — ***А. В.***). Аднак пра тое, што прыязджае «цэлая група беларускіх пісьменнікаў — ганаровых, народных «масавых» і «пралетарскіх», тут ведалі яшчэ 10 лютага.

Была вывешана намаляваная ад рукі афіша, якая паведамляла, што 12 лютага ў Горацкім дзяржаўным тэатры а 4-й гадзіне дня адбудзецца «літаратурны вечар». Такое нечаканае паведамленне «ашарашыла» ўсіх, пачынаючы ад няўрымслівых студэнтаў, навуковых супрацоўнікаў і выкладчыкаў акадэміі да шараговых жыхароў горада.

На 12 лютага была прызначана акруговая канферэнцыя літаратурнага аб’яднання «Маладняк». Многія меркавалі, што члены літаб’яднання «Полымя» збіраюцца прыняць удзел у рабоце канферэнцыі, якая імкнецца аднавіць сіратлівы «Маладняк», бо «бацькі» нечакана іх пакінулі, пагладзіўшы па галоўцы: «Працуйце, можа, і выйдзе што добрае з Вас?»

Вядома, з «Маладняка» нешта атрымаецца, ён не загіне, бо гэта — жыватворная «крыніца», з якой можна чэрпаць літаратурныя таленты. Літаратурны дыспут меркавалася пачаць на гадзіну раней, бо, мабыць, пісьменнікам трэба ад’язджаць дадому,

у Мінск. Абвестка на афішы была выпраўлена. І з пачаткам дыспуту ўсё ўладкавана. Таксама хутка «прабегла» тэлефанаграма, што вечар пачынаецца а 3-й гадзіне дня.

Народ дружна збіраўся ў будынак драматычнага тэатра, некаторыя на конях прыехалі нават з Оршы, бо, як на зло, цягнік Орша—Горкі ў гэты дзень то спраўна хадзіў, то не хадзіў.

Але дыспут «Куды ідзе беларуская літаратура» з удзелам пісьменнікаў так і не адбыўся.

Чаму так здарылася?

Для сустрэчы літаратараў на чыгуначную станцыю Пагодзіна паслалі з акадэміі дзве падводы і дэлегіравалі пісьменніка, дацэнта кафедры беларускай мовы і літаратуры Юрку Гаўрука і асістэнтку кафедры беларусазнаўства Паўліну Мядзёлку. Будучы фізіёлаг, які тады працаваў у акадэміі, Міхась Ганчарык сустракаў прыезджых на станцыі.

Ініцыятарам сустрэчы з пісьменнікамі і галоўным арганізатарам яе быў загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры пісьменнік, літаратуразнаўца, лексікограф Максім Гарэцкі. Але ён у гэты дзень праводзіў заняткі, а рэктар акадэміі знаходзіўся па справах у Мінску.

Для пражывання тром пісьменнікам выдзелілі асобны пакой для прыязджаючых, а астатніх меркавалася размясціць у прыватных кватэрах на тэрыторыі ВНУ. Планавалася перад пачаткам дыспуту зачытаць і перадаць прывітанне гасцям ад грамадскіх арганізацый акадэміі.

Але па прыездзе, па сутнасці, пісьменнікі засталіся сам-насам. Двое з іх пайшлі на кватэру, а астатнія падаліся па горадзе шукаць «канспіратыўную кватэру». З раніцы гараджане бачылі, што госці шпацыравалі па горадзе, а потым яны дзесьці зніклі, як кажуць, «як у ваду канулі». На літаратурны дыспут пісьменнікі не прыйшлі.

Кіраўнікі акадэміі не ведалі, дзе яны. Неяк выйшлі на Алеся Дудара. Ён сказаў, што даклада на дыспуце не будзе, а дзе астатнія — не ведае. Але горад Горкі, як кажуць, «большая деревня», і дзе частка пісьменнікаў, хутка даведаліся.

Праз гадзіну чакання прадстаўнікі партыйных і грамадскіх арганізацый, першая дэлегацыя ад кіраўніцтва акадэміі накіравалася да іх, пайшлі прасіць іх прыйсці на дыспут. Яны папрасілі Купалу і Грамыку выступіць, пакуль прыйдуць астатнія. Аднак Купала і Грамыка палічылі нетактоўным выступаць без дазволу старшыні літаратурнага аб'яднання «Полымя» Гартнага.

Знайшоўшы Гартнага, Зарэцкага, Александровіча, Дудара, адказны сакратар ячэйкі КП(б)Б пры акадэміі Ісаенка, Саевіч, адказны сакратар Горацкага РК КП (б)Б Вялеска пачалі ўпрошваць іх выступіць. Але Гартны сказаў, што на дыспут яны не пойдуць і даклада рабіць не будуць, таму што іх не спаткалі як мае быць і не прадаставілі кватэр, дзе б яны маглі адпачыць, і дадаў:

— Я ехаў сюды не толькі як пісьменнік, але як сябра Урада ЦВК БССР і як сябра партыі.

У студзені—лютым 1919 года ён, як вядома, быў старшынёй Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі.

На запытанне, чаму ён як сябра партыі, нягледзячы на ўсе недахопы падрыхтоўчай работы па іх сустрэчы, не зайшоў у Горацкі РК КП(б)Б ці ў ячэйку КП (б)Б акадэміі пагутарыць, Гартны адказаў, што яны не ад дзяржавы, не ад партыі сродкаў не атрымлівалі і заданняў таксама, а таму гэта асабістая справа — ісці на сход ці не.

Пасля зрыву літаратурнага дыспуту ўражанне аб прыезджых пісьменніках у многіх гараджан засталося вельмі кепскае. Яны марна прачакалі дзве гадзіны: з 15 да 17.

Студэнты ні з чым пайшлі ў інтэрнат і ў знак пратэсту кідалі творы гэтых пісьменнікаў пад ложак. Спрабавалі знаходзіць і рваць іх партрэты па пакоях інтэрнатаў і па сваіх хатах у Горках. Прапанавалі нават паслаць гэтыя партрэты

і лісты саромнага зместу самім аўтарам. Моцна лаяліся нават тыя, хто ніколі на дыспут ісці не збіраўся.

Зрыў дыспуту адбыўся па віне пісьменнікаў-камуністаў — Гартнага, Зарэцкага, Александровіча і Дудара, якія нават не з'явіліся ў акадэміі і ўсе свае высновы грунтавалі на «мяшчанскім чванстве»: не так сустрэлі, не так прывецілі, не так прытулілі. Што тычыцца беспартыйных — Купалы і Грамыкі, то яны, як відаць, жадалі б пайсці на дыспут, але не хацелі рабіць даклад, паколькі гэта было даручана Гартнаму і Зарэцкаму, і яны мусілі падпарадкавацца такому рашэнню.

У сувязі з канфузам, які здарыўся з пісьменнікамі 12 лютага 1928 года, бюро Горацкага РК КП(б)Б на закрытым пасяджэнні прыняло пастанову, тэкст выпіскі з якой друкуецца без скарачэнняў (мова і стыль захаваны):

***ВЫПІСКА***
***з пратаколу зачыненага пасяджэння Бюро Горацкага РК КП(б)Б***
***ад 14 лютага 1928 г.***

***Слухалі:*** *Інфармацыя аб зрыве літаратурнага дыспуту ў звязку з прыездам беларускіх пісьменнікаў і дакладная запіска Бюро Акадэмічнай ячэйкі (Ісаенка).*

***Выказаліся:*** *Сівадзедаў, Персікаў, Велеска.*

***Пастанавілі:*** *Канстатаваць:*

***1.*** *Што падрыхтоўчая праца дзеля правядзення літаратурнага дыспуту ў звязку з прыезам беларускіх пісьменнікаў з боку праўлення Акадэміі была праведзена (апавяшчэнне і своечасовы збор на дыспут студэнцтва, навуковых працаўнікоў, рабочых і служачых, прыгатавання кватэр, сняданне і абеду дзеля пісьменнікаў, пасылке таварышаў і падвод дзеля спаткання пісьменнікаў на станцыі Пагодзіна).*

***2.*** *Дапушчаная памылка з боку таварышаў, якія выязджалі дзеля спаткання на станцыю тым, што аказалі халодны прыём пры спатканні і пры размеркаванні па квартэрам, на грунце чаго пісьменнікі і парашылі сарваць дыспут, не ўчытвая яго паследствій. Пры чым ініцыятыва ў зрыве дыспуту прынадляжала партыйнай часткі пісьменнікаў і асабліва тав. Цішке Гартнаму.*

***3.*** *Дапушчаная памылка (якая адзначана ў п. 2) лёгка падавалася спраўленню што і была прадпрынята, была належна падрыхтавана глеба дзеля гарачага прывітання і спаткання пісьменнікаў пры ўходзе ў памяшканне, дзе павінен быў адбыцца дыспут, а таксама і пры пачатку дыспуту.*

***4.*** *Адзначыць, што Цішка Гартны і другія пісьменнікі партыйцы, замест таго, каб зайсці ў РК, ці ў акадэм. ячэйку і ўказаць на недахопы, якія былі дапушчаны з боку мейсцовых арганізацый з мэтай іх папраўлення, яны як камуністы чамута знайшлі больш патрэбным схавацца ад мейсцовых арганізацыяў і ў прыватнасці ад партыйных, прыняўшы адпаведныя меры к таму, каб іх не патурбавалі, чым углубілі недарэчнасць, давёўшы яе да вышэйшага напружэння зрыву дыспуту.*

***5.*** *На грунце вышэй складзенага і прыкладаемай пры гэтым дакладной запіскі Акадэм. ячэйкі, Бюро РК КПБ канстатуе: што паступкі партыйцаў-пісьменнікаў з'яўляюцца партыйна не вытрыманымі, якія адбіліся на аўтарытэту іх (пісьменнікаў) і ўслажнілі працу па правядзенню да некаторай часткі беларусізацыі ў акадэміі.*

*Аб чым Бюро РК паведамляе акруговы камітэт партый.*

***6.*** *Прапанаваць акадэмічаскай ячэйкі працягваць працу па выжыванню ўскладаўшыхся настрояў у Акадэміі ў сувязі з зрывам дыспуту і не ў якім выпадку не дапушчаць ні якіх перашкод у правядзенні беларусізацыі.*

*З арыгіналам пэўна.*
*Адказны сакратар Горацкага РК КП(б)Б (Вялеска)*

У гэтай няпростай сітуацыі на Гартнага мог паўплываць толькі Купала. Гарэцкі прасіў яго пра гэта. Але, невядома з якіх меркаванняў і па якой прычыне, Купала не стаў дыктаваць сваю волю Гартнаму.

У знак абурэння і пратэсту ў сувязі з неардынарнымі паводзінамі пісьменнікаў, назаўтра, 13 лютага 1928 года Гарэцкі адаслаў Купалу падпісаныя яму кнігі. Вось так: нават Купалу Гарэцкі не дараваў тое, што, на яго думку, нельга было дараваць: абразу чытачоў. Можна сабе ўявіць, як цяжка было яму вярнуць кнігі з яго аўтографамі.

14 лютага 1928 года ў лісце да першага сакратара ЦК КП (б) Беларусі, вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, гісторыка, публіцыста, літаратурнага крытыка В. Кнорына, Гарэцкі пісаў:

*14.II.1928.*

*Паважаны таварыш Кнорын!*

*Вы, пэўна, ужо ведаеце, які дзікі ўчынак дазволілі сабе ў Горках сябры «Полымя» пад камандаю Цішкі Гартнага. Мала таго, учора я даведаўся ад выкладчыка на рабфаку т. Сапранкова, а сёння са слоў асыстэнткі катэдры беларусазнаўства т. Мядзёлкі, што Жылуновіч, выязджаючы з Горак, пагражаў зрабіць нейкія змены ў складзе адміністрацыі Акадэміі, бо ня выехалі «самалічна» на вагзал спаткаць яго, дык «замарыўся, трэба яму адпачыць...» (словы Жылуновіча). Магчыма, што Жылуновіч захоча, між іншым, пабудаваць сваю расправу і на тым, што тут былі варожыя адносіны да беларускае культуры. Дык я, хоць ужо каяўся, што аднаго разу жаліўся у ЦК, лічу, аднак, на гэты раз сваім абавязкам пасведчыць, што ніякіх і ні з чыйго боку варожых адносін ні да беларусізацыі, ні да беларускіх пісьменнікаў тут ня было, а быў толькі нялепы ў нашых умовах, хамскі па сваёй псыхалёгіі, учынак Жылуновіча і залежных ад яго, слабавольных або і папсаваных, як Дудар, людзей.*

*М. Гарэцкі*

Каго вінаваціць у гэтай сітуацыі?

Як пісьменнікі, так і выкладчыкі, і студэнты Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі меркавалі, што сустрэча сарвалася па віне капрызнасці і ганарыстасці Гартнага. У тыя часы ён яшчэ быў вядомы як літаратар і як дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Як слушна пісала студэнтка рабфака акадэміі Г. Нахмановіч у газету «Звязда» «прычына іхняя (беларускіх пісьменнікаў. ***— А. В.***), што не пайшлі на вечар гэта тое, **што іх шляхечы гонар не дазволіў** пайсці на вечар. Калі б, напрыклад, іх такі не добра ўстрэцылі як яны гэта думалі па шляхечы, але як абавязкаў як грамадчыкаў, і плюс як партыйцаў кожнага яны павінны былі пайсці на вечар, ды наогул можна лічыць, калі і прыняць пад увагу, дык хіба ж гэта не гонар, каля 2000 чалавек чакалі дзве гадзіны і жадалі пабачыць… Маё ўражанне такое, што на 11 гадавіне Савецкай улады, пара ўжо выгнаць розныя шляхечыя гонары асабліва ў партыйцаў. Пажадання яшчэ было, калі яны гэтак зрабілі, скампраментавалі сябе, дык няхай бы прыехалі іісправілі ўсё».

Чацвёрты раз ні Купала, ні іншыя пісьменнікі ў Горкі не прыехалі і не «ісправілі ўсё», што зрабілі 12 лютага 1928 года.

Відаць, сапраўды, шляхетнасці ў іх не хапіла і іх шляхечы гонар не дазволіў ім пайсці на літаратурны дыспут.

А вельмі шкада!

# Валянціна ГАЯВАЯ: «Я ЗАМУЖАМ ЗА “ХАРОШКАМІ”»*

## І кожны дзень — пошук

**— Валянціна Іванаўна, але ж вы стварылі для свайго ансамбля не толькі арыгінальныя касцюмы, а і адметны, самабытны аркестр. Раскажыце, калі ласка, пра гэта больш падрабязна.**

— Паколькі наш ансамбль фальклорны, то я палічыла, што і наш аркестр павінен складацца з народных інструментаў. Дарэчы, мяне даўно цікавілі і цымбалы, і ліра, і іншыя даўнія музычныя інструменты. Аднак калі я стала іх збіраць, многія мяне не зразумелі, казалі: навошта цягнуць гэтую старызну? Я ж была пераканана, што аркестр народных інструментаў надасць «Харошкам» новыя, каларытныя фарбы. Так яно і атрымалася.

Праўда, далося мне ўсё гэта зноў-такі ох як няпроста. Бо гэтыя старадаўнія інструменты не ляжалі гатовенькія і не чакалі пакуль я прыйду і вазьму іх. Даводзілася шукаць, а часам і заказваць іх выраб народным майстрам, адрасы якіх мне падказала этнамузыколаг Іна Назіна. Так была выраблена дуда, якую я падгледзела ў адным з нашых музеяў. Ліру я ўпершыню ўбачыла ў руках «Песняроў». Яна мне так спадабалася, што я не супакоілася, пакуль не знайшла майстра, які зрабіў нам такі інструмент. Басэтлю я ездзіла заказваць ажно ва Украіну. Пра гудок прачытала ў старажытнаславянскіх летапісах. Там сустракаліся розныя назвы: гудок, гудочак, гудзіла і нават гудзішча. Цікава было ведаць: гэта адзін і той жа інструмент ці ўсё ж розныя яго мадэлі-варыяцыі? Шукалі матэрыялы разам з кампазітарам Аляксандрам Рашчынскім. І высветлілі, што ў Пермскай вобласці жыве дзядуля, які робіць такія гудкі. Рашчынскі паехаў да яго і прывёз… звычайную, негабляваную дошку з трыма струнамі. Струны, праўда, давалі чароўны гук. Але не выступаць жа з гэтай дошкай на канцэртах. Знайшлі беларускіх майстроў бацьку і сына Жукоўскіх, якія па прапанаваным узоры вырабілі нам чатыры выдатныя інструменты.

Цэлая гісторыя была з гармонікам. Калі я наважылася яго набыць, мне некаторыя спецыялісты пярэчылі: гэта не беларускі інструмент. Хай сабе не беларускі, разважала я, але ж ён у Беларусі ёсць усюды. І без яго не абыходзіцца ніводнае свята, ніводная вечарына. Вось такі, народны варыянт гармоніка мы і заказалі сабе. Ён істотна адрозніваецца ад рускай тальянкі і ад тых інструментаў, якія выкарыстоўваюць нашы суседзі.

**— А дзе вы шукалі музыкаў, якія б умелі на гэтых інструментах іграць?**

— Была цэлая праблема. Ніхто не хацеў вучыцца. Даводзілася людзей угаворваць, пераконваць. У выніку нашы музыкі асвоілі яшчэ некалькі інструментаў у прыдачу да асноўнага. Канешне, клопату я з гэтым мела нямала, але ні аб чым не шкадую. Старадаўнія інструменты надаюць нашаму аркестру асаблівы каларыт, выклікаюць цікавасць і захапленне ў гледачоў. І я вельмі ўдзячная за

* Заканчэнне. Пачатак у № 11 2013 г.



*Ёсць аб чым пагаварыць. Валянціна Гаявая і Зіновій Прыгодзіч.*

вялікую дапамогу ў станаўленні аркестра Віктару Купрыяненку, Аляксандру Рашчынскаму.

А кіруе нашым аркестрам выдатны выканаўца і аранжыроўшчык Уладзімір Гінько. Ліра, жалейка, дудачка, басэтля, атанічныя цымбалы, гудок, інструменты з багульніку, чароту, сцябліны пшаніцы — усё гэта ажывае, адгукаецца чароўнымі гукамі ў яго ўмелых, цудадзейных руках.

**— Падчас канцэрта вы знаходзіцеся ў зале ці побач з артыстамі?**

— Як правіла, побач, за кулісамі. Чаму? Таму што ў мяне двойчы здараліся вельмі непрыемныя моманты. Адзін раз, калі мы паехалі ў Маскву, павезлі наш нумар «Таўкачыкі» на юбілей Людмілы Зыкінай. Вечар праводзілі ў Крамлёўскім Палацы. Удзельнічалі «Бярозка», Паўночны рускі народны хор, хор імя Пятніцкага і іншыя знакамітыя калектывы. Ад Беларусі запрасілі «Харошак». Мне далі запрашальны білет у залу. Сяджу, гляджу. Пачаўся наш нумар. Выйшлі мае хлопцы і дзяўчаты добра, рухі прыгожыя, адточаныя — і раптам фанаграма змоўкла! Я скамянела: што будзе? Што ж будзе?! Гляджу: танцоры ідуць без музыкі, у дакладна зададзеным рытме. І тут уключаецца фанаграма (мне падалося, яе вечнасць не было), і ўключаецца з таго самага месца, дзе спынілася. Да гонару маіх артыстаў, яны сарыентаваліся (толькі пару чалавек крыху наблыталі), вярнуліся назад, да папярэдняй фігуры і працягвалі танцаваць. За гэту вытрымку і знаходлівасць гледачы ўзнагародзілі нас двайнымі апладысментамі.

**— Але што гэта было?**

— Зразумела, што. Нехта пальчыкам націснуў клавішу магнітафона, патрымаў некалькі секунд і адпусціў. Усё тая ж невынішчальная зайздрасць…

І другі прыклад. Канцэрт у нашай філармоніі, прысвечаны Дню незалежнасці. Падыходзіць наш нумар, мае артысты падрыхтаваліся ўжо, а фанаграма нечакана ўключаецца не з пачатку, а з сярэдзіны. Можаце сабе ўявіць такое? Добра, што музыку хутка спынілі. Выйшлі «Песняры», якія былі за намі і сталі спяваць акапэльна «Паланез Агінскага». А я з гукарэжысёрам у гэты час разбіраюся, што здарылася з фанаграмай. Чаму яна раптам ні з таго ні з сяго ўключылася з сярэдзіны? Была ж рэпетыцыя, усё было падрыхтавана як трэба… Такое вось дробнае, паганенькае шкодніцтва.

**— Валянціна Іванаўна, але ж вы ўсе свае канцэрты даеце ўжывую.**

— Дык я ж не пра канцэрты гавару, а пра асобныя нумары. А ў такіх канцэртах без фанаграмы нельга. Але пасля тых двух выпадкаў я і на сваіх прадстаўленнях заўсёды на сцэне. Тым больш, калі мы выступаем за мяжою.

**— А вы часта на гастролях бываеце?**

— Раней, пры Савецкім Саюзе, часта. Два-тры разы на год выступалі ў Маскве, на самых прэстыжных пляцоўках. З гастролямі аб’ехалі амаль усю краіну — ад Калінінграда да Уладзівастока. Больш за 20 разоў ансамбль прымаў удзел у розных міжнародных фестывалях. Гледачы Даніі, Сірыі, Кіпра, Іарданіі, Фінляндыі, Швецыі, Францыі, Германіі, Італіі, Іспаніі, Японіі, Амерыкі і многіх іншых краін апладзіравалі нашым артыстам стоячы.

**— Значыць, ім падабаецца беларускае народнае мастацтва?**

— Ды яшчэ як! Традыцыйны фальклор наогул прымаецца цудоўна. І не мае значэння хто гледачы: моладзь ці пажылыя людзі, гараджане ці сяляне. Памятаю, калі былі на гастролях у Фінляндыі, то многія фіны ездзілі за намі на кожны наш канцэрт. Як заўзятыя спартыўныя фанаты.

**— Што яшчэ вам запомнілася з замежных паездак?**

— У 1979 годзе наш калектыў запрасілі прыняць удзел у рабоце Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР у Лондане. І ў адзін з дзён мне сказалі, што на выставе будзе прэм’ер-міністр Англіі Маргарэт Тэтчэр, трэба падрыхтаваць праграму на паўгадзіны. Але такую, каб ніхто не крануўся з месца. Упершыню я рабіла канцэрт для шасці чалавек. Выкладаліся поўнасцю! Адпрацавалі і схаваліся ў раздзявалцы. І раптам дзверы адчыняюцца — і ў праёме Тэтчэр уласнай персонай. Падышла да мяне, паціснула руку і некалькі разоў расчулена паўтарыла: «Сэнк ю вэры мач…»

А яшчэ не забуду, як у Індыі нас, пасля канцэрта, вазілі па вуліцы на трактары «Беларус». Мы стаялі ў прычэпе, а наперадзе ішла індыйская моладзь, са спецыяльнай гірляндай, нейкімі кубачкамі, на якіх выбіваўся пэўны рытм. Збоку крочылі, назіраючы за парадкам, паліцэйскія. А ззаду — мора галоў. Гэта было так кранальна, так хвалююча, што ў мяне, ды і ў многіх маіх артыстаў, выступілі на вачах слёзы.

**— Вы сказалі, што гэта было раней. А што цяпер?**

— Цяпер сітуацыя больш складаная. Наш калектыў не маленькі — пад сотню чалавек. Каб вывезці ўсіх з апаратураю і касцюмамі, трэба як мінімум тры ўмяшчальныя аўтобусы. А гэта патрабуе вельмі вялікіх сродкаў. Раней былі датацыі на транспарт, на гасцініцы і сутачныя. Цяпер гэтага няма. Таму калі і выязджаем куды-небудзь, то ў вельмі ўрэзаным складзе — каб умясціцца ў адзін аўтобус. Прыедзем, дадзім канцэрт і ў той жа дзень вяртаемся назад, нягледзячы на адлегласць. Эканомім на ўсім.

**— І што, нават у Расіі рэдка бываеце?**

— Пасля перабудовы — літаральна некалькі разоў. І то па запрашэнні, з умовай кампенсацыі выдаткаў. А нам вельмі хацелася б выехаць у тую ж Маскву, паказаць нашым братам той узровень, якога мы дасягнулі сёння. Перакanana, што як і раней, мы зможам прыемна здзівіць іх, падараваць радасць ад сустрэчы з сапраўдным мастацтвам. Таму ўсё, што звязана са стварэннем і ўмацаваннем Саюзнай дзяржавы, я падтрымліваю дзвюма рукамі. Калі адносіны паміж Беларуссю і Расіяй будуць развівацца не на паперы, а на справе, то і перад намі адкрыюцца зусім іншыя перспектывы. Магчыма, тады мы зможам, напрыклад, у рамках абмену творчымі калектывамі, часцей гастраляваць у суседняй і братняй нам краіне. Перакanana: наша мастацтва заўсёды будзе запатрабавана расійскім гледачом.

**— Валянціна Іванаўна, вы прызналіся, што палюбілі Беларусь. А я дабавіў бы: не толькі палюбілі, але і глыбока, вельмі тонка спасцiглі народны характар, народную душу, бліскуча перадалі нацыянальны менталітэт сродкамі танца. Як вам, дачцэ паволжскіх стэпаў, гэта ўдалося?**

— А ў маіх генах, хутчэй за ўсё, ёсць і беларуская часцінка. Дзед і прадзед па матчынай лініі былі, як яны казалі, родам недзе з-пад Чарнобыля, з палескай вёскі Гаявое. Дзеда звалі Алесь і ў гаворцы яго пракідвалася шмат беларускіх слоў: шкло, вяроўка… Дый бабуля мая, калі я часам яе не слухалася, незадаволена бурчэла: «Гультаюга…»

**— Тым не менш пры стварэнні першых нумароў былі, напэўна, свае праблемы, свае цяжкасці. Хто вам дапамагаў асвойваць багаты патэнцыял беларускага народнага танцавальнага мастацтва? У каго вы вучыліся? Каго можаце назваць сваім настаўнікам?**

— Вучылася я ва ўсіх, хто гэтага заслугоўваў. Але настаўнікаў у прамым сэнсе гэтага слова не было. Галоўным аўтарытэтам, узорам самаадданага служэння мастацтву і маральна-духоўным эталонам з самага пачатку быў для мяне Ігар Маісееў.

**— Вы былі з ім знаёмыя?**

— Так. Бачыліся некалькі разоў. Аднойчы Ігар Аляксандравіч прыехаў у Мінск, каб адабраць некалькі нумароў на канцэрт, прысвечаны 70-годдзю СССР. Мяне таксама паклікалі і сказалі, каб падрыхтавала для паказу высокаму госцю праграму хвілін на сорак. А мы толькі што вярнуліся з Калінінграда, пасля напружаных гастроляў я дала людзям выхадны. Кажу дырэктару філармоніі, што не магу сабраць калектыў. А той і слухаць не хоча: «Збірайце як хочаце. Гэта загад зверху».

Ну, сабрала я так-сяк людзей, паказалі мы свае нумары. Але без асаблівай надзеі. Таму што калектыў наш тады быў невялікі, дый адпаведнага нумара, які б паказваў дружбу народаў, не мелі, а для такога ўрачыстага, юбілейнага канцэрта, разважала я, напэўна, патрэбен маштаб, пафас. І памылілася. Сядзім мы ў раздзявалцы, чакаем. Заходзіць міністр культуры: «Дзе Гаявая? — убачыў мяне, сурова: — Ідзіце за мной!» І завёў мяне ў пакой для віп-персон, а насустрач мне — Ігар Маісееў! Развёў рукі: «Божа мой, вас напалохалі. Вы прабачце мне, калі ласка. Я проста хацеў на вас паглядзець. Якія ж вы малайцы! Я даўно такога задавальнення не меў. Дзякуй вам!»

І мы яшчэ зайшлі ў нейкі кабінет, крыху пагаманілі. І вось тады праслаўлены Маэстра даў мне некалькі каштоўных парад. У прыватнасці, параіў пашырыць калектыў. «У вас тады з’явяцца зусім новыя магчымасці, новыя фарбы, іншае гучанне». І яшчэ падказаў: «Смялей карыстайцеся лірыкай». З таго часу я так і раблю. І ўсе мае лірычныя нумары ідуць на «біс».

Вельмі шмат мне дала сумесная праца з Уладзімірам Мулявіным. Я ўжо казала, што мы задумалі стварыць рок-оперу «Песня пра долю» паводле паэмы Янкі Купалы «Курган». Як жа цяжка далася яму гэта праграма! Спачатку чыноўнікам не спадабаўся прапанаваны жанр: рок тады быў не ў пашане. Валодзі ўсё ж удалося адстаяць задуманае. Тады цэнзары ад культуры забракавалі фінал твора: «Чаму гэта ў вас у канцы мужык памірае?» Тлумачым, што так у Купалы. Катэгарычная нязгода: «Цяпер гэткі песімізм недарэчы». Валодзя зразумеў, што калі далей упарціцца, то можна загубіць усю працу, і прыдумаў эпілог, узяўшы вядомыя купалаўскія радкі: «Я буду жыць, бо я мужык…» А мне шапнуў: «Я потым гэта здыму, хай толькі зацвердзяць». Але ўсё так і засталося, бо гледачы прынялі мулявінскую рок-оперу з захапленнем.

Вось гэтай цвёрдасці, а то і мужнасці, калі трэба адстойваць рэчы прынцыповыя, важныя, уменню знаходзіць у вострых сітуацыях разумныя кампрамісы я сапраўды вучылася ў Мулявіна. І не толькі гэтаму. А і шчыраму, бескарысліваму сяброўству. Мы з Валодзем ніколі не афішыравалі сваю дружбу, але пастаянна адчувалі адно да аднаго глыбокае пачуццё павагі. Гэта былі адносіны, заснаваныя на любві да творчасці. І калі мне трэба было падзяліцца з кім-небудзь сваім самым запаветным, асабістым, я ішла да Мулявіна. Ён усё разумеў і звычайна казаў-суцяшаў: «Ведаеш што, не перажывай, ты паспрабуй зрабіць вось так…»

І яго парада заўсёды была для мяне карыснай. А то мог і сам мяне спыніць, запытацца: «Ну, як справы?»

З вялікай цеплынёй, з болем і горыччу прыгадваю нашу апошнюю з ім сустрэчу. Нашы калектывы прыехалі ў Петразаводск на Дні беларускай культуры ў Карэліі. Перад пачаткам афіцыйных мерапрыемстваў нам арганізавалі экскурсію ў Кіжы. Мы засталіся з Валодзем удваіх, крыху адстаўшы ад астатніх. Адна царква… Другая… Трэцяя царква — дзеючая. Зайшлі. Нечакана Валодзя наблізіўся да абразоў і пачаў маліцца. Сцішана, з нейкім глыбокім, затоеным сумам.

Калі выйшлі з царквы, Валодзя яшчэ колькі хвілін быў ва ўладзе сваіх думак, пасля сказаў:

— Валя, я так стаміўся… так стаміўся. Часам нават не хочацца жыць.

І вось цяпер я прыгадваю гэта і думаю: няўжо Валодзя нешта прадчуваў? Няўжо бачыў свой хуткі адыход? І так шкадую, што не знайшла тады часу пагаварыць з ім больш адкрыта, па душах.

Шмат разоў мы збіраліся з Валодзем зрабіць цікавую сумесную праграму: «Песняры» і «Харошкі» ў адным сольным канцэрце. Але ўвесь час то мяне лёс прыціскаў, то — яго, і нашы планы ўсё адсоўваліся і адсоўваліся. А калі Мулявіна не стала, я ўсё ж сабралася з духам і ў яго памяць зрабіла гэту праграму. Цяпер яна вядомая пад назвай «Беларусы».

**— Гэта адна з вашых апошніх і, на думку спецыялістаў, адна з самых значных, відовішчных праграм. Ігар Кузняцоў, напрыклад, пасля прэм’еры «Беларусаў» пісаў: «Новы маштабны праект харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» стаў вынікам шматгадовай працы творчай групы пад кіраўніцтвам В. Гаявой. Вялікі харэаграфічна канцэрт-спектакль структурна пабудаваны як цыкл «Поры года» і складаецца з чатырох буйных частак, у якія ўвайшлі вакальна-харэаграфічныя замалёўкі, мініяцюры, кампазіцыі, сюжэтна абумоўленыя асаблівасцямі правядзення традыцыйных народных святаў у кожную пару года… Новая праграма «Харошак» адметная не толькі ўвасабленнем смелай фантазіі харэографа, але і сур’ёзнымі дасягненнямі ў інтэрпрэтацыі вядомых народных святаў і абрадаў каляндарнага цыкла.**

**Гэтым разам на суд гледачоў былі прадстаўлены дзве яго вялікія часткі — зімовая ды вясновая. Кожная мае самастойную мастацкую вартасць, і разам з тым яны арганічна дапаўняюць, развіваюць адна адну, раскрываючы маштабную задуму балетмайстра — у танцы адлюстраваць жыццё беларусаў.**

**Само гэтае жыццё пададзена ў выглядзе яскравага маляўнічага палатна, сатканага з узнёслых пачуццяў, побытавых сцэнак, драматычных калізій, у якія натуральна ўваходзяць не толькі жарты ды весялосць калядоўшчыкаў і валачобнікаў, але і звонкі пошчак бёрдаў у працавітых жаночых руках, малітва пра адраджэнне зямлі, і клопат аб працягу роду…**

**Новая канцэртная праграма «Харошак», зробленая з вялікім мастацкім густам, яшчэ раз пацвердзіла асноўнае крэда калектыву — няспынны творчы пошук. Гэта выявілася ў дасканалай прапрацоўцы харэаграфічнага тэксту, бездакорнай зладжанасці ансамбля, акадэмічнай манеры выканання, наяўнасці высакакласных салістаў».**

**Прабачце за такую доўгую цытату, але мне падалося, што ў ёй утрымліваецца не толькі ацэнка праграмы «Беларусы», але і ў цэлым вашай творчасці.**

— Так, гэта вельмі прафесійны аналіз, і мне, вядома, прыемна, што нашай працы даецца такая высокая ацэнка. Зазначу толькі, што амаль за сорак гадоў сваёй дзейнасці мы стварылі больш за дзесяць буйных, арыгінальных праграм,

кожная з якіх увасобіла, уабрала ў сябе яркія, адметныя прыкметы розных часоў беларускай гісторыі. А цяпер я якраз працую над новай маштабнай праграмай, якая б аб'яднала ўсе гэтыя прыкметы ў адно цэльнае мастацкае палатно. І нават назва ўжо прыдумана — «Палёт над часам». Гэта сапраўды павінен быць такі своеасаблівы палёт, з вышыні якога гледачы змаглі б убачыць усю нашу шматвекавую гісторыю і культуру.

Многія часткі гэтай праграмы ў мяне ўжо гатовыя. Ёсць нумары, якія адлюстроўваюць язычніцтва, Адраджэнне, Сярэднявечча, Сярэбраны век, сучаснасць. А вось перыяд хрысціянства чамусьці выпаў. А гэта вельмі тонкая, складаная работа. Я нават хадзіла да святара, каб ён даў блаславенне выкарыстаць у праграме духоўную музыку. Хачу ўжыць шмат іншых мастацка-выяўленчых сродкаў. Але сутыкнулася з праблемай: у нас няма неабходнай сучаснай гукавой апаратуры. Вы былі на канцэрце, бачылі, колькі на сцэне ў нас стаякоў з мікрафонамі. А гэта ж — учарашні дзень. Цяпер ужо ёсць новая апаратура — бесправадная. Ёсць, але каштуе дорага. Як і шмат чаго іншага. Тым не менш будзем шукаць выйсце.

**— Можа, звярнуцца да багатых людзей?..**

— Што вы, у нас спонсарства, акрамя спорту, забаронена. Ну, ды нічога, нам адольваць цяжкасці не ўпершыню.

## Што трэба для шчасця

**— Валянціна Іванаўна, і на заканчэнне дазвольце некалькі пытанняў асабістага характару…**

— Ой, няма ў мяне асабістага жыцця. Вось «Харошкі» — гэта ўсё маё жыццё.

**— Я разумею. Тым не менш вы былі замужам. Дзе і як вы пазнаёміліся са сваім будучым мужам — Мікалаем Дудчанкам?**

— У Ленінградзе, у школе прафсаюзнага руху. Я была на чацвёртым курсе, а ён на трэцім. Я ўжо нават не памятаю, як мы пазнаёміліся.

**— Заляцаўся прыгожа, рамантычна?**

— Не тое каб заляцаўся — праходу не даваў. Раніцай не паспееш вочы расплюшчыць, а ён ужо ў дзвярах. Словам, пажаніліся мы яшчэ ў школе і пражылі разам трынаццаць гадоў.

**— Лічба аказалася нешчаслівай?**

— Так, мы разышліся. Усё пачалося ў Магілёве, і здорава пасадзейнічала гэтаму наша бліжэйшае акружэнне. Мікалаю пачалі нашэптваць: «Што вы ўсё ходзіце ў абдымку? Паглядзі — вунь колькі вакол прыгожых дзяўчат! Ты — таленавіты чалавек, а яна толькі цень на цябе кідае…» І пайшло, і паехала. Муж мой стаў раздражняцца з-за любой дробязі. Нарэшце не вытрымаў, пайшоў з сям'і. А ў нас ужо быў першынец, Алёшка. Праз нейкі час Мікалай вярнуўся. Ды я ўжо і не хацела яго прымаць, але ён пакляўся, што падобнае больш не паўторыцца. І ўсё нібыта наладзілася. Нарадзіўся другі сын. Аднак сямейны спакой атрымаўся нядоўгім. Калі малодшаму сыну споўнілася пяць гадоў, мы разышліся канчаткова.

**— А як жа Мікалай аказаўся ў ансамблі зноў?**

— Ён доўга не мог нідзе ўладкавацца. І я пашкадавала, вярнула яго ў калектыў. Спачатку працаваў дырэктарам, а цяпер — рэпетытарам.

**— Не ажаніўся?**

— Не, адзін.

**— А вы? Не выходзілі замуж?**

— Каму гэта патрэбна?! Я замужам за «Харошкамі». А таго, на каго можна было б абаперціся, не сустрэла.

**— У вас двое сыноў?**

— Так. Алёша скончыў акадэмію мастацтваў і захапіўся беларускім народным касцюмам. Гэта «Харошкам» прыдалося вельмі дарэчы. Малодшы, Антошка, вучыўся музыцы. У яго аказаліся выдатныя музычныя здольнасці, абсалютны слых. Добра граў на ўдарных інструментах. Аднак па гэтай лініі не пайшоў. Скончыў у Маскве курсы праграмістаў і цяпер працуе па гэтай спецыяльнасці ў Амерыцы.

**— А колькі ж у вас унукаў?**

— Пяцёра. У Антона дзве дачкі і ў Алёшы дзве дачкі і Данілка, сын ад яго першай жонкі. Калі яны разышліся, нявестка з'ехала ў Балгарыю і забрала Данілку з сабой. Там ён скончыў 6 класаў. Пасля я забрала яго да сябе, і з 7 па 11 клас ён вучыўся ў Мінску і жыў у мяне. Паколькі ён выдатна ведае балгарскую мову, то без праблем паступіў у Сафійскі ўніверсітэт, на аддзяленне рускай філалогіі. Атрымаў спецыяльнасць перакладчыка. Абараніў дысертацыю па міжнароднай дыпламатыі. Такое вось у мяне сямейнае жыццё. Можна сказаць, траіх хлапцоў падняла.

**— Пры вашай занятасці і ў вашай сітуацыі — гэта пра многае сведчыць. Трэба было мець і выключную арганізаванасць і немалую сілу волі. А вы самі якую рысу свайго характару лічыце станоўчай, галоўнай?**

— Ой, не ведаю (задумваецца)… Далібог, не ведаю…

**— А адмоўную? Што вам перашкаджае ў рабоце?**

— Залішняя эмацыянальнасць. Нават там, дзе можна было б зрэагаваць спакайней, не разбураючы ўласнага здароўя, у мяне гэта не атрымоўваецца. Таму і паклала я сваё здароўе…

**— …на алтар мастацтва.**

— Можна і так сказаць. Добра, што побач Алёша. Ён мяне заўсёды падтрымлівае. Асабліва, калі я перажываю ў выпадку чарговага сыходу таленавітага танцора. Суцяшае, што свет на гэтым не канчаецца, прыйдуць яшчэ здольныя хлопцы і дзяўчаты. А яно і праўда, замена з цягам часу знаходзіцца.

**— Як я зразумеў, ні службовай, ні асабістай машыны ў вас няма?**

— Няма. І ніколі не было.

**— А дача ёсць?**

— Гадоў трыццаць таму купілі мы дамок у адной вёсцы за 120 кіламетраў ад Мінска. Сядзіба была запушчаная, зарасла бур'яном. Хата патрабавала капітальнага рамонту. Алёша паступова ўсё гэта прывёў да парадку. І мне там вельмі падабаецца. Праўда, бываю рэдка, два-тры разы за лета.

**— Жыўнасць якую-небудзь трымаеце?**

— Быў у нас сабака, пароды колі. Гэта яшчэ калі Антоша вучыўся ў музычным вучылішчы. Разумны такі сабака, ласкавы. Я, бывала, прыйду з работы, расстроеная, а ён галаву пакладзе мне на калені і глядзіць у вочы — з такой адданасцю, з такой любоўю!

І ведаеце што, у мяне была сур'ёзная праблема са здароўем. Напэўна, з паўгода доўжылася вялацякучая пнеўманія. У бальніцы ляжала, але не памагло, перайшло ў астму. Хацелі нават даць інваліднасць. Але я адмовілася. Не магла я пакінуць «Харошкі». Ды і дзяцей трэба было падымаць. Дык вось, уратаваў мяне сабака. Я ляжу на ложку, тварам да сцяны, а ён прыціснецца да маёй спіны і грэе мяне, грэе… А праз нейкі час мне стала лягчэй, і здароўе маё пайшло на папраўку.

**— Катоў любіце?**

— Люблю, але не трымаю. А ў Алёшкі каты ёсць.

**— Чым бавіце вольны час?**

— А яго, гэтага вольнага часу, практычна і няма. А калі якая гадзіна надарыцца, то альбо чытаю, альбо гляджу тэлевізар. Сачу за навінамі. А серыялы не цярплю. За рэдкім-рэдкім выключэннем.

**— Еўрабачанне глядзелі?**

— Адным вокам. Перажывала за нашу прадстаўніцу, Алёну Ланскую. Дзяўчына не без таленту. І голас неблагі, і знешнасць. І дастаткова эмацыянальная. Але ёй зашкодзіла пераймальніцтва. Грэбаванне сваім, нацыянальным. Грэк рабіў праграму. Швед займаўся вакалам. Хтосьці яшчэ нечым. Якая ў гэтых людзей зацікаўленасць? Атрымаў грошы — і бывайце здаровы! Так поспеху не даб’ешся.

**— Валянціна Іванаўна, а вы лічыце сябе паспяховым чалавекам?**

— Гм… (уздыхае). Што такое паспяховы чалавек на сённяшні дзень? Гэта чалавек, у якога ўсё добра, ён ні ў чым не мае патрэбы, можа дапамагчы сваім дзецям, унукам. А я гэтага не магу. У мяне нічога гэтага няма. Дык які ж я паспяховы чалавек?

**— Але ж па творчай лініі вам грэх скардзіцца…**

— Ну, гэта яшчэ як сказаць. Поспех — гэта ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Правільна? А я не ўпэўнена, што мая творчасць будзе жыць і заўтра, і паслязаўтра. Не стане мяне — і ўсё пакоціцца з горачкі. Трымаць высокі ўзровень ох як цяжка.

**— А што вас наогул трывожыць у нашай сённяшняй рэальнасці?**

— Ведаеце што? Самае страшнае, што людзі ператвараюцца ў сваіх прашчураў. Жывёльныя інстынкты бяруць верх ва ўсім. Поўнае падзенне маралі. Гэтыя аднаполыя шлюбы, гей-парады, шабашы лесбіянак… Што гэта такое? Можа быць, сапраўды развіццё чалавецтва ідзе па спіралі. І трэба ўпасці на самае дно, каб пасля з цяжкасцямі, з пакутамі выбірацца наверх.

Не падумайце, што я нейкая ханжа. Не, я — чалавек сучасны, цывілізаваны. Але глядзець на тое, што творыцца ў свеце — страшна. Без маралі чалавека няма. Гэта ўжо нелюдзі. І гэтых нелюдзяў, на жаль, становіцца ўсё больш і больш. Вось што мяне турбуе. І як супраць гэтага змагацца? Царква, вядома, стараецца, але аднымі пропаведзямі праблему не вырашыш.

**— Ёсць яшчэ мастацтва…**

— Так, мастацтва таксама павінна займацца выхаваннем чалавека. Але тое, што мы бачым сёння на эстрадзе, на экранах, на кніжных паліцах, не радуе. Дзякаваць богу, што хоць «спяваючыя трусы» пачынаюць паціху знікаць са сцэны. Дарэчы, гэта я пусціла ў абарот такі тэрмін (смяецца).

**— Ну вось бачыце, не ўсё так безнадзейна... Напэўна ж, вы можаце адзначыць і іншыя станоўчыя моманты ў нашым жыцці.**

— Як вам сказаць… (задумваецца, уздыхае). Вось далі нам свабоду. Нібыта добра. Але адна справа, калі гэтай свабодай карыстаюцца чэсныя, прыстойныя людзі, і зусім іншая — калі яе выкарыстоўваюць нелюдзі.

Ну, ды не будзем плакацца. Гэта ў мяне хвілінны настрой. На самай жа справе жыццё з усімі яго цяжкасцямі, праблемамі — Боскі дар, найвялікшае шчасце.

**— Дзякуй вам, Валянціна Іванаўна, за шчыры, цікавы аповед.**

— І вам дзякуй. За ўвагу, за цярплівасць. І найперш за тое, што не пыталіся, чаму мы свае «Харошкі» назвалі «Харошкамі»… (І мы ўдваіх весела смяёмся).

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***



**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# «ІГУМЕНСКІ ТРАКТ»: НОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ПРАЕКТ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»

У сённяшняй інфармацыйнай прасторы гісторыка-краязнаўчая праблематыка займае сваё, асаблівае месца. Гэта выяўляецца як у выданнях спецыяльнага накірунку (часопісы «Спадчына», «Беларуская мінуўшчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Роднае слова», «Краязнаўчая газета»), так і ў выданнях масавых, грамадска-палітычных, якія па сваіх задачах сарыентаваны на дастаткова шырокае кола чытачоў (газеты «СБ. Беларусь сегодня», «Звязда»).

Звернемся да прыкладу публікацый апошняга часу на старонках урадавай і парламенцкай штодзённай газеты «Звязда». Асноўнае месца ў абсягах гісторыка-краязнаўчай праблематыкі займаюць артыкулы, карэспандэнцыі, гутаркі, інтэрв'ю, рэпартажы, інфармацыйныя паведамленні, змешчаныя ў спецыяльным выпуску «Ігуменскі тракт». І хаця рубрыка пад такою назвай мае даўнюю гісторыю на старонках «Звязды», усё ж спецыяльным выпускам «Ігуменскі тракт» зрабіўся літаральна ў апошнія гады, пачынаючы з 2011 года. А сённяшнюю штотыднёвую перыядычнасць набыў літаральна зусім нядаўна — у 1-й палове 2013 г.

Давайце паспрабуем паразважаць, чым кіраваліся ў рэдакцыі газеты «Звязда», выбіраючы менавіта такую назву для гісторыка-асветніцкага, краязнаўчага праекта. У свой час існаваў на тэрыторыі Мінскай губерні Ігуменскі павет. Назву насіў па назве горада Ігумен (сучасны Чэрвень, адзін з райцэнтраў сённяшняй Мінскай вобласці). А ў губернскім Мінску сярод іншых гарадскіх тапонімаў быў і такі — Ігуменскі тракт. І зараз у сталіцы Беларусі ёсць вуліца Ігуменскі тракт. У Ленінскім раёне Мінска ў жылым раёне Лошыца, перасякаецца з вуліцай Янкі Лучыны. Бярэ свой пачатак ад вуліцы Маякоўскага і заканчваецца скрыжаваннем з Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогай. Перасякаецца Ігуменскі тракт з вуліцамі, якія таксама носяць адметныя гістарычныя назвы, — імя Чыжэўскіх, Паўла Шпілеўскага, Іосіфа Гашкевіча, Янкі Лучыны, Прушынскіх. Брэнд Ігуменскага тракту і падаўся ў рэдакцыі старэйшай грамадска-палітычнай газеты Рэспублікі Беларусь даволі лагічным у дачыненні да адлюстравання гісторыка-краязнаўчай тэматыкі.

Якія ж тэматычныя абсягі засвойваюць журналісты і пазаштатныя аўтары ў межах тэматычнай старонкі «Ігуменскі тракт». Па-першае, варта зазначыць, што падрыхтоўка спецыяльнага выпуску адбываецца ў межах работы аддзела культуры рэдакцыі. Журналістка Ніна Шчарбачэвіч, нядаўняя выпускніца Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, з'яўляецца вядучай старонкі, адказвае за падбор і апрацоўку матэрыялаў і сама актыўна працуе ў дадзенай тэматыцы як аўтар арыгінальных допісаў. Істотная акалічнасць рэдакцыйнай палітыкі, калі распрацоўка краязнаўчай праблематыкі цесна ўвязана з культуралагічным складнікам на старонках «Звязды». Краязнаўства не з'яўляецца другасным накірункам у беларускамоўнай нацыянальнай газеце, якая дэкларуе свае пазіцыі ўжо ў «шапцы» кожнага нумара, дзе поруч з назвай «Звязда» чытач знаходзіць наступныя словы: «Родная газета на роднай мове». «Краязнаўства — выразны складнік культуры і асветніцтва, жывы погляд на беларускую рэчаіснасць на працягу многіх стагоддзяў фарміравання народа Беларусі, фарміравання дзяржаўнасці ў нашай Айчыне». Да такой высновы падышлі ўдзельнікі

размовы за «круглым сталом» «Краязнаўчы арсенал айчыннай публіцыстыкі» ў канферэнц зале Выдавецкага дома «Звязда» ў кастрычніку 2013 года. Па-другое, аўтарскую прастору «Ігуменскага тракту» пачалі перш-наперш фарміраваць тыя гісторыкі, этнографы, фальклярысты, краязнаўцы, якія і раней, у папярэднія гады ( а часам — і на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў), выступалі з самымі актуальнымі артыкуламі на старонках газеты «Звязда».

Значнае месца ў краязнаўчай старонцы займаюць матэрыялы, якія расказваюць пра сённяшні стан гістарычных мясцін Беларусі. Гэта датычыцца не толькі сядзіб, старадаўніх паркаў, але — і саміх паселішч, часам не вельмі вядомых у маштабе ўсёй краіны.

Асобна вылучаюцца артыкулы і карэспандэнцыі, прысвечаныя непасрэдна арганізацыі краязнаўчай работы, грамадскім музеям, даследаванням настаўнікаў і школьнікаў, сельскіх бібліятэкараў, якія па крупінках збіраюць звесткі пра родны край, яго ўраджэнцаў. З нядаўніх публікацый на гэтую тэму — карэспандэнцыя Алены Стэльмах «Маленькія хронікі Вялікага Сяла»: «Вясковая школа заўсёды верна служыць адной высакароднай мэце: сее «разумнае, добрае, вечнае». Ва ўсе часы яна — цэнтр духоўнасці і беларускасці. Менавіта такой з'яўляецца і школа ў вёсцы Вялікае Сяло, што знаходзіцца за сямнаццаць кіламетраў ад Дзяржынска. Непадалёку цячэ Малая рачулка. Яна ўпадае ў рэчку Пярэкуль, якая «перакульваецца» сабе з каменьчыка на каменьчык ужо не адно стагоддзе… Вось такая гармонія робіць надзвычай прывабнымі гэтыя мясціны для пакаленняў вялікасельцаў, мацуе ў іх вялікі гонар за сваю малую радзіму»[1].

Журналістка з Дзяржынска расказала пра тое, як у невялікай вясковай школе ўшаноўваюць гісторыю. У Вялікім Сяле працуе адмысловы музей «Азбука роднай гісторыі і прыроды». А мастак Наталля Ермаловіч і майстар Андрэй Мартынюк у двух экзэмплярах зрабілі кнігу з апісаннем гісторыі Вялікага Сяла і блізкіх ваколіц. У верасні 2013 г. «Ігуменскі тракт» змясціў карэспандэнцыю Ніны Шчарбачэвіч «Радня з чатырох стагоддзяў». У падзагалоўку — наступнае ўдакладненне: «У пошуках сэнсу жыцця ўраджэнец Ашмян стварае радавод усяго раёна». «Васіль Юрша стварыў радавод сваёй сям'і: дакапаўся аж да 1650-х гадоў. Усё змясціў у сямейнай «Фамільнай кнізе», якая выйшла невялікім тыражом: на ёй напісана, што прызначаецца родным і ўсім аматарам гісторыі. Працягваючы працу над уласным радаводам, стаў вывучаць і лёсы многіх суседзяў — так і атрымалася, што Юрша даследуе генеалогію многіх родаў былога Ашмянскага павета… Ён прызнаўся, што гісторыя — гэта адзін з двух кітоў, на якіх трымаецца яго жыццё, хоць па адукацыі ён інжынер-сістэматэхнік…»[2]

Адной з задач газеты і «Ігуменскага тракту», у прыватнасці, і з'яўляецца пошук людзей апантаных, духоўна багатых, дзеяздольных. Дзеля гэтага, пачынаючы з 2013 года, «Звязда» і заснавала конкурс «Мясціны, знітаваныя з душой», запрасіўшы да ўдзелу ў ім пазаштатных аўтараў. Настаўнікі, мясцовыя журналісты, студэнты і нават школьнікі сталі ўдзельнікамі такога грамадскага праекта. Дарэчы, да арганізацыі конкурсу спрычынілася і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Па выніках, якія былі падведзены напярэдадні Дня беларускага пісьменства ў 2013 годзе, пераможцам конкурсу — аўтарам лепшых матэрыялаў былі ўручаны ў якасці ўзнагарод кнігі «Беларускай Энцыклапедыі»[3].

Вельмі важная тэматычная дзялянка ў «Ігуменскім тракце» — асвятленне традыцый і абрадаў. З карэспандэнцыямі, артыкуламі і рэпартажамі на гэтую тэму выступаюць як навукоўцы, так і аўтары з месцаў. Газета праз рубрыкі кшталту такой, як «Традыцыі», імкнецца да стварэння ўсенароднай энцыклапедыі этнаграфічнай памяці нашай Айчыны.

Краязнаўства — занятак не толькі жыхароў малых паселішчаў, раённых цэнтраў. У апошні час у «Ігуменскім тракце» часта друкуюцца матэрыялы

1. Звязда, 2013, 3 верасня.
2. Звязда, 2013, 24 верасня.
3. Звязда, 2013, 24 верасня.

Дзіяны Серадзюк — пад рубрыкай «Гарадскія паданні». Журналістка расказвае пра гісторыю Мінска, вылучае найболей цікавыя архітэктурныя аб’екты, вядзе чытача па самых глухіх закутках нашай сталіцы. Выкарыстоўваючы багаты досвед вядомых экскурсаводаў, і сама Дзіяна Серадзюк становіцца добрым гідам па Мінску[1].

Пэўны час «Звязда» прадастаўляла нямала газетнай плошчы лаканічным публікацыям мастака і даследчыка айчыннай геральдыкі Уладзіміра Крукоўскага, які расказаў чытачам пра прыватнаўласніцкія гербы. Дарэчы, пасля артыкулаў у «Звяздзе» гэтыя матэрыялы былі сабраны і выдадзены асобнай кнігай.

Гісторыю знакамітых прозвішчаў доўгі час у выпусках «Ігуменскага тракту» прыадкрываў мовазнаўца Ігар Капылоў. Пісьменнік і краязнаўца Аляксандр Вашчанка прапанаваў увазе чытачоў каля дваццаці артыкулаў, заснаваных на сучасным прачытанні грунтоўнага этнаграфічнага нарыса даследчыка XIX стагоддзя М. Нікіфароўскага «Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности». Першую частку гэтай працы можна назваць кулінарнай энцыклапедыяй. Вось А. Вашчанка і паглядзеў на гісторыю тых ці іншых страў, рэцэпты, апісанне якіх даў М. Нікіфароўскі, акрэсліў сучаснае бытаванне гэтых страў, выклікаў да размовы чытача «Звязды». Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі стаў своеасаблівым святлом, ліхтаром у даўніну, а краязнаўца А. Вашчанка справакаваў новы зрэз цікаўнасці да даўно забытага ці вядомага толькі спецыялістам даследавання. Тым самым аўтар «Ігуменскага тракту» вырашыў кардынальную задачу — задачу паяднання сучаснасці і гістарычнай памяці.

Аўтарскі склад «Ігуменскага тракту» даволі шырокі. Поруч з прафесійнымі журналістамі-«звяздоўцамі» Нінай Шчарбачэвіч, Ларысай Цімошык, Дзіянай Серадзюк тэматыку старонкі фарміруюць этнографы, фалькларысты, гісторыкі, літаратуразнаўцы, культуролагі — Янка Крук, Аксана Катовіч, Адам Мальдзіс, Анатоль Цітоў, Ігар Капылоў, Уладзімір Агіевіч і інш. Удзел дасведчаных навукоўцаў, спецыялістаў таго ці іншага накірунку ў вывучэнні гісторыі нашай Бацькаўшчыны надае «Ігуменскаму тракту» сур’ёзную вагу, пашырае чытацкую прастору.

Краязнаўчая старонка «Ігуменскі тракт» выразна прадстаўляе цэлы шэраг інфармацыйных, аналітычных і мастацка-публіцыстычных жанраў. У дадзеным тэматычным выпуску ёсць узоры карэспандэнцыі, рэпартажу, артыкула, заметкі, гутаркі, нарыса, эсэ, рэцэнзіі, анатацыі. Нельга не адзначыць, што пэўную пячатку адметнасцей на характар жанраў накладвае тэматыка старонкі. Нават заметка ў «Ігуменскім тракце» адрозніваецца ад публікацый дадзенага жанру на іншых газетных старонках. Поруч з традыцыйнай інфармацыяй друкуюцца пашыраныя інфармацыйныя паведамленні. Следам за выкананнем задачы па аператыўным інфармаванні заметка на старонцы «Ігуменскі тракт» носіць характар удакладнення, насычана падрабязнасцямі. Тым самым набліжаецца да карэспандэнцыі. Рэпартажы цесна спалучаны з выкладаннем ілюстрацыйнага матэрыялу. У прыватнасці, варта адзначыць публікацыі таленавітага фотажурналіста Анатоля Клешчука, які, здаецца, аглядае ўсю сучасную этнаграфічную, сакральную Беларусь. Дарэчы, часцей яго матэрыялы друкуюцца за «межамі» старонкі «Ігуменскі тракт», на іншых газетных палосах.

Уважлівае знаёмства з «Ігуменскім трактам» на працягу некалькіх гадоў гаворыць пра грамадскую, асветніцкую пазіцыю «Звязды» ў дачыненні да краязнаўства як шырокай з’явы. Відавочна, што газета падштурхоўвае чытача да актыўнай работы не толькі па вывучэнні гісторыі Радзімы, але і нагадвае пра неабходнасць зберажэння, захавання гістарычнай памяці, матэрыяльнай культуры народа Беларусі, здабытай нашымі папярэднікамі.

---

1. Звязда, 2013, 5 кастрычніка; 19 кастрычніка.

# *ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2013 ГОД*

## ПРОЗА



## ДРАМАТУРГІЯ



## ПАЭЗІЯ

## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## КНІГАРНЯ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## НАВУКА



## ПОСТАЦІ



## СПАДЧЫНА



## СТАРОНКІ ЛЁСУ

***Падрыхтавала М. Міхайлава.***

